ГРОДЗЕНСКАЕ АБЛАСНОЕ АДДЗЯЛЕННЕ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ
«САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

# НОВЫ ЗАМАК

ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ. ГРОДНА. MMXVI

ЗАСНАВАНЫ Ў 2012 ГОДЗЕ

ВЫПУСК 5



МІНСК «КНІГАЗБОР» 2017

## Гусары часоў Стэфана Баторыя ў Новым замку

У Гродне адзначылі 430-ю гадавіну з часу смерці караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя, вядомага таксама як Сцяпан Батура — паводле старабеларускай традыцыі. З гэтай нагоды 3 снежня прыехала з Польшчы гусарская харугва імя гетмана Станіслава Жалкеўскага.









Арганізатарам выступіў гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей, што размяшаецца ў былых каралеўскіх замках — Новым і Старым. Дырэктар музея Юры Кітурка паведаміў, што палякі самі выказалі жаданне прыехаць. Яны звярнуліся ў беларускі цэнтр культуры ў Варшаве. Ім дапамаглі звязацца з уладамі ў Гродне і з музеем. Палякам дапамаглі тэхнічна — атрымаць усе дазволы — і сустрэлі іх на мяжы. Міліцыя выдала дазвол, усё ў парадку, падсумаваў дырэктар музея. Як-ніяк, але госці прыбылі ўзброеныя, хоць шаблі мелі і несапраўдныя. Удзельнікі харугвы з розных гарадоў Польшчы, чэх меўся быць і хацеў прыехаць адзін румын, растлумачыў Юры Кітурка. Гэта людзі, якія цікавяцца гусарамі часоў Стэфана Баторыя.

Юры Кітурка нагадаў, што Стэфан Баторы быў адным з самых магутных каралёў Рэчы Паспалітай. Кіраваў дзесяць год — з 1576 года. Памёр у Старым каралеўскім замку ў Гродне ў снежні 1586-га. У Гродна ён прыехаў у 1579-м, яму тут спадабалася і ён вырашыў, што горад стане яго сталіцай, сказаў Юры Кітурка: «І сапраўды, калі ён не быў на вайне, амаль увесь час праводзіў у Гродне. А ў апошні год свайго жыцця ён адсюль амаль нікуды не выязджаў. Напачатку снежня паехаў на паляванне і моцна прастудзіўся. Прахварэў два тыдні і памёр. Рэч Паспалітая страціла ў ягонай асобе аднаго з самых вялікіх сваіх кіраўнікоў.

Было зачытана на беларускай мове прывітанне ад мэра горада Шымлеў-Сільванэй у Румыніі, дзе нарадзіўся Стэфан Баторы. У 2016-м там прайшлі першыя дні Стэфана Баторыя, на якія выязджала гусарская харугва Жалкеўскага. Налета ў верасні свята будзе праводзіцца зноў.

4 снежня ў Гродне адбылося ўрачыстае шэсце ў гонар Стэфана Баторыя. Пакінуўшы браму Новага замка, гусары прайшлі па вуліцы Замкавай да месца, дзе стаяла Фара Вітаўта — касцёл, дзе кароль некалі маліўся. Захавалася сведчанне нямецкага падарожніка, які назіраў за нядзельным выездам Стэфана Баторыя са свайго замка менавіта па Замкавай вуліцы на набажэнства.

Сёння на месцы храма існуе памятны знак (касцёл быў узарваны ў 1961 годзе). Гусары сшыхаваліся насупраць яго, адзін з іх усклаў вянок. Затым яны рушылі да катэдральнага касцёла імя Францішка Ксаверыя, фундатарам якога кароль некалі быў. Гусары ўзняліся па высокіх усходах у храм. Яны ўдзельнічалі ў імшы, якую Аляксандр Кашкевіч, біскуп гродзенскі, прысвяціў памяці караля.

Біскуп прывітаў прысутных на некалькіх мовах, нагадаўшы, што каралю ўдалося паяднаць у Рэчы Паспалітай людзей розных культур і веравызнанняў. Аляксандр Кашкевіч зазначыў, што горад ганарыцца тым, што ў ім жыў вядомы манарх. Святар распавёў, што Стэфан Баторы любіў картаграфію, чытаць, любіў вайсковую справу і паляванне. Ён вельмі спрыяў езуітам у распаўсюдзе адукацыі. Дзякуючы яму ў Гродне ўзнік езуіцкі калегіум, пры якім пазней быў пабудаваны вялікі храм, сённяшні катэдральны касцёл.

*С. Астравец*



# Проза старога Гродна

## Сяргей Астравец



# Багуславія

Пісьменнік Сяргей Астравец напісаў алегарычны раман «Багуславія». Гэты 520-старонкавы твор — аб гістарычных лёсах, змесце ўлады, аб рыцарстве і яго знішчэнні. Прапануем увазе чытачоў яго ўрывак.

**Дамантаж**

Сяргей Астравец

### Гістарычныя палотны

«Гістарычныя палотны» складаюцца з паасобных частак рамана «Багуславія», урыўкі з якога былі надрукаваны газетай «Наша Ніва».

#### Першая рыцарская аповесць

«Амадыс дэ Гаўла» — аповесць рыцарская першая так называлася, на Іберыйскім напісаная паўвостраве, у якой з’явіўся раптам рыцар ідэальны, што распаўсюдзіўся па творах аўтараў сярэднявечных у хрысціянскім свеце. Інакш, бадай, і не магло быць: змаганне з іншавернымі праходзіла крывавай баразной па землях, горных ланцугах і камяністых пустках Гранады а Кастылы і каралеўства партугальцаў.

Яшчэ не раз мясціна хрысціянская расцята ў будучыні будзе па жывому целу, да крыві, да енку. Аднак жа ранам, калі, вядома, не смяротныя яны, загойвацца ўласціва. Хай будуць надалей задоўжана балець, хай нават проста муляць, нічога, можна пераражыць. Праблема ў іншым: шнары, пісягі, няроўна зробленыя швы фантомным болем часам здатны абзывацца, смылець нясцерпна тым, чаго няма.

Манархам, рыцарам, правадырам наканаваны два шляхі, дзве розныя магчымасці: спрыяць старанна загаенню ранаў, дбаць пра змяншэнне болю і наадварот. Так: раны развярэджваць, хваробы зброяй лекаваць, і кроў, яе паболей! А рыцарам, што на старонках рукапісных пергаментаў услаўлены і першых друкаваных кніг, ім толькі застаецца не схіляць чало і не хаваць мяча ў похвах, трываць адным супраць навалы і лепей смерць прыняць, чым страціць рыцарскі свой гонар.

#### Святы Хрыстафорус

Так, Хрыстафорус, грэцкага паходжання імя, перакладаецца як той, нясе Хрыста каторы. Чаму і як? Бо, па легендзе, ён сапраўды цераз раку аднойчы перанёс Хрыста самога. Вы ведаеце, рэкі неглыбокія ў той мясцовасці, але бываюць хуткія, імклівыя. Калі маліліся да Хрыстафора, прасілі звыкла добрай смерці, бо дрэннай не хацелі мець у канцы сваім. Другое: лічылася, што, калі сёння паглядзееў на Хрыстафора ты хоць раз, пра смерць пакуль не думаць можна, яна не прыйдзе. Партрэцікаў кішэнных разышлося мора, трымаць у кішэні хоць маленькага святога зрабілася патрэбай масавай і, адпаведна, выдатным бізнесам для некаторых. А што да апякунства, то

Хрыстафор спрыяў у падарожжах людзям. Аматарам яго, лічыце, апантаным пазней зрабіўся Фрыдрых Трэці з Габсбургаў, яму здалося, што Хрыстафора твар яго нагадвае моцна. А калі так, то ён, ні многа і ні мала, нясе Хрыста ў цяперашніх часах. Такіх правіцеляў, што за сівую бараду схапілі чэпка Бога нашага Айца, таксама сёння можна стрэць, ды лепей ім не спатыкацца у дарозе.

**«Унутры яго воўк»**

Багамілы адкідалі хрышчэнне ды іншыя рэчы, а галоўнае — лічылі, што ў свеце два існуюць пачаткі: дабро, як вядома, і зло. Зразумела, Бог і шатан, які спачатку называўся даўжэй — Сатануэлем, быў такім жа сынам Божым, як Езус Хрыстус наш. Сатануэль, што досыць цікава, зрабіў Адама і Евы тулавы, сцвярджалі багамілы, і Бацьку свайго ўгаварыўшы, схіліў удыхнуць у іх жыццё, а далей — гісторыя казаная-пераказаная, цёртая-перацёртая. Ды не аб гэтым мова. Ганна Камнена, царэўна візантыйская, славутая пісьменніца, пісала часам сваім: «Багаміл выглядае панура, твар захіляе ажно да носа, ходзіць наперад схіліўшыся, мармыча штось пастаянна, а ўнутры яго сядзіць шалёны воўк». Такі вось партрэт захаваўся дзякуючы пісьменніцы Ганне Камнене. Што праўда, калі галоўнага сярод багамілаў Базылія, што сцвярджаў — не згарэць яму ў полымі, кінулі ў вогнішча, спаліўся без жаднага паху, не азваўся знутры і воўк. Пра аўтадафэ паведаміла ўсім яна ж, пісьменніца, дачка Алексія Першага, імператара, што завабіў у пастку Базылія-багаміла каварна. Хто аблічча мае ваўчынае, а хто — нутро, — падмануцца бывае няцяжка.

**Хан Крум**

Хан Крум, што параможцам званы, прыбыў у Балгарыю з Аварскага ў суседстве каганата, дакладней прыскакаў. Авараў жа разбіў нядобры іх сусед Вялікі Карл, франкскі кароль, аварскую цвярдыню заняў збройна ён, галоўнае паганства места, і каганат спыніўся існаваць.

Крум загадаў балгарам напісаць свае законы першыя, затым пашырыў межы ім. Крум захапіў таксама ў візантыйцаў сучасную балгарскую сталіцу, якая звалася калісьці Сердыкай, загад аддаўшы шэсць тысяч загубіць людзей да смерці. Суседзі-візантыйцы ў адказ прыдбалі сілу ды захапілі сталічны горад Крума Пліску, дзе мардаваць пачаў людзей балгарскіх Нікіфор, што азначала пераможац, візантыйскі базілеўс, а немаўлят аддаў загад у малатарню ўкінуць па чарзе, цар Ірад не адзін быў...

Але ў гарах патрапіў базілеўс пазней у пастку, Крум здолеў ворагаў разбіць, а з чэрапа іх Нікіфора, па ліку Першага, ён пажадаў мець кубак на віно. Наступна захапіў вялікія запасы грэцкага агню ў візантыйцаў тых і рушыў з войскам ён прамой дарогай Канстантынопаль зваяваць. Трымцелі візантыйцы і маліліся, бо меў балгарскі хан усе патрэбныя машыны, каб сцены руйнаваць і каб уварвацца за муры, у сталіцу. І Бог пачуў маленні візантыйцаў, хан Крум сканаў раптоўна ад кровазліцця ў галаве сваёй, так мовіў лекар ханскі.

Дык вось: той кубак велькі з чэрапа, што Нікіфора галавой калісьці быў, — нашто яго зрабіць хацеў хан Крум? Напэўна, каб адно прынізіць, нябожчыка зняважыць, бо піць віно зрабіў злачыннай справай у балгарскіх землях ён?!

Хан Крум застаўся ў пісаных мінулых дзеях яшчэ з тае нагоды, што вінаградная павойнае лазы загоны знішчаць ён загадаў усе да апошняга куста! Няможна даць балгарам хмяльныя піць напоі, бо край авараў пацярпеў таму, што бражнічаць любілі там, так мовіў ён, хан Крум, бо ведаў, што гаворыць.

**Крысціна з Пізы**

У год супроцьтэўтонскай бітвы, шчаслівай для славян і тых, хто быў у хаўрусе з імі, пізанская пісьменніца Крысціна пяром нястомным напісала бестселер тагачасны, а менавіта «Кнігу рыцарства і збройных чынаў». Ці мовай добрай карысталася ці проста сумавала чытаючая публіка ад перабору рэлігійных прац ці трубадурскіх вершаў з іншага канца, зацемім мы: аб рамястве вайны трактат ды з-пад пяра эмансіпаткі сярэднявечнай актыўна па руках пайшоў. Крысціна з Пізы з жарсцю напісала, як лепей узяць у аблогу замак, крэпасць, горад і давясці яе да перамогі канча. А як любіла нечакана вайны багіню, артылерыі агонь! Як забяспечыць ёю крэпасць лепей, пра флангавы агонь і так далей пісала. А калюбрыны, разважала-марыла яна, такія зграбныя, такія пекныя бываюць, што іх ніяк не называць — незразумелая нядбайнасць. Асадныя, магутныя, для руйнавання сцен, а кожная жанчына, яна таксама крэпасць. Так, паасобку неадкладна даць імя, як караблям даюць, і вежам, і коням баявым. Што ж, дзякаваць мы можам смела ёй, што кожная адметная гармата, вялікая і моцная, больш не жыла звычайна-безаблічна: адны баяліся імя ўголас вымавіць, другія ў захапленні выгукалі, як атакі кліч! Паветрам мода паляцела ад лісабонскіх, на скраі акіянскім вежаў да Кітай-горада чырвоных сцен у краіне варварскіх звычаяў.

Крысціна з Пізы вывучала філасофію з лацінай і да вайны адносілася па-філасофску, зусім не крыважэрна, Божа барані. Бадай жа першай напісала пра яе гатункі: захопніцкую і, адпаведна, справядлівую, за свой ачаг, за вызваленне. Сярпоў і Молатаў пазней узялі на ўзбраенне момант гэты, пакарысталіся ўсмак. І не была б жанчынаю Крысціна, каб не асудзіла ў трактаце тое, што вынайшлі калісьці эліны з Пелапанеса і чым перамагалі персаў. А грэчаскі агонь — забараніць, у «Кнізе рыцарства і збройных чынаў» напісала, занадта ён нялюдскі і парушае пагадненні і правілы ўсе наяўныя вайны ў Еўропе. Апошнім творам той пісьменніцы паэма ў гонар Жанны Д’Арк была, што напісала ў кляштары, куды сышла, каб там памерці. А бацькам той пісьменніцы, вядомай у Сярэднія вякі, быў слынны ў сваім часе прафесар альма матар у Балонні Тамаш Пізанус, дыксі.

**Свабода скотаў**

Ян Барбур, ці, можна мовіць, Барбар, паэт ён і святар, паэму пра імкненне скотаў да свабоды аднойчы вымысліў пад назвай «Брус», там, між іншымі радкамі, ёсць такія словы:

Якой шляхетнай справай ёсць яна, свабода!
Свабода дазваляе нам рабіць, што даспадобы.
Свабода чалавеку дастаўляе ўсякую прыемнасць.
Спакойна той жыве, хто на свабодзе застаецца.

Нядрэнны ганарар заплочаны быў аўтару за твор вялікі і адметны на той час, папера захавала лічбу ў дзесяць фунтаў.

Шатландцы, альбо скоты, аднойчы сабраліся ў абацтве Арброа, каб падпісаць дэкларацыю славутую аб вернасці каралю Роберту Першаму Брусу. Шляхта з магнатамі прадстаўлялі тады народ, які ніхто датуль не здолеў падпарадкаваць па-сапраўднаму, канчаткова. Гаварылася ў дэкларацыі той памятнай, што змагаюцца яны не за багацце і славу, а толькі і выключна за свабоду адну.

Калі напраўду, Роберт Першы Брус такім героем зрабіўся не адразу. А напачатку падпісаць ён мусіў «Рэестр паганы», каля дзвюх тысяч шляхты некалі над ім чало схілілі, прысягу склаўшы Даўгалыгаму Эдварду Першаму, уладцу з Таўэра, англійскаму што значыць каралю. Але паўстанне супраць Лондана цяжкой пальчаткі народнае сцяг дало ў рукі Брусу, адна з якіх, па маці, паходзіла ад каралёва роду. У касцёле францішканскім дуэль за першынство была абвешчана з яго праціўнікам. Брус аказаўся болей спрытным.

Каранавала яго жменя прыхільных радавітых шляхціцаў, з падтрымкай біскупаў вядомых. Што адчуваў, калі чало кранула залатым паскам... Замест кароны шатландскіх земляў, адабранай англійскім даўгалыгім манархам. «Молатам для скотаў» празваны быў за тое, што мардаваў бязлітасна ў захопленых ім гарадах шатландскіх малых і старых. Схапіўшы караля Яна Бальёла, пазбавіў каралеўскай годнасці, кляйнотаў, зняволіўшы яго ў таўэрскай вежы.

Захопленым у Таўэр трафеем прыбыў свяшчэнны «камень прызначэння», ужываны, каб абвяшчаць на ім наступных каралёў паўночных скотаў. Рэліквіі заступніцы Шатландскай Маргарыты таксама былі зрабаваны, архіў дзяржаўны, каралеўская карона. А каб прынізіць скотаў канчаткова, з нагамі доўгімі Рэкс Эдвард Першы пячаткі каралеўства эдынбургскага публічна знішчыў.

Калі перамагаць пачаў англійскія выправы збройныя Брус Роберт Першы, сканаў аднойчы даўгалыгі яго вораг, але да незалежнасці было яшчэ далёка. Англійскія мячы ніяк у похвах не хацелі спачываць. Пакуль нарэшце Папа Рымскі не даў дабро шатландцаў каралю. Толькі тады ў Эдынбургскай цытадэлі былі прызнаны мір і незалежнасць, але за грошы. Кароль англійскі за свае выдаткі на вайну спагнаў з шатландцаў дваццаць тысяч фунтаў. Як за дзвесце вершаў пра свабоду.

Так, за свабоду трэба заплаціць, бясплатным вольнае паветра не бывае. Загвоздка толькі ў тым, што трэба ведаць, жалезна знаць: каму і колькі грошай даць, каб ашуканства не было, падману каб пазбегчы. Урэшце, каб не трапіць у кайданкі як «за хабар».

**Меч у похвах**

Калі няма вайны, калі твой не патрэбны болей меч, на гэты выпадак прыдуманы вучэнні, турніры рыцарскія, калі быць дакладным. Але турнір — падзея, як чэмпіянат сягоння, не кожны дзень і тыдзень здараюцца, бо не кірмашовы балаган. У астатні час у рыцара, калі не мае, скажам, замка ці паляўнічых шатаў, пара ніякая: ні восень, ні зіма. У спартыўнай зале мацаваць навуку рыцарства не кожнаму прадстаўлена магчымасць. Выдатна, калі на дзядзінцы замка ёсць месца для цябе ў графскай свіце, аднак жа зноў: вайна закончана пакуль, крыжы паўсталі на магілах, ды рыцараў

у жывых намнога болей, чым мураваных цвержаў і дамоў у кшталце замкаў, з байніцамі і вежамі, прызначаных для абароны.

Заўсёды так бывае: Малох вайны зжырае ненаежна мужчын, жаўнераў, рыцараў высакародных. Няма канца і крэсу смерці. Але раптоўна меч у зямлю! Нарэшце здарылася: няма патрэбы ў аружным людзе болей. Усе — па дамах, свабодны! Здавайце зброю, у похвы, рыцары, мячы. Ідзіце з мірам, амэн! Але не горш вядома: не кожнага чакае мірны дом, прылады працы, сям'я, агмень, акраец хлеба. Не кожны хоча браць рыдлёўку ў рукі, серп і молат, габляваць, гадаваць жывёлу, сеяць хлеб, пра сцены дбаць, пра дах, пра гандаль, пра рамёствы.

Напружна гэта, спадары: змагацца з пустазеллем, быльнягом, выворваць плугам камяні, ад занядбання вызваляючы палеткі. Салёны пот цячэ, ён засціць вочы, выядае. Вядома ад падмуркаў людскіх: куды лягчэй пабудаваць на чыстым месцы новы дом, чым аднаўляць напаўразбураныя сцены, званіцы, вежы. Лягчэй, надзейней нарадзіць, чым куксы ў жыцці прыдатны прытарнаваць калеку. Рамонт будынка, чалавека, патрэбна гэта, але далёка заўжды наканавана дачакацца. Не ўсіх спаткае дбайны погляд, руплівая рука, палёгка. Пашкоджаныя гінуць хутка, як дрэва або дом ці сад, гібець — звычайна лепшы лёс для іх, а лекі, дапамога іншых — шацунак для нямногіх.

Напаўразбураныя замкі, ні даху, ні ачага, глядзіш — разбойніцкія гнёзды. І рады не было ніякай, пакуль знішчаць іх не пачаў з зацятай думкай Рудольф, што з Габсбургаў паходзіў, славутага на ўсю Еўропу роду крыві блакітнай. Мячом жалезным выкараніць узяўся: трымціце, бесхацінцы-рыцары, ці рыцарам хто быў, але не мае права больш ім называцца.

Сям-там мог чорны рыцар пасяліцца. Без геральдычных знакаў ён. Не меў, ці не хацеў, каб быў пазнаны. Твар свой хаваў, калі з'яўляўся ў касцёле, на брукаванай вуліцы ці нават на турніры. Што дазвалялася нярэдка правіламі. Калі пачціва выглядае звонку, калі даспехі, зброя ў добрым стане, то калі ласка — вось двубой наступны. Хаваць свой твар, быць чорным, дзе ўсе белымі імкнуцца быць, — падстава як звычайна важкая бывала. Удзел у каншахтах палітычных, у патаемных дзеяннях. Звычайна гэта рыцар-адзінец, спрытны ваяр, але амаль заўжды — адмоўны персанаж у гутарках, тым больш у песнях трубадураў.

Здаралася таксама, не меў уласных колераў і герба жаўнер адважны, але незаможнага паходжання. Такія часта ў наёмнікі ішлі, каб мець кавалак хлеба. Не меў ён збраяносца, сам чысціў зброю і фарбаваў даспехі вымушана ў чорны колер, каб не ржавелі. Таксама чорны, але па прычыне іншай, не варта блытаць іх.

Тупое, але слова з паслясмакам: «бугурт». Дзве сценкі рыцараў, затупленая зброя, не забывалі каб, што бітва азначае боль. Або ў конным стане яшчэ страшней бывае сыходзіцца адным супраць адных. Нікому на зямлі не дазваляе апынуцца гонар, ды кожны робіць усё, каб саштурхнуць з каня. Конь пераможанага — прыз для пераможцы, яго здабыча ў мірным баі. Таксама мусіць з прыкрасцю і сорамам у палатцы зняць даспехі з дапамогай збраяносца і меч аддаць таксама таму, хто быў мацнейшым за цябе. Хаця ты можаш заплаціць, калі, канечне, маеш чым. Пакінуць баявыя латы на сабе і зброю. У надзеі на наступную магчымасць паўдзельнічаць у бугурце. А бедны рыцар, прайграўшы, застацца мог без шлема і мяча, з пустой кішэ-

няй. Здаралася, але здаралася нячаста, заможны мог адмовіцца, не браць трафей ці выкуп. Быць шчырадушным, зрабіўшы ласку меней спрытнаму ў валоданні мячом.

Яшчэ здаралася, бугурты з ваеннай пастаноўкі ператвараліся ў зацяты бой, а гэта азначала часта кроў. Забараняць забаранялі, але калі ў табе гаворыць прага бітвы, калі навокалляскат зброі, спыніць свой меч — усё роўна, што рукі апусціць сярод агню.

**Слава пераможцам, ганьба пераможаным?**

Рака — артэрыя на геакарце,
Намаляваная рукой досыць адвольна,
У жалезе выразаная, каб зрабіць афорт.
Пераканаўча выглядала каб,
Дадаў картограф каралеўскі хвалістыя
Завітушкі.

Уздоўж вады шырокай раўналежна
Дзве арміі ступалі ў адным кірунку,
Адлегласць паміж імі — доўгі лук — страла.
Жаданне арміі адной раку пакінуць за сабой,
Наперадзе Кале, свае ў цвержы.

Другая армія хацела не пусціць
Праціўніка: спыніць на беразе, калі
Пачнецца пераправа, ці ў скрайнім
Выпадку сустрэць у полі ратным,
Схапіцца на мячы. Што болей
Пасавала рыцарам высокародным,
Удзельнікам турніраў слаўных.

Для першай арміі рака, няхай
Падоўжаная лінія, не болей,
На самай справе небяспека, пастка.
Каб мець магчымасць пераправы,
Не заснула ноччу, пакінуўшы
Агні на беразе, пайшла ў цемру.
Для тысяч рыцараў рака магіла,
Калі не будзе латвай пераправа,
Калі разгаданы акажацца манеўр
І спрыт пакажа, хуткасць
Французаў армія, якая Сомы
Правым рухалася берагам
У накірунку мора.

Ды прага да жыцця мацнейшая
Ў таго, хто не жадае апынуцца
У пастцы, хто прагне вымкнуцца
На волю. Год 1415. Пры вёсцы
Азенкур два рыцарскія войскі

Адно другое напаткалі. Французы
Дома, на сваёй зямлі: віно,
На вогнішчы засмажанае мяса,
Чакалі караля англійскага
Жаўнераў, знясіленых дызентэрыяй
І аблогай задоўжанай нядаўняй
Марское цвержы Францыі.

Чакалі пераможцамі, хаця яшчэ
Не пралілася кроў. Як быццам
На турнір вялікі і шматлюдны
Прыбылі ў парадных, новых,
Лепей не бывае, латах, нібыта
Свята іх чакала, не праўдзівы бой.

Аднак няма трыбун на полі, публікі,
Прыўкрасных дам няма. Хто атакуе?
Той, вядома, хто больш упэўнены
Ў сабе, капытам коні ў каго
Лапацяць землю, быццам ганчакі
Стрымаць сябе не могуць, чакаючы
Ражкоў на паляванні.

Чамусьці ўяўлялі схватку на мячы
Ў парадку пешым рыцары паўночнай
Францыі, хаця дамоўленасці не было
Такой, бо не турнір чакаў, а бітва.
На лучных шэрагі жаўнераў
Пайшло навалай коннай рыцарства
З намерам здратаваць, расчысціць
Месца для рыцарскіх мячоў.

Але засыпалі дажджом калючым
Джал і конніцу, і тых, хто йшоў
За ёю англійскіх лучнікаў атрады,
Якія поспеху вялікага не мелі перад тым,
Калі стаялі збройна пад мурамі.
Калі ўсе стрэлы ўляцелі са смерцю
Або ранамі ў твар французам,
А былі тысячы тых стрэл, што здабывалі
Кроў, не апусцілі рукі лучнікі
І з похваў вынялі мячы, сустрэлі
Грудзьмі рыцарства цяжкое,
Якое прагнула бугуртаў небяспечных
І асабліва перамог.

І спрацаванаю рукой браў меч
Свой лучнік і спыняў француза,
Які яшчэ не быў у бітве, які
Яшчэ нядаўна піў віно і жартаваў

У сяброўскім коле пра недарэкаў
Англічан, якіх прымусіла
Бягунка не зімаваць у заваяванай
Цвержы, якая гнала іх
У Кале, пад абарону гарнізона,
У якога з жыватамі пакуль
Няшчасця не было. Каб нас
Не перапэцкалі сваім друхлом
Англійскім! — за гэта п'ём,
Каб нашы ззяючыя латы
Пафарбавала лепей кроўю.
Амэн.

Генрых V, англійскі кароль, падрыхтаваў армію: калі рыцары трапяць у палон, без вялікага выкупу волі ім не відаць, што да лучнікаў, да пяхоты, ім будзе значна горш. Што ён мог яшчэ сказаць? Укленчыўся, войска малілася, кожны паасобку каяўся ў грахах. Не спыняўся моцны ёдкі восеньскі дождж. Стала шарэць, і пачынаць бітву не здавалася разумным. Нараніцу мясціна не выглядала лепей: балоты па адну руку і зараснікі па другую. Для англічан — нястрашна, для французаў — не разгарнуцца, з другога боку — франгі выглядалі больш бяспечна.

Пад Азенкурам здарылася бітва доўгіх лукаў, без іх магло інакш закончыцца сражэнне. Раней аднойчы англічане змаглі перамагчы сваімі стрэламі забойчымі, тады кароль французскі Карл Пяты Мудры даў загад глашатаям чытаць рэскрыпт на плошчах: даўгія лукі кожны мець павінен селянін, каб на выпадак паспалітага рушэння ў Стагодняе вайне супраць англійскіх войскаў склікаць адразу лучнікаў армаду. Не выйшла, чужое цяжка палюбіць. Хаця даўгія лукі цэляць у жывую плоць, у коней, не прабіваюць латаў. Але жалезны рыцар у раскісшай глебе, упаўшы, будучы прыціснуты сваім канём, не лепшы ваяўнік. Так што даўгія лукі ўсё ж карысць даюць, тым больш з англійскіх шэрагаў пры Азенкуры ляцела ў бок французаў трыццаць тысяч стрэл, калі храністу верыць, кожную хвіліну.

Пад Ватэрлоа перамога потым будзе, якое супадзенне, зноў англічане ў галоўнай ролі. Брытанскі афіцэр, удзельнік бітвы, гісторыі аматар, вырашае пакапаць пад Азенкурам, мячы і латы рыцарскія пашукаць. Мясцовым жыхарам не спадабаліся раскопкі. Знайшоў ён толькі сёе-тое і залаты экю, якім надзвычай ганарыўся. Каб залагодзіць незычлівыя настроі, ён да кюрэ: дамоўлена, што знойдзеныя косткі перазахаваюць. Але ніякай урачыстасці, і скрынку закапалі за касцёлам пад сцяной: ніякай дошкі, ніякіх надпісаў. Што славіць пераможаных?

Без радасці сустрэлі, з падазрэннем. Чаму? На дошцы памяці, магчыма, не было ўсяго, чатырыста мінула год. Але забіць палонных Генрых Пяты асабіста загадаў. Яны пальчатку аддавалі, што сведчыла: здаёмся, далейшы супраціў не мае сэнсу. Аддадзены меч, звязаны рукі, і раптам, быццам статак, іх пачынаюць пазбаўляць жыцця. Якое апраўданне? Напад сялян з мясцовай шляхтай на абоз, у якім за каралём англійскім вандравала яго карона? Кароль, які карону страціў?! Страх, што на падыходзе французскія падмацаванні? Невядома.

Удачу асядлаўшы, Генрых Пяты яшчэ раз перамог французаў, на выгадных сабе ўмовах навязаў ім замірэнне. Але вайна не спынена, мячы ў похвах. Хаця ў дум-

ках пераможцы-караля выправа новая ў Святую Зямлю, паход крыжовы, забыты, у хроніках пакінуты.

Але з паходам трэба пачакаць, патрэбны будуць рыцары-французы, якія за сценамі, не хочуць браму адчыняць. Аблога новая, дызентэрыя зноў, і ў хваробным ложку памірае Генрых Пяты.

Маліўся, спавядаўся за грахі, магчыма, успамінаў гарачую часіну Азенкура. Просталюдзіны лучнікі, паслаўшы ў паветра стрэлы, з мячамі кінуліся напярэймы рыцарам, чаго раней не дазвалялася рабіць ніколі: кожны павінен ведаць месца на лесвіцы, таксама мілітарнай. Драўляным молатам на доўгім тронку збівалі з коней вершных (свіней такімі глушаць з намерам закалоць) і дабівалі, як нібыта бараноў, шырокімі нажамі, накшталт кухарскіх, упароўшы ў шчыліну між латаў.

**Народны трыбун**

Знаёмцеся: быў ён па-нашаму Міколам, народнага паўстання правадыр у вечным, як кажуць, горадзе. Бацька — тавернshчык, наліваў ахвотным за манету віно і грапу, меў сыр, бараніну, хлеб, садавіну і гародніну, вядома. Мікола супраціўляўся думаць, што да смерці таксама будзе наліваць у келіхі і шклянкі. І вынайшоў цікавую жыццёвую прыгоду, абвясціўшы, спачатку толькі гораду, што бацькам яго быў магутны, усім вядомы муж, а менавіта Генрык Сёмы Люксембургскі. Галоўнае — перакана ўча гаварыць: ніколі не даводзіць, не тлумачыць, а — панаваць у гутарцы, ласку ім рабіць, трымаць у руках. Сын, Божа наш, неверагодна, але напраўду, людцы, — самога Сёмага па ліку Генрыка з найменнем Люксембургскі! Хто ж яго не ведаў! Кароль ён рымскі, імператар! А вось, будзь ласка, сын ягоны, Нікола ды Ларэнца Габрыні — вітайце гучна! Чаму так зваць яго, зусім не па-цэсарску? Каб ворагаў каранаванага нябожчыка не прыцягнуць увагу! Хіба не зразумела гэта?

У красе гадоў загінуў імператар, Фларэнцыю трымаючы ў жалезных абцугах. На штурм апошні смачнага арэшка з мячом не выйшаў ён, памёр у ложку — ці загінуў, атручаны, як мовілі, дамініканскім мніхам. Вялікае крыві быў кошт жаданне Рым заняць, хадзіў наўкола ды вакол, каранавацца мусіў па-за Ватыканам. Хаця сам Дантэ Аліг'еры заклікаў: «Прыйдзі і ўбач, як Рома твая плача, як удзень і ўночы кліча голасам удавы Цябе — о імператар мой, чаму ты так далёка?» Так, Нікола ды Ларэнца Габрыні, напэўна, кнігі Дантэ падабаў чытаць і ведаў дасканала, не мог не ведаць, што ў рай паэт змясціў зацнага надзвычай мужа, якога сам Нікола, паразважыўшы, зімнакроўна выбраў за прыроднага айца свайго. Тым больш, ягоная ўлада была ад Бога атрымана, як пісаў паэт, захоплены паставай збіральніка італьскіх земляў, што апярэдзіў у сваім памкненні гэтым нашчадкаў больш чым на паўтысячы год. Давайце падсумуем: сын карчмара зрабіўся імператара нашчадкам, балазе ў таго самога ўдакладніць ніякае магчымасці не існавала: загінуў муж выдатны якраз у год, калі Нікола ў Рыме паявіўся з лона маці і, дачакаўшы перарэзу пупавіны, зусім не па-карчмарску абазваўся, закрычаўшы: гэта я!

Не варта паўтараць, што для паспеху справы нядрэнна апынуцца ў патрэбным месцы і ў патрэбны час, а лепей — у патрэбную хвіліну. І вось ужо Нікола наш, мы нагадаем, сціпла прышчапіўшы да дрэва радаводнага імператарскай фамілі сваё імя, асобу, на дарозе ў Авіньён з прадстаўнікамі Рыма павітаць новаабранага Айца кас-

цёла, Кліментам Шостым зваць яго. Аўдыенцыя ж была асобна, зазначым, для Нікола, чымсь Папу новага прывабіў ён, сабе ў падтрымку зацікавіў. Прадоўжыць справу бацькі (дамовімся, што так), успетага паэтам Аліг’еры, схіліць італьцаў аб’яднацца, прызначыўшы замест сваіх сталіц наўкольных адзіную сталіцу ў Рыме! Для нас сягоння дзіўна, што Рым, адзінай быўшы маці гарадоў, карону страціў, апынуўся ў шэрагу магутных, але не самым моцным з іх.

Каму, як не яму, знаць, як, дзе, аб чым паразмаўляць з нізамі гарадскімі, схіліць, пераканаць, каб узначаліць народнае паўстанне ў Рыме?! І гучны тытул з адрасаваннем у слаўныя далёкія часы сабе надаўшы потым: Рымскай рэспублікі трыбун! Здавалася б, гучыць зусім нерэчаісна, выдумкай, далёкай ад жыцця, аднак жа так і здарылась тады, а згоду даў не хто-небудзь, а сам Клімент, вядома, Папа тагачасны, які свае меў мэты далёкасяжныя, няважна, што не збылісь. Не проста ён трыбун, а той, хто шляхту рымскую прымусіў прысягнуць Рэспубліцы з ім на чале. Ён з’езд рыхтуе ў Рыме прадстаўнікоў усіх гарадоў, каб выбраць імператара, ці не сябе меў на ўвазе? І пра народ ён дбае, няма чаго казаць: стварыўшы свірны, каб хлебам накарміць, міліцыю стварыў — каб мець парадак, падбаў пра самых кволых — удоў, сірот, ну проста родны бацька, нават лепей. Але і пра сябе ён не забыўся: у раскошы пачаў жыць, хаця пакуль не імператар, што выклікала яшчэ большую нянавісць. Проста ўлада — гэта нецікава, закручваць гайкі ўзяўся ён, не доўга разважаўшы, чым выклікаў з’яднанне ворагаў сваіх. І дачакаўся, што галава касцёла пракляў яго! Ледзь прайшло паўгода, выгнаны з Рыма быў, у якім хацеў да смерці панаваць.

Туды-сюды, мінае час, і зноў ён на кані. Змяніўся Папа. Новы за мэтазгоднасць палічыў таксама выкарыстаць здольнасці Нікола, які даўно ўжо зваўся трошачку інакш, ён быў цяпер, скажу вам, Кола ды Рыенца. І зноўку кроў забушавала ў жылах, тым больш люд рымскі павітаў яго паўторна, бо жытка не палепшылася за апошнія час, пакуль адсутнічаў трыбун… Але, аднойчы закруціўшы гайкі, не мог інакш ён правіць болей, гісторыя нічому нас не вучыць і нават уласныя ўчынкі нашы. Паўстанне! Аднак цяпер супраць самога народнага правадыра ў мінулым. А вынік? Спробы ўцячы ў чужым адзенні. Ды не! Ён схоплены і гіне ў ярасці натоўпу. І што вы скажаце на гэта? Няўжо гісторыя нас сапраўдны ніколі не навучыць?!

**Фокас, імператар на час**

У Візантыі імператар Фокас галавакружную зрабіў кар’еру, сказаць дакладней, прыставіў да сцяны ўлады драбіны штурмавыя, рашуча ўзлез наверх. Быў проста сотнікам вайсковым, а прагнулася значна больш — улады, золата, рукі жалезнай распараджацца людам, караць і мілаваць, а лепей усё ж караць: і галавы сцінаючы, і рукі-ногі, каб праз пакуты смерці сваёй уласнай жадалі ворагі яго як панацэі, як кахання, як жыцця. Дык вось: грунтоўна бунт падрыхтаваўшы, сотнік Фокас цэзара Маўрыкія сказаў замардаваць з сынамі разам, каб мовы аб нашчадках не гучала нават шэптам. І следам пачалося, што называецца тэрорам сёння: не пакладалі каты рук, ніякіх выхадных і дзён святочных. Што асабліва закарцела самаабвешчанаму візантыйскім базілеўсам бунтаўніку — арыстакратыю пад корань ссекчы, як дуб магутны, як калону, што трымае манумент.

А трэба тут зацеміць, што сам Маўрыкі адметным быў правіцелем, таленавітым ваяводам, і дыпламатам да ўсяго. Зоркі спрыялі адпачатку ў жыцці яму: Тыберы, імператар рымскі, вызначыў за сваяго наступцу і ажаніў з дачкой. Але, але, балканская вайна з аварамі, славянамі ўсё не скончылася. Калі ўзбунтаваныя жаўнеры, пакінуўшы, што называецца, тэатр дзеянняў ваенных, жалезным маршам рушылі ў Канстанцінопаль, вулічны натоўп палац правіцеля раптоўна захапіў і самаго яго, Маўрыкія. Што ж, перамога! А пераможаных — судзіць! Дакладней — смерцю пакараць без цырымоній. Прызначана відовішча на плошчы для паспалітага народу, а хлеб? Пра гэта — потым! Спачатку, па чарзе, сыноў правіцеля публічна, як на сцэне, пазбавілі жыцця, а іх было пяцёра, затым яго самога. А Фокас што? А Фокаса натоўп, крыкма крычэўшы, абвесціў візантыйскім імператарам. І ці напраўду важна: першымі падалі голас менавіта апантаныя прыхільнікі ці людзі Фокаса ў сціжме? Дайшоў пазней чарод і да зняволенай імператрыцы, званай Канстанцінай, праз нейкі час ёй галаву адсеклі. Такія вось часы былі.

Нумар адзін задачай для Фокаса было раз’ятранасць у Рыме залагодзіць, пагасіць пажар, прымусіць асцюдзіць у похвах корды. І ён гэта зрабіў, абвесціўшы ўголас Папу Баніфацыя, па ліку Трэцяга, уладцам над царквой у Візантыі і ў хрысціянскім свеце цэлым. Усё атрымалася ўдала, і нават болей: на Форуме ў Рыме калону Фокасу паставілі ў ягоны гонар з надпісам — вялікаму і слаўнаму! Нядаўні сотнік, чорнарабочы арміі Маўрыкія вядомага, каменны слуп у Рыме на галоўнай плошчы мае, у цэнтры свету усяго! Няцяжка уявіць, як гонар грудзі Фокаса перапаўняў, як цешыў, якім агнём запальваў! Старая праўда, як людскія дзеі: калі мужык зрабіўся панам, чакай бяды.

Агонь вайны лясным пажарам сціснуў межы Візантыі, напэўна сотнік-імператар сотнікам застаўся, не палкаводцам. Канец яго нічым не лепшым быў за смерць забітага ім жорстка імператара Маўрыкія, яго сыноў і жонкі цэсарскага роду. Мы скажам шчыра: у пекла трапіў ён, жыўцом спалілі Фокаса. А што калона? На Форуме ў Рыме? Не захавалася яна, што зробіш. Калоны — рэч не вечная, рукамі зроблена, рукамі і разбурана!

**Царград**

Гарадоў на двух берагах ракі нямала, каб марская пратока падзяляла — рэдкасць, каб у дзвюх частках свету існавалі кварталы — адзінкавы выпадак. Царградам зваўся горад той, а сёння — Хрыста-Божы-град. Вартавая ён вежа, брама хрысціянская на замку перад мусульманскай залевай.

Прынята падлічваць дагэтуль і шкадаваць: дзесяць з ятаганамі на аднаго за мурам абаронцу. Пяць тысяч праваручнай веры, дзве тышчы — леваручных. Венецыянцы, генуэзцы і дзвесце лучнікаў ад Папы — для лепшай абароны хрысціянскае цвярдыні. Да Маці Божай памаліліся з надзеяй большай, чым заўсёды, і ланцугом замкнулі натрывала свой Залаты у хвалях рог, затоку. І гэтым разам дапамаглі кайданы для марской затокі. Ды ненадоўга. Султанам загадана турэцкі флот перацягнуць па сушы. Са скрухай назіралі хрысціяне за такім манеўрам.

Султанскія гарматы зарычэлі з двух бакоў: з вады і з сушы. Страшнейшыя былі другія. Угорскі майстар-людвісар адліў не проста аркебузы, гарматы-монстры, што,

уздыхнуўшы цяжка, у царградскія муры шпурлялі з лютай моцай ладункі разбуральныя па шэсць пудоў вагой. Фантасмагорыі дадаў загад султана: палонных хрысціян саджалі на калы прад брамаю Царграда.

Паміж дзвюма канфесіямі на паперы змацаванай унія была, заключаная ў Фларэнцыі. Сярод царградскай веры хрысціян праціўнікі пераважалі значна, як войска з ятаганамі цяпер — у сціплай лічбе абаронцаў. Ніякая пагроза мусульманская не змяншала ў сэрцах пыхі: не можа аб'яднання быць пад рымскім крыжам, хай ліжа полымя іслама ваяўнічага царградскі сцены, не будзем ездзіць у Рым, каб пакланіцца Папу!

Але настолькі прыпякло, што ваяры, якія поплеч на мурах стаялі, пайшлі ў Хагія-Сафію, галоўны храм усходняга абраду, каб разам, менавіта разам памаліцца Богу, каб сілы даў, умацаваў, каб дапамог і ўратаваў. І месяц цэлы яшчэ трымаліся адзін супраць дзясятка. Але ў сэрцы безнадзея больш не сустракала супраціву. Апошняя супольная малітва ў Святой Сафіі. Султан Мехмед дае загад пасля паўночы і сам вядзе атрады янычараў на штурм.

Царград не існуе! Зняважаны, у агні. Крывавы раны абаронцаў аказаліся смяротны. Тры дні рабункаў і забойстваў. Царград трымціць у прадчуванні, што больш не быць яму Царградам. Не быць ніколі. Султан Мехмед уязджае конна ў святую браму Сафійскага сабора, пры алтары Алаху дзякуе і робіць тут галоўную мячэць.

А што царква? Хай будзе новы патрыярх адгэтуль, манах Генадзь, адзін з найбольш зацятых Фларэнційскай уніі праціўнікаў. Перамаглі антыуніты!

**Каварны кароль-трубадур**

Крытыкуе адзін трубадур даўні караля Альфонса II Арагонскага: пасля таго, як дама «аддала яму сваё каханне, захапіў у яе два гарады і сто замкаў з вежамі». Кароль быў сам з пяром пісьменным дужа ў руцэ. Пісаў ён асабіста вершы рыцарскія. Само сабой, на правансальскай мове. Прыязніўся Альфонса з Львіным Сэрцам, каралём англійскім Рычардам. Ніхто не вечны, здароўя не дадалі «сто замкаў з вежамі». Пражыў каварны трубадур-кароль на свеце гэтым гадоў сорак чатыры, аддаўшы Богу душу. Што здарылася ў Перпіньяне, у лета 1196-е, у месяцы красавіку, 25-га дня. Амэн.

Таксама званыя Альфонсамі Другімі былі моцнаўладцы ў больш-менш суседніх Астурыі і Партугаліі, але і вершаў не пісалі і не валодалі патрэбнай мовай, не кажучы: здабытых дам прыўкрасных не пазбаўлялі гарадоў і замкаў. Хаця, да слова, партугальскага Альфонса звалі Грубым, а астурыйскага, наадварот, — Альфонса Чыстым.

Што да краіны багуславаў, у гістарычных хроніках празванай Літуаніяй, ніхто адтуль у Правансаль не ездзіў: далёка і не па дарозе. І вершаў дамам не было пісаць патрэбы, і замкаў сто каварна потым забіраць, бо кожны на ўліку быў, што іх не ўратавала, зрэшты. Падмуркі ў быльнягу ад замкаў засталіся. А Літуанію кахалі багуслаўскія Альфонсы, кахалі ў душы, цнатліва, як і належыць рыцарам. Не прысвячалі вершаў ёй, не прызнаваліся публічна ў каханні, трымаючы ў сэрцы, як таямніцу.

Урок гісторыі такі: хто вершы прысвячае даме, хай (не вельмі) няшчыра, хто пра каханне ўголас разважае, каб чулі ўсе навокал, той потым забірае гарады і замкі.

**«Географ баварскі»**

Пачытаць часам карысна аўтараў старавечных, зборы рукапісныя, якія захаваліся дзівам, таго ж «Географа баварскага», напалову ананімнага. Людвігу Другому Немцу, Германландцу, каралю ўсходніх франкаў, прысягнулі аднойчы чатырнаццаць князёў чэшскіх, думка ўзнікла іншых прыцягнуць да сябе славян, падпарадкаваць, калі будзе магчыма. На мараўцаў пайшоў ён спачатку, на абодрычаў і велетаў, альбо люцічаў. А ў Маравіі Канстанцін і Мяфодзі прапаведвалі па-славянску якраз. Асляпіць Расціслава-князя загадаў Людвіг-Немец, каб царкоўнай славяншчыны не падтрымваў, царградскага, кажам, узору. Тады якраз паўстала апісанне суседзяў, каралеўства Людвіга якіх мела з усходу: да названых вышэй далучым гавелян, сербаў, гламачоў і найбольшых, мацнейшых — балгар.

Сёння гісторыкі радзяць сабе збольшага з такімі імёнамі, цяжэй будзе потым, калі «Географ баварскі» паглыбіцца ў лес, назаве іх, ні многа, сябры, ні мала людаў іншых у колькасці сорак чатыры. Паспрабуем назваць і мы: мілоксы, фэснучы, тадэсы напрыклад. Ну вось, напісаў, а сам думаю: пераклаў я з літар лацінскіх, як мне гэта здалося магчымым, але вельмі сумнеўна, што не зрабіў скажэнне чарговае. Можна, што праўда, дакладна ўбачыць у пераліку назвы, што сведчаць пра вобласці, што захаваліся ў землях Паньства цяперашняга: як іх расцэньваць — што кожную насяляла асобнае племя? Знойдзем таксама і тых, хто далей — з Паньствам суседзіў, межамі бо тое становішча назваць было б цяжка. Напісана цяжэй, з асаблівасцямі, але можна смела даволі сказаць, што пазначаны ў рукапісе баварскім стагоддзя дзявятага лужычане, мільчане, унгры, венграў у якіх няцяжка пазнаць, былі яшчэ русіны ці русы, прусы таксама, бужане ды іншыя. Што да прусаў, назвы дзве іх нагадваюць, якая дакладна — мне невядома.

**Трэскі крыжа Гасподняга**

Царыца, званая Аленай, аднойчы адшукала крыж Гасподняе пакуты. Пацалаваўшы, падзяліла, разважыўшы, на тры асобных часткі: для гарадоў Канстанцінопаля, Ерусаліма, Рыма. А там, у сваю чаргу, дзяліць працягвалі на трэсачкі з перакананнем, што кожная абавязкова захавае моц крыжа цэлага. Што большым ёсць, на меншае дзяліць сам Бог казаў, пісаў філосаф старажытны, няма падставы веры не даваць яму.

У наступны час пераможныя персы, Ерусалім скарыўшы зброяй, крыжа рэліквію святога, ступіўшы ў храм хрысціянскі як заваёўнікі, узялі трафеем. Вярнуць яго здарылася Іраклію, візантыйскаму ўладару, але ў час пазнейшы і не назаўжды. Ерусалім — адчувальная страта, але персідская навала хваляй прайшла наперад, зваяваўшы Егіпет, які Візантыі належаў. Імператар Іраклі ў адказ рэфармаваў баявыя рады, узмацняючы значна конніцу.

Вайна не спынялася: авары на Канстанцінопаль пайшлі, славянскія стругі напалі на горад, а з іншага, азіяцкага боку, персідскае войска. Яшчэ чакала бітва на рацэ Ярмук, дзе мусульмане задушылі ярасцю, дзе ваяўнічых выпусцілі з ятаганамі жанчын, а хрысціяне ланцугамі скаваліся паміж сабою, каб не было магчымасці пакінуць месца сечы.

Цяпер ужо каліф Амар скарыў Ерусалім і дзеля смеху ў цэнтр сусвету, якім лічылі горад вучоныя мужы, як пераможца ўехаў на асле вярхом, рэлiквii крыжа святога ў рукі свае ўзяўшы.

**Германія наўсцяж**

«Вопіс Германіі», створаны даўно, пры канцы яшчэ дзявятага веку пры ўдзеле Вялікага Альфрэда, англійскіх земляў караля, абвяшчае Германіяй наўсцяж Еўропу да ракі самай Танаіс, называнай сёння інакш, у Крымскае што ўпадае мора. Германія, кажа, і ўсё, хочаце — верце, хочаце — не.

Каб здабыць паболей звестак сваіх пра люды, гарады, уладанні, пасылаў кароль падарожных. Адзначана было, што прусы, мёртвым сёння якія лічацца народам, мелі градаў немалую лічбу і каралі правілі імі. Што да іншых народаў, калі ласка, названы сярод іншых вільтаў, званых таксама хавелянамі, венедаў, вядомых яшчэ як сусілы, абодрычаў.

Значна яшчэ, скажам мы, што названы асобнымі люды германскія, вядомыя сёння толькі па назвах земляў. Зрэшты, некаторыя называюцца па-ранейшаму швабамі і баварцамі, саксонцамі, пра цюрынгцаў ужо так упэўнена гаварыць не станеш, што да франкаў, успамянутых у хроніцы-вопісе, лічы, зніклі франкі, пайшлі і не вярнуліся.

Купцы, рамеснікі, аратыя-каланісты, ратаі. Таксама драбы і рэйтары, збройнікі і людвісары. І зэгармайстры, вежавых механізмаў знаўцы, разбяры алтароў, муралі, дойліды. Гутэнберга вялікага паслядоўнікі. Культурная экспансія! Нямеччына там, дзе гучыць нямецкая мова! А сцвердзіў гэта некалі адзін нямецкі чалавек, якога звалі Эрнст Морыц Арндт.

**Зое Палеалог**

Зое Палеалог доўга сніла, ніяк не магла пазбыцца сноў, як уцякала з цэсарскай радзінай з Царградскае сталіцы пасля захопу сцен ятаганскім войскам і гібелі апошняга імператара Канстанціна, як абаронца сярод абаронцаў, з мячом у руцэ. Былі прыняты ў Рыме ўцекачы, пяць год усяго дзяўчынцы. Пазней у Папы ўзнікла думка палітычная: калі болей няма магутнай некалі царквы царградскай, няўпэўнена і квола адчувае царыцынскі, яшчэ не цар, а толькі князь Іван Вялікі, і прапанова ў самы час яму часткова візантыйскія клейноты паабяцаць з умовай, што ён далучыцца да Папы, прыбудзе цалаваць сыгнэт.

Так стала Зое з дому візантыйскага Палеалог вялікай царыцынскай княгіняй, прынесшы на ўладчы двор цырымоній імператарскіх рэшткі з апанаванай ятаганамі візантыйскай сталіцы. Стаў час ад часу князь вялікі Іван цэсарам зваць сябе ў паперах, альбо бліжэй да мовы — царом. Але не мог прызвычаіцца так вось адразу: цар — і ўсё, ніякіх цвікоў! З дзвюма галавамі арла тым не менш пераняў досыць рашуча, пячаткай зрабіўшы і гербам. Арла таго незвычайнага, што быў працяты стрэламі сельджукаў у сталічным месце некалі Царградскім, апошнім носьбітам якога быў законным Канстанцін.

Схіліць галавы перад Рымам не схацеў ганарыста Іван, самаўпэўнена і ваяўніча абвясціўшы свету ўсяму: Царыцын наш ад сёння будзе звацца Трэцім Рымам, а вось яшчэ адному не бываць ніколі, наперад знайце гэта!

Дзе тут сабака схаваны? Азірнемся назад, у Царград хрысціянскі. Яго абаронца апошні — Канстанцін, па ліку Адзінаццаты, каранаваўся без патрыяршага дабраславення. Адмовіўся ўдзельнічаць і крыжам асвяціць ахвярнага ўладцу, якому смерць была паслана ў той трывожны, безнадзейны час. Недаравальнай пыхай быў апанаваны, заслеплены ўласнай веліччу царградскі галава царкоўны, назваўшы здраднікам таго, хто браў на галаву карону, шыпоў смяротных змесціва. Якая здрада? А, згода з вуснаў Канстанціна пацвердзіць правамоцнасць Фларэнцыйскай уніі, каб аб'яднаць дзве галіны царкоўныя ў агульную пад вяршэнствам Рыма.

Так, патрыярх быў супраць, ён ваяўніча не жадаў быць толькі ў царкве агульнай другім па ліку. Абапіраўся з гонарам на самагубчасць паствы, вядома бо, што плебс і частка гараджан адукаваных таксама не хацела меней бляску для патрыярха, хай цешыцца ранейшымі кляйнотамі, уладай, гонарам! А туркі, туркі блізка, усё бліжэй, і ўжо гармату па загаду іхняга Мехмеда неверагоднай моцы і велічыні, каб трушчыць сцены, адліваюць найлепшыя майстры для свайго часу. Царград, маліся!

**Ордэн зоркі**

Вайна стагодняя, на землях пад рукой французскага манарха, дзе Францыя кульгае ад паразы да паразы. Навучаныя ў шатландскіх бітвах, першае слова англічане атрадам лучнікаў даюць сказаць. А што да супраціўнай арміі, там па-ранейшаму пераважае цяжкая конніца-таран. Каб смак адчуць забытай перамогі, кароль французскі, званы Добрым, паклікаў ордэн новы, галоўнай мэтай — клятва рыцараў не пакідаць ніколі месца бітвы, адзіна — у пераможным выпадку.

Пачаў з застоліцы ўрачыстай свой шлях кароткі французскі Ордэн зоркі рыцарскі. У значны дзень на свята хрысціянскае Трох каралёў. А неўзабаве, у той жа год, у сутычцы першай у Брэтані з англійскім войскам каралеўскім амаль суцэльна Ордэн зоркі паклаў галовы, і маршал Гай таксама, яго вярхоўнік. Прысяга датрымана, ўратаваны гонар, ды зноў параза, зноўку смерць.

**Люты кароль**

Век чатырнаццаты: о Божа, норавы, часы! Пятро, па ліку Першы, Мсцівы, таксама званы Жорсткім, Лютым, кароль краіны партугальскай слаўнай, жанчын прыгожых ён аматар, да сённяшняга дня пераҗагнацца прымушае з жахам, разгорнеш толькі хроніку, убачыш толькі імя. У такіх выпадках менавіта прынята казаць, што на галовах валасы шчытнеюць раптам як трава, мурашкі непрыемна бегаюць па скуры і скаланае сэрца.

Усё напачатку адбывалася як пры такой нагодзе: заручыны, вянчанне ў касцёле, таемства шлюбу. Сын караля Канстанцыю пашлюбіў са слаўнага Кастыльскіх роду, як зажадаў таго бацька-кароль, воля яго была абавязковая для выканання. А мэтай, мэтаю ўмацаваць было хаўрус двух каралеўстваў перад пагрозай маўраў, якіх разбілі неўзабаве на рацэ Салада, злучыўшы войскі дзеля гэтага, мячы і дзіды. Вялікая, вялікая здзяйснілась перамога над схізматычным ворагам, над навалай з-за Гібралтару пад ятаганам і паўмесяцам!

Але, якая шкода, зацьміла прыгажосцю гаспадыню з прыдворных дама, якая звалася Інэс дэ Кастра. Ён, жорсткі, помслівы і люты, узяў шлюб яшчэ адзін, каб жыць з

Інэс як з жонкай, патаемны шлюб. Бацька-кароль яго, калі дазнаўся, раз'юшыўся ад навіны такой, на смерць Інэс ён засудзіў. Пераканаfor былі ўсе яго дарадцы, што не без дай прычыны смерць чорная прыйшла ў межы каралеўства Партугаліі з касой сваёй бязлітаснай. Так: смерць Інэс! Ах, смерць?! Пятро, яшчэ не Першы і не кароль яшчэ зусім, узбунтаваўся, распачаўшы братазабойчую вайну. А ў хуткім досыць часе не стала на смяротным ложку самога бацькі-караля.

Кароль памёр, няхай жыве кароль, няхай! Фантасмагорыя, аднак, азмрочыла пачаткі новага каралявання. Бо першай мэтай стала для яго, Пятра, што апынуўся ў спісе каралёў краіны партугальцаў па смерці бацькі, помста. Так, помста тым, хто паспрыяў, каб любая Інэс, найлепшая між пекных ружа, страціла жыццё. Жыўцом ім сэрцы выдзіраў з грудзей, як нават звер не робіць з няшчаснаю ахвяраю сваёй. За смерць адную — мноства смерцяў! І прадстаўленне потым, ад якога згадкі ледзянее кроў. Бо новы загадаў кароль спяшацца з дамавіны выняць труп Інэс, у шаты каралеўскія адзець яе ізноў ды пасадзіць на троне, пасля чаго магнацтва змусіў прысягнуць на вернасць ёй. Ну вось, а як закончыўся спектакль незвычайны, Інэс сваю паўторна, за гэтым разам урачыста, ён пахаваў і са спакойным сэрцам знайшоў каханку іншую.

**«Рыцарству новаму пахвала»**

Бернар з Бургундыі, сучасным рыцарам абураны, стварыў і распаўсюдзіў працу, якая стала знанай як «Рыцарству новаму пахвала», што на лаціне даўжэй гучала, але не будзем той лацінаю сабе засмечваць галовы. Ну, словам, усе навокал, хто з мячом, больш дбаў цяпер пра модны выгляд, пісаў бургундзец, — паголены свой твар, накручаныя валасы, дагледжаныя рукі, пахнідлаў араматы і шатаў колеры з тканіны дарагой. Бернар з Бургундыі лічыў такое рыцарства пазбаўленым карысці для хрысціянскае краіны. Сапраўдны рыцар, ён лічыў, павінен быць манаскіх звычаяў, з зарослым тварам барадой, шалом адзець на галаву хутчэй каб, мець вінен валасы без андуляцыі, а рукі — здольныя не для этыкету, а зброю цяжкую трымаць каб у патрэбе.

Узорам сталі для яго ўбогіх рыцараў хрыстовых брацтва, пакліканых, каб пілігрымаў да Святой зямлі абараняць у дарозе. Маліліся яны штодзень і звыкла шмат, але галоўным мелі сэнсам быць заўжды гатовым к бою: для гэтага мець мог аружаносца і трох коней. Яшчэ ўмова: зброя без аздобаў. А што да палявання, то толькі львінае, каб небяспечна. Пячатка ордэна — конь з вершнымі двума, што сімвалам лічылася пакоры. Звычайна чорныя, на кожны дзень, плашчы і белыя з чырвоным крыжам — для іншых выпадкаў, зацверджаны ўзор Яўгенам Трэцім, Папам.

Што праўда, для сучаснікаў сакрэт полішынеля быў у тым, што напісаны быў трактат Бернарам не без дай прычыны. Размова перш у іх была з Гуга дэ Пэнам, адным з двух заснавальнікаў храмоўніцкага брацтва, з якім яны былі ў сваяцтве. І будзе, зрэшты, вартым узгадаць, што ў тым трактаце на лаціне слова «рыцарства» гучыць, як — militia.

**Рым-Канстанцінопаль**

Запомні, паства: Дух Святы паходзіць ад Бога нашага Айца, ніяк інакш! Сабор Нікейскі клічнікам закончыў. Так менавіта візантыйская царква заўжды лічыла і лічыла правільна адзіным. А хто вагаецца, сумневы мае хто, той адназначна ерэтык, на вогнішча яго! У заходняй галіне тады яшчэ больш-менш не разарванага на часткі царкоўнага жыцця дададзена істотная папраўка: ад Сына і Айца паходзіць Дух Святы, і кропка. Сабор у Таледа быў няўмольны. Вялікая ўзнялася спрэчка на цэлы хрысціянскі свет, на дзвесце доўгіх год. У схаластычных бойках паміралі багасловы, тады касцёл заходні голасам жалезным зазначыў яшчэ раз, паўторна: Дух Святы паходзіць ад Айца і Сына, спыніце спрэчкі, паяднацца трэба, ісламская навала наступае з двух бакоў! Але артадаксальны клір у канстанцінопальскіх саборах, келлях адмовіўся ад паяднання. За сценамі ад зброі бразгату турэцкай звінела ў паветры, аднак царкоўнікам важнейшы быў дагмат. Амінь.

**Сон рыцара**

Мастак часоў сярэднявечных пакінуў нам карціну-алегорыю, «Сном рыцара» назваўшы. Напаўляжачы ён, не зняты шлем. Чырвоны доўгі шчыт пад ім, аблакаціўшыся на ім. Заплюшчыў вочы. А так ляжыць ён на зямлі. У баявым рыштунку, нагадваючы болей рымскага легіянера.

Танюткім дрэвам, нават не відно ні лісця, ні галін, краявід, сама карціна падзеленыя напалам. На краявідзе мястэчка, вежы, далей цераз шырокую раку каменны мост, як цытадэль: таксама вежы. Скала: суцэльныя кубы камення. Бліжэй, пры рыцару: жанчына злева ў цёмных шатах, трымае, выцягнуўшы рукі, у правай меч, у левай фаліянт. А справа, апранутая ў светлым, другая прапануе кветку, крысо прыўзняўшы сукні. Што ён сасніць, куды скіруе сэрца па абуджэнні? Да Бібліі і рыцарскага абавязку з мячом у руцэ заўсёды быць ці да кахання? Невядома. Бо на карціне сон неперарваны.

Калі спіць рыцар, нярыцары час не марнуюць. А рыцары, яны не могуць на варце быць заўсёды, таксама сон патрэбны ім. І толькі ў кінафільмах у сне яны чуваюць, нібы каты або сабакі. Сон рыцара глыбокім можа быць і моцным, тым болей зелле можа трапіць у пітво, нябачным рухам, падрыхтаванае чужой рукою непрыхільнай.

Сон рыцараў тым небяспечны, што абуджаюцца пачвары. Ці проста палахлівыя пры сонечным святле гіены смялеюць на вачах…

**Труп на троне**

Папа Рымскі Стэфан Сёмы кіраваў нядоўга, але зрабіўся славутым, прыдумаўшы, о Божа, сінод з удзелам трупа. Схілёны, зрэшты, быў уладцам свецкім да знеслаўлення Папы папярэдняга, Фармозуса, блюзнерскім чынам. Фармозуса, памерлага ў мінулым годзе, з магілы гвалтам, адзелі ў шаты папскія (фэ-фэ!), балазе, гардэроб вялікі. Пасаджаны на ватыканскі трон, рабіў фантасмагорыяй падзею. Сінод пастанавіў: выбранне некалі Фармозуса было неправамоцным, пасля чаго, жагнаючыся, труп сяк-так схапілі: прэч хутчэй! Калёсамі, падскокваючы, брукам да набярэжнай і проста ў Тыбр — плыві сабе з вачэй, з Вечнага горада далоў!

Што праўда, задаволіўшы фальшывыя амбіцыі ўладцаў, падманутых раней Фармозусам, паставіў ён тым самым крыж на сабе. Абураныя рымляне паўсталі супраць Папы Стэфана, смерць яго чакала. А ў чым была віна Фармозуса? Хацеў ён войска лангабардскага не мець у Рыме. А мэты як сягнуць хацеў? Каранаваўшы без жадання імператарам Гвідона, таемныя слаў заклікі да іншага, Арнульфа, каб той чужыя войскі дапамог за гарадскія сцены выслаць. Фармозус не адразу, але зрабіў-такі Арнульфа імператарам. Але калі напраўду, быццам дзеля змрочнае забавы: разбіў знянацку паралюш Арнульфа, Фармозус знянацку сканаў.

**Істота гісторыі**

Гісторыя амаральна. Слоў няма. Ускрый скальпелем грудную клетку, не знойдзеш нічога ў ёй маральнага. Апошнія заўсёды ўрэшце першыя. Невінаватыя, канечне, вінаваты. А несумленныя заўсёды маюць рацыю. Гісторыя існуе без душы. Спагада, жаль, згрызоты сумлення — ёй такое невядома. Гісторыя такая, якая яна ёсць. Здрада, атрута, падэсць і каншахты — усё ў наяўнасці. Ідэалізаваць без сэнсу. Шукаць справядлівасці недарэчна. Рабіць спробы лагодзіць душэўныя раны — тым больш. Лепей пакінуць у спакоі, хай вісіць на сцяне.






скончыў факультэт журналістыкі БДУ, наведваў «Майстроўню». З 1984 года жыве і піша ў Гродне. Адзін з заснавальнікаў клуба «Паходня», быў у таварыстве «Тутэйшыя». Рэдагаваў газету «Пагоня», працаваў у газеце «Свабода». Удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе Беларускай асацыяцыі журналістаў. Закончыў школу «Пагранічча» ў Сейнах. Кнігі: «Янычары», «Цэнзарскія нажніцы», «Лісты да хома саветыкуса», «Кактэйль Молатава», «Каты Ёзафа Ратцынгера», «Райскія яблычкі», «Жалезная заслона з арнаментам», «Саргасава мора». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра. Аўтар назвы і канцэпцыі альманаха «Новы замак».

ВІКТАР ВАРАНЕЦ

## Карона вялікага князя Вітаўта

Вечар быў марозны і надзвычай цёмны. Неба зацягнула хмарамі, якія паглынулі і месяц, і зоркі. Павольна закружылі ў паветры бялюткія сняжынкі. Раптам падзьмуў паўночны вецер, узняў аж да неба снежныя сумёты — і пачалася сапраўдная бура. Кастусь, з галавы да ног аблеплены снегам, ускочыў у сенцы і адразу ж адчуў усю ўтульнасць цёплай вясковай хаты. Стары Панас, тупаючы ля печы, з усмешкай зірнуў на хлопца.

— Што, люта на двары? Гэта табе не ў горадзе. У нас дык усё па-сапраўднаму. Хлеў зачыніў?

— Зачыніў, дзядуля! — адказаў Кастусь.

— Ну тады распранайся. Вячэраць будзем.

Кастусь, студэнт медыцынскага ўніверсітэта, любіў на канікулы прыязджаць да дзеда на хутар. Тут было цікава ўсё: і адарванасць ад цывілізацыі (хата стаяла ў лесе, за шэсць кіламетраў ад бліжэйшай вёскі, і да гэтага часу тут не было нават электрычнасці), і прырода, і сапраўдная натуральнасць жыцця. Пасля смерці жонкі Панасу не раз старшыня калгаса прапаноўваў пераехаць у аграгарадок: маўляў, там і жыццё лягчэй, ды і хутар гэты не тырчаў бы цвіком у лесе. Але стары не хацеў кідаць наседжанае месца, а прымушаць да пераезду старшыня не адважваўся: усе ведалі круты нораў Панаса, які на гэтай зямлі і партызаніў у вайну, і першым старшынёй мясцовага калгаса быў. І да дзяцей у горад стары перапязджаць не хацеў.

— Што мне там рабіць? Як на могілках — адна цэгла ды бетон…

Але сам вельмі любіў, калі да яго прыязджалі ўнукі, асабліва Кастусь, у якім Панас бачыў сябе ў маладосці.

Павячэраўшы і прыбраўшы са стала, Панас узяў газоўку і з унукам перайшоў у другі пакой. На вуліцы скуголіла завіруха, прыемна гуло ў коміне, крыху дрыжаў агеньчык у газоўцы. І ад усяго гэтага на душы было так лагодна і ўтульна, што і не перадаць словамі.

Дзед прылёг на ложак, Кастусь прысеў каля яго на ўслон і як звычайна папрасіў:

— Раскажы што-небудзь з мінуўшчыны.

— З мінуўшчыны? — перапытаў стары. — Дык я табе, здаецца, ужо ўсё пераказаў.

— Не можа быць, — запярэчыў унук. — Нават калі штовечар пра адзін год твайго жыцця расказваць, і то колькі дзён спатрэбіцца…

На хвіліну Панас задумаўся, ды раптам схамянуўся.

— Слухай, я ж ледзьве не забыўся. Увосені лазіў на гару, перабіраў ламачча, што назбіралася за гады. І ведаеш, знайшоў там куфэрачак. Адкуль узяўся — адзін бог ведае. А там розныя старыя паперкі з запісамі. Мае вочы не разабралі, што там і да чаго, але, думаю, Кастусь прыедзе — прачытаем.

Панас выйшаў за дзверы і ўжо праз хвіліну вярнуўся з невялікім, акаваным жалезам куфэрачкам. Перадаў унуку. Кастусь асцярожна падняў вечка і ўбачыў сапраўды нейкія спісаныя лісты жоўтай і вельмі шчыльнай паперы. І мова, якой карыстаўся не-

знаёмы аўтар, была як быццам беларускай, але разам з тым і нейкай незвычайнай. Але больш за ўсё ўразіў надпіс на адным з іх: «Карона вялікага князя Вітаўта».

Кастусь падцягнуўся бліжэй да газоўкі і пачаў чытаць уголас.

«І даў Бог нарэшце вялікую ласку да зямлі нашай. Ад мора і да мора зрабіўся мір і спакой у княстве Літоўскім. І выйшлі на палі аратыя, і адплылі ў доўгія дарогі купцы заможныя, і зазелянелі ў гарадах і вёсках сады ды палеткі. Прыціхлі ворагі ў схронах сваіх, баючыся і носа высунуць. І славілі ўсе вялікага князя Вітаўта.

І паклікаў неяк мяне, свайго лепшага даездчыка, да сябе княжа наш Вітаўт. І сказаў мне наступнае:

— Слухай мяне ўважліва, Войтка! Прыехалі да нас папскія нунцыі з шаноўнаю прапановаю. Папа Рымскі Іаан XXIII са сваёй ласкі хоча мяне каранаваць, каб і дзяржава наша стала каралеўствам. Ты ж ведаеш, Войтку, што лацінянам асаблівай веры даваць не варта. Але я ведаю і іншае. Сёння мы папе вельмі патрэбныя, бо папа ўжо прагна глядзіць на Усход. Францысканцы штодня з раніцы тоўпяцца ля маіх дзвярэй… Іаан XXIII, канечне, вядомы п’яніца і распуснік, але ён папа. І ён таксама патрэбны нам.

— Даруйце, ваша княска мосць, — дазволіў я сабе запытацца, — але нашто нам, праваслаўным ліцвінам, той папа? А выпіць мы і самі не дурні.

— Не, не быць табе, лайдаку, ніколі панам! Якая розніца, колькімі пальцамі ты хрысцішся? Бог адзіны. І каталіцкая Еўропа каталіцкую Літву хутчэй да сябе прыме. Бо галоўны наш вораг сёння на ўсходзе. А калі княства стане яшчэ і каралеўствам, дык і каралі астатнія да нас лагодней ставіцца пачнуць. Зараз зразумела табе, дурнота гарадзенская?

— Так, ясны пане, — пакорліва адказаў я.

— Добра. Але тлумачыў усё гэта я не для забавы тваёй, як разумееш. Ехаць мне, вялікаму князю, па карону не з рукі. Як збых апошні з рукой працягнутай. Не, мы — Вялікая Дзяржава і гонар свой маем. Папу таксама сюды не даклічашся. Баіцца ён лясоў неабсяжных нашых. Таму па карону паедзеш ты. Папу я ўжо абвясціў, недзе над каронай імшу спраўляе. Даю табе, Войтка, на ўсю дарогу два месяцы. І глядзі, блазан, не дай мне прычыны шкадаваць, што даверыў табе лёс панства нашага…

Нельга перадаць тое пачуццё гонару, што напоўніла сэрца маё ад такога даручэння. І ўжо раніцай я з васьмю лепшымі княскімі ваярамі выехаў у Рым.

Бог спрыяў нашай пачэснай місіі. Праз дваццаць шэсць дзён мы былі ў Вечным горадзе. У папскіх пакоях нам уручылі каралеўскую карону, дзяржаўную грамату да яе, і мы, не губляючы часу, паехалі зваротам. На васямнаццаты дзень дарогі мы дасягнулі Браніцкага лесу. За ім пачыналіся землі Польшчы і далей родныя абшары. Але гэты лес мне заўсёды не падабаўся. Яшчэ як пад Дуброўнаю разбілі мы крыжакоў, тыя нямногія, што ацалелі, пачалі рабаваць у Браніцкім лесе. Я папярэдзіў хлопцаў, каб сцерагліся, і мы паволі рушылі наперад. Калі сонца пачало хавацца за вершалінамі векавых дубоў, я пачуў выразнае гуканне бугая. Яму тут жа адказаў другі, трэці. Не, панове, вы можаце ашукаць любога, але толькі не мяне, княскага даездчыка. Сапраўдны крык бугая злёгку клякочучы, а вы верашчыце, як дурны на могілках. Мы выцягнулі мячы, дасталі з-за спіны самастрэлы.

Страла прасвістала ля самай маёй галавы, абдрапаўшы правую шчаку. Я тут жа стрэліў у густое лісце разлапістага дуба. Пачуўся прыглушаны крык, але глянуць туды ўжо не было калі. З гушчару на нас кінулася чалавек дванаццаць узброеных людзей. Чацвёра з нападнікаў былі на конях. Добрая амуніцыя, доўгія крыжацкія мячы, упэўненая пастава выдавалі ў іх сапраўдных ваяроў. Менавіта яны вялі за сабой узброеную басату.

— Гнат і Лаўрын са мной на вершнікаў, — загадаў я. — Астатнія займіцеся пешымі!

Выхапіўшы сякіру, любімую маю зброю, я кінуўся на крайняга злева рыцара. Ён тут жа зрэагаваў і, выставіўшы наперад магутны меч, паімчаўся на мяне. Наблізіўшыся адзін да аднаго, я рэзка адхіліўся ўправа, імгненна адчуў, як бязлітасныя зазубрыны мяча прабаранавалі па маім плячы, і рубануў варожага каня па сцягне. Пачуўся хруст косткі. Конь аж узвіўся ад болю і тут жа заваліўся на бок, падмяўшы пад сябе гаспадара. Толькі галава ў шлеме тырчала з-пад тулава каня. Але тырчала толькі хвіліну. Узмах сякіры — і яна пакацілася, як вожык, па траве. Я азірнуўся. На Лаўрына насядалі адразу два рыцары. Небарака ледзьве паспяваў адбіваць удары. Я размахнуўся і кінуў сякіру аднаму з ворагаў у плечы. Ледзь не на палову ўвайшла сякіра ў спіну. Рыцар адразу ж упаў тварам на зямлю. Яго напарнік усяго на імгненне зірнуў на паплечніка, але і гэтага хапіла Лаўрыну, каб паласнуць ворага мячом уздоўж тулава. Тым часам Гнат ужо разабраўся са сваім рыцарам. Рэшткі яшчэ не дабітай хеўры, убачыўшы, які лёс напаткаў іх камандзіраў, кінуліся ў лясны гушчар на ўцёкі.

Усе нашы хлопцы, дзякуй Богу, былі жывыя. Ну а раны? Што тыя раны: памазалі гаючай маззю, перавязалі і рушылі далей. Паколькі Лаўрын у баі страціў свайго каня, давялося скарыстаць рыцаравага.

Гадзіны праз чатыры лес скончыўся, і наперадзе мы ўбачылі невялічкае мястэчка. Гэта быў польскі Згажэлец. Адсюль да роднай Літвы і рукой падаць. Параіўшыся, вырашылі заначаваць у мястэчку, каб з раніцы прадоўжыць наш шлях.

Згажэльская карчма была вялікай, немалы пакой раздзелены сценкай на дзве паловы: адна для шляхцічаў, а другая для простага люду. Мы, зразумела, размясціліся ў лепшым з пакояў. Гаспадар карчмы хуценька выставіў на доўгі драўляны стол міскі з кнедлікамі, яечню, абкладзеную свінымі каўбасамі, вэнджаныя лапы мядзведзя, жбаны з сычаным півам і духмяным віном… Пах быў такі неверагодна прыемны, што мы адразу ж накінуліся на гэтае смакоцце. Першы кубак узнялі за пана Бога, што засцярог нас ад смерці ў Браніцкім лесе. А другі кубак выпілі за гаспадара нашага вялікага князя Вітаўта, абаронцу зямлі Літоўскай. Тым часам падышлі музыкі, з песнямі завіталі да нас выляжанкі. Закіпела сапраўднае вяселле. І закруцілася ўсё ў галаве карагодам: тосты, смех, дзявочыя твары…

Апрытомнеў я, калі сонца стаяла ўжо досыць высока. На падлозе храплі ўсе мае хлопцы. Зброя, адзенне валяліся па пакоі.

«Карона», — ляснула ў маю хворую галаву. Але нідзе ў пакоі я не ўбачыў драўлянай скрыні. Я хуценька раскатурхаў хлопцаў. Ужо праз хвіліну яны стаялі апранутыя і засяроджаныя. Мы кінуліся да карчмара. Убачыўшы нас, ён лісліва заўсміхаўся.

— Як маюцца вяльможныя паны? Ці спадабалася вам у старога Зямы?

Я адразу ж схапіў яго за каўнер.

— Дзе драўляная скрыня, што была ўчора пры мне?

— Скрыня? — перапытаў перапалоханы Зяма. — Я так разумею, што пан гаворыць пра тую скрыню, у якой вазіў залатую карону?

Тут прыйшла мая чарга здзіўляцца.

— А адкуль ты ведаеш пра карону, стары хлус?

— А як жа не ведаць беднаму Зяме, калі шчодры пан учора сам паказваў яе ўсім?

— Ну і што далей? Далей што было?

— А далей вяльможны рыцар разрубіў яе і кожнай выляжанцы падарыў па кавалку, каб зрабілі пярсцёнкі на памяць. Пан і старому Зяме падарыў кавалачак.

І карчмар дастаў аднекуль анучку, разгарнуў яе — і я з жахам убачыў кавалак былой каралеўскай кароны.

Я не хацеў болей жыць. Так бы і сталася, але хлопцы надзейна звязалі мяне, уладкавалі на кані, і мы панура рушылі дадому.

Я расказаў князю ўсю праўду, скленчана просячы пакараць мяне смерцю. Але міласць Вітаўта не ведае межаў. Ён адаслаў мяне ў Горадню, а ўсім паведаміў, што карону ў Польшчы адбілі ў нас кнехты. А неўзабаве і сам памёр. Не ведаю, можа, гэта і мы наблізілі яго смерць. Але да смерці буду клясці сябе, што вялікі князь Вітаўт так і не стаў каралём, а наша Вялікая Літва — каралеўствам. І нешта падказвае мне, што яшчэ не раз адальецца майму народу тая гулянка ў заклятым Згажэльцы».

## Апошняе паляванне Стэфана Баторыя

Цар Фёдар Іаанавіч адстаяў абедню і, як заўсёды перад трапезай, слухаў байкі манахаў. Гэтым разам у святліцы сядзеў стары чалавек з блізнай праз увесь твар і расказваў пра далёкія паўднёвыя астравы, дзе круглы год сонечнае лета і таму не патрэбна адзенне, дзе ежа сама расце з зямлі, і з тае прычыны мясцовыя жыхары ніколі не працуюць, а толькі плятуць з кветак вянкі і скачуць вакол вогнішча. Цар слухаў, прыплюшчыўшы вочы, і на яго вялікім жаўтаватым твары гуляла шырокая ўсмешка. Раптам рыпнулі дзверы, і на парозе з’явіўся бліжэйшы дарадчык расійскага самадзержца Барыс Фёдаравіч Гадуноў. Манах тут жа ўскочыў з маленькага ўслончыка, на якім сядзеў перад царом, нізка пакланіўся і выслізнуў з пакоя. Фёдар Іаанавіч расплюшчыў вочы і, убачыўшы Гадунова, па-дзіцячы весела і звонка зарагатаў.

— Вітаю цябе, гасудар. Ці добра адпачываў ты? Ці не сніўся адзінарог? Ці па душы была служба ў царкве, — усё гэта Гадуноў вымавіў на адным дыханні, крыху схіліўшы галаву перад уладаром. Праўда, схіленая галава дазволіла схаваць з’едлівую ўсмешку, што прабегла па твары царскага апекуна.

— Барыс, якая шкада, што ты так позна прыйшоў і не чуў манаха, — шчасліва замармытаў Фёдар Іаанавіч. — Ён мне пра райскія землі расказваў. Вось куды б я злятаў, каб мог ператварацца ў птушку. А чаму ж чалавек не можа лятаць?

— Так ужо Бог вырашыў: птушкі павінны лятаць, а чалавек хадзіць. А цар яшчэ і думы думаць за ўсіх, — адказаў Барыс Фёдаравіч.

— Ах, — уздыхнуў цар, — а ўсё ж шкада, што мы не можам лятаць. — І летуценна задумаўся. Але ўжо праз хвіліну ён змяніў тэму.

— А ці даведаўся ты, што сёння мне пададуць на абед? — і з цікавасцю ўперыўся ў дарадчыка. Той зноў пакланіўся і з годнасцю паведаміў:

— Гасудара чакае юшка, бацвінне, вусны лася ў заліўцы, смажаная дзічына, кулябяка, каша, заедкі.

— Ах, як добра, — пляснуў у далоні шчаслівы Фёдар Іаанавіч і, успомніўшы, запытаў: — А царыцу не забылі паклікаць?

— Царыца марыць убачыць свайго супруга, — супакоіў яго Гадуноў, пасля чаго падышоў бліжэй і амаль зашаптаў на вуха гаспадару.

— Гасудар, лазутчыкі данеслі, што на нас вайною збіраецца ісці гэты нягоднік польскі кароль Сцяпан Баторый.

— Ах, — легкадумна адмахнуўся цар, — адслужым абедню, Бог і не дапусціць сюды палякаў. Памятаеш, як наслаў на іх мароз пад Псковам? І гэтым разам штонебудзь нашле. Таму не бойся, баярын, пайшлі лепш абедаць.

Гадуноў доўга глядзеў услед цару, затым, як бы схамянуўшыся, выйшаў са святліцы і, паблукаўшы вузкімі пераходамі Крамля, увайшоў у невялічкі пакой. Пасярэдзіне пакоя стаялі стол і дзве лавы. Акенцы адсутнічалі, і ўсё святло давала невялічкая свечачка, што гарэла на стале. На лаве сядзеў той жа стары манах з блізнай на твары. Убачыўшы Гадунова, манах устаў. Баярын сеў насупраць і рукой паказаў, каб сядаў і госць.

— Ну што, Іёва, — загаварыў Гадуноў, — як я і казаў, цару больш цікавы абед з царыцай, чым хуткая вайна з Польшчай. А ваяваць нам зараз ніяк нельга. Казна пустая, войска малое, Шуйскія толькі і чакаюць, каб я аступіўся. Таму да вайны даводзіць справу ніяк нельга.

Манах доўга і ўважліва глядзеў на Гадунова, пасля чаго адказаў крыху хрыплаватым голасам.

— Вайны хоча Баторый. Не будзе Баторыя — не будзе і вайны. Лягчэй знішчыць важака, чым усю зграю. Як у ваўкоў.

Гадуноў падсунуўся бліжэй да манаха.

— І што ты прапануеш, Іёва?

— Калісьці, вельмі даўно, я вучыўся ў Падуі з адным цікавым хлопцам, які называў сябе Мікалай Бучэле. Ён шмат чым абавязаны мне і, што самае галоўнае, прагна любіць грошы.

— Чакай, — усхапіўся Гадуноў, — а чым нам можа дапамагчы гэты Бучэле?

Манах ледзь прыкметна ўсміхнуўся:

— Мікалай Бучэле — адзін з двух лекараў Баторыя.

Гадуноў узрадавана засмяяўся.

— І ты можаш яго купіць?

Манах моўчкі кіўнуў галавой.

— Цудоўна. Заўтра ж адпраўляйся ў Польшчу, адшукай свайго знаёмага і дай яму грошай.

Іёва зноў моўчкі кіўнуў.

— Слухай, манах, даўно хацеў запытацца: а чаму ты, ліцвін, нам дапамагаеш? Грошы цябе, бачу асабліва не цікавяць. Тады чаму?

— Бо я сапраўды ліцвін, і я не прымаю здрадніцкую Люблінскую унію. Калі гэта што гаворыць табе, баярын.

Гадуноў абыякава паціснуў плячыма...

Кавалькада паляўнічых шумна праехала замкавую браму і апынулася ў прасторным двары. Стэфан Баторый, кароль Рэчы Паспалітай, саскочыў з каня і яшчэ раз кінуў вокам на вазы, што замыкалі паляўнічы рэй. На іх ляжалі два дзясяткі забітых сёння на паляванні дзікоў. Але зусім не яны грэлі душу магутнага ўладара. Асобным возам везлі агромістага, памерам з добрага бычка-траццячка, секача. З вялізнай пашчы тырчалі неверагоднай даўжыні жоўтыя іклы, усё яшчэ наводзячы страх на прысутных. І ў вачах караля зноў і зноў паўставала карціна сённяшняга палявання.

…Яны сядзелі на конях паўмесяцам, трымаючы ў руках доўгія дзіды. Брэх сабак у лесе паволі набліжаўся да вершнікаў. Праз якую хвіліну на паляне павінна была з'явіцца дзічына, якую выганялі загоншчыкі. І тут з хмызняку выйшаў велічэзны сякач. Памерамі дзік быў падобны на вялізны валун. Яго вочы гарэлі шалёным чырвоным полымем. Следам з гушчару выскачылі два загоншчыкі з трашчоткамі. Адзін з іх ледзьве не наскочыў на дзіка і ад нечаканасці замёр на месцы. У руцэ ўсё яшчэ круцілася непатрэбная трашчотка. Раз'юшаны дзік рэзка павярнуўся да загоншчыка, умомант хібам збіў таго на зямлю і вострымі ікламі ўпіўся ў небараку. Праз імгненне з хлопцам было скончана. А з боку лесу нарастаў брэх сабак. І тады сякач з усяе моцы кінуўся наперад да бліжэйшага вершніка. Ім і быў Баторый. Кароль не разгубіўся, замахнуўся дзідай і глыбока ўбіў яе ў карак кабана. Але звер, быццам і не адчуваючы болю, увагнаў прагныя іклы ў круп каня. Конь захрыпеў і пачаў завальвацца на бок. Кароль спрытна саслізнуў са спіны каня, кульнуўшыся праз плячо, выхапіў доўгі паляўнічы нож і рубануў па горле дзіка. Сякач працягла захрыпеў і задрыжаў у канвульсіях, не ў стане ўжо выцягнуць свае іклы з каня…

І цяпер, стоячы каля свайго любімага гарадзенскага замка, Стэфан Баторый адчуваў неверагоднае задавальненне: ёсць яшчэ сіла, ёсць яшчэ спрыт. І такі фінал чакае ўсіх каралеўскіх ворагаў.

Як і належыць у такіх выпадках, абед рабілі ў паляўнічай зале замка. Два рады сталоў былі застаўленыя ўсялякімі стравамі: расольныя пеўні з імбірам і качкі з агуркамі, цяцеркі з шафранам і кнедлікі з мёдам... Але ўсе чакалі сапраўднага пачастунку — смажанай дзічыны, удала ўпаляванай сёння каралём. Госці весела і гучна гаманілі, ракой лілося такайскае, рэйнскае... Баторый з задавальненнем аглядаў сталы, і сэрца поўнілася шчаслівым узрушэннем. Любіў, ох любіў ён сваю Гародню, дзе бавіў цяпер большую частку вольнага часу, дзе заўсёды былі яму рады гасцінныя гарадзенцы…

Дзесьці каля апоўначы кароль устаў з-за стала. Госці таксама падняліся і, дзякуючы і жадаючы гаспадару здароўя і дабрабыту, годна пакінулі залу. Кароль застаўся адзін. Да яго падышоў хатні лекар Мікалай Бучэле.

— Ваша мосць зноў п'е віно, — з адчаем загаварыў ён. — А вам жа нельга. Ці памятае пан свой апошні прыступ «incapitisaffectionem»? Віно толькі пагаршае ваш стан.

Кароль усміхнуўся.

— А вось твой калега Сімоніус наадварот кажа, што віно мае гаючыя ўласцівасці. Дарэчы, дзе ён?

— Гэты блазан ад медыцыны, ваша моц, дзесьці швэндаецца па мясцовых кабетах, замест таго, каб займацца справамі. І я настойліва прашу, мой кароль, выпіць гэты лячэбны напой, каб віно не справакавала новы прыступ.

Бучэле дастаў з кішэні невялічкую бутэлечку і выліў яе змесціва ў кубак. Баторый з хвіліну глядзеў п’янаватымі вачыма на кубак і затым, на здзіўленне лекара, без слоў выпіў прапанаваныя лекі. Пасля чаго, зноў жа моўчкі падняўся з крэсла і накіраваўся ў спальныя пакоі…

З дзённіка каралеўскага сакратара Ежы Хякоры*.

«6 снежня. Кароль з раніцы скардзіцца на цяжкасці ў грудзях, удушша і адчуванне, што яго кусае блыха.

7 снежня. Нягледзячы на забарону лекараў, кароль на кані едзе ў царкву. З вечара адчувае гарачку ў галаве. У яго няма апетыту. Аднак выпівае дзве шклянкі моцнага віна. Не можа спаць. Гуляючы па палацы, губляе прытомнасць, разбівае калена.

8 снежня. У Баторыя моцны прыпадак.

9 снежня. Увечары ў караля адбываецца новы прыпадак у спалучэнні з удушшам і сутаргамі. Бучэла дыягнастуе падучку.

10 снежня. Караля наведваюць канцлеры. Каралю крыху лепш. Але ўначы здараюцца новыя прыпадкі. Верны венгр Веселы намагаецца прывесці караля да свядомасці, адкрываючы яму рот, каб палегчыць дыханне. Лекары спрачаюцца пра карысць віна. Сімоніус сцвярджае, што пацыент пакутуе на дыхавіцу.

11 снежня. У караля спынілася мочаспусканне. П’е толькі ваду са спецыямі. Зноў быў прыступ.

12 снежня. Кароль вельмі слабы. У замак з’язджаюцца сенатары. Кароль сказаў Бучэлу: “Аддаю сябе ў рукі Боскія”, — аднак апошнія таінствы адкладаюцца на заўтра. Пад час другога прыступу жыццё караля абрываецца. Мы страцілі Стэфана Баторыя, вялікага караля Рэчы Паспалітай!»

Да вячэрняга малебну быў яшчэ час, і Фёдар Іаанавіч займаўся сваёй любімай справай: гуляў з блазнамі і карлікамі. Ён весела рагатаў, калі аднавокі карлік ускочыў на спіну апранутай у чорта карліцы і з крыкам «Грэшніка чорт у пекла вязе» паскакаў па палаце. Тут у дзвярах з’явіўся Барыс Гадуноў. Карлікі імгненна схаваліся пад лаву. Фёдар Іаанавіч з той жа цікавасцю, што і на блазнаў, стаў глядзець на баярына.

— З добрай весткай прыйшоў я, гасудар! — урачыста прамовіў Гадуноў і зрабіў паўзу, гледзячы на рэакцыю цара. Але той па-ранейшаму моўчкі з паўадкрытым ротам глядзеў на Барыса Фёдаравіча.

— Вайны не будзе! Польскі кароль Стэфан Баторый памёр ад невядомай хваробы…

Фёдар Іаанавіч расчаравана адвярнуўся ад Гадунова, прамовіўшы:

— Так сабе вестка… Я ж табе казаў: шчыра памолімся — і Бог адвярне ад нас ворага. Так яно і сталася. Гэй, блазны, ану вылазьце з-пад лавы!

---

* Па меркаванні некаторых гісторыкаў, пад гэтым імем выступаў доктар Бучэла.

І зноў пачалася царская пацеха. Барыс Гадуноў крыху пастаяў, паглядзеў на гэтае вар'яцтва і, прашаптаўшы: «А блазан застаўся…», выйшаў з пакояў…

## Таямніца Фары Вітаўта

*«Камандуючаму 27-й танкавай брыгадай палкоўніку Юшчуку.*
*Сакрэтна.*

*Разведгрупа 152-га кавалерыйскага палка 6-га кавалерыйскага корпуса пры вызваленні г. Ліда затрымала адпраўку 2 вагонаў з карцінамі і каштоўнымі металамі, якія належалі Банку Польскаму. Паводле інфармацыі, атрыманай ад арыштаваных супрацоўнікаў гэтага банка, у г. Гродна быў эвакуіраваны металічны вагон белага колеру, у якім знаходзіцца каля 2 тон золата ў злітках і манетах.*

*Загадваю.*

*1. На працягу сутак, да 21 верасня, сіламі брыгады авалодаць горадам Гродна.*

*2. Знайсці і ўзяць пад ахову вагон з золатам.*

*3. Перадаць залаты запас спецыяльна створанай фінансавай камісіі НКУС СССР.*

*Народны камісар унутраных спраў СССР Л. Берыя.*
*19 верасня 1939 г.»*

Камандзір разведбатальёна маёр Багданаў увайшоў у кабінет камандуючага і зухавата далажыў аб сваім прыбыцці. Юшчук кіўнуў у адказ і працягнуў атрыманую шыфраграму. Маёр хуценька прабег па тэксце вачыма і паклаў паперу на стол.

— Што скажаш, маёр? — запытаўся камбрыг.

— Трэба выконваць загад, таварыш палкоўнік! Ударым і захопім…

Здавалася, Юшчук толькі і чакаў такога адказу. Ён рэзка ўскочыў з крэсла і пачаў адмерваць хуткімі крокамі плошчу кабінета.

— Ага, ударым, — амаль зароў палкоўнік. — А ці ведаеш ты, разумнік, што да Гродна амаль сто кіламетраў, а бензін абяцалі падвезці толькі паслязаўтра, бо тылы адстаюць? А горад трэба ўзяць ужо заўтра. А на чым, скажыце, браць будзем?

Багданаў у адказ толькі развёў рукамі. Юшчук, выплеснуўшы эмоцыі, крыху супакоіўся і працягваў ужо больш спакойным голасам.

— Загад выканаць трэба, і тут нічога не папішаш. Таму, маёр, план будзе наступным. Усё паліва брыгады зліваем у твае машыны, і хуткім марш-кідком 20 верасня авалодваеш станцыяй. І памятай, Багданаў, нас цікавіць не сам горад, не палякі, што там укрыліся, нам патрэбен гэты занюханы вагон. Ты мяне разумееш, Багданаў?

— Так, таварыш палкоўнік!

— Даю на распрацоўку дэталей аперацыі дзве гадзіны. І да мяне з дакладам. Можаце ісці…

У невялічкім пакойчыку дзяжурнага па чыгуначнай станцыі Гродна сядзелі два прыстойна апранутыя мужчыны: дырэктар тытунёвай фабрыкі Чэслаў Валіцкі — кіраўнік мясцовага нацыяналістычнага аддзялення ОЗН (обуз з'едначэня народовэго) і кіраўнік атрадаў Гродзенскай самаахова, таксама член ОЗН капітан Эдвард Раманоўскі. На стале стаяла некранутая бутэлька віна, асветленая дрыжачым полымем

свечкі. Акно, за якім панавала цёмная вераснёўская ноч, было шчыльна завешана коўдрай. Дакладваў Раманоўскі.

— Такім чынам, пан Валіцкі, мы здолелі вывезці золата і асігнацыі Польскага банка проста з-пад бальшавіцкага носа. У Лідзе засталася амаль нічога не вартая драбнота. Грошы пайшлі адразу на аплату добраахвотнікам з баявых атрадаў. А вось што рабіць з золатам? Можа, адправіць пад ахавай на Варшаву?

— Не і яшчэ раз не, — Валіцкі нахіліўся над сталом і сцішана, амаль шэптам, працягваў: — Варшава пад немцамі ўжо. Гродна праз дзень-два будзе бальшавіцкім. Таму, дарагі мой капітан, ехаць няма куды. Значыць, золата трэба схаваць у горадзе. Я ўпэўнены, што Гітлер са Сталіным яшчэ счэпяцца ў крывавай бойцы. А тады зноў адродзіцца вялікая Рэч Паспалітая «од можа і до можа». І ёй спатрэбіцца гэтае золата.

— Я згодны, пан Валіцкі. Але дзе і як будзем захоўваць гэтае багацце?

Валіцкі павольна ўстаў, узяў крэсла і сеў каля Раманоўскага.

— У мінулым годзе пробашч Фары Вітаўта па сакрэце паказваў мне падземныя лабірынты, што цягнуцца ад касцёла пад горад. І я ўгаварыў святога айца «пазычыць» мне адно скляпенне для асабістых патрэб. Рабочыя яго крыху падрамантавалі, паставілі дзверы. І калі ласка, цудоўны схоў. Ведалі пра гэтае месца толькі два чалавекі — я і пробашч.

— А як жа рабочыя? — здзівіўся Раманоўскі.

Валіцкі загадкава ўсміхнуўся.

— Яны добра адсвяткавалі заканчэнне працы, падпілі і ад выпадковага агню згарэлі ў старой вінярні, што стаяла ў Капліцы. Вы, пэўна, чулі пра тую трагедыю… Больш таго, літаральна праз тыдзень чымсьці моцна атруціўся пробашч і неўзабаве таксама аддаў Богу душу.

— Які жах! — засмяяўся капітан. — І зноў толькі двое будуць ведаць пра схоў. Дык можам пачынаць аперацыю?

— Так, — пагадзіўся Валіцкі.— Але каму даручым яе выкананне? Гэта ж не людзі навокал, а прадажнае быдла. Што ім да ідэі Вялікай Польшчы?..

Раманоўскі ўстаў і па-ваеннаму зычна прамовіў:

— Лепшым варыянтам для такой справы лічу групу Яфіма Чапурнога.

— Гэта хто? — запытаў Валіцкі.

— Былы пятлюраўскі камандзір. Кіруе ўкраінскімі нацыяналістамі. За грошы пойдзе на ўсё. Сапраўдны галаварэз.

— Але ці не будзем мы з ім потым мець клопат?

— Нешта мне падказвае, што для Чапурнога потым не прыйдзе ніколі, — зноў засмяяўся Раманоўскі.

Валіцкі цяжка падняўся з-за стала.

— Ну што ж, пане Эдвард, тады за справу. Чакаю вас з золатам праз тры гадзіны каля касцёла. Трэба да світання паспець.

Каля васьмі гадзін раніцы ў Гродна ўехаў батальён маёра Багданава. Адзінаццаць танкаў БТ, бронемашына, санітарная машына і радыёстанцыя 5-АК. Пяцьдзясят чалавек жывой сілы. Гэта ўсё, што змог сабраць Багданаў за такі кароткі час. Дзесьці яшчэ пад Бераставіцай тупацелі ў пешым страі стралковая рота і ўзвод сапёраў, але

чакаць іх ужо не было часу. Крыху павагаўшыся, маёр вырашыў не губляць каштоўныя гадзіны на разведку, а адразу выконваць загад камандавання. Сабраўшы каля бронемашыны малодшых камандзіраў, Багданаў разгарнуў карту Гродна і вызначыў кожнаму задачу. Узвод лейтэнанта Якава Чарнова з трыма танкамі праз чыгуначны мост выходзіць прама на вакзал і захоплівае азначаны вагон з золатам. Узвод старшага лейтэнанта Міхаіла Яўсеева ў суправаджэнні таксама трох танкаў адцягвае ўвагу праціўніка на сябе, для чаго атакуе цэнтральную частку горада, захоплівае тэлеграф і пошту на вуліцы Элізы Ажэшкі. З астатнімі пяццю танкамі і бронемашынай Багданаў утрымлівае да падыходу сваіх мост праз Нёман і чыгуначны пераезд на рагу вуліц З'езд і Гажэльнай.

Першым рушыў узвод Яўсеева. На максімальнай хуткасці танкі выскачылі на мост праз Нёман і паляцелі да супрацьлеглага берага. Палякі сустрэлі іх агнём з зенітнай гарматы. Неўзабаве яркім полымем успыхнуў адзін з танкаў. Астатнія, не звяртаючы на страту ўвагі, працягвалі прабівацца да цэнтра горада. На вуліцы Маставой польскі жаўнер выскачыў з дзвярэй аптэкі і кінуўся з супрацьтанкавай гранатай пад гусеніцы танка. Выбух — і чарговы танк пачаў прагна паглынаць бязлітасны агонь. Адзін з танкістаў паспеў выскачыць з машыны, але, ахоплены полымем, тут жа ўпаў на дарогу. Апошні з танкаў усё ж дасягнуў вуліцы Ажэшкі, дзе снарад, выпушчаны з польскай гарматы, трапіў у левую гусеніцу. Машыну раскруціла на месцы, і тут жа з розных бакоў пасыпаліся бутэлькі з бензінам, якія падрыхтавалі польскія гімназісты. Так загінуў экіпаж старшага лейтэнанта Яўсеева.

Тым часам узвод Чарнова, практычна нікім не заўважаны, уварваўся на чыгуначны вакзал. Лейтэнант разам з радавым Несцеравым выбег на перон. На рэйках тут і там стаялі тры дзясяткі розных вагонаў без цягнікоў. Чарноў схапіў за каўнер нейкага мужчыну ў форме чыгуначніка, які палахліва выглядваў з-за скрыні з пяском.

— Дзе металічны вагон з Ліды? — раз'юшана пракрычаў лейтэнант.

— А то там, проша пана, — дрыжачым ад страху голасам прамармытаў чыгуначнік і паказаў пальцам на бліжэйшы да будынка вакзала вагон з расчыненымі дзвярыма. Нават адсюль было бачна, што ён пусты.

— Куды павезлі скрыні? — зноў затрос Якаў паляка.

— Не вем, пане. Цэлу ноц грузілі на аўто і павезлі да цэнтра мяста.

Лейтэнант нарэшце адпусціў чалавека і пабег да танка перадаць па рацыі несуцяшальную вестку Багданаву…

…Цягнік «Берлін–Варшава–Ленінград» перасёк польскую мяжу і бадзёра загрукацеў па тэрыторыі Савецкага Саюза. Сярод нешматлікіх пасажыраў у адным з купэ ехаў высокі стары чалавек, апрануты ў строгі чорны касцюм. Ён пільна ўглядаўся праз акенца ў прыгожыя беларускія краявіды, але не заўважаў іх. Перад вачыма пранасіліся іншыя малюнкі.

…Чапурнога і яго хаўруснікаў Раманоўскі расстраляў з аўтамата, як толькі скончылі насіць скрыні з золатам у склеп. Затым зачынілі дзверы і шчыльна пакрылі іх тынкоўкай, зраўняўшы са сцяной. Крыху абкідалі па свежым зямлёй, каб не надта адрознівалася ад іншых частак. Прыдзірліва агледзеўшы зробленае, Валіцкі звярнуўся да калегі.

— Пан Раманоўскі! Я спадзяюся на вашу шляхетнасць і слова афіцэра. Пра схованку ведаем толькі мы. Рэч Паспалітую і нас, палякаў, чакаюць цяжкія выпрабаванні. Але мы вытрываем, і я абяцаю, што знайду пана, калі прыйдзе час адкрыць гэты склеп і пачаць новую гісторыю Польшчы.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі і зніклі ў начным змроку.

І вось ён, Чэслаў Валіцкі, праз столькі гадоў пад’язджае да свайго горада. Колькі ўсяго адбылося за гэтыя чвэрць века! Раманоўскі загінуў у Варшаўскім паўстанні, сам Валіцкі быў і ў падполлі, і ў Арміі Краёвай, і ў англійскай эміграцыі. Але заўсёды верыў, што вернецца ў мілае сэрцу Гродна. І хаця ў кішэні пашпарт грамадзяніна Аб’яднанага Каралеўства, у душы Валіцкі ўсё той жа адданы паляк. А яшчэ схоў. Дзве тоны золата ляжаць у яго асабістым склепе. Хаця ці ляжаць? Валіцкі быў досыць заможным чалавекам, уваходзіў у свой час у савет дырэктараў буйной тытунёвай кампаніі, ды і зараз, адышоўшы ад спраў, меў добры прыбытак ад акцый той жа кампаніі. І без золата было на што жыць. У дадатак ён быў рэалістам, і добра разумеў, што з бальшавіцкай Расіі дзве тоны золата не вывезеш незаўважана. Але паглядзець, дакрануцца да ўласнаручна зробленай тынкоўкі ён можа.

Дзень быў досыць мітуслівы. Раніцай Валіцкага з гасцініцы забралі два прадстаўнікі Інтурыста, правялі экскурсію па горадзе, звазілі на тытунёвую фабрыку, паказалі новыя мікрараёны. І толькі ўвечары адчапіліся (прынамсі, так яму падалося). Валіцкі застаўся адзін. Ён выйшаў з гасцініцы і павольна пайшоў праз цэнтр па вуліцы Дамініканскай (цяпер яна, зразумела, Савецкая) да плошчы Стэфана Баторыя (цяпер, канечне, таксама Савецкай), дзе і стаіць велічная і бессмяротная Фара Вітаўта ў кампаніі сваіх братоў францішканскага і бернардзінскага касцёлаў. На душы было лёгка і хвалююча: і будынкі, і брук, і двары засталіся дакладна такімі ж, як у яго час. Гэта была настальгічная сустрэча з мінулым. А вось і плошча. Зараз па дарожцы налева, да касцёла.

Касцёла на месцы не было. Была роўная плямка скверыка, абсаджаная нейкімі кусцікамі. А касцёла не было. Валіцкі пачаў разгублена азірацца. Не, ён не памыліўся. Месца дакладна тое ж, але без касцёла. Тады ён спыніў нейкага маладога чалавека і, з цяжкасцю ўспамінаючы даўно забытыя словы, на беларуска-польскай трасянцы запытаў:

— Пшэпрашам пана, але тут калісь быў каталіцкі касцёл. Фара Вітаўта. Дзе ён? Вайна?

Чалавек здзіўлена паглядзеў на Валіцкага, але праз імгненне ўсё зразумеў і прыязна ўсміхнуўся:

— Іностранец?

— Так, інастранец, — пагадзіўся Валіцкі.

— Ясна. Не, касцёл вайну пераніжыў. Але ж ён сам па сабе перажытак мінулага. Таму тры гады назад рашэннем гарвыканкама касцёл быў узарваны, а замест яго зрабілі гэты прыгожы скверык. А калі вам трэба памаліцца, дык вось, яшчэ пакуль стаіць францішканскі. Схадзіце.

І чалавек пакрочыў сабе далей.

Валіцкі з цяжкасцю зрабіў два крокі і сеў на лаўку.

«Найстаражытнейшую Фару Вітаўта і дзве тоны золата за прыгожы скверык, — мільганула ў яго галаве.— Божа, за што караеш?..»

## Чорны баль у Гародні

Вайсковы патруль заўважыў жанчыну ў той момант, калі яна перабягала гандлёвы пляц. Тады адзін з салдатаў гучна крыкнуў:

— Стой! Страляць буду!

Жанчына тут жа спынілася, нібы наляцеўшы на якую сцяну, і паволі пачала паварочвацца да патруля. А салдат прыладзіў фузею да пляча, прыцэліўся і...

— Паф!— гук, падобны на стрэл, вылецеў з яго горла. Жанчына ад страху ажно прысела, але ўжо праз імгненне выпрасталася і кінулася з усіх ног прэч. Патрульныя весела зарагаталі і, паштурхоўваючы адзін аднаго, пакрочылі далей па вузкіх вуліцах начнога Гродна…

А жанчына, ужо больш асцярожна тулячыся да сценаў дамоў, неўзабаве апынулася каля брамы езуіцкага касцёла. Яе чакалі, бо дзверы тут жа адчыніліся, і жанчына хуценька праслізнула праз іх.

У невялічкім пакойчыку весела патрэсквалі дровы ў каміне. У крэслах з высокімі драўлянымі спінкамі сядзелі чатыры мужчыны і з цікавасцю разглядалі начную госцю, што прывёў ксёндз Петрушыньскі. Жанчына скінула з галавы капюшон, зняла плашч, і прысутныя пазналі ў ёй Брыгіту Казельскую, жонку нядаўна арыштаванага рускай паліцыяй графа Казельскага. Мужчыны ўсталі, пачціва вітаючы графіню. Прушыньскі прапанаваў даме крэсла і пачаў знаёміць яе з прысутнымі.

— Пан Краснадэмбскі, пан Мінорскі, пан Шыдлоўскі, пан Скажыньскі. А гэта, панове, графіня Казельская.

— Вяльможныя паны! — страсна загаварыла жанчына. — Як вам вядома, рыхтуецца сейм, які можа паставіць кропку на існаванні самой Рэчы Паспалітай. Я атрымала звесткі ад сяброў з Саксоніі. Казімір Сапега паведамляе, што ў Лейпцыгу створаны паўстанцкі камітэт, які гатовы да барацьбы супраць Расіі. Недалёка ад Гародні ў лясах чакаюць нашага сігналу каля трохсот інсургентаў, гатовыя падпаліць знішчальны агонь паўстання. Пазней, упэўнена, да іх далучацца тысячы сапраўдных патрыётаў Польшчы.

— Усё гэта вельмі добра, — заўважыў Мінорскі. — Але ж мы не ведаем пазіцыі караля Рэчы Паспалітай. Пад чые штандары ўстане ён, калі пачнецца гэтая бойка?

— Я ведаю, — гнеўна бліснула вачамі Казельская. — Кароль пойдзе з намі да апошняй мяжы.

— А я б не быў такім упэўненым, — загаварыў Скажыньскі. — Яго даўняя сувязь з Кацярынай якраз і дае падставу сумнявацца ў адданасці Айчызне караля Станіслава.

— Так, — падтрымаў паплечніка Шыдлоўскі, — падставы для сумненняў ёсць, і яны вельмі сур’ёзныя. А па-другое, што будзе з Вялікім Княствам Літоўскім? Ліцвіны падтрымаюць паўстанне, калі атрымаюць гарантыі аднаўлення іх даўнейшых правоў, няхай і ў межах Рэчы Паспалітай.

Казельская ажно ўскочыла з крэсла.

— Зараз няма часу для гандлю. Расія праглыне і палякаў, і ліцвінаў. Трэба дзейнічаць, а не разважаць, што будзе потым. Будзе тое, што наканавана Панам Богам!

— Але, тым не менш, як нам даведацца пра пазіцыю караля? Палац ачэплены салдатамі, — нагадаў Скаржыньскі.

І тут загаварыў ксёндз Петрушыньскі.

— Магчыма, я ў стане дапамагчы яснавяльможным панам сустрэцца з каралём.

Усе здзіўлена паглядзелі на святара.

— Так, — паўтарыў ён, — у стане дапамагчы. Ад касцёла да палацавай бажніцы ёсць ход, па якім я і правяду панства. Кожны дзень а 16-й гадзіне Станіслаў Аўгуст Панятоўскі моліцца ў адзіноце ў гэтай бажніцы. Бог дарує, калі мы парушым ягоны спакой…

Нягледзячы на позні час, у палацы Тызенгаўза свяцілася некалькі вокнаў на другім паверсе. За накрытым сталом сядзелі нядаўна прызначаны пасол Расіі ў Рэчы Паспалітай Якаў Сіверс і пасланнік па надзвычайных пытаннях яе імператарскай вялікасці граф Варанцоў.

— Ваша асноўная задача, — няспешна вёў гутарку граф, — нейтралізаваць большасць актыўнай шляхты. Тут будуць добрымі ўсе метады: хабар, шантаж, гвалтоўная смерць… Імператрыца дае неабмежаваныя паўнамоцтвы.

— А як вырашылася пытанне з фінансаваннем?

— У межах разумнага, але зноў жа ніхто вас не абмяжоўвае канкрэтнымі сумамі. Галоўнае — вынік!

Сіверс задаволена ўсміхнуўся.

— І яшчэ, спадар пасол, — працягваў Варанцоў. — Па інфармацыі адданых Расійскай кароне шляхціцаў каля горада сабраліся атрады паўстанцаў, каб сарваць планаваны сейм.

— Я ведаю, — важна адказаў Сіверс. — У горад сцягнуты дадатковыя ваенныя сілы, вуліцы патрулююць казакі. Мы нават ведаем прозвішчы загаворшчыкаў у самым Гродне.

— Ужо арыштаваны? — пацікавіўся Варанцоў.

— Пакуль не. За імі прыглядаюць. Нам патрэбна іх сувязь з інсургентамі за межамі горада. А на заўтра я прызначыў вялікі баль з нагоды свайго дня нараджэння. Прыйдзе ўся шляхта, бо ніхто не можа пакрыўдзіць пасла Расійскай імперыі адмовай. Паколькі яе вялікасць шчодра фінансуе гэтую аперацыю, свята, мяркую, працягнецца тыдні два. Так мы выб’ем з актыўнай палітыкі большасць дэлегатаў сейма. Ну а што не зробяць віно і грошы, завершаць гарматы…

Ход да каралеўскай бажніцы быў вузкім і досыць нізкім. Але ўсе жвава крочылі за паходняй Петрушыньскага, які добра арыентаваўся ў перапляценнях калідораў. Раптам ксёндз спыніўся і, павярнуўшыся да спадарожнікаў, прыклаў палец да вуснаў. Усе імгненна замёрлі. Недзе ўверсе чуўся глухаваты мужчынскі голас. Петрушыньскі перадаў паходню Шыдлоўскаму і стаў падымацца па драўлянай лесвіцы, што стаяла пры сцяне, якую адразу ніхто не заўважыў. Падняўшыся на верхнюю прыступку, ён

націснуў рукамі нейкую пліту, і яна тут жа ціха адкінулася ўбок. Імгненне — і ксёндз знік з вачэй. А яшчэ праз нейкую хвіліну яго галава паказалася ў праёме люка.

— Вяльможныя паны і пані, кароль чакае вас.

...Станіслаў Аўгуст Панятоўскі сядзеў у невялічкім крэсле, а пяць постацей загаворшчыкаў стаялі вакол яго. На працягу амаль паўгадзіны яны намагаліся перакanаць караля ўзначаліць барацьбу супраць Расійскай кароны. І калі б Панятоўскі даў сваю згоду, інсургенты тут жа вывелі б падземным ходам караля з Новага замка, даставілі ў Варшаву, дзе б пад каралеўскія штандары сабраліся ўсе патрыёты Польшчы, Літвы, Маларосіі. І яшчэ невядома, хто стане пераможцам у гэтай вайне. Але кароль маўчаў. І толькі калі ўсе довады прысутных былі прыведзены, кароль устаў і, не гледзячы нікому ў вочы, вымавіў:

— Я аддаюся ў рукі Пана Бога! Няхай ён вырашыць наш лёс.

А Гародню нібы апантаў нейкі д’ябал. Паўсюль іграла музыка, правіліся балі, ракой цякло віно, на картачных сталах узвышаліся горы злотых. Увесь час прыбывалі ў горад артысты, музыканты, розныя авантурысты. Гародня літаральна трашчала ад няпрошаных гасцей.

У ноч на 23 лістапада казакамі былі арыштаваны і вывезены з Гродна ў невядомым накірунку паны Краснадэмбскі, Мінорскі, Шыдлоўскі, Скажыньскі. А раніцай апухлых ад бясконцых святаў, запаволеных у думках і рухах дэлегатаў сейма настойліва запрасілі сабрацца ў Сенатарскай зале каралеўскага палаца. Прыгожы, толькі што адрамантаваны двухпавярховы будынак у выглядзе літары П гэтым разам не быў такім гасцінным для дэлегатаў, як раней. Новы замак шчыльна акружылі дзве роты грэнадзёраў з чатырма гарматамі. Яшчэ адна рота ўтварала жывы калідор ад брамы да самога палаца. Па калідорах палаца перамяшчалася ўзмоцненая ахова.

У соймавай зале генерал Раўтэнфельд з групай афіцэраў назіраў за парадкам. Дэлегаты з жахам глядзелі на такую дэманстрацыю сілы, займаючы свае месцы ў зале. Увайшоў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі і моўчкі сеў у троннае крэсла. І тут жа наперад выступіў генерал Раўтэнфельд.

— Шаноўныя паны дэлегаты! Сёння апошні дзень сейма. Ужо заўтра вы сустрэнецеся са сваімі сем’ямі, сябрамі, будзеце спаць у сваіх ложках. Але гэта адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі зараз падпішаце трактат з Расіяй. У іншым выпадку ніхто адсюль не выйдзе!

— Якое вы маеце права нам пагражаць? — не вытрымаў малады дэлегат Урачэўскі.

— Маю такое права, — усміхнуўся генерал, — бо за мной стаіць армія расійскай імператрыцы.

Дэлегаты абурана загулі. На сярэдзіну залы выйшаў Сіверс.

— Панове, — лагодна загаварыў ён. — Баль працягваецца. Слугі рыхтуюць стол, музыкі настройваюць інструменты. Ці варта нам сварыцца праз нейкі трактат, ад якога вам ні холадна ні горача? Скончым хутчэй гэтую непрыемную справу — і за сталы!

Паслы замаўчалі, уперыўшы вочы ў падлогу. Кароль бездапаможна адкінуўся на спінку крэсла і заплюшчыў вочы. Тады ўстаў кракаўскі пасол Іосіф Анквіц і з усмешкай на вуснах абвясціў:

— Я так мяркую, што ўсеагульнае маўчанне азначае поўную згоду. Так і паведамце, калі ласка, расійскай імператрыцы. А нам, шаноўнае панства, самы час прыняць запрашэнне дарагога пана Сіверса. Да столу, панове, да столу…

І зноў загула, закруцілася ў вар'яцкім танцы Рэч Паспалітая!

*P. S.* Паводле рашэнняў «маўклівага» сейма:

1. Расійская імперыя зноў станавілася пратэктарам Рэчы Паспалітай.
2. Ліквідавалася Канстытуцыя 3 мая, аднаўлялася Пастаянная Рада і кардынальныя правы.
3. Замацоўваліся правы мяшчан
4. Ліквідавалася Таргавіцкая канфедэрацыя.
5. Замацоўваўся другі падзел Рэчы Паспалітай.






нарадзіўся ў Гродне. Закончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. З 1992 года працуе старшым выкладчыкам беларускай мовы ў Гродзенскім медыцынскім універсітэце. Прафесійна займаецца пытаннямі беларускамоўнай медыцынскай тэрміналогіі, выдаў шэраг дапаможнікаў па курсе «Беларуская мова. Прафесійная лексіка». Апошнія выданні: «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў» (2013), «Дыялектны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў Беларусі» (2016). Піша вершы і прозу. Выдаў зборнік вершаў «Рамізнік». «Таямніца Фары Вітаўта» заняла ў 2016 годзе першае месца ў конкурсе газеты «Звязда» на лепшае апавяданне. Атрымаў ганаровае званне «Чалавек года Гродзеншчыны» (2012). Кіруе літаратурным клубам «Катарсіс». Выдаў тры калектыўныя зборнікі паэзіі і прозы студэнтаў і супрацоўнікаў ГрДМУ, з'яўляецца аўтарам гімна ўніверсітэта.



# Паэзія панямоння

## Святлана Абдулаева

### Вясновая раніца

Вясновая раніца
Плыве над далінаю,
Дзе клён ціха раіцца
Аб нечым з калінаю.
А неба бязмежнае
У месяцы-квецені
Каліну заснежыла,
Як снегам, суквеццямі.
І бусел над ліпаю
Сваім звонкім клёкатам
Нібы ў хату клікае
Каліну далёкую.

### Начное шоу

Спаў горад начны даўно —
Машыны ўсе і двары…
І як у нямым кіно —
Самотныя ліхтары.
І ўсё шліфавала ноч
Танюткае шкло вітрын.
І падаў бясконца дождж
На згублены мандарын.
Як сведка начнога шоу,
Што чуў мандарына смак —
Апошнім ў пад’езд зайшоў
У поўнач якраз мінак…

## Белы голуб

У нябеснай сінечы
Белы голуб лунае…
І мяне вабіць нечым
Воля-вольная тая.
З гэтай птушкай на роўных
Я лятаю без крылаў —
І ў снах каляровых
Шлюць анёлы мне сілаў.
У нябеснай сінечы
Белы голуб лунае —
Повязь цесная з вечным —
Траекторыя тая…

## Ах, цыганскае жыццё

Ах, цыганскае жыццё —
Вечная дарога
Ад калыскі і да дзён
У прытулак Бога.
І каб сум, як насланнё,
Не ахутваў хмарай,
Праз усё-усё жыццё
З табарам — гітара.
Ах, цыганскае жыццё —
Нібы вецер, коні…
Ды каханне, як касцёр
Яркі на сутонні.
Ах, цыганскае жыццё —
Луг квяцісты, поле…
А мілей, мілей за ўсё
Толькі шлях і воля!



Снегапад… снегапад… снегапад —
Белы колер, куды ні глянь вокам…
І ліхтар адзінокі здалёку —
Як на варце застылы салдат.
І цярушыць мярэжкай сняжок —
Абсыпае вішняк каля хаты,
Што абпёрся на плот зухавата,

Адступіўшы ад сцежкі на крок.
Снегапад… снегапад… снегапад… —
Між мінулым і будучым — дзверы.
А сляды, як па белай паперы,
Погляд мой павялі ў далягляд.



Лістапад замятае мінулыя дні…
Пад лістотаю жоўтай — сцяжынкі.
А рабіны на ўзлеску гараць, як агні…
А над полем плывуць павуцінкі.
Небакрай патанае ў асенняй смузе
Пад расчулены крык жураўліны…
Дзе ж гады маладыя цяпер мае ўсе?
Мо яны… прараслі ў журавіны?



Бяжыць дарога стужкаю
Пад шаты небасхілу…
І я ляцела б птушкаю,
Каб толькі мела крылы.

І над жытнёвым полем
У вышыні кружыла б,
І будучы на волі
Аб лёсе не тужыла б…

Бяжыць дарога стужкаю
Якраз да небакраю…
Ляціць машына птушкаю,
А я… не паспяваю.

## Ты — не кароль

Ляцяць дамоў зноў журавы…
І ў марах я — на крылы.
Цяпло з праталінаў травы
Мяне сагрэла, мілы…
А ты… а ты… Ты — не кароль
І не арол у небе.

Прыход вясны мой сцішыў боль,
І лекар не патрэбен…
І пахне свежасцю вярба
У цноце, як святая…
І ў сэрцы даўняя журба
Ільдзінкай ціха тае…
А ты… а ты… Ты — не кароль
І не арол у небе.
Прыход вясны мой сцішыў боль,
І лекар не патрэбен…
Я птушка вольная ў душы —
Як золата мне — воля!
І снег сваё адцерушыў —
Пяе жаўрук над полем.
А ты… а ты… Ты — не кароль
І не арол у небе.
Прыход вясны мой сцішыў боль,
І лекар не патрэбен…



Ізноў балалайка кранула мне душу…
І думкі спляліся ў адзін карагод.
Гляжу ў задуменні на белую ружу,
А ў марах — чакаю цябе ля варот.

На вуліцы дзесьці спявае салоўка,
Да весніц падплыў фіялетавы змрок…
А мне падалося — запахла чаромха…
І ты прыпыніў побач сцішаны крок.



На вуліцы снегапад
Усю ахінуў прастору…
А памяць вядзе назад
Праз шэраг гадоў — да мора:
Дзе чаіцы крык павіс,
Аздобіўшы гладзь марскую,
І лёгкі салёны брыз
З табою мяне цалуе…
На вуліцы — снегапад…
А ў сэрцы маім — зноў лета…

Хоць, можа, і неўпапад —
Сняжынкі — пялёсткі з кветак.



Пакрыта снегам белым
каля ракі даліна…
І ў полі песні распявае вецер…
Нібы у час растання
самотная дзяўчына,
Рабіна сустракае ціхі вечар.
Запальвае на небе
анёл начныя зоркі —
З іх кожная, бяспрэчна, —
таямніца.
І з вышыні гадоў гляжу я,
як з пагорка —
Былі ў жыцці маім Парыж, Ерусалім
і ў марах — Ніцца.






нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Ашмянцы Шчучынскага раёна. Закончыла Гродзенскае музычнае вучылішча, працуе ў Навагрудскай дзіцячай школе мастацтваў. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар зборнікаў вершаў «Музыка дажджу» і «Тайна времени».

## РЫЧАРД БЯЛЯЧЫЦ

### Лілея

Па лужах ліпень шлёпаў,
Туліўся па трысці.
І быў штогодні клопат
У ліліі цвісці.
Закалыхала хваля,
Спрадвечная яшчэ.
Там словаў не хапала
І здзіўленых вачэй.
Тады зара змялее,
Паблякнуць чараты…
Купалаўскай лілеяй
Прыйшла на бераг ты.
Быў бераг незаняты
Адзін у тым жыцці.
Так занялося свята
Ў глушы расці,
Цвісці.

### Пад аркаю

Пад аркаю ход дужа вузкі
І далікатны,
Як вечар.
У воблачку белае блузкі
Ішла непасрэднасць настрэчу.
Ішла, паглядзець баючыся
На свет сарамлівы і строгі.
Ці, можа, каб я з добрых чыслаў
Не збіўся
І з вернай дарогі.
І сонцу прад росстанню дрэнна,
І марыць пра песню гасцёўня.
Жыве дзе мая непасрэднасць
Як дождж,
Як завея,
Як цёмна?
Прыгожая тым на світанні:
Не мной заклапочана —

Нечым.
І толькі ісці не прыстане
Мая непасрэднасць настрэчу.

## Шапталіся сонца і гнёзды...

Яснелі над Нёманам далі,
Мароз на павейках слабеў.
Адзін з аднаго пачыналі
Мы гэту вясну для сябе.
Азваліся гусі памалу,
Пакрочыў прыснежаны хтосьць.
Ты першая ціха сказала,
Што я ў гэтай раніцы
Ёсць.
Прамовіла пад зарапады,
Як сходзілі скрозь паплавы,
Адным асцярожным паглядам —
Ідзі мне насустрач, плыві.
Наклікаць твой гнеў не баюся,
Узносячы сум і красу.
На крыллях высокія гусі
Найноўшыя згадкі нясуць.
Маўчанне маё даравала,
Што зранку заўжды неўпапад.
Каб ведала, як гэта мала
І як прад дарогаю шмат.
Не будзе ні рана, ні позна
Сваю паўтарыць маладосць.
Шапталіся сонца і гнёзды,
Што ты ў гэтай раніцы
Ёсць.

## Усмешка-раніца

Усё за дзіўнаю мяжой:
У затачэнні і на волі.
І мы з табою больш ужо
Не павітаемся ніколі.
І не даруе нам зямля,
Хоць пройдзе дзён-начэй нямала,
Што ўсмешка-раніца твая

Між нас заложніцаю стала.
Яна пакутніцай жыве.
Але не стацца ёй святою,
Калі я ў памяці яе
Зноў гладжу цёплаю рукою.



Зноў стане мне сумна і горка,
Як ведаць не буду таго,
Куды пакацілася зорка
Паціху-паціху ад створкі
Акна векавога майго.
Яе беласнежнае пёрка —
Сафійкай на мудрай Дзвіне.
Раскажаш ты мне за пагоркам,
Куды пакацілася зорка,
Каб ведаць дарогу і мне.

## Мая павуцінка

Горад звінеў
І пранізліва цінькаў.
Вёска забылася сном.
Людзі таксама сваю павуцінку
Складна снуюць дзень за днём.
Тонкая, лёгкая
З поля і вуліц —
За небакрай напрасцяк.
Дбайны мурашнік,
Разгневаны вулей.
Ціха і мірна аднак.
Ёсць павуцінка з нясмелых паглядаў,
З добрай надзеі, са слоў.
Ты павуцінцы світальнае рада,
Позвою я рассакрэціць гатоў.
Хто ты
І што ты, мая павуцінка?
Блісні, шапні і парай:
Ці незабыўная ў лузе дзяўчынка,
Ці прад марозам — зара?

## На Свіцязі

Не кленчачы дуб
І не молячы
Па гэтай жыве старане.
Вады не відацца апоўначы,
А хтось абдымае мяне.
Легенда жывая, ласкавая,
Як добрая памяць мая,
Пяшчотаю дзеліцца, славаю,
Усім, чым багата зямля.
Праз церні стагоддзяў як доўга мы
Па краі абрыву бадай
Ішлі на спадзевы Міндоўгавы,
Каб ззялі і край, і вада.
Легенда сівая.
Ля прыстані,
Нібы свіцязянскае, дно.
Там воды на тое і чыстыя,
Каб кожнаму стала відно,
Як высь па-над Свіцяззю бліскае,
А ў поглядзе водбліск-агонь.
І чайкі крычаць прыбалтыйскія,
Вяртаючы ў пойму
Пагонь.

## Ліпічанская пушча

*Валянціну Дубатоўку*

Над Ліпічанскай пушчай мне
Збіралі ў памяць
Праўду гусі.
Ты быццам быў на той вайне
І незаўважна стуль вярнуўся.
Сцяжыны ведаеш праз лес,
Што да людзей вядуць напроста.
І сам нібыта там увесь
З развагі, выстралаў і помсты.
Гарэлі хаты… і аб чым
Крычалі немаўляты ў клеці…
А ты не змог дапамагчы,
Бо не было цябе на свеце.

Дубы спыніліся падрад
Скалечанымі
Ды жывымі.
А ты як быццам бы не рад,
Што не было цябе між імі.
Па белым чорным напішы
І промнем, росамі з-пад ранку,
Як нараджаліся ў цішы
Святыя гукі Ліпічанкі.

## Каля Алаізы Пашкевіч

Каля Алаізы Пашкевіч
Вядомыя людзі ізноў.
І толькі набралася безліч
Чужых паміж імі гадоў.
Ні словаў, ні слодычных даляў,
Што ўсе выпівалі да дна.
Маўчыць Алаіза,
Жадала
Не гэткае стрэчы яна.
Плыў Нёман да самай Лябёдкі,
Прыходзіла ўвесну пара —
Вучыла цукеркаю Цётка
Дзяцей са Старога Двара.
Каля Алаізы Пашкевіч
З-пад Грунвальда людзі ізноў.
І тут недаказаных безліч
Айчынай завешчаных слоў.

## Пад Навагрудкам

Дзе яшчэ ўбачыш такое
Па навакольнай прыродзе:
Цела зусім маладое
Светла ў крыніцу ўваходзіць.
Стомленасць даўнюю зліжа,
Змые трывожныя хвілі.
Тут, пад Навагрудскім крыжам,
Воды крыніцы застылі.
Перажагнайся
І тройчы

Выпрасі міласці Божай.
Стануць відушчымі вочы,
Вырастуць гукі вяльможна.
Проста купеллю завецца
З веку будыніна тая.
А з-пад гары
Яе сэрца,
Як у грудзях,
Вырастае.
Міма спяшае крыніца
Цераз спякоту, зазімак.
Пэўна, у чыстую Свіцязь,
Дзе і спакой,
І радзіма.






нарадзіўся ў в. Стаўбуры Астравецкага раёна. Настаўнічаў, дырэктарстваваў. Цяпер жыве ў г. Шчучыне, працуе рэдактарам літаратурна-стылістычным у рэдакцыі газеты «Дзянніца». Аўтар паэтычных кніг «Прасветлінка», «Міг выратавання», «Вочы малітвы», «Святлом і ценем», «Помню, што жыву», «Споведзь накцюрна», «Вяртанне пчалы», тапанімічнага аповеду «Котранскі нераст».

УЛАДЗІМІР ВАСЬКО

## У споведзь

Куды ідзём?
Што ўбачым на шляху?
Што нас чакае —
слава ці пагібель?
Спалілі саламяную страху
і шыфер хутка
ў балота кінем.
Метал выходзіць
на пярэдні план.
І перад ім усё
ўжо адступае.
Не птушак,
самалётаў караван
у цёплы край
у вырай адлятае.
У сонцапёк
і ў цёмны дзень слаты
ўганяем дым у неба,
як зубіла, —
і абалонка вуглекіслаты
парнік ужо для
ўсёй Зямлі зрабіла.
Яе наўсцяж абставілі і так
магутныя крылатыя ракеты.
А у кіёсках, крамах і ларках
стаіліся ў абоймах цыгарэты.
Па смерць у шчыльнай
і нямой чарзе
застылі міны, бомбы і патроны —
і чалавецтва на адной назе
не уцячэ пад пальмавыя кроны.
Куды ідзём?
Што ўбачым на шляху?
Што нас чакае —
слава ці пагібель?
Наеліся па горла ўсе граху.
Калі ж у споведзь
да Хрыста пахілім?

## Супярэчлівасць

Як улагодзіць звера ў чалавеку?
Як улагодзіць навальнічны гром?
Хто возьме сёння над Зямлёй апеку?
Яна ж для нас пакуль адзіны дом.
Ці нельга абысціся без забойстваў?
Ці так ужо заведзена здаўна?
І хвалямі спяшаюцца наўпроста
ў чужыя землі варвар і вандал.
Ці рады мы за дабрабыт суседа?
Альбо няхай згарыць яго дабро?
Ці аддамо сабаку паўабеда?
Альбо ад аб’ядання лепш памром?
Бываем мы — хоць да душы прыкладвай.
І злосць па гарцу можам раздаваць.
Умеем стукнуць хораша прыкладам,
пасля сумеем лоб забінтаваць.
Ты супярэчлівы, і ён, і я — таксама.
У кім знайсці узор ці ідэал?
Калі хто і ўзвядзе духоўны замак,
яго разбураць бомба ці напалм.
Не пудрай засыпаем свет, а сажай.
Каго за гэта трэба дакараць?
Не вер, хто шчыра і з усмешкай скажа,
што заўтра ўжо не будзем ваяваць.

## Спадзяванне

Няўтульна стала
сёння на Зямлі,
і ў космас перабрацца
не сумелі.
Ляцяць, ляцяць
стальныя караблі,
ды прыпыняюцца
на МКС — на мелі.
Жытла пакуль што
не змаглі знайсці,
як Розуму вышэйшага,
другога,
каб на Венеры
дзетак ахрысціць

і зноў вярнуцца
да свайго парога.
Далей сягаюць думкі,
чым метал.
Не ўсе ажыццявіць іх
удаецца...
І Марксава ракета
«Капітал»
пры ўзлёце на шматкі
парою рвецца.
Ды ў нас ў запасе
трыліёны год,
І знойдуцца разумныя нашчадкі,
якія і адправяцца ў палёт
вышэй, чым
сёння нашы касманаўты.

## На лыжах

Шырокі прасцяг
задубелага поля.
Вясёлая песня
прыгнутых сцяблін.
Пранізлівы вецер,
здаецца, праколе
чысцюткія пацеркі
цёплых слязін.
Бялюткую коўдру
у цёмных заплатках
знямелых пратлін
ні ў чым не віню.
Вушанка у снезе,
у снезе марнатка.
Гэй, курапаткі,
я вас даганю!
Гарэзны, узнёслы,
на лыжах імчуся,
ахоплены юнай
рамантыкай я.
Адважны, да неба
рукой дакрануся,
душа нарасхрыст
маладая мая.

Люблю я азартных
завеяў прабежкі,
аблокаў імклівую
плынь і зямлю,
прыроднай стыхіі
сардэчныя ўсмешкі
і ўсё, што хвалюе,
бязмежна люблю!

## Я і свет

Хто я такі? — сам у сябе пытаю.
Хоць на Зямлі жыву,
а ў космасе вітаю.
Мне падабаюцца і зоркі, і свяціла.
Любіць Радзіму мама навучыла.
Свет навакольны стукае мне ў скроні.
Пегасы — мае птушкі, мае коні.
Хто я такі?
Вось рукі, вочы, ногі.
Пралеглі па зямлі мае дарогі.
Не ўсе я іх прайшоў, не ўсе убачыў.
Дзяліліся удачы на няўдачы.
То падаў, то ўставаў
і за жыццё чапляўся.
Карысным для людзей
заўсёды быць стараўся.
І ўсё ж сябе не ведаю нікольki.
Мяне праткнулі космаса іголкі.
Я золакам сцякаю на планету,
хачу ўхапіць адсюль за хвост камету.
Хто я? Дзе я?
Якая ў сэрцы вера?
Не перадасць вам гэтага папера.
Люблю сяброў, дзяўчат і летуценні.
Вось мае вусны, вось мае калені.
Перад начальствам я на іх не кленчыў.
Аб дапамозе роспачна не енчыў.
І ўсё ж сябе не разумею часам.
Касмічным зачараваны Парнасам,
цягну цяжкую лямку па Зямлі,
каб зоркі ўбачыць мой імпэт маглі.

## Дзе вехі

Жыццё мяне футболіць,
нібы мяч,
нагамі б’е,
як вогір капытамі.
І тут хоць смейся,
хоць паціху плач —
нічога не мяняецца з гадамі.
Ад тэлебачання баляць мазгі,
і блытаніна нейкая
ў прыродзе,
і за гарляк сціскаюць абцугі
магнітных бураў
пры любой пагодзе.
Хваробы падступаюць да людзей,
ніхто ўжо шчыра,
здатна не смяецца.
Дзяўчаты кураць.
Хлопцы без надзей
на лепшае у будучым,
здаецца.
Дзе вехаў паласатыя слупы?
Паэты дзе
такія, як Ясенін?
Так і жыву,
нібыта той сляпы,
што ўвесь свой век
шукаў іголку ў сене.

## Думы

Што ў космасе?
Напэўна, гук пусты...
Ці ёсць там хоць адна
душа жывая?
Ці толькі астэроідаў хвасты
ды зорак яркіх
незлічоных зграя?
Але хвалюе чалавека ён,
і хочацца адкрыць там таямніцы.
Эх, каб знайшоўся б
выведак-шпіён,

прывёз адтуль знаёмы смак
вадзіцы.
...А можа, мы прыйшлі
адтуль даўно?
І толькі памяць стала
ўжо слабая.
Яе адбілі кіслае віно,
туманных дзён трывога немалая.
Каго ж не маніць
той далёкі свет,
загадкавы і прыцягальна мілы?!
І ты, зямны узрушаны паэт,
пішы аб ім, наколькі хопіць сілы.

## Сон

Даўным-даўно пра Марс мы марылі,
і вось ўжо на ім стаім.
Нам неба хмары не захмарылі,
тут не да нас, напэўна, ім.
Мясцовасць не зусім адметная:
Дарог, сцяжынак — анідзе.
Зямля тугая, бы каменная,
ніхто насупраць не ідзе.
А нам дваім бязмежна рупіцца
прыдбаць больш радасны пейзаж:
а вось дзе возера накруціцца,
ці ўбачым лес такі, як наш.
Шлі, шлі (задумка недарэмная),
і раптам ўскалыхнула нас:
стаіць гара залата-медная
і ўся блішчыць, нібы алмаз.
Ды на яе не ускарабкацца:
крутая страшна, бы сцяна.
І як магло такое здарыцца —
як жа узнікла тут яна?
А на вяршыню сеў задзірысты
арол, вялізны, нібы конь.
І крылы велічныя выпрастаў,
і затаіў ў вачах агонь.
І як такім ён только вымахаў?!
Ды бачым — валіцца уніз.

І мы прачнуліся ад выбуху —
каля акна упаў карніз.

## «Пракорі» ў забягалаўках

Што суджана Зямлі?
Што суджана Жыццю?
Что чалавецтву суджана?
Хто скажа? Я хачу пачуць.
Ніхто не скажа —
ні прарок, ні пудзіла.
Дзе край сусвету?
Краю не знайсці.
І ўсё ж ва ўсім
гармонія вялікая.
І нам з табой
так радасна ісці,
і зоркам вельмі
хораша цвісці,
і чалавецтва, як сям'я
шматлікая.
Але жыццё няроўнае, як лес.
Хапае ў ім усякай какафоніі.
Бывае дзе прагрэс, а дзе рэгрэс,
і выпіраюць скулы дысгармоніі.
Направа глянь, налева паглядзі:
«пракорі» квасяць
думкі ў забягалаўках.
Ты позірк свой ад іх
лепш адвядзі,
ідзем туды, дзе месяц
свеціць яблыкам.
Дні прабягаюць шпарка і вякі.
А мы кідаемся
снарадамі і бомбамі.
Мысленне наша —
спрэс чарнавікі,
і душы падаюцца катакомбамі.
Не пра цябе кажу я так,
не пра сябе,
а пра палітыкаў,
баевікоў — увогуле.
Магчыма, да людзей,

паніклых ў журбе,
размовы нашай дойдзе водгулле.
Чаго чакаць?
Хто нас уразуміць?
Няўжо і будзем так
то біцца, то валтузіцца?
А дзесьці, мабыць,
лепшы свет звініць
і ні адной карчмы
на светлых вуліцах.

## Лідскія паэты ў космасе

На невядомую планету
у невядомы час
закінуў лёс зямных паэтаў —
ну, прама на Парнас.
А там натхнення, як паветра!
Само у рот цячэ.
І не было, на шчасце, ветру,
што мог бы здзьмуць іх прэч.
І так на творчасць пацягнула
і ўздыбіла душу!
Бурак Алеся аж ўздыхнула:
— Паэму напішу! —
— Але на чым? — заўважыў Суднік. —
Паперы ж тут няма...
Гушчынскі рэзка слова ўсунуў:
— Мне кум дасць ці кума! —
— А дзе твой кум? — падскочыў Мельнік. —
— Яны ж вунь на Зямлі.
Ды што ты тут пра іх нам мелеш?! —
— Мялі, мялі, мялі! —
ўсё ж нехта падтрымаў паэта, —
табе заплацім мы за гэта. —
І стала весялей.
А на двары стаяла лета,
Пах «Сонечны» алей.
— Мы пра Сямёнаву забылі...
Мо ў вас папера ёсць?
— Перавяла я ўсю на былі,
паслала ў «Маладосць».
Тут Рэлікоўская сказала:

— Не кінем таленты ў бядзе.
Я, помню, некалі пісала
санеты кіем па вадзе…
Пакуль спрачаліся, шумелі
і смажылі траску,
два Мацулевічы прыселі
і пішуць на пяску:
«Мы паляцелі ў космас рана,
як на траве расла раса,
каб адарвацца ад туману,
які Зямлю апаясаў…»
Тут ветрык ласкава падыхаў
і скінуў стому з рук.
Бараздзіна сказала ціха:
— Я чаю завару.
Замітусіўся шпарка Дронаў:
— Навошта гэты чай?
Я захапіў гарэлкі мора.
Ты, Іра, выбачай.
Пакуль Хітрун нарэзваў сала,
лупіў Стадуб яйко,
верш на хусцінцы напісала
паэтка І. Сліўко.
— А дзе Васько? — схапіўся Міша
і выцер з рук алей.
— А ён пра космас нешта піша
алоўкам на скале.
Там мы жылі, пілі і елі,
вадзілі карагод.
Там па-сяброўску і сустрэлі
касмічны Новы год.



нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Настаўнічаў, працаваў у рэдакцыях раённых газет. Аўтар паэтычных кніг «Прасветленасць», «На схілах берагоў», «Кругаварот жыцця». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Лідзе.



ЮРКА ГОЛУБ

## Рэчаіснасць

Выклікаем тое, што было.
Наша сёння ціхама знікае.
Сцежку ўдалеч заглушыў быльнёг?
Дзверы гэтак глушацца замкамі.

На палянах,
планах
і палях
Не стрымаць нашэсця на прыроду.
З двух канцоў дзядзінец запалаў,
А ў труне перавярнуўся продак.

Спічам «Толькі б не было вайны…»
Цешацца цяпер, як анекдотам.
Падаюць цяпер на дываны…
Як вядома, падалі на дзоты…

Ды ўздымаюць воклічы штандар
Над аркестрам у блішчастай медзі.
І трымае войска жорсткі ўдар,
І равуць гарматныя мядзведзі.

Наўздагон вятругам эшалон
Мчыць з рыштункам збройным у пагоню.
Ратнікам раструшчваюць шалом.
А карцеч у шмоцце рве пагоны.

Боязі адтулінай — акоп.
І «Наперад!» — покліч для харобрых.
З-пад пазногцяў кроў не кожны скроб
І зубамі не пастукваў дробна.

Шалясціць нябесны акіян.
Шле пілотам выведку каморнік.
І генсек, і прэзідэнт, і хан
Ляскаюць аднолькава затворам.

Ды на яве і на тле былін
Паўстае з крынічным лёсам краска.
Мы з табою побач з ёй былі
І казалі: «Краска, калі ласка!»

## Любасць

Наблізіцца роздуму вечар,
Дзе спёкі знямогся палын.
А сонца чырвонае вечка
Зачыніць рабрыстую плынь.

Загаснуць ізноў далягляды.
Трывожыцца сцежка і зрок.
Вандроўнік на шлях да калядаў
Трымае нярушны зарок.

Бянтэжыцца змроку лістота.
У схованку мосціцца брэх.
Ды хаце зусім не істотна,
Ці звольніўся дождж ля дзвярэй.

Збыліся праклёны заганна!
Ды не! Іх не цяжка парваць.
Згадае салоўка за гаем:
Пра любасць падумаць пара.

І ночы зыходзіць траціна.
Дзяўчына. Зацішна. Юнак.
Ліхое, крый Божа, часіны
Чакаць не даводзіцца. Так!

## Водгук

Збылася нядзелі надзея:
Нягодам пазначаны скон.
І мае надзею на дзею
Вунь клічны, у воклічах, склон.

Стаяць, нібы свечкі, аблокі:
Здалёку брылі басанож.
Аперлася думка на локаць,
Для злыдня апірышча — нож.

Збягаюцца слова і водгук.
Разбегліся сцежкі. Трымай!
Прымерваюць жытку на вока
Не толькі раддом і турма.

Раскручваць дарогі ручайку
Нястомнаму моцы стае.

Заходзіць Багач заручацца —
З прысмакамі мёд на стале.

Наводдаль, крый Бог, не спазніцца,
Спяшаецца восень на баль.
У багру фарбуе спадніцу:
Адсюль і прыгоды цымбал.

Знікае смугі засцярога.
Трава ўваскрашае расу.
Узімку зубрыныя рогі
Стажок тут, як грушу, трасуць.

## Ілюзія

Ад сябе — не дзіва — адчаліць.
Дарагому шапнуць: бывай…
Ці не рана слупкі адчаю
На адхоне сабой збіваць?

Ды пракрустава ложа лёсу
Не заменіш на лепшы спрат.
І балюча: не давялося
Лёсу ўласнаму паспрыяць.

Як слану аднае шраціны
Не стае, каб азначыць боль,
Так і мы сябе ў рог скруцілі:
Пагадзіліся ўраз на збой?

З недарэкам шальмец пры стрэчы
Не рукаецца: ён — магнат!
Поціск, бачыце, недарэчны
Адхіляецца як мага.

Ды раменіку долю жывяць
Справа,
вытрымка,
далячынь.
Каб не сталі радкі чужымі,
Ёсць спадзевы на іхні чын.

## Памылкі

Засяродзім позірк на памылках.
Маладыя бавяцца на іх.
Дзе памылкі — сыплюцца апілкі,
Лыпае напоніцу наіў.

Сеецца пясок. Брыдзе гадзіннік.
Каб наперад бегма пёрся час,
Шлях яму назад загарадзілі
І загад,
І певень,
І лампас.

Запацела шыбіна дарогі.
Хуткасць павялічыла адхон.
Засталося ў цемры за парогам
Тое, што адрэзаў рубікон.

Загуменне расцягнуў гармонік
Бубен патуляўся па тылах.
Дый такое з’едліва прыпомнім:
Палявалі кодлай на стыляг.

Вінаватых сёння не шукайма.
Марны лёс. Разбэшчаны фінал.
З рэвальверам спаў Паўлюк Шукайла,
Ад свінца, казалі, і сканаў.

Дзе падзячна ловяць аплявуху
І збірае тару чорны дзень,
Паскрабі, балесны, па-за вухам,
Пашукай мякіну ў барадзе.

На чужых памылках навучайся,
А свае ў заначку запакуй.
Прывітанне, мой шаноўны часе!
На памылках мучацца.
Пакуль!

## Нанач

Зыначыў вечар кроны дрэў,
І крэкчуць дрэвы па-над ставам.
А значыць тое: справа дрэнь,
Калі заклініла суставы.

І Млечны Шлях наперавес
Трымае раўнавагу Шаляў.
А маладзік на комін злез,
Каб дым закручваць, нібы шалік.

Вятры з пячораў за бугром
Запрэгла цемра ў каляснiцу.
І гром упрочкі — ды бягом,
Хаця і ломіць паясніцу.

Пад дахам птушчына гняздо
Палётаў атуліла мроя.
Завецца зорка не звяздой —
Нявестай неба — не героя.

Уперамежку зверху ноч
Раптоўна знічкі працінаюць.
І дрэмле драч. Палае корч.
Ды вар’яцее дзесь цунамі.

## Калыскі

У калысцы жытняй — васілёк.
Маладзік для зоркі — за калыску.
Назіраю неба… аддалёк.
Жытам абнадзейваюся… Зблізку.

Хмараў рэштку выскублі вятры.
Промні залагодзілі калоссе.
Зорка разбіваецца. Экстрым.
Васілёк падаўся на калёсы.

## Калейдаскоп сакавіка

Вунь крыг раструшчаны абоз
Занесла нанач у затоку.
Ён быў разгублены, нябойсь,
Крутым урокам, як зарокам.

На перамычцы двух азёр
Трыснёг прылёг на рыхлым лёдзе.
А сакавік, як рэвізор,
Шукаў разору ў агародзе.

Знікаў на досвітку туман:
Напэўна, мае недзе спраты,
Дзе на расхрыстаных тамах
Заснуў анапеста аматар.

У лесапарку хроп гатэль.
Цвікі гваздаў у дошку дзяцел:
Старэча выкінуў фартэль —
У прымакі вясне падацца.

Пралесак сват і дырыжор,
Рыхтуе іх канцэрт алешнік.
А тыя лезуць на ражон —
Сусвет сінечаю палепшыць.

Зляцела сонца з-пад дугі.
Вазак абнашчыўся бакштанкай.
Расперла рэчка берагі,
А вір закручвае ў бляшанку.

## Вандроўка ў колішняе лета

Рака пад срэбрам стракацела.
Стракозаў безліч. Сховы рыб.
Стракоз трымала ў чорным целе —
Раса на ранні — рып ды рып.

Затока песціла лілеі.
Асверы нагадаў чарот.
Яны і ўзімку тут калелі,
Цяпер і ў спёкі свой чарод.

З балота сок смактаў альшыннік.
На восях дзёгаць закіпаў.
Здабычу кіпцямі за шыю
Хапала сквапная скапа.

Нахабны гром за даляглядам
Замах на вуды рыхтаваў.
На санцапёку спалі гады,
А бусел дзетак гадаваў.

У засень мкнулася спякота:
Драмала там з касцом каса.
А вербалозу рэчкі Котры
Рукаў тубылец закасаў.

...Замкнуўся конік. Дзед на печы.
Стаміўся стог на паплавах.
А самалёцік — голас пеўчы —
То адплываў... То падплываў...

## Лёс зімы

А снег вяршалін не сагнуў:
Камлі ім моцы надавалі.
Хоць лесу рыжага агню
Ліса з хваста не шкадавала.

Збірала гурбы пра запас
Зіма ў палях, нібы ў засеках.
Запас бяды не чыніць. Час
Надыдзе ворыва засеяць.

На полаз круціцца жыўцом
Радно палеглае пазёмкі.
Кіруюць санкі жарабцом,
А ў санках немач мчыць па зёлкі.

Хаду прыспешвае мароз.
Рамень рыпучы. Бот суровы.
Па бровы інеем зарос
Дзяцюк, а п’ецца — на здароўе!

Задышна рэкам пад ільдом,
І дыша горача палонка.
Загнет так дыша Калядой
Або камбайн падчас паломкі.

Сыход снягоў яшчэ далёк,
Але яго ў адліг адзнака.
Калі змывае свет далоў —
Дык ён — у ставе Задыяка.

## Паводка

Наперад! Напралом —
Ільдзіна пхала скарбы.
І крута крыгалом
Крамсаў аб бераг скабы.

Паводка на плячах
Драпежна бёрны несла.
Ёй варта распачаць —
Звядзе, як трэскі, крэслы.

Здалёку не відаць
Марское хвалі грэбень.
Шалёная вада
Зімы валтузіць грэблю.

Дрымотны вір са сну
Варушыць калаўроты.
І мацаюць сасну
Вятры, бо абармоты.

Дзе рэчку ў час уцех
Дугою выгібае,
Заліжуць промні снег
Шурпатымі губамі.

На руку скор разбор.
Для выдры выдма бляшыць.
Паводка — не разбой —
Яе вачыма лашчаць.






нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ працаваў на Гродзенскай студыі тэлебачання і ў абласной газеце «Гродзенская праўда». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1971 года. Выдаў зборнікі паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра цябе», «Сын небасхілу», «Багра».

## МІКОЛА КАНАНОВІЧ

*БЕЛАЯ САДОЎ АДВЕЧНАСЦЬ…*



Непрыкметна знікае дзень
У непразрыстасць аблокаў снежня.
Не гарыць у душы агмень
Закаханасці і трымцення,
Спадзеваў на цуд няма —
Ні калядны, ні навагодні.
Да ўсяго — не прыйшла зіма,
А дождж ідзе ўвесь дзень суботні.
Еўрапейскасць тутэйшай зімы
Аптымізму не шмат прыносіць,
Як ёлкі штучныя ў дамы,
Дзе карагодаў ніхто не водзіць.
Таму радасць — як выпаў снег
І мароз падсушыў дарогі.
...З Новым годам, паэт! Хай смех
Над сабою не будзе строгім.

*Снежань 2015 г. — 07.01.2016*



Нішто нікому не павінна быць.
Усім усё ўжо ёсць ад нараджэння.
Нам кроў у скронях вусцішна гучыць
Пра шлях цярновы да абагульнення
Сябе з усім і усяго — з сабою.
...Крык немаўляці у вушах звініць,
І хрып старога патанае ў болю.

*24.02.2016*

## Белы

Белы ліст, белы свет, белы тэкст.
Белы сад, белы сон, белы змест.
У кантэксце гібрыднай зімы
З каміноў выпаўзаюць дымы
І над хатамі — быццам слупы —
Шэрым попелам белай крупы
Сон вартуюць зімовы скупы.
Наш адвечны здарожаны сон
Сцеражэ наш зімовы палон,
Не пускае капціць белы свет
Ні адну сотню зімаў і лет.
...Белы ліст, белы свет, белы тэкст —
Беларускі адвечны кантэкст.

*29.02.2016*

## Страляюць

На палігоне страляюць...
У неба начное
штатна снарады кладуцца
з танкаў старых
з новым рыштункам.
Нешта благое
вісіць у паветры
злой цемрай
глухіх прадчуванняў
ды званняў вайскоўцаў,
што на загад пакладуць
і старых, і малых...
На палігоне страляюць...
Бясконца
доўжыцца ноч
амплітудай
гадзін халастых.

*15.03.2016*

## Прадвесне

Снег вяртаецца мокры на шэрань бяроз,
На сакавіцкія чорныя дахі.
З ночы яго затрымае мароз —
Як злачынцу ля плахі.
Нядоўга ўжо застанецца тут снег.
Сакавік набрыняў зелянінай на почках,
Якой сонечны трэба штуршок на разбег
І хаця б невялікі плюс цёмнаю ночкай.
Але прадвесне — яшчэ не вясна,
А снегу вяртанне не радуе болей.
...Булькае ў шклянку чырвань віна —
Вып'ем за волю!

*20.03.2016*

## Красавік

Белая садоў адвечнасць,
Высокае неба буслоў,
Жанчын урачыстая пекнасць,
Мужчынская скупасць слоў
Красавік насочваюць сэнсам
Красавац на зямлі ва ўсім,
Што поўніцца ясным зместам,
Вясновым і маладым.

*18–19.04.2016*



Са сцяны праступаюць цвікі,
Як балячкі на целе старога.
Век кароткі на гэтай зямлі
Нашых хатаў стагоддзя былога.
Яны пасля нашых бацькоў
Непатрэбнаю спадчынай сталі
Між калгасных палёў і лугоў,
Так далёка за гарадамі.
А што застанецца ад нас?..
Час імкліва змяняе ландшафты,
Пыл дарог патанае ў снягах,
У зямлю апускаюцца хаты.
І не важна ўжо, чый ты сын,

Чый ты брат і каму тут суродзіч.
Ты выходзіш у вусціш адзін,
Ты адсюль назаўсёды выходзіш.

*29.06.2016*



Калі не чакаеш нікога —
Лёгкай здаецца дарога…
Ды дрэнна, што ў гэтым жыцці
Без нікога так сумна ісці.

*05.07.2016*



нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Скончыў філфак БДУ. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школе ў Слоніме. Цяпер працуе намеснікам рэдактара «Газеты Слонімскай». Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Піша вершы і прозу. Аўтар кнігі паэзіі «І доўжыцца ноч…» і ўсіх выпускаў «Новага замка».



МЕЧЫСЛАЎ КУРЫЛОВІЧ

*ЛЮБОВІ СВЕТ*
*Вершаваны аповед*



«Давай проста дружыць», —
аж набіла аскому
і не знаю, чым крыць,
калі б дах, то саломай,

І зайздрошчу для зорак —
не губляюць настрою,
ім шампанскага корак,
а мне ў вір галавою.

Скуль апечанай смагай,
пакуль свет не пакіну,
памудрую над сагай:
«Баламуцяць дзяўчыну».

## Фэст

Не чую п'яных ні цвярозых,
што аб зямную труцца вось,
а толькі сверб, бы сеў на дозу, —
тваю прылашчыць прагажосць.

## Тры словы

Неўздагад і рэшка выпала удачай
з сотні нешчаслівых толечкі адной:
каня з Прынямоння над затокай плача,
а з вярбінкі коцік муркае вясной;

ластаўкі сінечы — мабыць, на пагоду,
рысамі шкаляраць з раніцы стрыжы,
і на ліпе з лыжкай сонечнага мёду
чмель у гроне пчолак зноў жа не чужы;

парадыйны пошчак, мусіць салаўіны,
хмельны водар сонца, макіяж сасны,
гронкі з бірузовых ягадак каліны
і твае тры словы, словы без цаны.

конікам пабудка дзінькае званочкам,
на заняткі кліча, пэўна, сенажаць,
а з буслянкі буслік, роджаны ў сарочцы,
нам маргае вокам: «Гэй, пара лятаць!»



— Колькі ж можна цямніць
(мы ж не толькі суседзі),
бы з мяшком таямніц
на пасольскім абедзе?

Рай, як сведчыць Адам,
самы лепшы з адзінай,
пра цябе ж ён не знаў
пасля шэрай гадзіны,

а каб ведаў, дзівак,
што даў маху — звіхнуся б,
ты ж не хочаш, каб так
я Адамам прачнуўся?

— А куды даплывем
і як можна без Бога?
— А вось гэты бязмен
дасць нам ксёндз ад Сварога…

## Белы вэлюм

Белы вэлюм, белы дзень
зоркамі лунае
у спаднічках да кален,
цнотай — маладая.

Традыцыйнае sto lat
маладым.
Не шкода.
Пад завязку акурат,
як зазімкам, — лёду.

Не паспелі і зяўнуць —
маладую ўкралі.
Следакі шукаць ідуць,
бы Феміду, — шалі.

І не здрадзіў ветру нос —
музыкант тут лоўчы,
як падкіне долар хтось,
заіграе двойчы.

Падарункі маладой
роду маладога
паднялі гасцям настрой
тэмай дыялога.

На дукат фамільны час —
дораць, быццам сэрца,
і ніхто не кажа: «Пас!» —
Што аж нат не верыцца.

Белы вэлюм, белы дзень,
капялюш з наварам
без прынукі — за каршэнь —
назбіраў даляраў.

З пазалотай, як дуга
ці хамут, магчыма,
сват сказаў сваё: «Ага,
малады з грашыма!»

Белы вэлюм, з любым ноч...
Першы раз такое:
з капялюшыкам наўзбоч
з іміджам каўбоя.

Малады зірнуў: «О-го!
Ноч мядовай працы».
Лічаць колькі.
Ад каго.
Бачыў папарацы.



Бард суладдзя — вечар
падкузьміў гульнёю,
запрасіў на Веча
і мяне з табою.

Бы ў вясельным маршы
вабы тваіх рухаў…
І, здаецца, першым
ён цябе падслухаў.



Не пакрыўдзіў брудным ценем
Запавет салодкі грэх,
бо прыдумаў яго геній,
гучна выгукнуўшы: «Эх!»

У здабытку каляндарным
з бездарожжа і надзей
без яго і час цяжарных
без жаночых прывілей.

Хай гарыць агонь гуллівы
зграбных ножак і страсцей,
і спаднічкі гаварлівай —
летняй ночкі карацей.



А дзеля юру грэшнай зямлі
аддам што маю, нат мазалі
Боскае працы з Яго натхненнем,
што мой прабацька назваў агменем.

Мудрасць прыроды — сімвал жыцця
дзеля імгнення, дзе жыве Я,
не памірае, а пладаносіць,
покі зямельку круціць і носіць.

У звон харалаў канфуцыянства,
дзе не чапалі юрлівых плям
і Запавету да хрысціянства,
камень не кінуў Свяцейшы Ян.

І я не кіну грэшнаму слову:
грэшнасць — бязгрэшнасць кроплі жыцця.
Аддам, што маю, толькі не мову,
дзеля імгнення, дзе жыве Я.

## Не звані

Тваё не, як прысуд,
перад Богам на грэшнае лаўцы:
«Не звані, твой хамут,
што намуляў, ад сёння ў адстаўцы

і не трэба насіць,
як сказаў ты мне калісь на ганку.
У любві нават прынц
пад яго прымярае асанку».

Свет ружовых пярлін
перахрышчаны рэхам у чорны...
Глузды едуць з навін,
пад накдаўн, нечакана-паўторны...

Перадаў промень дня
год Казы для наступнага года
і прысуд спакваля
для майго тэлефоннага кода.

## А ты на курорце?

Твой рай на курорце мне стаў варажбою,
раней так не думаў, калі была побач.
У фарным касцёле за грэшную мрою
пакуту назначыў з усмешкаю пробашч.

Зайздросныя думкі — як сквапнасці вока,
як клін жураўліны, імкнуцца у вырай.
Адсталы жураўлік між іх загалёкаў
над нёманскай стужкай пяшчотна-тужлівай.

Твой рай на курорце прысніўся мне позвай
распушчанай кветкі з барвовых пялёсткаў,
а ветах на небе — калючаю пожняй,
дзе я за табою іду з папяроскай.

Глядзі не купіся спакусай любові,
такіх там хапае, суджу па сабе, —
(хоць зрэдку на нашай матулінай мове)
каленцам салоўкі прывабяць цябе.



Ты мне снілася Музай
прынямонскай… сунічнай…
апякаў тваю бусел
міні ў кветках спаднічку.

З валуном зледзянелым
сон зрадніўся мой кроўна,
твая Муза у белым
для яго была коўдрай.

Наступаю на горла
не для песні — каб скруха,
завітаўшая ў чорным,
праіграла насуха.

Вывучаю, бы тэзай,
мовы матчынай Гродна,
тваю сцежку за бэзам
са слядкоў эпізодных,

да затокі за садам,
дзе і неба з аеру,
скуль пяром бусла падаў
гэты верш на паперу.

## Лічу дні і нядзелі

Каляндар тчэ на кроснах
мае з крыжыкам даты,
на мяне зіркнуў коса:
«Я у чым вінаваты?

Служыў верай і праўдай —
не бяльмом твайму веку
і дзянькі лічыў спраўна,
што цякуць самацёкам».

Размаўляць недарэчна
(дэкрэт сведчыць) з паперай.
Шлях па восені Млечны
мне зноў сніцца Венерай —

мілавіцай кахання
з крывадушнай усмешкай,
што, як сверб мовы кані,
сёння выпаў мне рэшкай,

не арлом для надзеі
з прынямонскіх вытокаў…
Лічу дні і нядзелі,
што цякуць самацёкам.

## Галасы

1

«Я не ваша сягоння —
расстаюся са снамі,
заначую з каханым,
заначую не з вамі.

У свае пяць на дзесяць, —
як знаходка падковы,
бо пачула нарэшце
тры магічныя словы:

дзе за радасць усмешкі
для нас з Боскім імгненнем
мой каханы у спешцы
зацалуе калені;

дзе для нашай любові
жаўрук страсці расквеціць,
бы пасля цяжкай працы
асалодаю вецер;

дзе мы смак таямніцы
ўпершыню адкрывалі,
што каханы мой — рыцар,
я — прынцэса на балі.

Не апошняй санатай
з салаўіным каленцам
я іду на сустрэчу
пры свячах за акенцам.

Стол у мройным чаканні,
як бальзам пацалункі,
што шукала ў спатканнях,
а здзяйсняла ў малюнках.

Я не ваша сягоння —
расстаюся са снамі,
заначую з каханым,
заначую не з вамі».

2

Я ізноў перашкодзіў твайму здзейсніцца цуду —
не ўтрымаў у далонях сваю зайздрасць-паскуду.

Недавяркам віны заскуголіла сэрца
ад спакус і маны па раўнівае мерцы.

Шчасця лёс, як хвілін, на узлёце да раю,
дзе у зроку правін і цябе я трымаю.

Нізашто не даю твайму здзейсніцца цуду
з думак светлых пярлін, дзе я, пэўна, не буду.

«Мроіць квеценню сад, шчасця бабскага мала», —
два гады акурат, як ты гэта сказала.

## Развітанне

Адляцелі ў вырай зорныя памкненні,
з восеньскай тугою думак калаўрот,
што сквірчаць, бы скваркі на сухой патэльні,
І згубіла слова сэнс наадварот.

«Прысядзь на дарожку», — шэпча развітанне,
а ў каханні нашым шчырае — «было ж».
Апавіты небам наш раман спатканняў
напамінкам рэжа, нібы востры нож.

Не натоліць смагу аквавіты свежасць,
вір сустрэч гарачых і тваіх вачэй

з радасцю уцехі, што не знала межаў,
з позіркам з паддашка: «Ну, прыйдзі хутчэй!»

Мураве зашэрхлай сніцца навальніца
з цёплаю надзеяй на гаючы дождж,
а мне толькі ростань пад вярбою ніцай
наўздагон каханню, быццам медны грош.



Ці ж не пуд солі з’елі?
Я адзін, ты адна.
Неасушаны келіх
п’е самоту да дна.

Стыльнай мружнасці вока
першай дамы з красунь
не ўпадзе мне нарокам,
быццам знічка ўгрунь.

З варажбою рамонак,
а за кадрам дакор
скрутным вірам заклёну
згадкі мройныя сцёр.



Бы ценем прылёг успамін на зямлю,
і крочу з табою, мой браце,
а вусны ўсё шэпчуць: «Люблю і люблю
усё, што было ў гэтай хаце».

Ды хмеліць, як хмель, мне ізноў галаву
дарожка расстайна ад ганку,
яшчэ настальгія, і з ёю жыву,
яшчэ раз цалуючы клямку.

## Наташка

Кажуць, што ў Наташкі
стрыжань мамы гожскі,
а анёл з паддашка
быў натхненнем Боскім,

не пакрыўдзіў духам
вёрткі спрыт дзіцятка,
а для мамы вуха,
як шаптаў: «Наядка!»

Ткалі кросны прышласць.
Стаўка на агранку.
Што з Наташкі выйшла?
Фору дае ранку.

Ігравокім хвалям
Нёман ускрай раскі
прымяраў каралі
рыхтык ад Наташкі.

Там буслянкі слоўца
целам хоча стацца.
Там Наташцы ночка
марыць спавядацца.

## На Сільвэстра*

У вечнасць час зрабіў віток
са скрутнасці на волю,
ды барана ў нагрузку скок
за светлы дзень адолеў,

а піць — не кпіць з банальных мэт
прынадных нашай кані.
Сваю зазнобу ўспомніў дзед,
калі на дах цягаў ёй сані.

Залатвіў справу дзеда зух —
вышынь петардных дока,
яшчэ й другі. Той — з аплявух,
падсмажаных для вока.

---

*Навагодняя ноч (*гарадз.*)

## Побач з плотам

З Боскай волі, як кветка,
цешыў вока дарогі
і абцасы кабетак.
З імі вёў дыялогі.

Сумаваў, што старэе
пад учэпістым мохам,
падпірала карэнне
з кратавінных панчохаў;

тыкаў цела да сэрца
чарвяк з прагаю працы,
ліст зазімкавым шкельцам
люстраваў плот з акацый;

а штыкетнік увосень
задубеў яе скурай
і старэча галосіць:
«Пражыву без амураў!»

## З успамінаў

1

Ты помніш сад і нашу зорку,
якую ставілі на рэшку,
як мне паставіла пяцёрку
пад таямнічую усмешку?

Я з той пары закладнік зоркі
і пагатоў садочка-раю,
але найболей той пяцёркі,
бо кожны раз яе чакаю.

2

Такіх не штампуюць серыйна,
каб рыцар не кануў у Лету,
такую у свеце медыйным
пад сілу стварыць мо паэту.

Зайздросціла вокнам рабіна,
бярозка і куст ядлаўцовы,

а шэрай у хаце гадзіне —
сакрэцік суседкі (дармовы);

звінячая ціш наваколля —
для часу у водарнай мяце,
а Нёман, як вечнасць юдолі, —
тутэйшай ляшчовай цытаце…

Бы казка цнатлівага рэтра,
бы яблычак Евы, — спакусны…
У сінім бяссонні паветра
і сёння салодзіць нам вусны.



нарадзіўся 17 лютага 1939 года ў Гродне. Па прафесіі ўрач. Працаваў участковым урачом у прынёманскіх вёсках, пасля анколагам і хірургам у Гродне. Астатнія тры гады да пенсіі — хірургам у рыбалавецкім флоце Мурманска. Аўтар кніг паэзіі «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба», кнігі прозы і лірыкі «Ліцвінка».



## АЛІНА ПАЎЛОЎСКАЯ



Закаханае сэрца не спіць,
Закаханае сэрца не дрэмле.
Закаханае сэрца трымціць,
Нібы лісце на восеньскім дрэве.

Закаханае сэрца ліе
І ў хусцінку, як скарбы, збірае
Слёзы болю — твае і мае —
Аб здабытым і страчаным раі.



Мне не суняць маёй трывогі,
мне не спыніць завейны рух
шалёных думак —
здрайцаў Бога,
што з сумам падаюць на брук…

Мне не схаваць вачэй самотных!..
Ёсць ты,
            ёсць я.
                        Ёсць вольны шлях…
А я іду дарогай слотнай
                                    к табе.
Чакай мяне, мой страх!



Крылом засланіўшы паветра,
Забраўшы магутнае слова,
У далеч ляцела з ветрам
Упэўненасць — першааснова.

Яна адышла нечакана,
Як людзі ад нас адыходзяць.
Пунсовыя кветкі нірваны,
Каму мая смутная споведзь?

Чаму маё хворае сэрца
Пакінула вера, надзея?
Імклівае сумнае скерца
Мне ціха іграе завея…



Калі ў жыцці тваім няма дабра
І страчана імя святое Бога,
Калі навокал межы і парогі
І ні душы на цэлы белы край —

Не праміні. Адчуй такі сігнал!
І сэрца запытай сваё на шчырасць:
Ці ўсё, што я раблю, вядзе у вырай?
Ці ўсё зрабіў з таго, што я жадаў?..



Блукаю.
Навокал цемра.
Гукаю.
Навокал змрок.
Мінаю мяжу адценняў,
Губляючы слых і зрок…

І ўжо закрануць, закратаць,
Узяць у палон, здушыць
Не змогуць ні плач, ні радасць
Халоднай маёй душы.

## Слова Любові

Вакол мяне не круціцца жыццё.
Я не Сусвету цэнтр, а толькі ўскраек,
Дзе сходзяцца быццё і небыццё,
Дзе пекла адмяжована ад раю.

Я не Сусвету цэнтр, але ўсяго
Былінка, ветрам знесеная з поля;
Я тая, што была калісьці вольнай,
Дарыла сэрцам Ісціны агонь.



Жыццё маё — няспынная вайна.
Між радасцю і смуткам чорна-белым,
Між сэрцам, перапоўненым ад хмелю,
І розумам, асушаным да дна.

Палююць кулі, бомбы да відна,
Трымаючы памкненні
пад прыцэлам...
Жыццё маё — няспынная вайна,
Дзе ворагі заўжды — душа і цела.






студэнтка 4-га курса філалагічнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы па спецыяльнасці «Беларуская філалогія». Аўтар паэтычнага зборніка «За небакраем» (2015, серыя «Маладая паэзія Беларусі»). Друкавалася ў альманахах «Rozmaitości Slawistyczne», «Новы замак», газетах «Знамя юности», «Гродзенскі ўніверсітэт», «Наша слова», «ЛіМ», часопісах «Маладосць», «Тэрмапілы», «Верасень».

## СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

*КАБ НЕ ЗАМЕРЗЛІ ЖЫЦЬ*
*Калізіі душы*



Хачу быць снегам на двары Айчыны,
Каб штодзень яго тапталі беларусы,
Спяшаючыся да Скарыны, Насовіча і Купалы.



Жыве твой кліч, Касцюшка:
Нарадзіўся я ліцвінам!
І мы — ліцвіны,
А дзе ж Касцюшка?..



«O Litwo, Ojczyzno moja» —
Пісаў Адам Міцкевіч.
«Дзе ж мой дом, дзе ж мой люд?
Дзе Айчызна мая?» —
Пытаецца ў нас Янка Купала.



Яська-гаспадар з-пад Вільні,
Яська-гаспадар з-пад Менску,
Яська-гаспадар з-пад Оршы…
Гаспадар?..



Яшчэ не выйшлі з лясоў
Слуцкіх паўстанцаў
Сыны, унукі, праўнукі…



Іду тваім следам, Янка Купала,
Але хто толькі туды не ступаў —
Ён шырокі і слізкі,
Іду і… падаю,
Але іду.



Мы паедзем сёння да Адама Міцкевіча,
А заўтра завітаем да Сыракомлі…
Але спачатку пагасцюем у Янкі Купалы.



Свет чытае Харукі Муракамі,
Ты чытаеш
Максіма Багдановіча.



Доўгай дарогі не бывае —
Яна — бясконцая:
Да маці, да роднай хаты, да Янкі Купалы.



Максім Багдановіч
Хоча ў Гародню —
Да маці, да нас, да Беларусі.



Нам, беларусам, прызначана
Жыць, змагацца і перамагаць.
Нам, беларусам, не прызначана
Толькі жыць.



Максім Танк прасіў перад сном
Накрыць яго роднай песняй…
І мяне накрыйце,
І маіх сяброў,
І ўсю Беларусь накрыйце
Роднай нашай беларускай песняй.



Тодар Нарбут, запрагайце коні —
Паедзем у Лідскі павет.
Дзе жыве там шчаслівы на волі,
І вясёлы Суднік-паэт.



Міхал Валовіч з Парэчча
Думаў пра Бацькаўшчыну.
Мы сёння ў Парэччы
Думаем пра Валовіча.



Чужой Бацькаўшчыны ніколі не бывае,
Бываем мы — чужымі
На Бацькаўшчыне.



«Туга і шчасце восені» —
Прачытаў у Алеся Жука.
Туга — што гэта восень ужо ніколі не вернецца.
Шчасце — што будзе яшчэ восень.



Праз сто гадоў нас ніхто не будзе
Памятаць…
Але ж гэта будзе праз сто гадоў…



«Вянок» Максіма Багдановіча,
«Жалейка» Янкі Купалы.
«Тралялёначка» Францішка Багушэвіча…
«Воўчая зграя» Васіля Быкава…



Спяшаюся да Янкі Брыля
Праз Забалацце, якое днее…
Спяшаюся, каб не спазніцца…
Даруйце, Іван Антонавіч,
Не паспеў…



У гэтым горадзе многа сонца —
У гэтым горадзе жыў
Аляксей Карпюк.



Восень страсае лісце дрэў,
Каб цёпла і мякка было зямлі,
Па якой хадзіла Ларыса Геніюш.



Прападаюць людзі…
Хлусяць тэлеканалы…
Выкідваюць кнігі…
А ці вернецца Сымон Будны?..



Мама — побач. Мама — жывая,
Вяжа шкарпэткі і рукавіцы маім сябрам,
Каб не замерзлі жыць.



Будзьце светлымі, як нашы рэкі,
Будзьце чыстымі, як нашы лясы,
Калі ласка, вельмі прашу,
Будзьце…



нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра. Напісаў і выдаў дзясяткі кніг паэзіі, гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг.





# Проза прынямоння

## Валянцін Дубатоўка

### Брат

*Аповесць*

Чалавек асцярожна зачыніў дзверы, абмацаў кішэні пінжака і нагавіцаў. Усё на месцы — ключы, паперы, грошы. Не выклікаючы ліфт, ён спусціўся па лесвіцы на першы паверх і выйшаў на вуліцу. Масква жыла ў звычайным, закладзеным яшчэ «айцом народаў» рытме савецкай сталіцы. Легкавікі, збаўляючы хуткасць на павароце, павольна вырульвалі на Вялікую Серпухаўскую і далей, ужо як шалёныя, несліся ў бок Крамля.

Мінакі спяшаліся па надзённых справах. Лета 1971 года выдалася спякотным; прахалода трымалася толькі зранку і пад вечар, а ў поўдзень даймала спёка, нібыта ў Сахары.

Спусціўшыся ў метро, маладзён зайшоў у вагон электрацягніка. Праз некалькі прыпынкаў ён выйшаў на станцыі «Беларускі вакзал», падняўся па эскалатары і, каб не прыцягваць да сябе ўвагі, уладкаваўся на лаўцы, каля газетнага шапіка. Хвілінаў праз дзесяць да перона падышоў цягнік. Хлопец усхапіўся, зайшоў у патрэбны вагон і адшукаў пазначанае ў квітку купэ. Уладкаваўшы рэчы, ён зірнуў на гадзіннік і выйшаў папаліць. На сталічным вакзале кіпела жыццё, адзін за адным прыбывалі цягнікі, туды-сюды прабягалі заклапочаныя пасажыры.

Маладзён думаў аб нечым сваім. Трэці раз зроблена справа, і зноў усё атрымалася выдатна. І ніхто нічога не заўважыў. А нож — проста цуд. Стоп! Бог мой, а дзе ж ён? Хлопец кінуў недапаленую цыгарэту і заскочыў у вагон.

— Пасажыр, асцярожна, людзей пазабіваеце! — гукнула наўздагон правадніца.

Маладзён як не чуў. Ускочыў у купэ і пачаў перабіраць свае рэчы, шнарыць па кішэнях. Безвынікова.

Ліхаманкава думаў — дзе ён мог пакінуць нож? У кватэры, калі скончыў справу і зайшоў у ванную вымыць рукі? Так, нож застаўся ў ваннай. Як жа я так недаравальна лахануўся? Што ж, не з адных шанцункаў жыццё складаецца. І так доўга шанцавала. Цяпер трэба спяшацца. Застаўся яшчэ адзін, апошні.

Цягнік натужна адсопся і спакваля рушыў з месца. Перад вачыма праплывалі дамы, масты і рознага кшталту адміністрацыйныя будынкі савецкай сталіцы. Маладзён выпіў гарбаты і прылёг. Але жудасныя ўспаміны, як і раней, не давалі яму заснуць. Жахі перажытай калісьці трагедыі пазбаўлялі сну.

...Ішоў 1950 год. Вёска Лупачы, як іншыя вёскі Заходняй Беларусі, вучылася жыць пад саветамі. Змучаныя вайной і пасляваеннай вандэяй людзі спрабавалі падладзіцца пад новую ўладу. Але прымусова створаныя саветамі калгасы вяскоўцамі не ўспрымаліся, а ў большасці выклікалі непрыхаваную варожасць. Таму пасляваенны збройны супраціў, як быццам прыціхлы ў сярэдзіне саракавых, з насаджэннем калгасаў у сорак дзявятым успыхнуў з новай сілай. Па вёсках успыхвалі пажары на калгасных падворках, гінулі савецкія актывісты. У некаторых месцах адбываліся грамадскія суды над прадстаўнікамі ўлады. Саветы, са свайго боку, узмацнілі рэпрэсіі супраць мясцовага насельніцтва. З новым імпэтам улады працягнулі раскулачванні і арышты заможных вяскоўцаў. Ізноў распачаўся пераслед былых вайскоўцаў з Арміі Краёвай і беларускіх фармаванняў.

Акрываўленага, ледзь жывога параненага маладзёна ў канцы сорак чацвёртага знайшла на ўскрайку вёскі маладая настаўніца Лупачанскай школы Алена Сцяцко. Выхадзіла. Паміж ачуняўшым Станіславам Макарэвічам і дзяўчынаю пакрысе разгарэлася каханне, і праз некаторы час у іх нарадзіліся два прыгожыя хлопчыкі. Старэйшаму ў пяцідзясятым споўнілася пяць, малодшаму — два. Усе ў вёсцы ведалі, ад каго ў настаўніцы дзеці. Ведалі пра адносіны нелаяльнага да ўлады Макарэвіча і настаўніцы і мясцовыя міліцыянты, але злавіць «ворага народа» не маглі. А той не хацеў здавацца. То тут, то там гарэлі сельсаветы, калгасныя свірны, гінулі міліцыянты і актывісты.

Да Станіслава далучылася нямала вяскоўцаў, якія ўцякалі ад калгаснага «раю». Але ў апошні месяц нешта ў Ліпічанах (гэтак па-мясцоваму звалася Ліпічанская пушча) змянілася. Спецгрупа, прысланая з Масквы, пачала моцна шкодзіць Макарэвічу. Запалохваючы і караючы вяскоўцаў, што падтрымлівалі супраціў, выплочваючы немалыя грошы правакатарам, улады істотна паменшылі магчымасці Станіслава. Да таго ж паўстанцы патрапілі ў аблаву. Шмат хлопцаў загінула, а ацалелыя паразбягаліся па сваіх вёсках альбо здаліся міліцыянтам. Макарэвіч ізноў застаўся адзін.

Алена спала дрэнна, спачатку малодшы сын прысніў нешта страшнае і доўга плакаў. Яна паднялася, зірнула на дзяцей і пайшла на кухню папіць вады. Тут нехта ціха пагрукаў у акно. Алена запаліла лямпу і паднесла святло бліжэй да шыбы.

— Хто там? Ах божухна, Стась.

Ляснула клямка, заскрыпелі дзверы, і на парозе з'явіўся малады шыракаплечы мужчына гадоў трыццаці. Няголены шырокі твар асвяціла стрыманая ўсмешка.

— Каханая...

Макарэвіч зрабіў крок насустрач і абняў Алену.

— Стась, чакай, трэба дзверы зачыніць.

Мужчына вызірнуў у прачыненыя дзверы. У Лупачах усё было спакойна.

Стась быў вышэй сярэдняга росту. На шырокіх плячах моцна сядзела круглая, з заўважнымі сківіцамі галава. Вузкія, заўсёды прыплюшчаныя вочы захінаў чарнявы чуб.

Нарадзіўся ён у сям'і мясцовага аб'ездчыка Уладзіміра Макарэвіча. Перад прыходам першых саветаў пасля школы паступіў у Віленскі ўніверсітэт, які скончыць не паспеў. Падчас вайны быў у савецкіх партызанах, праявіў сябе як кемлівы выведнік.

За адвагу і гераізм меў некалькі ўзнагарод. Вышэй за ўсё ставіў чалавечы гонар і абавязак перад Айчынай.

У адрозненне ад Стася Алена мела дабрадушны і мяккі характар. Нарадзілася яна на Гомельшчыне. Скончыла школу ў Рэчыцы і педагагічны тэхнікум у Мінску.

— Можа, перакусіш?

— Толькі хуценька. Пару гадзін хачу паспаць у цяпле.

Ужо ад печы Алена заўважыла чырвоную пляму на рукаве свайго каханага.

— Стась, у цябе кроў.

— Ат, ерунда, недзе выпадкова аб сук абадраў.

Алена прынесла белую тканіну, пляшку гарэлкі і стала апрацоўваць рану.

— Гэта не драпіна. Гэта куля.

— Кажу — абадраў, значыць — абадраў.

Маладзіца скончыла бінтаваць рану, абняла каханага і заплакала.

— Ну чаго ты, усё будзе добра.

— Ды не будзе добра, яны заб’юць цябе, заб’юць.

— Годзе, Алена, хлопцаў пабудзіш. Ды сціхні ты. Што ж, я табе не ілгаў. І ты добра ведала, каго кахаеш.

— Стась, прашу цябе, здайся. У школе гавораць — саветы не страляюць тых, хто здаецца сам.

Стась адпіхнуў Алену, потым схапіў яе за плечы і, страсянуўшы, зірнуў ёй у вочы.

— Што ты такое гаворыш? Я з імі да апошняй кроплі крыві змагацца буду. Паглядзі, што яны вытвараюць, як людзей ды зямлю нашу нішчаць. Я прысягаў змагацца за Беларусь да поўнага яе вызвалення, значыць, так таму і быць. Зразумела?

Алена, разумеючы марнасць сваіх намаганняў, яшчэ трохі паўсхліпвала і пачала збіраць на стол. Падобная размова была не першая і не апошняя, яна ведала — Стася не змяніць, характар у яго нязломны.

Макарэвіч спехам паеў, хутка памыў рукі, твар і падышоў да Алены.

— Каханая, даруй, калі што не так.

— Ой, Стасю, Стасю, як жа ж мы будзем жыць далей?

— Жыцьмем, як жылі дагэтуль.

— Ага, ты пад раніцу ў лес, а я зноў адна з дзецьмі.

У хаце запанавала цішыня, яны абое ведалі, што нічога змяніць нельга…

— Стасю, уставай, уставай хутчэй!

— Чаго ты?

— Ды нейкі грукат за вёскай, я на вуліцу выходзіла.

Стась апрануўся, падхапіў на хаду аўтамат, які стаяў каля дзвярэй, і выскачыў на падворак.

— Ну, не сумуй. Прыйду хутка.

— Пакуль, Стасю. — Развітаўшыся, Алена тут жа зачыніла на засаўку дзверы і патушыла лямпу…

У кабінеце за старым дубовым сталом сядзеў каржакаваты маёр гадоў сарака са скуластым тварам. Пачырванелыя ад бессані вочы ён прыкрываў ад святла рукой,

на ёй пабліскваў масіўны гадзіннік з манаграмай «За отличную службу». Ён не спаў ужо трэцюю ноч запар. Устаў, узяў кубак з гарачай гарбатай і зрабіў некалькі глыткоў.

У кабінеце зазваніў тэлефон, маёр падняў слухаўку. На тым канцы провада адазваўся малады голас сувязісткі. Ён назваў маскоўскі нумар і праз хвіліну пачуў стомлены жаночы голас:

— Алё, слушаю.

— Соня, ты меня слышишь?

— Да, Николай, как ты?

— Всё нормально.

— А домой скоро?

— Думаю — да, но не об этом разговор. Была ли ты у врача, и что он сказал тебе?

У слухаўцы запанавала маўчанне.

— Соня, что сказал доктор?

— Николай, у нас не будет детей.

Маёр Уткін пачуў, як жонка заплакала.

— Ну ты не расстраивайся, всё будет хорошо. Вот я приеду, и мы вместе сходим к доктору.

Маёр паклаў слухаўку, падняўся з крэсла і падышоў да акна. Па вуліцы невялікага беларускага гарадка спяшаліся людзі, каціліся вазы, зрэдку праязджалі грузавікі і легкавыя аўто. Уткін як быццам не заўважаў мітусню горада. Галава была запоўнена перажываннямі за пакінутую ў Маскве жонку. Дзесяць гадоў прайшло, як яны пабраліся шлюбам, а дзяцей усё не было. Паасобку і ўдваіх хадзілі яны па дактарах, знахарах, але ўсё роўна нічога не атрымлівалася. Аднаго разу Уткін застаў жонку, калі тая збіралася ў царкву… Сам Уткін не верыў ні ў Бога, ні ў чорта, верыў толькі ў камуністычныя ідэалы. Самаадданасць пры службе, якая дазволіла яму, простаму вясковаму хлопцу з-пад Тулы, даслужыцца да звання маёра, была галоўнаю ў жыцці. За выдатныя паказчыкі яго за некалькі гадоў да вайны перавялі на павышэнне ў сталіцу. На службе здаралася рознае. Даводзілася і забіваць. Рука маёра ніколі не дрыжала. Служба ёсць служба, галоўнае — вынікі. Менавіта таму ён, маёр Уткін, цяпер тут, а ягоны атрад у пушчы ловіць нейкага бандыта, які разграміў ужо не адзін мясцовы сельсавет, знішчыў ці мала міліцыянтаў і не дазваляе прыжыцца ў гэтай мясцовасці калгасам.

— Разрешите, товарищ майор.

Уткін схамянуўся ад сваіх думак. У дзвярах стаяў русавалосы лейтэнант гадоў трыццаці.

— Заходи, что у тебя?

— Товарищ майор, из Лупачей наш человек сообщил, что Макаревич сегодня у жены ночует.

— Да?! Зови всех.

Лейтэнант знік за дзвярыма. Праз дзве хвіліны ў кабінеце сабралася аператыўная група. Капітан Сіўцэвіч, карэнны мінчук, з ім Уткін пазнаёміўся, калі служыў у СМЕРШы. Лейтэнант Варонін са Смаленска, якога маёр перацягнуў да сябе з вайсковай выведкі. І старшына Апончык з Віцебска — ён служыў з Уткіным яшчэ з тых часоў, калі апошні быў начальнікам раённага аддзела крымінальнага вышуку ў Туле.

Кожны з тройкі каштаваў дзесяці чалавек, а можа, і цэлай роты, усе яны былі вопытнымі і здольнымі аператыўнікамі. За групай значыліся аперацыі па пошуку шпіёнаў і дыверсантаў падчас вайны, ліквідацыя здраднікаў, удзел у разгроме атрадаў УПА на захадзе Украіны.

— Так, докладывайте, товарищ капитан.

Сіўцэвіч падняўся, адкашляўся ў кулак і загаварыў:

— Макаревич будет находится в Лупачах до часов четырёх. Он, по донесению нашего информатара, в последнем бою получил ранение. Поэтому считаю своевременным силами Слонимского пехотного полка, усиленного местными милиционерами, окружить деревню и захватить бандита.

— А местные милиционеры зачем? — Уткін непакоіўся, што тыя могуць папярэдзіць Макарэвіча.

— Считаю, местные милиционеры необходимы. Солдаты в большинстве своём нездешние, не знают месности.

— Понятно. У кого есть вопросы?

Падначаленыя маўчалі.

— Значит, всем всё ясно. Предупреждаю, работаем как всегда, быстро и чётко. Если потребует обстановка — максимально жёстко. Санкция от руководства имеется. В Москве недовольны, что дело затягивается. Поэтому на этот раз мы его должны или арестовать, или ликвидировать. Выдвигаемся.

На месцы Уткін акінуў поглядам наваколле. Вясковыя сабакі разам з пеўнямі абуджалі сваіх нядбайных гаспадароў, нагадваючы ім, што на падыходзе новы летні дзень. Да маёра, які стаяў каля прыдарожнага крыжа, падышоў Сіўцэвіч.

— Ну как там, капитан?

— Всё идёт по плану, солдаты расставлены по периметру. Апончик и Воронин ждут команды на штурм.

— Ну, тогда вперёд, капитан.

Праз хвіліну мірную пушчанскую вёску накрыла хваля аўтаматных чэргаў. Уткін ірвануў у накірунку хаты, ад якой даносіліся стрэлы і крыкі. На падворку, запоўненым людзьмі ў вайсковай форме, ён напаткаў запыханага і злоснага Сіўцэвіча.

— Ну что, капитан, где он?

— Убежал, сволочь.

Уткін гучна вылаяўся і загадаў паклікаць камандзіра салдат.

Праз хвіліну перапалоханы капітан-вайскавік казырнуў маёру.

— Слушай сюда, капитан, берёшь половину своих солдат и прочёсываешь тот кустарник между деревней и рекой. Понятно?

— Так точно!

— Смотри у меня, чтобы муха не пролетела.

— Есть.

— Где Воронин? — пашукаў вачыма свайго падначаленага Уткін.

— Я здеся, — азваўся той, выбягаючы з-за хлява і зашпільваючы шырынку.

— Всё потом, и это тоже потом, сейчас действуем быстро. Где Сивцевич и Апончик?

— Товарищ капитан допрашивает соседей, а Апончик — жену Макаревича. Или как её там, в общем, учительницу.

— Долго, очень долго. Уйдёт бандит.

— Куда он денется, отсюда можно только на крыльях.

— Дурак, этот может и на крыльях. Т-а-ак, тащи эту суку сюда. Бегом!

Варонін ірвануўся ў хату. Праз хвіліну адтуль данёсся енк жанчыны і дзіцячы плач. Уткін, насупіўшы бровы, глядзеў, як Варонін выцягвае з хаты Алену з дзецьмі.

— Чаго вы ад нас хочаце? Я казала вашаму афіцэру, што не ведаю, дзе ён хаваецца.

Уткін моўчкі зірнуў на Алену, потым на дзяцей.

— Лейтенант, возьми женщину и осмотри сарай и подвал.

Варонін тут жа скумекаў, што задумаў камандзір.

— Дзеці, хадзем пакажам дзядзям хлеў. — Алена хацела ўзяць з сабой дзяцей.

— Нет-нет, вы идите с офицером, а за детьми я присмотрю. Вы что, мне не доверяете?

Лейтэнант пацягнуў Алену за руку, але яна не паддалася. Старэйшаму Паўліку было пяць гадоў і ён апекаваўся малодшым братам, трымаючы таго за ручку. Алесь, якому толькі нядаўна споўнілася два гады, увесь час круціўся на месцы, шукаючы позіркам маці.

— Ну чего ты, маленький, мама скоро придёт. Конфетку хочешь?

Хлопчык кіўнуў галавой. Уткін працягнуў Алесіку цукерку.

— А скажи, мальчик, вот папа сегодня приходил, он что, даже одной канфетки тебе не принёс?

Дзіця прастадушна пачало дзяліцца сваімі думкамі:

— Тата нічога не прынёс, бо ён прыйшоў ноччу, а дзе цукеркі купіць ноччу?

— Скажи, когда он ушёл, а я тебе ещё адну конфетку дам.

Паўлік прадчуваў нядобрае і прыцыкнуў на брата:

— Маўчы!

Уткін пацягнуў Паўліка за вуха, і той ад болю адпусціў братаву руку.

— Вот, малыш, тебе ещё одна конфетка.

Алесік ужо больш ні пра што не думаў, ён толькі хацеў авалодаць пажаданым ласункам. Ён працягнуў ручку па цукерку.

— Ну так когда ушёл папа?

— Як вы можаце, яны ж проста дзеці. Пасаромеліся б, вы ж афіцэр.

Уткін спадылба зірнуў на Алену, якая яўна перадчасна вярнулася з Варонiным.

— Подойди сюда.

— Так рабіць брыдка, вы ж афіцэр.

Уткін схапіў жанчыну за валасы і накруціў іх на сваю руку. Алена ад болю прысела на калені.

Уткін не адчуваў нічога, апрача злосці, злосці на Макарэвіча, на Алену, на сябе самога за правал аперацыі. Ён з усяго маху кулаком выцяў настаўніцу па твары. Жанчына ўскрыкнула ад болю і ўпала на зямлю.

— Мама, мама! — дзеці памкнуліся да маці. Але Варонін разам з Апончыкам трымалі іх за рукі. Малыя вырываліся, плакалі, прасіліся, але аператыўнікі не дазвалялі ім зрабіць хаця б крок.

— Ты, бандитская потаскуха, ещё стыдить меня будешь? Или сейчас скажешь, где твой хахаль, или я тебя… — Уткін перазарадзіў аўтамат.

Алена, пераадольваючы боль, паднялася і, гледзячы ў вочы маёру, адказала:

— Вы можаце мяне забіць, але я нічога не скажу ні вам, ні вашым халуям.

Ад злосці ў галаве Уткіна штосьці адключылася, ён нахіліўся да жанчыны і працадзіў праз зубы:

— Ты мне не только всё расскажешь, а и покажешь, где он. Воронин, детей сюда. Так, сука, считаю до трёх. Раз, два…

І тут літаральна ў пяці кроках ад іх зямля зрушылася, і з падземнага схову выскачыў Макарэвіч.

— Пусці іх, паскуда, я здаюся.

Салдат, які толькі хвіліну назад шнарыў па хляве, з перапуду стрэліў па чалавеку, што выскачыў з-пад зямлі. Той хіснуўся назад і ўкленчыў. Ашалелыя ад нечаканасці аператыўнікі забыліся пра Алену.

— Ста-ась! — яна кінулася да параненага і абхапіла яго за галаву. Макарэвіч, адчуўшы цёплыя рукі каханай, прыпадняў галаву. На перакошаным ад болю твары з’явілася шчаслівая ўсмешка.

— Аленачка мая, я кахаю цябе, як Белар… — паранены не паспеў дагаварыць.

— Стасечку, не пакідай мяне, малю цябе, не пакідай!

Следам за маці загаласілі дзеці. Алена падскочыла, ухапіла аўтамат, які ляжаў каля Макарэвіча, і замахнулася на Уткіна.

— Будзьце вы праклятыя!

Аўтаматная чарга перарвала крык жанчыны. Яна, як падкошаная, упала на ўтаптаны падворак побач з Макарэвічам. Яе русыя валасы, як саван, захінулі твар забітага.

— Мама-а! — жудасны дзіцячы голас прарэзаў паветра.

— Молчать, выродок! — выкруціўшы руку дзіцяці, прахрыпеў Варонін.

Злосць і адчай авалодалі хлапчуком, ён ваўчанём закруціўся вакол аператыўніка і ўкусіў таго за руку. Афіцэр ускрыкнуў і расціснуў пальцы. Паўлік шмыгануў за плот і імгненна знік з вачэй.

— Ну что стоишь, олух, не отвалится твоя рука, а ну бегом за ним! А вы все чего стоите? Подгоняйте грузовик и загружайте оружие и этих, — Уткін тыкнуў пальцам у бок забітых.

Падначаленыя добра ведалі круты характар маёра і кінуліся выконваць яго распараджэнне. Уткін, застаўшыся сам-насам, хадзіў па падворку і абдумваў дакладную, якую мусіў прадставіць кіраўніцтву пасля вяртання ў Маскву. Яго не клапаціла, што на яго вачах загінулі два чалавекі, што засталіся сіротамі дзеці. Маёр думаў толькі пра даклад начальству і свой будучы ад’езд з гэтага глухога пушчанскага раёна.

Праз некаторы час на падворак вярнуўся задыханы Варонін.

— Товарищ майор, всё обшарил, гадёныш как сквозь землю провалился.

— Да хрен с ним, с этим волчонком. Помогай нашим погрузить трупы и оружие. Мы сваю задачу выполнили, а с остальным пускай местные милиционеры разбираются.

Праз пару хвілін «студэбекер» ужо вырульваў з Лупачоў на дарогу, якая вяла на Слонім.

Калі ў вёсцы ўсё сціхла, Паўлік вярнуўся ў хату. Слёзы сцякалі на кашулю, хлопчык кулачкамі выціраў іх і плакаў, плакаў. Раптам на дзіцячае плячо апусцілася чыясьці цёплая грубая рука. Паўлік ад страху аж прысеў.

— Не бойся, сынок, гэта я, Якуб, твой хросны.

Паўлік прытуліўся да хроснага і загаласіў на ўсю хату, слёзы градам пакаціліся з вачэй.

— Ну, не трэба, сынок, не трэба. Ты павінен быць годны свайго мужнага бацькі. Хадзем лепш да нас, там цётка Лёдзя яечняй смачнай пачастуе.

Так у пяцігадовага Паўліка скончылася бесклапотнае дзяцінства і пачалося сіроцкае жыццё. Якуб Макарэвіч з жонкай Лёдзяй, у якіх і сваіх дзяцей было двое, выратавалі малога ад галоднай смерці ў лесе ці ад рук ліхіх людзей, якіх у паваеннай Беларусі было безліч.

Аляксандру Уткіну толькі гадзіну назад паведамілі, што яго бацьку знайшлі ў кватэры забітым. Калі тры гады таму памерла ад раку маці, клопат па доглядзе за бацькам ён узяў на сябе. Хоць забіты пры жыцці меў неблагую палкоўніцкую пенсію, але дзесьці пад’ехаць альбо нават прыгатаваць сабе ежу яму было ўжо цяжкавата. І толькі цяпер, калі жонка малодшага Уткіна была на пятым месяцы цяжарнасці, ён з’ехаў ад бацькі на ўласную кватэру. Сваю двухпакаёўку лейтэнант Уткін атрымаў ад Кастрычніцкага аддзела міліцыі, дзе служыў аператыўнікам крымінальнага вышуку.

Падняўшыся па лесвіцы, лейтэнант зайшоў у знаёмую з дзяцінства кватэру. Там было шматлюдна, мітусіліся лекары з хуткай дапамогі, у ваннай працавалі маўклівыя эксперты, на кухні палілі абыякавыя панятыя.

Калі санітары пачалі выносіць насілкі з забітым, Аляксандр прыпыніў іх і пацягнуў за край акрываўленай прасціны. Ногі падкасіліся, і ён міжволі апусціўся на калені.

— Отец… — прастагнаў ён.

Тут чыесьці дужыя рукі падхапілі яго за плечы. Ён падняў галаву. Над ім стаяў генерал Нікалаеў, колішні бацькаў сябра і цяперашні начальнік Управы ўнутраных спраў.

— Держись, Саша, держись, ты же офицер.

Апошні раз зірнуўшы на бацьку, Аляксандр падняўся на ногі. Яму хацелася пабыць аднаму, але па кватэры паўсюль снавалі чужыя людзі. Аляксандр з акна назіраў, як у пустым двары санітары грузілі труп бацькі ў шэры «уазік».

— Я здесь дал нужные распоряжения, — перарваў думкі Уткіна генерал Нікалаеў. — Ты не сомневайся, мы этого мясника паймаем быстро. Но сейчас я должен идти.

— Товариш генерал, разрешите обратиться.

— Слушаю.

— Разрешите мне принять участие в расследовании.

— Вообще-то не положено. Впрочем, если хочешь, передай своему руководству, что я приказал.

— Спасибо.

Пасля пахавання Аляксандр прыбраў кватэру і аформіў на службе адпачынак. Затым паехаў у райаддзел міліцыі, які расследаваў забойства бацькі. Даведаўшыся ў дзяжурнага, хто займаецца справай, знайшоў патрэбны кабінет.

— Добрый день, товарищ майор, я от генерала Николаева.

— Ну раз от генерала, проходи.

Начальнік крымінальнага вышуку Іван Бутусаў быў падобны на вінную бочку — гэткі ж круглы, але моцны з нязначнымі завужэннямі па краях. Лысая галава няспынна круцілася на кароткай мясістай шыі. Рукі, як абрэзаныя абручы, бессэнсоўна боўталіся ўздоўж цела. Аляксандр прысеў да стала. У кабінет Бутусава зайшлі шэсць міліцыянтаў. Разбор справы маёр распачаў надзвычай арыгінальна.

— Товарищи офицеры, в связи с тем, что мы с делом по убийству полковника Уткина сами справиться не можем, нам начальник УВД прислал усиление в лице старшего лейтенанта, как тебя?

— Александр.

— Во, как Македонского.

Адчувалася, што маёр злуецца. Аляксандр вырашыў адразу расставіць усе кропкі на «і». Падняўшыся, ён голасна, каб усе чулі, прамовіў:

— Я думаю, что вы, товарищ майор, не совсем правильно изложили суть дела. Я сын убитого. У меня, кроме погибшего отца, на этом свете больше никого нет. И я попросил товарища генерала, чтобы он разрешил мне помочь вам, ничего более. Командовать операцией я совсем не собирался. Но если ваш командир считает, что я буду мешать расследованию, то мне здесь делать нечего, — Уткін адставіў крэсла ўбок і рашуча накіраваўся да дзвярэй.

— Старший лейтенант Уткин! Займите своё место, раз вы к нам прикомандированы.

— Есть.

— А сейчас к делу. Комар, что по оружию убийства удалось выяснить?

Драбнаваты рыжавалосы лейтэнант зачытаў падрыхтаваную загадзя паперу:

— Нож оригинальный ручной работы, рукоять из рога косули, лезвие заточено с одной стороны. Я, товарищ майор, консультировался, такие ножи чаще всего используют охотники на западе Украины и Белоруссии.

— У тебя всё?

— Да.

— Не густо. А что скажут эксперты по отпечаткам, оставленным на рукоятке? Капитан Андреев.

Падняўся хударлявы сівавалосы афіцэр.

— Отпечатки с ножа в нашей картотеке не значатся.

Далей усё ішло, як звычайна ў такіх справах. Праз пару хвілінаў Аляксандр зрабіў выснову, што справа — глушак, следчыя топчуцца на месцы.

Бутусаў выслухаў яшчэ некалькіх афіцэраў, потым паставіў сваім супрацоўнікам задачы і скончыў нараду. Міліцыянты пачалі разыходзіцца. Аляксандр разам з імі рушыў да дзвярэй.

— Уткин, задержись. Я видел, как ты нас слушал и скептически ухмылялся. Но у нас в самом деле ничего серьёзного по этому делу нет.

— Разрешите, я займусь делом автономно.

— Попробуй, но если что-то выяснишь, сразу к нам.

Не марудзячы, з райаддзела Уткін зрабіў запыт наконт падобных выпадкаў, якія мелі месца па ўсім Саюзе. Яшчэ ў Бутусава ён па тэлефоне папярэдзіў жонку, што на час следства ён пажыве ў бацькавай кватэры на Серпухаўскай. Прыехаўшы туды, Аляксандр узяўся гатаваць вячэру. І ўвесь час ён шукаў і не мог знайсці адказаў на многія пытанні.

За што забілі бацьку? У кватэры ўсё на сваіх месцах — грошы, узнагароды, каштоўнасці. Чаму забілі менавіта так — перарэзалі горла? За што? Каму мог перашкодзіць адзінокі, бяскрыўдны стары?

Вечар цягнуўся доўга. Перад тым, як легчы спаць, Уткін дастаў стары бацькаў альбом. На першых старонках былі здымкі яшчэ даваеннай пары, пажоўклыя ад часу фатаграфіі маладых бацькоў, бацькавых сяброў і саслужыўцаў. І тут сэрца Уткіна сціснула, як абцугамі, — з фотаздымка на сына ўзіралася маладая прыгожая маці. Успаміны завірылі ў галаве Аляксандра. Дзяцінства, паездкі з бацькамі на мора, вучоба ў школе…

Аляксандр паклаў альбом на стол і прайшоўся па кватэры. Яго погляд прыпыніўся на здымку, які вісеў на сцяне ў рамачцы. На ім бацька яшчэ з трыма афіцэрамі са зброяй сядзелі на ўскрайку сасновага лесу. Аляксандр зняў фотаздымак са сцяны і прачытаў на адвароце надпіс: *Западная Белоруссия, 1950 г. Справа налево — Сивцевич, Воронин, Апончик, командир майор Уткин.*

Павесіўшы здымак на ранейшае месца, Аляксандр лёг на канапу, дзе заўсёды спаў бацька, накрыўся пледам і амаль тут жа заснуў.

Ранкам яго пабудзіў тэлефонны званок:

— Это Бутусов. Лейтенант, появились интересные факты, зайди.

— Через полчаса буду.

Неўзабаве Уткін ужо заходзіў у кабінет Бутусава. Той адарваўся ад папераў, што ляжалі на стале.

— Пришёл ответ по твоему запросу. В Минске в первых числах апреля таким же образом убит подполковник запаса Сивцевич. В январе этого же года в Смоленске убит пенсионер Воронин.

— Знакомые фамилии, очень знакомые. Именно эти люди есть на общей фотографии в квартире отца. Это его бывшие сослуживцы.

— Западная Белоруссия, 1950 год, — паўтарыў за Уткіным Бутусаў, ускочыў з крэсла і нервова стаў праходжвацца па кабінеце. Вочы начальніка крымінальнага вышуку бегалі з кутка ў куток. Уткін уважліва сачыў за ім. І тут маёр рэзка прыпыніўся і, падняўшы ўказальны палец угору, прамовіў:

— Вот что я тебе скажу, старший лейтенант Уткин, все концы там, в Западной Белоруссии.

— Не совсем понимаю, товарищ майор.

— А что понимать? Нож сделан в западных областях, твой отец служил в Белоруссии, убийства в Минске и Смоленске. Поезжай-ка ты туда. Я наших предупрежу.

— У меня сейчас как раз отпуск, ключи от отцовской «Волги» у меня, собираю удочки, палатку и еду. Белоруссия — край озёр и рек.

— Если что-нибудь пойдёт не так, звони.

У панядзелак зранку Уткін загрузіў загадзя сабраныя рэчы ў легкавік і рушыў у дарогу. Шлях да сталіцы савецкай Беларусі даўся Аляксандру без асаблівых цяжкасцяў. Бацькава аўто было ў належным стане, а малады арганізм не адчуваў стомы. Вось ужо мільгануў Курган Славы, і неўзабаве ён па простым, як узлётная паласа, праспекце ўехаў у Мінск. Засяліўшыся ў ведамасным гатэлі, Уткін (да гэтага яму не даводзілася бываць у Беларусі) пахадзіў па цэнтральных вуліцах, агледзеў жылыя дамы і адміністрацыйныя пабудовы. Мінск яму спадабаўся. Ён нават забыўся, дзеля чаго сюды прыехаў…

У Цэнтральным РАУС Уткіна сустрэлі прыязна:

— Заходзь, лейтэнант, мне наконт цябе тэлефанаваў маёр Бутусаў, — насустрач госцю з-за стала падняўся высокі, рыжавалосы, як паходня, мінскі начальнік крымінальнага вышуку. Працягнуў руку і першым назваўся:

— Сідорык Мікалай Іванавіч. Н-у-у, здарова, масквіч.

Сідорык так сціснуў далонь, што Аляксандру адчувальна забалела.

Тут у кабінет зайшла прыгожая дзяўчына з падносам, на якім было некалькі пустых шклянак, печыва і керамічны імбрык з гарбатай.

— Дзякуй, Алена.

Дзяўчына паставіла паднос, з усмешкай зірнула на Аляксандра і выйшла з кабінета. Маёр наліў кіпеню і падаў адну са шклянак госцю.

— Спасибо.

— Няма за што, можам і па чарцы.

— К сожалению, я за рулём, да и поработать надо. Я же в такую даль не водку пить приехал.

— Ну, наша справа прапанаваць…

Вузкія вочкі Сідорыка калюча слізганулі па Аляксандры.

— Тады пачнём.

Гаспадар кабінета выцягнуў з шуфляды шэрую папку, расклаў перад сабой паперы і пачаў зачытваць факты.

— Забіты Сіўцэвіч, былы супрацоўнік МУС, падпалкоўнік запасу, пасля выхаду на пенсію хварэў, жыў з жонкаю у двухпакаёвай кватэры на вуліцы Кальварыйскай. Забойца сачыў за ахвяраю. Дачакаўся, пакуль жонка сыдзе з хаты, назваўся гаспадару дзяржаўным служачым, пенсіянер адчыніў дзверы і… — Сідорык вялікім пальцам зрабіў характэрны жэст каля горла. — Зламыснік ішоў забіваць менавіта Сіўцэвіча. І зрабіў гэта прафесійна. З кватэры нічога не ўзяў. Таму што… — тут маёр адкінуўся на спінку крэсла і, як падалося Уткіну, з задавальненнем закончыў: — Таму што ён не проста забіваў, ён караў.

— За что?

— Гэта цікавае пытанне.

— Товарищ майор, расскажите мне о службе отца в Белоруссии.

— Гэта можна. Спецгрупа маёра Уткіна была сфармавана ў канцы 1943 года для барацьбы са шпіёнамі і дыверсантамі. Пасля вайны яе не расфармавалі, перавялі ў

МГБ і накіравалі змагацца з нацыяналістамі і рознага кшталту бандытамі на захадзе Украіны і Беларусі. Падначаленых у твайго бацькі было ўсяго тры: капітан Сіўцэвіч, лейтэнант Волкаў, старшына Апончык. Група дзейнічала надзвычай эфектыўна. Таму яе заўсёды накіроўвалі туды, дзе іншыя не спраўляліся.

Сідорык прапусціў факты, не датычныя Беларусі, і расказаў далей пра аперацыю ў Ліпічанскай пушчы ў пачатку пяцідзясятага. Як група Уткіна знішчыла банду Станіслава Макарэвіча. Калі Сідорык скончыў, госць звярнуўся да яго:

— Товарищ майор, я всё понимаю: это официальная информация, а мне хотелось бы знать некоторые подробности. Я понимаю вас, Виктор Иванович, приехал какой-то пацан из Москвы... И всё же, напоминаю вам, убили моего отца.

Сідорык падняўся, моўчкі прайшоўся па кабінеце.

— Разумееш, лейтэнант, праўдзівую пасляваенную гісторыю ў нас цяпер пажадана не ўзгадваць.

— Что вы имеете в виду, товарищ майор?

— Я пра антысавецкую партызанку пасля вайны. У нас не прынята пра яе гаварыць. А як жа, Беларусь — мірны, спакойны засценак Савецкага Саюза. А пра тое, што яшчэ ў пяцьдзясят пятым савецкія чыноўнікі ў заходнія раёны толькі з аховай ездзілі, — маўчок.

— Вам нечего бояться. Меня итересуют только убийцы моего отца.

— Ну глядзі, лейтэнант. Карацей, бандыта, якога ліквідаваў твой бацька, не маглі злавіць аж да лета пяцідзясятага года. Таму што такім, як Макарэвіч, дапамагалі мясцовыя жыхары. Не толькі вяскоўцы і гараджане, але і некаторыя савецкія чыноўнікі, нават мясцовыя міліцыянты.

Уткін са здзіўленнем зірнуў у вочы маёру. А той працягваў:

— Сорак восьмы год. Падраздзелы гэтак званай Беларускай вызвольнай арміі захопліваюць Навагрудак, знішчаюць у горадзе мясцовую міліцыю і разганяюць савецкую ўладу. Праз некаторы час разам з атрадамі УПА БВА штурмуе Кобрын, а яшчэ праз месяц Гайнаўку. Я ўжо не гавару пра тое, што па вёсках і на хутарах у сярэдзіне саракавых зусім савецкай улады не было. Ты сабе ўяві, нават у Заходняй Украіне больш моцныя падраздзелы УПА не захоплівалі такія вялікія гарады, як Навагрудак. Вось табе і спакойная, рахманая, паслухмяная, як бачыцца з Масквы, Беларусь. Вось так, старшы лейтэнант.

— Товарищ майор, разрешите поближе познакомиться с материалами по последней операции, проведённой отцом.

Сідорык дастаў з сейфа скураную сумку.

— Тут усё, што я змог адшукаць па гэтай справе.

— Спасибо.

— Ты толькі, лейтэнант, не забудзь вярнуць сумку. Азнаёмішся — прынясі.

— Хорошо, верну завтра же.

У гатэлі Аляксандр паглыбіўся ў справу, адрываўся толькі на вячэру. Скончыўшы працу пад раніцу, ён ужо не сумняваўся, што адказы на ўсе пытанні трэба шукаць у мінулым.

Падрамаўшы гадзіны дзве, Уткін на скорую руку паснедаў, склаў паперы ў сумку і рушыў з гатэля. Сідорык як быццам нікуды з кабінета і не выходзіў.

— А-а, заходзь, масквіч. Ну, расказвай, што накапаў.

— Боевая операция по ликвидации банды прошла не совсем гладко. При задержании был убит сам Макаревич и его жена. Как вы и говорили, он был очень популярен среди местного населения. Ни одна его так называемая операция против коммунистов никоим образом не касалась местных крестьян. Он был для них этаким белорусским Робин Гудом. Возвращал раскулаченным отобранное имущество. Не позволял конфисковывать активистам скотину. И потом, у Макаревича остались два сына.

— І дзе яны?

— Я в собранных вами документах нашёл отчёт тамошнего участкового. Он в своём донесении пишет, что младшего сына Макаревича после операции отправили в какой-то детдом. А старший и вовсе пропал. Поэтому я собираюсь выдвинуться в Липичанскую пущу поискать очевидцев. Может, жив участковый, который писал отчёт, побеседую с ним.

— Ведаеш, лейтэнант, ты перад пушчай паедзь у Віцебск, там жыве Апончык, ён апошні з групы твайго бацькі. І паспяшайся, а то з улікам таго, як развіваецца сітуацыя, можаш і не паспець.

Перад ад’ездам у Віцебск Уткін патэлефанаваў у Маскву Бутусаву. Далажыў пра сабраную інфармацыю і папрасіў пашукаць жывых удзельнікаў Макарэвічавай банды і яго зніклых сыноў. Пасля вярнуўся ў сваё аўто і дастаў карту Беларусі.

— Так, Витебск на северо-востоке. Заеду туда по дороге в Москву. Начнём всё-таки с пущи.

Праз некаторы час «Волга» выруліла на трасу Масква–Брэст, і Аляксандр дабавіў газу. За Шчарай, пасля дзвюх гадзін язды, аўто завярнула ў Слонім. Праехаўшы па вузкіх вулачках, Аляксандр спыніўся каля мясцовага РАУС. Паказаўшы пасведчанне супрацоўніка Маскоўскага крымінальнага вышуку, ён даведаўся, дзе жыве былы ўчастковы, які ў пяцідзясятыя служыў у Лупачах.

Вуліца на ўскрайку горада больш нагадвала вясковую, чым гарадскую. Па ёй з раніцы да вечара шуравалі вялізныя лесавозы, якія вазілі драўніну на тамтэйшы тартак. Пра такую дарогу мясцовыя казалі — падвязвай зубы. Прыпаркаваўшы аўто так, каб яго не зачапілі лесавозы, Уткін падышоў да глухіх зачыненых варотаў і пагрукаў кулаком.

— Чую-чую, іду.

Праз хвіліну нязмазаныя завесы зарыпелі, і ў шчыліне з’явілася сівая галава пажылога бяззубага мужчыны гадоў сямідзесяці.

— Товарищ Прокопик?

— На нашай вуліцы пяць Пракопікаў.

— Мне нужен Анатолий Михайлович.

— Каму гэта — мне?

Уткін дастаў сваё чырвонае пасведчанне і працягнуў суразмоўцу. Той зірнуў спрактыкаваным вокам і нарэшце ўпусціў госця на падворак.

— Я Анатоль Міхайлавіч Пракопік. Слухаю вас.

— Мне необходимо с вами побеседовать о вашей службе в Лупачах.

Стары прысеў на лаўку пад разгалістай яблыняй і запрасіў прысесці Уткіна.

— Я из Москвы, там несколько недель назад был убит мой отец полковник Уткин.

— А я тут пры чым? — суха пацікавіўся былы ўчастковы.

— Дело в том, что таким жа образом убили ещё несколько человек: все они сослуживцы отца.

— І чым займаўся ваш бацька?

— Група отца боролась здесь з бандами националистов. В 1950 году в деревне Лупачи они уничтожили некоего Станислава Макаревича. Я думаю, эти два дела связаны между собой.

— А як іх забілі?

— Всем троим перерезали горло.

— Бачыш, лейтэнант, у чым справа. Я праслужыў у Лупачах участковым аж дваццаць пяць гадоў. Пушчанцы — народ своеасаблівы. За стагоддзі адасобленага жыцця ў іх выпрацаваліся свае звычаі, правілы. У чымсьці нам незразумелыя. Напрыклад, я неаднаразова чуў ад пажылых пушчанцаў, што з незапамятных часоў у іх існаваў закон — забойцу невінаватага чалавека нехта з роду павінен быў пакараць. Перарэзаць горла.

— Так вот как раз у Макаревича осталось два сына. Куда они исчезли?

— Падчас вайны і пасля яе ў лясных вёсках нараджаліся і паміралі дзеці без усялякага ўліку. Ды які там улік, калі з раёна да тых вёсак выбарчыя скрыні давезці не маглі. Калі дзеці Макарэвіча засталіся ў сваякоў-хутаранцаў, то ты ніколі не даведаешся, у каго менавіта. І самае галоўнае, ты павінен ведаць, што ў пушчанскіх вёсках усе паміж сабою браты, сёстры і кумы. Свайго чужым там ніхто не выдасць.

— Ну а если поднажать?

— Паспрабуй, ды толькі ведай: на іх і палякі, і немцы націскалі, і дзе яны цяпер?

— А что тогда делать?

— Табе трэба ехаць у Лупачы і разбірацца на месцы па-добраму. Ну, калі ў цябе ўсё, то мне да работы пара.

— Спасибо за информацию.

Вароты прыадчыніліся, і Уткін выйшаў на вуліцу. Сонца няўмольна кацілася на захад. Летні вечар паціху авалодваў Слонімам. Аляксандр зноў разгарнуў карту.

— Так, ехать до Козловщины, потом на Подвеликое, а там через лес на Лупачи.

«Волга» ішла выдатна — Аляксандр неаднойчы дзякаваў бацьку ў гэтым падарожжы за стан аўто. Навакол была толькі пушча, сям-там мільгалі невялічкія вёсачкі.

Незаўважна пачало цямнець. Аляксандр уключыў фары і збавіў хуткасць. Раптам неба і зямлю асвяціла маланка, здавалася, свет скалануўся ад грому. Уткіну падалося, што «Волга» ажно падскочыла на дарозе. Неўзабаве паліў такі лівень, што фары асвятлялі дарогу толькі метраў на пяць. Ехаць было небяспечна. Аляксандр усё ж вырашыў не спыняцца. Па яго разліках, Лупачы павінны былі быць дзесьці побач. Аднак праз гадзіну язды Уткін зразумеў, што заблудзіўся. Паабапал цёмнай лясной дарогі не было відаць ніводнага паказальніка.

Пераадольваючы вялікую лужыну, «Волга» некалькі разоў буксанула і застыла на месцы, як укапаная. Аляксандр адчыніў дзверкі і, не вылазячы пад дождж, ацаніў сваё становішча. Лужына калыхалася, як мора.

Раптам з цемры прагучаў чыйсьці голас:

— Давай падмагу. На раз-два.

Часу высвятляць, скуль узяўся выратавальнік, не было. Уткін націснуў на газ.

— Яшчэ крыху, давай, давай, — здавалася, разгойдваў «Волгу» голас.

Машына паціху выпаўзла з лужыны. Аляксандр прыпыніўся на пагорку і пачакаў свайго выратавальніка. Пасажырскія дзверы адчыніліся, і на сядушку заскочыў прамоклы да ніткі хлопец гадоў дваццаці пяці. Больш дэталёва разглядаць пасажыра Уткін часу не меў. «Волга» рванула з месца.

— Не спяшы, а то зноў забуксуеш. Бярыся праваруч пад самыя хвоі — там цвярдзей, — азваўся незнаёмец.

Уткін так старанна «браўся пад хвоі», што ледзь не заехаў у гушчар. Раптам наперадзе завіднеўся цьмяны агеньчык. Яшчэ некалькі паваротаў, і аўто апынулася на вузкай вясковай вуліцы. Кіроўца націснуў на тормаз.

— Будем знакомы, я Александр.

— Павел. Рускі?

— Москвич.

— Ну, добра, масквіч, хадзем у хату, падсохнем.

— Спасибо, я не промок.

— Ну, як хочаш, — Павел бразнуў веснічкамі і растварыўся ў начы. Аляксандр выйшаў з аўто на вуліцу і запаліў цыгарэту. Дождж амаль скончыўся, па хатах сям-там свяціліся агеньчыкі. Уткін не ведаў, у якой вёсцы знаходзіцца. Але яму і не хацелася гэта высвятляць. Стома хіліла да сну. Ён залез у «Волгу» і накрыўся прыхопленай коўдраю. Дождж, заціхаючы, наганяў сон...

Сонечны прамень ласкава казытнуў твар. Уткін расплюшчыў вочы і прыадчыніў дзверкі. У аўто хлынула свежае прахалоднае паветра. Рубленыя моцныя хаты, як баравікі, стаялі на зарослых дзікім хвашчом пагорках.

— Прывітанне, масквіч.

Каля весніц, апёршыся на слуп, стаяў яго ўчарашні выратавальнік. Толькі цяпер Аляксандр уважліва разгледзеў яго. Хлопец быў сярэдняга росту, акуратна падстрыжаны і паголены. Валасы меў цёмна-русыя і крышку кучаравыя. Без кашулі ён выглядаў атлетам.

— Занимаешься спортом?

— Ды не, проста ўсё жыццё ў пушчы. Нарыхтоўка дроў, сена, грыбы, працы — за тры жыцці не перарабіць.

— В армии где служил?

Раптам Павел нахмурыўся, а потым насцярожана пацікавіўся:

— А ты што, мент, каб допыт тут праводзіць?

— Да нет. Слажен ты, как спортсмен. Поэтому и спросил.

— А ты хто?

— Я журналист, направлен сюда редакцией для сбора материала о местных партизанах.

— Ладна, хадзем снедаць, — Павел ступіў пару крокаў і азірнуўся, чакаючы Уткіна. Яны адзін за адным зайшлі ў хату.

— Мамо, прымай госця. Учора іду з Дварка, бачу, «Волга» буксуе каля Шчары.

Каля печы ў простай хустцы і фартуху стаяла хударлявая, стараватая ўжо жанчына. Аляксандр не разгледзеў ні колеру яе вачэй, ні шэрага твару. Яго позірк прыпыніўся на жылістых руках жанчыны. Яны спрытна, амаль адначасова налівалі цеста на адну патэльню і даставалі з печы другую. У хаце смачна пахла блінамі.

— Ах божа мой, мог жа ў багну заехаць.

— Я не понял, какая ещё багна?

— Ведаеш, масквіч, каб ты ўчора з дарогі яшчэ трохі ўзяў лявей, то не дасталі б мы ні цябе, ні тваёй «Волгі»… Ну добра, вандроўнік, балота засталося ў мінулым. Зараз мама, яе завуць Лёдзя, пачастуе нас блінамі.

Жанчына ніяк на зрэагавала на сынава прадстаўленне, яна працягвала ўпраўляцца з патэльнямі.

— Мне бы помыться.

— Вунь пад яблыняй рукамыйнік. Мыйся і за стол.

Спаласнуўшы твар, Уткін вярнуўся ў хату, прыхапіўшы з аўто пляшку «маскоўскай» і паўтаўкача доктарскай каўбасы. Малады гаспадар ужо сядзеў за сталом.

— Сядай, масквіч.

Тут Аляксандр заўважыў у Паўла ў руках пляшку без налепкі.

— Нет-нет, я пью только государственную.

— Слухай, ты журналіст?

— Да.

— Тады пі нашу — будзе пра што пісаць.

Уткін махнуў рукой. Гаспадар напоўніў чаркі.

— Будзьма. — Яны амаль адначасова выпілі.

— Ого, — Аляксандру перахапіла дых. Павел выпіў спакойна, падчапіў з патэльні колца каўбасы і лагодна заўважыў:

— Карчоўка — жывы агонь.

Тут паветра пакрысе пачало паступаць у лёгкія Аляксандра, і ён ледзь прашаптаў:

— Спи-ирт?

— Які спірт? Я ж кажу — карчоўка, гарэлка сваёй вытворчасці.

Закусваючы, Уткін агледзеў хату. Пабеленыя сцены, просценькія суконныя занавескі на вокнах, падмеценая падлога. Погляд прыпыніўся на здымках у драўлянай рамцы. Адзін з іх асабліва зацікавіў Аляксандра. На ім у атачэнні двух маладых хлопцаў стаяў у форме дэсантніка гасцінны гаспадар.

— Значит, ты служил в десанте?

— Ну так. Гэта я пасля дзембелю са сваімі братамі-аднагодкамі.

— И сколько их у тебя?

Тут у размову ўмяшалася маці:

— Двое — Мікола і Юзік.

— Так вы тройнята?

— Ну, можна і так сказаць, — не ўзнімаючы галавы ад талеркі, сказаў Павел.

— А где они сейчас?

— Абодва ў Мінску жывуць. Цэлы месяц былі ў нас, а сёння зранку бацька запрог каня і адвёз на аўтобус, — зноў падала голас маці.

— А ты, Павел, где работаешь?

— Цэлую раніцу ты ўсё пытаешся і пытаешся. Ну, чыста міліцыянер.

— Не милиционер, а журналист.

Адчуўшы, што сапраўды задае зашмат пытанняў, Уткін заціх і моўчкі стаў паглынаць сняданак. Запанавала няёмкае маўчанне, якое парушыла маці:

— Павел, ты зусім не гасцінны. Вы, чалавеча, на яго не звяртайце ўвагі. Усё жыццё ў пушчы, аб'ездчыкам у Вензаўцы працуе. Усё трэба абысці, усё трэба пабачыць, а тут яшчэ браканьеры…

Уткін першым падняўся з-за стала, падзякаваў гаспадыні за смачныя бліны, а перад адыходам спытаўся:

— Скажите, пожалуйста, с кем здесь можно поговорить о партизанах?

Маці зірнула на Паўла, потым на Аляксандра.

— То вам трэба да Маскаля пад'ехаць. Ён быў у партызанах. Калі застанеце цвярозым, то ён шмат чаго пра вайну наплясці зможа.

Тут Павел усміхнуўся:

— Толькі ты дзеда Маскалём не назаві. Яго прозвішча Макарэвіч, а імя Міхась.

— Макаревич? — Аляксандр рэзка спыніўся на парозе.

— Тут палова вёскі Макарэвічы, а другая — Лупачы. Толькі па мянушках і розняцца.

Аляксандр яшчэ раз падзякаваў за сняданак і выйшаў за дзверы. Павел рушыў за ім.

— Ну што, масквіч, бывай, — Павел працягнуў руку.

— Да я ещё не уезжаю.

— Затое мне пара.

— Может, ещё свидимся?

— Хто ведае, — неяк загадкава пасміхнуўся Павел.

Уткін пад'ехаў да хаты Маскаля-Макарэвіча. Каля шэрай неашаляванай сцяны сядзеў стары дзед, апрануты ў авечую камізэльку. На босых нагах меў галёшы, зробленыя з гумовых ботаў. Уткін адчыніў весніцы і накіраваўся да чалавека.

— Здравстуйте! Я из московской газеты, хотел бы поговорить с вами о партизанах.

— Пра што, пра што пагаварыць? — наставіў правае вуха стары.

— О партизанах, дед, о партизанах, — амаль закрычаў Уткін.

— Пра партызанку? — адразу пажвавеў стары. — Дык вось. Памятаю, сядзім мы ў засадзе… — Пра гэты выпадак дзед Маскаль расказваў усім, хто да яго прыязджаў і прыходзіў, ужо гадоў дваццаць.

Уважліва паслухаўшы для прыліку былога партызана, Аляксандр асцярожна перакінуў масток на партызанку другую — антысавецкую. Дзед, не разумеючы, чаго ад яго хочуць, паклікаў жонку. Тая, выскачыўшы з хаты, тут жа ўступіла ў размову:

— Вы ў яго не пытайцеся пра пасляваенную партызанку, ён нічога пра яе не ведае. Служыў пасля вайны на Далёкім Усходзе і вярнуўся ў Лупачы толькі ў пяцьдзясят трэцім. А от я сёе-тое помню.

Уткін разгарнуў нататнік і ўзяў аўтаручку — як сапраўдны журналіст.

— Помните, здесь у вас в пятидесятом разгромили банду Макаревича?

— Як жа такое забудзеш, дзетачка?

— Так вот, неизвестно, куда девались его малые сыновья. Вы не знаете, кто их взял к себе?

Ад пачутага пытання жанчына змянілася ў твары. Яна схапіла старога за руку і моўчкі пацягнула ў хату.

— Извините, но как насчёт детей Макаревича?

— Мы нічога не ведаем. А дзеду пара прымаць лекі. Так што прабачце, нам няма калі.

На зарослым падворку Уткін застаўся адзін, пасядзеў і вырашыў шукаць сельсавет.

Праз паўгадзіны калатнечы па калдобістай лясной дарозе «Волга» выруліла ў даволі вялікую вёску на ўскрайку пушчы. Мінуўшы двухпавярховую школу і пабеленую краму з шыферным дахам, Уткін прытармазіў каля цаглянага будынка сельсавета. Аляксандр вылез з аўто і акінуў поглядам вёску. Пафарбаваныя платы і ашаляваныя хаты выглядалі даволі прывабна.

У гэты час з сельсавета выйшаў чалавек сярэдніх гадоў. Аляксандр паспяшаўся яму насустрач.

— Я из Москвы, журналист, пишу о партизанах.

— Старшыня сельсавета Міхаіл Мікалаевіч Мазур. І чаго ад нас хоча Масква?

— Я собираю материал о банде Макаревича. Вроде всё уяснил, а вот куда подевались его сыновья — никто не знает.

— І я не ведаю. У нас тут у сорак дзявятым лясныя забілі старшыню сельсавета. І больш на гэтую пасаду ніхто не пагаджаўся. Тады прызначылі старшынёй мясцовага — Антося Якубеню. І не паверыш — забойствы скончыліся. Лясныя яго чамусьці не чапалі. Антось у нашым сельсавеце доўга працаваў. Вам, думаю, да яго трэба. Вунь за школаю яго хата. Калі хочаш з ім толкам паразмаўляць, спачатку ў краму заскоч. Ён гэта дзела любіць, — старшыня пстрыкнуў пальцам па горле.

Аляксандр зайшоў у краму і, набыўшы пляшку віна з фіялетавымі слівамі на налепцы, накіраваўся да былога старшыні. Даволі вялікі дом выглядаў занядбаным. Уткін зайшоў на падворак праз расхлябчаныя вароты. З хаты даносілася грубая лаянка. Уткін прыслухаўся. Хрыплы прыглушаны голас належаў мужчыне, а сіплы, падобны на шыпенне гусака, быў, пэўна, жаночы. Аляксандр пагрукаўся ў дзверы.

— Хто там, тваю маць?

— Я вина принёс, — замест прывітання гукнуў Уткін. Амаль адразу дзверы са скрыгатам адчыніліся.

— Ты хто? — з хаты выглянуў даўно не голены мужчына.

Нічога не адказваючы, Аляксандр паказаў гаспадару пляшку. Той, як кот за валяр’янкаю, пацягнуўся за віном. З-за яго плячэй паказаўся варты жалю бяззубы жаночы твар.

— Жонка?

— Ды не, проста баба. — Якубеня павярнуўся і пастрашыў кулаком. Жанчына знікла. — Заходзь.

— Товарищ Якубеня, я из московской газеты. Вы работали в пятидесятые годы председателем местного сельского Совета.

— Працаваў, а што? — адразу насцярожыўся стары.

— Меня интересует банда Макаревича, а именно судьба его сыновей. Младшего как будто в детдом отправили, а вот куда старший пропал?

— Куды прапаў, пытаеш? Часы былі — не прывядзі гасподзь, я на старшыню не пагаджаўся, але выбару не было.

— Как это?

— А вось так. Увальваюцца ў хату начальнікі з Гародні і Мастоў, а з імі міліцыянеры, следчыя. І прыперлі да сцяны — альбо на поўнач з раскулачанымі, альбо ў старшыні. — З кожным словам Якубеня ўсё больш ласа пазіраў на пляшку, якую Аляксандр трымаў у руках. — Што было рабіць — згадзіўся. А пра тое, як «прызначалі», расказаў Стасю.

— Какому Стасю?

— Макарэвічу.

Раптам Якубеня вырваў з рук Уткіна пляшку, зубамі сарваў бляшаны корак і перакуліў яе сабе ў горла. Праз пару хвілінаў былы старшыня палагоднеў, у яго дрыжачых руках з’явіўся пакамечаны пачак «Прымы».

— Ну, рассказал Макаревичу. Что дальше-то?

— Што далей? А ты хіба не бачыш — я жывы, а да мяне чатырох на той свет…

— Так всё-таки где искать его старшего сына?

— А што яго шукаць, у нас усе пушчанцы ў лясгасе працуюць.

Якубеня раптам так асалавеў, што прыхінуўся да сцяны і імгненна захроп. Уткін вярнуўся ў сваё аўто.

— Надо звонить в райотдел, пусть они этого Якубеню сами допрашивают. В каком «лясгасе», под какой фамилией…

Аляксандр завёў рухавік і накіраваўся ў бок Лупачоў. У галаве ўсплывала размова з былым старшынёй.

— Что-то, может, я пропустил? Стоп! — «Волга», падняўшы хмару пылоты, застыла на ўзбоччы.

— А если это Павел? — Уткін ад нечаканай думкі ажно ўспацеў. Успомніліся Паўлавы словы: «Можна лічыць, трайняты. Тут усе Макарэвічы». — Но что делать дальше? Ехать в Вензовец одному? А если это вправду он? Надо пазвонить в райотдел, пусть пришлют опергруппу.

Уткін заскочыў у аўто і націснуў на газ. «Волга» нібы адчувала стан гаспадара і ехала надзвычай хутка. Адолеўшы саракакіламетровы кавалак дарогі, вырулiла ў цэнтры Вензаўца. Аляксандр зайшоў у будынак лясніцтва, адчыніў дзверы ў кабінет ляснічага. За сталом каля акна сядзеў немалады мужчына і перабіраў дакументы.

— Здравствуйте.

Чалавек адарваўся ад сваіх спраў і ўважліва паглядзеў на Аляксандра.

— Вам хто патрэбен?

— Я ищу Макаревича.

— Ён у адпачынку.

Прыкідвацца журналістам часу не было, і Уткін дастаў з кішэні міліцэйскае пасведчанне. Ляснічы быў чалавекам дасведчаным і адразу сцяміў, што сітуацыя дужа сур’ёзная, калі да яго ў лес прыехаў міліцыянер ажно з Масквы.

— Телефон работает?

— Зранку працаваў.

— Я вас попрошу выйти.

Ляснічы падхапіўся і знік за дзвярыма. Уткін адшукаў у нататніку мінскі тэлефон Сідорыка.

— Маёр Сідорык слухае.

— Товарищ майор, это лейтенант Уткин.

— Слухаю, лейтэнант, што ў цябе?

— Думаю, что я его нашёл. Павел Макаревич, уроженец деревни Лупачи, сотрудник Вензовецкого лесничества Дятловского района.

— Малайчына, лейтэнант, узялі?

— Да нет, поэтому и звоню. Он, по всей видимости, отправился в Витебск. Возле дома Апончика нужно срочно сделать засаду.

— Зробім. І для цябе ёсць інфармацыя. Я тут дамовіўся з дзетдомам наконт другога сына, дам адрас, ты заедзь да іх.

— Я выезжаю.

Увесь час, пакуль «Волга» імчала ў Мінск, у галаве Уткіна выбудоўваўся план затрымання забойцы. Перад Мінскам Аляксандр, зірнуўшы на гадзіннік і ўбачыўшы, што мае час, вырашыў заехаць у дзетдом. Праз паўгадзіны язды па мінскіх вуліцах Уткін прытармазіў каля будынка па названым Сідорыкам адрасе. Аляксандр спяшаўся, таму адразу скіраваўся да дырэктара.

— Хто вас цікавіць? — у кабінеце сядзела поўная жанчына сярэдняга веку.

— Мне срочно нужны данные по мальчику, прибывшему к вам в тысяча девятьсот пятидесятом году. Его привезли сотрудники милиции из-под Слонима.

— Імя і прозвішча хлопчыка ведаеце?

— Александр Макаревич, на момент поступления к вам — два года.

Жанчына запісала на паперку дадзеныя і выйшла. Хутка вярнулася з папкай у руках. Уткін не мог спакойна чакаць.

— Ну что там?

— Чытайце, — разгорнутая папка легла на стол перад Аляксандрам. Яго вочы забегалі па тэксце, шукаючы патрэбную інфармацыю.

— Не можа быць, — ледзь не прастагнаў Уткін. У кабінеце запанавала цішыня. Наведвальнік сядзеў над папкаю з пабялелым тварам.

— Што-небудзь не так? Там па-беларуску, давайце я прачытаю.

— Аляксандра Макарэвіча, прадставіўшы ўсе неабходныя паперы, усынавіла сям'я Уткіных. Адрас: Масква, вуліца Вялікая Серпухаўская. Бацька — супрацоўнік органаў унутраных спраў, маёр Уткін Мікалай Іванавіч. Маці — Соф'я Аляксандраўна, выкладчыца рускай мовы і літаратуры СШ № 10.

Аляксандр адарваўся ад сваіх думак і звярнуўся да дырэктаркі:

— А ошибки в записях быть не может?

— Вы аб чым? — загадчыца насупіла бровы. — У нас сталічная ўстанова, а не вясковая амбулаторыя.

— Вы меня простите, очень важная запись.

— Я яшчэ раз вам кажу — у нас памылкі не можа быць. Гэта ж дакументы.

— Спасибо, — Аляксандр як у прастрацыі падзякаваў дырэктарцы і выйшаў на вуліцу.

Розум не пагаджаўся з атрыманай інфармацыяй. Ён, Аляксандр Уткін, аказаўся сынам забітага ў пяцідзясятым годзе партызана-антысаветчыка Макарэвіча. І менавіта ён шукае забойцу свайго названага бацькі — роднага брата! Разуменне, што яго сапраўдных бацькоў знішчыў чалавек, якому ён абавязаны ўсім — і шчаслівым дзяцінствам, і вучобай, і службай у органах, — не ўкладвалася ў ягонай галаве. Успомнілася, як калісьці ў школе настаўніца расказвала пра адабраных туркамі славянскіх дзяцей, якія пасля забівалі сваіх родных.

— Значит, и я теперь как янычар? И всё же, как быть с Павлом? Ведь именно я сделал так, что его ищет милиция по всему Советскому Союзу, а впереди у него — тюрьма или «вышка». Но он же убийца! Но и отец убивал, и человек, который меня вырастил и воспитал, тоже убийца. А кто я? Нет, эту вендетту надо обязательно закончить. Если я арестую Павла, то его могут расстрелять. Чем же я лучше остальных? Что же делать? — Аляксандр выйшаў з аўто. Відаць, усе перажыванні адбіліся на ягоным твары, бо пажылая жанчына, што ішла міма, спынілася і запытала:

— З вамі ўсё ў парадку?

— Да-да, всё нормально.

Уткін вырашыў ехаць у Віцебск. Усю дарогу ён услых разважаў, што можа адбыцца.

— Если не успею, Павел пра задержании может оказать сопротивление, его убьют. Надо спешить.

Парушаючы ўсе хуткасныя рэжымы, «Волга» праз гадзіны дзве ўляцела ў Віцебск. Праехаўшы па горадзе, Уткін прыпыніўся крыху воддаль ад вуліцы, на якой жыў Апончык.

— Они Павла в лицо не знают, значит, будут брать непосредственно при совершении преступления. Надо перехватить его на подходе.

Высветліўшы месцазнаходжанне кватэры Апончыка, Аляксандр знайшоў непрыкметнае месца, адкуль пад’езд быў відзён як на далоні. І не паспеў дапаліць першую цыгарэту, як заўважыў Паўла, што сачыў за падворкам. Той яшчэ крышку панаглядаў і подбегам накіраваўся на аўтобусны прыпынак. Уткін ледзь паспеў заскочыць у той самы аўтобус.

Праз некалькі прыпынкаў Макарэвіч выйшаў з аўтобуса, Уткін зрабіў тое самае. Назіркам за Паўлам ён прыйшоў у прыватны сектар на ўскраіне горада. Неўзабаве Макарэвіч завярнуў на падворак мураванай хаты. Марудзіць не выпадала. Уткін, агледзеўшыся навокал, пацягнуў за ручку ўваходных дзвярэй. І толькі пераступіў парог, як атрымаў моцны ўдар па галаве. Ногі падкасіліся, цела абмякла, і Аляксандр страціў прытомнасць…

Праз некаторы час ён з цяжкасцю расплюшчыў вочы. Моцна балела галава. Аляксандр з цяжкасцю прыўзняўся і агледзеў хату. Звычайная мэбля, стол каля акна з чатырма крэсламі, старая канапа і брудны рукамыйнік на сцяне.

— Ну што, масквіч, ачуняў?

Аляксандр павярнуўся і ўбачыў Паўла. Той стаяў, апёршыся на вушак, і пільна сачыў за ім.

— Ты мне прабач, масквіч, я да цябе не маю прэтэнзій. Хаця хто цябе ведае, — Макарэвіч дастаў з кішэні пасведчанне і ўслых прачытаў:

— «Старший лейтенант Уткин». Я яшчэ на дарозе каля Шчары зразумеў, што ты міліцыянт.

— И чем же я себя выдал?

— Пытанняў шмат задаеш, лейтэнант.

— И что ты будешь делать дальше? Тебе же человека убить — как петуха зарезать.

— Я не забойца.

— Ты же одного за другим убиваешь старых, безобидных людей. Кто же ты после этого?

— А ты сам падумай, масквіч. Жыла-была сям'я. Маці настаўніца, бацька ляснічы, жылі душа ў душу, мелі двух сыноў. І прыйшлі аднойчы ворагі, сярод якіх быў твой бацька. Застрэлілі ляснічага, застрэлілі настаўніцу на вачах дзяцей. — Паўла калаціла, як быццам ён стаяў голы на марозе.

— Тогда была война, и мой отец исполнял свой долг.

— Які доўг?! Паліць і забіваць мірных людзей — гэта доўг?!

Уткін не хацеў апраўдвацца, ён проста маўчаў. Павел, апусціўшы галаву, прайшоўся ад акна да дзвярэй.

— Лейтэнант, мяне ў савецкай школе вучылі, што за бязвінных ахвяр трэба помсціць. І я буду помсціць за забітых бацьку і маці, за скрадзенага, а можа, таксама забітага брата.

Тут Уткін не стрымаўся:

— Нет, Павел, его не убили. Я — твой брат.

— Гэта няўдалы жарт.

— Я не шучу. После известных событий в Лупачах меня определили в минский детдом. А оттуда через несколько месяцев меня забрала и усыновила семья Уткиных.

У пакоі запанавала такая цішыня, што было чутно, як у міжваконні біўся аб шыбу матылёк.

— Не веру.

— Я докуметы об усыновлении несколько часов назад в руках держал. Ты меня развяжи, и мы вместе подумаем, что делать дальше.

Павел моўчкі хадзіў па пакоі, потым ён упрытык падышоў да Уткіна, паглядзеў яму ў вочы… Праз хвіліну ў руках Макарэвіча бліснуў нож. Аляксандр прафесійным вокам заўважыў, што ён вельмі падобны на нож, які знайшлі аператыўнікі ў кватэры забітага бацькі. Павал засунуў нож за пояс.

— Я мушу скончыць, што распачаў.

— Ты хочешь убить Апончика? Да ты и на сто метров к нему не подойдёшь. Тебя там ждут.

Павел прысеў на крэсла і, запаліўшы цыгарэту, пачаў разважаць услых:

— Я не магу не скончыць. Я як быццам цяпер чую голас бацькі.

— О чём ты говоришь, я не понимаю.

— Наш бацька ведаў, што яму не перамагчы ў яго барацьбе. Я не спаў у тую апошнюю ноч і чуў, як маці прасіла, каб ён склаў зброю. Але бацька вырашыў змагацца да канца. І загінуў. Я павінен гэта скончыць.

— Да тебя подстрелят, как зайца. А ну развяжи!

— Ты пацярпі, я хутка. — Макарэвіч рушыў да парога.

— Павел, не ходи туда, я тебя прошу.

У адказ бразнулі дзверы. Аляксандр агледзеўся. У хаце не было нічога такога, каб выкарыстаць для вызвалення. І тут погляд звязанага спыніўся на акаваным жалезам прыпеку печы. Падсунуўшыся разам з крэслам, Аляксандр пачаў шараваць вяроўкаю па жалезным канцы. Путы пакрысе пачалі паддавацца. Нарэшце вяроўка парвалася, і рукі, як бізуны, апалі долу. Адсопшыся, Аляксандр вызваліўся ад путаў і на нагах. Падхапіўшы са стала сваё міліцэйскае пасведчанне, хутка рушыў з дому. На вуліцы спыніў легкавік, паказаў пасведчанне і назваў адрас. Каля дома, дзе жыў Апончык, адбывалася нешта незвычайнае. Туды з розных бакоў пад’язджалі міліцэйскія аўто, стаяла і хуткая дапамога.

— Туды нельга, — прыпыніў Аляксандра малады міліцыянт. Уткін прад’явіў чырвоную кніжачку, сяржант казырнуў.

Аляксандр распіхаў натоўп і зніякавеў. Проста на зямлі ляжала скрываўленае цела Паўла, над якім мітусіліся некалькі лекараў.

— Усё, канец, — разагнуўся над целам лекар, які выглядаў старэйшым медбрыгады.

— Ён не павінен памерці, не павінен! — крычаў каля бездыханнага цела Паўла начальнік мясцовага крымінальнага вышуку, сутулы маёр. Той жа лекар толькі развёў рукамі.

Аляксандр нахіліўся над загінулым братам.

— Та-ак, а гэта хто такі? — як певень, скочыў да яго раззлаваны маёр. Уткін паказаў яму пасведчанне. Прачытаўшы прозвішча, маёр неяк раптоўна супакоіўся:

— Мне наконт цябе Сідорык тэлефанаваў. Выдатную справу зрабіў ты, лейтэнант, такога злыдня вылічыў. Шкада, што жывым не ўдалося ўзяць. Я перад тваім кіраўніцтвам буду хадайнічаць, каб цябе адзначылі.

Маёр ухапіў правую руку Алеся і моцна патрос.

Праз паўгадзіны на месцы, дзе адбылася трагедыя, засталася толькі цёмна-карычневая крывавая пляма, пасярод якой віднеўся след міліцэйскага бота…

Падпалкоўнік Сідорык сядзеў за сталом і чытаў толькі што прынесеную зводку правапарушэнняў па Беларусі:

— У Мінску 10 снежня 1971 года «МАЗ» на пераходзе збіў чалавека. У Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці ўчастковы выявіў і канфіскаваў у грамадзяніна М. Мяшкевіча пяцьсот літраў самагону. — Тут Сідорык усміхнуўся. — У Віцебску ў сваёй кватэры знойдзены з перарэзаным горлам грамадзянін Апончык…

Падпалкоўнік уздыхнуў, падняўся з крэсла і падышоў да акна. У горадзе распачыналася завея, вецер свістаў за шыбай, як старанны дружыннік.

— Я ж казаў Бутусаву не здаваць справу Макарэвіча ў архіў. А ён далдоніў, як дзяцел: забойца ліквідаваны, больш забойстваў не будзе. Ну, канечне, куды нам да маскоўскіх, мы ж беларускія шапавалы, а не следчыя.

Сідорык, як зачараваны, глядзеў у акно на заснежаны горад. Снег ішоў па усёй Беларусі, накрываючы халодным белым саванам і Мінск, і Віцебск, і далёкую пушчанскую вёску Лупачы…

нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна. Кіруе малым прадпрыемствам «Вітаўт». Выдаў кнігу гістарычных нарысаў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў», кнігу прозы «Чорная Воля». Старшыня абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.





МІХАСЬ ЗІЗЮК

## Навошта анёлам крылы

*Аповесць*

Яго новая, непераможная, мудрасць была мудрасцю таму, што ў ёй не было нічога скутага. У ёй было натхненне, сардэчны боль, неасэнсаваная прыхільнасць да аднаго і агіда да другога.

*У. Караткевіч. «Ладдзя Роспачы»*

1

— Жалязнікін!

— Пётр Іванавіч.

— Заборскі!

— Аляксей Іванавіч

— Зайцаў!

— Васілій Пятровіч.

Паўсядзённая турэмная пераклічка даўно ўелася ў косці, але дзе ад яе дзенешся. З усіх бакоў калючка, падвоеныя высачэзныя платы, вартавыя на вышках, сабакі, а за дротам — заснежаныя лясы. Толькі ў думках можна паляцець дахаты, зазірнуць у роднае акенца, дзе чакаюць цябе. Ды калі яно будзе, роднае акенца? Яшчэ і паловы тэрміну не мінула, усяго паўтара года з трох з паловаю. Аляксей Заборскі панура падняў галаву. Шэры вечар даўно згусціў цемень на турэмным двары. Жоўтыя ліхтары падслепавата пырскалі сваім святлом у юлёвую чарнату надыходзячай ночы, каб сагнаць змрок ды цемру разам з жудасным холадам. Толькі спробы былі марнымі. Вакол, у абдоймах надышоўшай ночы, маркоціліся цені жылых будынкаў, падсобных памяшканняў, складоў, вытыркаліся над дротам счарнелыя прымарожаныя вышкі. Адно толькі бялела вялізная гурба снегу каля адміністрацыйнага будынка калоніі ды над пляцам дзівосна клубілася воблачка белага туману, ці то ад чалавечага дыхання, ці то ад добрага з ночы марозу. Натапырыліся на вышках вартавыя, патупвалі каля атрадаў канваіры, голасна брахалі рудыя з шэрым адценнем аўчаркі, ашчэрыўшы клыкаватыя пашчы. Час, здавалася, спыніўся тут, на гэтым пляцы. І не існуе больш нічога на ўсім белым свеце, акрамя вось гэтай калоніі, марозу і вышак. Адно кружацца, мітусяцца назойлівыя паспешніцы-думкі, што не падбаўляюць настрою. Мо каб было лета, то і думкі былі б весялейшыя. А халодная зіма за калючым дротам наганяе тугу і абыякавасць да самога жыцця.

Аляксей зірнуў на свайго суседа з іх трэцяга атрада. Высокі, худы і нязграбны, у кароткай ватоўцы, з якой вытыркаліся доўгія рукі, ён нагадваў Дон Кіхота з кіно. Задуменны твар, прарэзаны некалькімі глыбокімі маршчынамі, з-пад шапкі выбіліся пасмы пасівелых валасоў. Васільковыя вочы з шэраватым адценнем заўсёды глядзелі на субяседніка, не хаваючыся, з нейкай нявыказанай тугой, бы ён болей за ўсіх сумаваў па волі. Быў ён трохі недарэчны, гэты Адам Каленік, вызываючы сваім

выглядам шкадобу. Жыў нейкім зразумелым толькі яму жыццём: ціхі, маўклівы, на кпіны і здзекі іншых зэкаў не адказваў, толькі ўсміхаўся. Раніцай і перад сном заўсёды шаптаў малітву. Таму многія лічылі яго дзіваком і асабліва не чапляліся.

Сышоўся з ім Аляксей нядаўна. Хоць і ведаў, што Адам з Беларусі, як і сам Аляксей, але тут, на зоне, не было заведзена дзяліцца на зямляцкія групоўкі. Зэкі жылі па сваіх няпісаных, блатных, законах — «паняціях». Аляксей трымаўся крыху паасобку, бо прыняць тое, сапраўднае, зэкаўскае жыццё ён не мог. Блатная феня, да якой ён паспеў збольшага прыцярпецца, ішла насупраць усёй яго істоце. А недзе з тыдзень таму яны з Адамам працавалі разам на пагрузцы лесу. Цяжкія намёрзлыя бярвёны коўзаліся і ніяк не хацелі класціся. Зэкі чаплялі вострымі крукамі бервяно, каціл і па лагах і цягнулі далей угару, на платформу. Брыгадзір зняволеных, Кучкін, перад кожным заходам гучна лаяўся:

— Ану, узялі, такую вашу, узялі!

Яны моўчкі браліся за крукі і цягнулі. Наступнае бервяно ім трэба было закаціць ледзьве не на самы верх. Раптам камель крутануўся, затрашчала абдзёртая кара, бервяно слізганула ўніз. Зэкі кінуліся хто куды.

— Сцеражыся!

Толькі Адам стаяў, як слуп. Аляксей знаходзіўся за два крокі ад яго, і долі імгнення хапіла яму, каб зразумець, што камель знясе Каленіка без знаку. Ён і сам не зразумеў, што робіць, але кінуўся да Адама, штурхнуў таго і зваліўся разам з ім за эстакаду. Канец бервяна толькі мільгануў над іхнімі галовамі.

— Маладзец, Заборскі, маладзец! — Кучкін паляпаў Аляксея па плячы. — Рэакцыя ёсць — дзеці будуць. А ты, такую тваю душу, варона, — накінуўся ён на Каленіка, — жыць не хочаш, так і скажы. Нечага мне тут штрафныя накідаць. Ідыёт. Для чаго такіх у брыгаду даюць?

Адам нічога не адказаў брыгадзіру. Аляксею таксама не вымавіў ні слова, як быццам так усё і трэба было.

А пасля вяртання ў атрад ціха сказаў:

— Дзякуй табе.

Пасля гэтага, праз якую гадзіну, ён прынёс цыгарэты:

— Частуйся. Тут у мяне было крыху, але ж я не куру.

Аляксей моўчкі ўзяў. Вечарам, калі той курыў, Каленік прымасціўся побач. Яго шэра-васільковыя вочы свяціліся заўсёднай прыхаванай тугой.

— Ты не думай, я не знарок гэта, — пачаў ён раптам, — проста апошнія дні находзіць нешта на мяне. Я сам не свой. Вось і сёння так атрымалася: бачу, ляціць бервяно, а сіл няма кінуцца ўбок.

— Я нічога і не думаю, усяляк бывае, — зразумела кіўнуў Аляксей. — На мяне таксама, бывае, находзіць. А зрэшты тут у кожнага нешта сваё на душы, а бывае, робяць з сабою і што горшае. Я цябе разумею.

— Холадна, халера, не тое, што ў нас, на Беларусі. — Адам закашляўся і шчыльней зехінуў сваю зацяганую ватоўку.

— Лепш не ўспамінай, — Аляксей са злосцю шпурнуў недакурак, бы той быў у нечым вінаваты.

Хто вінаваты, ён добра ведаў. З першых хвілінаў свайго зняволення ён толькі і жыў прагай помсты. Дажыць да таго дня, выйсці адсюль — і адразу туды, да яго. Спачатку паглядзець у бессаромныя акрутныя вочы. Пэўна, яны ад страху і здзіўлення вылезуць на лоб. Толькі гэта нічога не зменіць. А тады, нічога не кажучы, прыдушыць яго, як слізняка, голымі рукамі. І будзь што будзе, хай сабе і зноў вязніца. Але ён паквітаецца. Колькі раз у думках Аляксей уяўляў сабе гэта, і кожны раз гэта заводзіла яго так, што пачашчалася сэрцабіенне, а рукі міжволі сціскаліся ў кулакі. Нічога, ён абавязкова дачакаецца, абавязкова.

Праз колькі дзён яны з Каленікам парадкавалі габлёваныя брусы ў пілараме. Праца была нішто сабе: усё ж не бярвёны цягаць ці на марозе цалюткі дзень з пілою ды сякераю. У час перакуру яны з асалодай расцягнуліся каля буржуйкі ў прарабскай. Брыгадзіра не было, яго нечага вызваў да сябе «кум». Аляксей нават заплюшчыў вочы, нібы хацеў прыдрамаць. Ды дзе там: Адам стаў гучна кашляць.

— Схадзіў бы ў лазарэт, вунь як бухкаеш, — заўважыў Аляксей.

— А ў іх адно лячэнне: працатэрапія. — Адам пасунуўся бліжэй да буржуйкі.

— А ты за што тут?

— Дзяржаву абакраў на шмат грошай, — незадаволена буркнуў Заборскі.

— І я за крадзеж, — уздыхнуў Каленік, — хоць крадзеж крадзяжу — розніца, а вырак адзін.

Аляксей прамаўчаў. Але суседу, мабыць, карцела пагаманіць. Не зважаючы на маўчанне субяседніка, ён працягваў:

— Я ж зусім не збіраўся красці. Толькі як ты купіш лекі без грошай?

— А каму спатрэбіліся лекі? — як бы крыху зацікаўлена адказаў Аляксей.

— Ды маме маёй. Хто ж ёй дапаможа?

— Ты адзін у яе?

— Цяпер адзін. Хоць я і не зусім яе сын.

— Як гэта? — здзіўлена прыпадняўся на локці Аляксей.

— Не родны я сын ёй, — патлумачыў Адам, — але радней за яе ў мяне нікога не было і ніколі не будзе.

— Што, тваіх у вайну забілі? — Заборскаму расхацелася драмаць.

— І так, і не так.

Гледзячы на недаўменны позірк Аляксея, Каленік махнуў рукой:

— А-а, пакуль не раскажу, нічога ты не зразумееш. Тады слухай. Сваёй сапраўднай даты нараджэння я не ведаю. А пачалося ўсё ліпеньскім днём 1941 года, які стаў маім другім днём нараджэння. Так мне расказваў брат мой, Толік, царства яму нябеснае. У той дзень калона бежанцаў цягнулася міма іхняй вёскі. У калатнечы цягнуліся ўсе: і бежанцы, і адступаючыя разбітыя вайсковыя падраздзяленні. Іржанне коней, лаянка, стогны, адчайныя крыкі знямоглых людзей аб дапамозе, плач дзяцей — усё змяшалася на той дарозе. Калона ішла і ішла, здавалася, канца ёй няма. Цікаўная дзетвара сядзела ў ляску пры гасцінцы ды вытыркалася на дарогу падзівіцца на такую з’яву. Недзе пад абед Толік з сябрам зноў прысунуліся на гасцінец. Там ішлі ўсё ж тыя спахмураныя людзі. І вось тады Толік прыкмеціў маладую жанчыну з грудным дзіцём. У руках яна трымала немаўля, а за спінай цягнула клунак. Увесь час азіралася, бы каго чакала. Раптам неба сцямнела, загуло. У адзін момант наляцела

цэлая зграя фашысцкіх самалётаў. Ніхто нічога зразумець не паспеў, як на дарогу пасыпаліся бомбы, заляскацелі кулямёты Людзі з гасцінца кінуліся ратавацца. Страшна ржалі коні, крычалі людзі ды ляцела ва ўсе бакі зямля.

Дзятва з перапуду таксама кінулася ў лес. Апошняе, што паспеў заўважыць Толік у той момант, дык гэта жанчыну з немаўлём, што бегла разам з такімі ж бежанцамі далей ад дарогі ў лес. А за імі ўслед нёсся фашысцкі самалёт, паліваючы свінцом з кулямёта. У той дзень дзеці больш не пайшлі на на гасцінец, бо напужаліся да смерці. Раніцай не сцярпеў Толік, рашыўся-такі паглядзець, што там робіцца пасля бамбёжкі. Падаўся ён нечага не па сцежцы, а напрасткі, праз лясок. Ужо недалёка ад гасцінца чуе, як нейкае кацяня малое ў кустах ледзьве кеўкае. Здзівіўся: адкуль тут кацяня? Калі сунуўся ў кусты, то застыў ад жаху. Там ляжала тая самая жанчына з немаўлём, ніцма, выцягнуўшы рукі, а ў руках трымала захінутае ў хустку дзіця. Толькі жанчына была ўжо нежывая, а знясіленае дзіцятка ледзь-ледзь падавала голас. Як ты ўжо здагадаўся, тым самым немаўлём быў я. Толік кінуўся хутчэй да маці і прывёў яе туды. Мяне забралі, маму маю пахавалі. Ніякіх дакументаў пры ёй не было. Хто яна такая, адкуль і куды ішла — засталося невядомым. У клунку былі толькі дамашнія рэчы. Той дзень і стаў маім новым днём нараджэння. А Толікава маці мяне ўсынавіла, дала мне імя Адам. Бо яна веруючая жанчына і назвала мяне ў гонар першага чалавека на зямлі. Вось такая гісторыя.

— Гісторыя для рамана, — ціха прамовіў Аляксей. — А што было потым?

— А потым я паціху рос. Скончылася вайна. Толікаў бацька, як многія іншыя, не вярнуўся дадому. Мама, мо з год, штодзень бегала за паштальёнкай, чакаючы вестачкі. Ды дарма. Так мы засталіся ўтрох. Толік быў добры хлопец. Мы з ім сталі сапраўднымі братамі. Дружылі, ніколі нават не пабіліся. Пасля школы і службы ў войску Толік пайшоў на працу ў калгас, ажаніўся. Мама так радавалася за яго. Некалькі год жыла маладая сям'я няблага. Але ж з дзецьмі ў іх нешта не атрымалася. Жонка стала гуляць. А Толік надта гараваў ад гэтага. Сябры яму ўсё параду давалі: адмалаці яе так, каб назаўсёды забыла дарогу да хахаля. Ды ён не такі быў, добрая душа. На яе руку не мог падняць. Стаў выпіваць. Мама прасіла яго, прасіла. А калі яму было ўжо за сорак, раптоўна памёр. Дактары сказалі, сэрца не вытрымала. Колькі бедная мая мама слёз выліла! З таго яна і стала хварэць. Я застаўся ў яе адзінай апорай. А пасля школы вывучыўся на бухгалтара. У войску не служыў, забракавалі мяне. Потым у нас арганізавалі лясгас, дзе я і стаў працаваць бухгалтарам.

Адам закашляўся. Кашляў ён доўга і натужна. Аляксей падняўся, знайшоў у куце парыжэлае вядро з вадою і зачэрпнуў з яго такім жа рыжым кубкам, падаў субяседніку. Той адпіў крыху, аддыхаўся.

— Нядобры ў цябе нейкі кашаль, — заўважыў Аляксей, — кажу, праверыцца табе трэба.

— Мабыць, позна, — Адам абыякава махнуў рукой. — Гэта ў мяне пасля следчага ізалятара. Як пратрымалі там два месяцы ў вільгаці ды скучанасці, так і стаў кашляць. Мяркую, сухоты.

— І ты гэтак спакойна кажаш аб гэтым? — здзівіўся Аляксей.

— Тут мяне ніхто не вылечыць, сам ведаеш. Пайсці паваляцца, як некаторыя, я не ўмею. Ужо як Бог дасць.

На некаторы час Адам змоўк. Аляксей не трывожыў яго. А той прадоўжыў.

— Вось. Стаў я працаваць. Прывык да свайго месца, да людзей. Прыжаніўся з развядзёнкай адной. Быццам бы нічога была жанчына. Канечне, ніякіх там кветак-цукерак не было, проста спадабалася яна мне, распісаліся і сталі жыць. У яе дачушка была, потым і сынок у нас нарадзіўся, Аляксандрам назвалі яго. У гонар нашага загінулага бацькі. З першых дзён Вольга чамусьці неўзлюбіла маю маму. Як толькі я да яе, дапамагу чым — так пілаваць пачынае. Ды яшчэ да грошай сквапнай аказалася. Усё мала ды мала ёй тых праклятых грошай. А як праведае, што маме якое лякарства купіў ці так што — у хаце скандал. Я ўжо і так, і гэтак з ёю спрабаваў — ніяк не атрымоўваецца. Згадзіся, як жа я магу кінуць сваю маці, як? Яна ж мяне выкарміла з немаўляці, вырасціла. Гэта ж самая страшная здрада — кінуць маці. Прамучыліся мы год з дзесяць, ды і развяліся. Я вярнуўся да мамы. Зноў жа яна перажывала, прасіла, каб я вярнуўся. Кажа, не перайма йся, я як-небудзь сама, а ты ідзі да сына, у сям'ю. Але я не змог так зрабіць.

Гады са два таму яна цяжка захварэла. У бальніцы дактары сказалі, што патрэбна імпартнае лякарства, інакш доўга яна не працягне. Ды дарагое, адно запакаванне болей, чым мая зарплата. Колькі я ні думаў, так і не змог прыдумаць нічога. Зберажэнняў вялікіх у мяне не было, пазычыць такія грошы немагчыма, прадаць таксама не было чаго. Спрабаваў па суседзях, знаёмых прайсці, пазыку ўзяць, ды дзе там. Усе самі такія ж, як і я, багацеі. І вось, седзячы на працы ў невясёлых роздумах, я раптам падумаў: будзь што будзе. Скраду грошы. Хоць гэта і страшны грэх, але глядзець, як памірае маці, я не змог. Ты не ўяўляеш, як цяжка мне было пайсці на тое злачынства, але я вырашыў выратаваць маці. Якраз да нас павінны былі прывезці буйную суму наяўных грошай. Я зрабіў так, што яны трапілі да мяне, а не да касіра. Усё ж я галоўны бухгалтар. На мяне ніхто ніколі б не падумаў. Я хуценька сеў на цягнік — і ў Маскву. Там знайшоў патрэбныя лекі, вярнуўся дамоў. Вядома, мяне ўжо шукалі. Я паспеў аддаць лекі ў бальніцу і сам прыйшоў у міліцыю. Далей быў следчы ізалятар, суд і тры гады. Цяпер ты ўсё ведаеш.

— А як мама, паправілася? — ціха спытаў Аляксей.

— А як жа. Лякарства дапамагло. Я папрасіў дактароў, каб спачатку нічога ёй не казалі аб маім арышце. Каб яна думала, што я ў камандзіроўцы. Калі яна выйшла з бальніцы, то прыйшла да мяне. Плакала, казала, нашто я так зрабіў. Красці — такі страшны сорам і грэх. А я адказаў ёй — галоўнае, што яна паправілася. А Бог, калі палічыць патрэбным, даруе мне гэты страшны грэх. А калі не даруе — то, відаць, такая мая наканаванка. Маці — гэта святое, інакш зрабіць я не мог. Неяк адсяджу тэрмін і вярнуся.

У гэты момант расчыніліся дзверы. Брыгадзір з парога гаркнуў:

— Чаго разлегліся, як у цешчы на блінах? Я за вас працаваць буду? Ану, марш на месца.

Яны нетаропка падняліся і пацягнуліся ў цэх. Ужо аж да самага вечару ў іх не было перакуру. Аляксея ўразіў нечаканы расповед Каленіка. Адам адкрыў яму сваё, патаемнае, паказаў сябе з іншага боку. Так вось жывеш і не знаеш, што за чалавек з табою побач. Чалавек, які дзеля ўратавання маці, свядома пайшоў на крадзеж. Цяпер

жа толькі і крадуць, каб сабе хапнуць, ды паболей. Ды яшчэ на каго спіхнуць віну, як зрабіў гэта Сівалап.

Некалькі тыдняў яны працавалі паасобку: Аляксея пагналі на лесанарыхтоўку, а Адам працаваў недзе ў другім месцы на тэрыторыі калоніі. Сустракаліся толькі ўвечары, калі паразмаўляць не заставалася ні сілы, ні часу. Затым Каленік зусім знік з атрада. Аляксей даведаўся, што Адам трапіў у турэмны шпіталь: яму стала блага падчас працы. Выйшаў ён толькі праз два тыдні: з яшчэ больш змарнелым тварам.

— Як ты? — прыпыніўся каля яго Аляксей.

— А-а, што казаць, пакуль жывы, то і на гэтым дзякуй, — адмахнуўся Адам, — як я і думаў: знайшлі ў мяне сухоты.

— Што цяпер?

— Ды нічога. Тэрмін мне з-за гэтага не скароцяць. Вось крыху падлячылі — і наперад, на працу.

— Напішы хадайніцтва, табе павінны перагледзець тэрмін, — пераканаўча загаварыў Аляксей, — ты ж хворы на сухоты. А такое павінна ўлічвацца.

— Я пытаўся ў нашага турэмнага доктара. Ён адказаў, што па маім артыкуле наўрад ці мяне адпусцяць. Да таго ж мяне яны, як быццам бы, паставілі на ногі. А далей — як Бог дасць.

Адам моўчкі перахрысціўся.

— Што ты ўсё хрысцішся? — Аляксея нечакана раззлавала Адамава абыякавасць да сябе і бязволле. — За свае правы трэба змагацца. Разумееш? А што табе твой Бог дапаможа? Хрысціся не хрысціся, а пакуль сам сабе не дапаможаш, ніхто табе не дапаможа.

Каленік уважліва паглядзеў на Аляксея і ўздыхнуў.

— Я не першы раз і не ад цябе першага чую такое. Таму я не крыўджуся на цябе.— Адам падняў вочы. — Ты адкажы мне на адно пытанне: ты ведаеш, што будзе з табою заўтра, паслязаўтра, праз год? Ведаеш?

— Ды ніхто гэтага не ведае, — буркнуў той.

— Правільна. Бо толькі Усявышні ведае, што будзе з намі. Так, мы можам рабіць якіясьці крокі, будаваць сваё жыццё. Толькі ўсё роўна ён кіруе намі. А мы, людзі, таго і не ведаем, што нашы дзеянні кіруюцца Богам.

— Ты проста нейкі фаталіст, — раздражнёна кінуў Аляксей. — Калі цябе паслухаць, то нашы справы дрэнь. Што б мы ні рабілі — усё дарэмна, за нас ужо ўсё вырашылі. Нам застаецца толькі плесціся па жыцці, як гурту авечак.

— Не, ты мяне зусім не так зразумеў, — мякка запярэчыў Адам. — Наша жыццё — гэта як адрэзак: ёсць пачатак, ёсць канец. Як у матэматыцы. Памятаеш, у школе: з пункта А ў пункт Б выйшаў чалавек. Пункт А ёсць дзень нашага нараджэння, пункт Б — дзень нашай смерці. Толькі з пункта А ў пункт Б вядзе не адна сцяжынка. Іх шмат: роўныя і заблытаныя, прасторныя і цесныя, добрыя і злыя. І сцяжынку тую абірае сам чалавек, ён вырашае, па якой сцяжынцы яму кіравацца у пункт Б. Ён сам вырашае: жыць яму па законах Божых ці па д'ябальскіх, па сумленні ці па хлусні. Ад нас саміх залежыць, як мы пражывём нашае жыццё. Бог дае нам права выбару. Нездарма кажуць — усё ў нашых руках. Вось у чым сутнасць. Лёс не кіруе намі, а мы самі кіруем сваім жыццём. Бывае так складуцца абставіны, што, здаецца, больш ні-

чога не зробіш, усё. А праз колькі часу падумаеш: не, не ўсё, можна было і па іншаму зрабіць. У мяне, напрыклад, ёсць адчуванне, што мае спробы аб вызваленні будуць марнымі. І тут не толькі адчуванне. Тут і той самы жыццёвы вопыт, і некаторае веданне законаў.

Аляксей спачатку не знайшоў, што адказаць на Адамаву прамову. Ён упершыню выслухаў нешта падобнае на царкоўную пропаведзь. І мусіў сабе прызнаць, што, па большай частцы, Адам мае рацыю. Так, чалавек сам выбірае сваю сцежку. Вось ён, напрыклад. Сам выбраў сабе навучальную ўстанову, хоць бацька быў супраць: той хацеў, каб Аляксей прадоўжыў яго справу — стаў чыгуначнікам. Аляксея ж туды не цягнула, яму падабалася настаўніцкая справа. Менавіта таму ён і абраў педагагічны інстытут.

— Ты чаго змоўк? — вярнуў яго да свядомасці голас Адама.

— Ды так, задумаўся над тваімі словамі. Але што казаць: што ёсць, то ёсць. І зараз мы нічога не перайначым.

— Так, — пагадзіўся з ім Каленік, — толькі чалавек усюды павінен быць чалавекам. Нават у турме. Гэтаму і вучыць нас слова Боскае.

— А калі ж ты паспеў вернікам стаць? У нас, асабліва ў тыя часы, галавы не давалі падняць тым, хто верыў у Бога. Гэта толькі цяпер паслабленне далі, як перабудова пайшла.

— Мама мая — веруючая жанчына, яна Толіку і мне гэта перадавала. Але Толя няўрымслівы быў, жвавы. Яму карцела паляцець з сябрамі ў лес, на рэчку, кніг не любіў, што казаць тады пра малітвы ды Біблію. А мяне з дзяцінства цягнула да царкоўных кніг, жыцій святых, гісторый розных. Мне падабаліся царкоўныя службы, само паветра, насычанае пахамі воску, ладану. Дзіўна было так і адначасова хараша. Стаіш у царкве, спяваюць жалобна і прыгожа, спакойна, добра на душы. Мама заўсёды была мудрай жанчынай. Яна мне сказала, каб у школе я маўчаў аб гэтым. Таму да мяне і не чапляліся. А калі ўжо атрымоўваў сваю адукацыю, стаў дарослым, то Біблію перачытваў, канечне, інакш. Я стаў усведамляць кожнае слова. Мне хацелася зразумець, што хацелі данесці да нас складальнікі цудатворнай кнігі. Я думаю, што па-сапраўднаму веруючым я стаў ужо сталым чалавекам, без усялякага прымусу, падбухторвання, угавораў. Мне здаецца, што чалавек павінен у што-небудзь верыць. Гэта як стрыжань, без якога чалавек лёгка ламаецца. Як жыць без веры, з пустою душою? У такім выпадку яна запаўняецца нядобрымі намерамі, зайздрасцю, злосцю.

У гэты час Адама нехта паклікаў да начальніка атрада. Адам кіўнуў Аляксею і пайшоў. Заборскі зразумеў, што яму няма чым запярэчыць Адаму, той слушна кажа. Без веры жыць нельга. Раней верылі ў Бога і цара, потым верылі ў перамогу камунізму і таварыша Сталіна, пасля гэтага верылі ў трыумфальнае шэсце сацыялізму. Зараз усё раптам перамяшалася, ранейшыя ідэалы знікаюць. Тое, чаму іх вучылі, як выяўляецца, было не так. У што цяпер верыць, каму цяпер верыць? У Бога? Дык чаму, калі Бог такі справядлівы, ён закрывае вочы на хлусню, падман? Чаму ён не пакарае ўсіх нядобрых людзей? Вось і з’яўляецца тая самая пустата, аб якой казаў Адам. А яна можа нечым запоўніцца. У Аляксея яна ўжо запоўнілася, запоўнілася прагай помсты.

Як жа інакш? Калі ён не адпомсціць таму нягодніку, то больш няма каму. Ірыне не да гэтага, ёй трэба цягнуць дачку і сына. Правільна ён робіць ці не — час пакажа.

2

Апошні дзень тысяча дзевяцьсот восемдзесят дзявятага года прайшоў у такім жа паўсядзённым шэрым настроі. А вось дома… У гэты дзень ён з дзецьмі ладзіў ялінку. Даша надта любіла ўпрыгожваць. Як толькі Аляксей уносіў хвойку у кватэру, малая аж вішчала:

— Татуля, татуля, я першая буду чапляць цацкі! Я першая!

— Добра, добра, ты першая, — смяяўся Аляксей, — дай мне толькі паставіць нашу прыгажуню.

Сашка таксама круціўся каля ялінкі. Але ён быў больш сур'ёзным: мужчына ўсё ж такі. Аляксей ставіў дрэўца ў вядро, замацоўваў на невялічкі табурэт, і пачыналася падрыхтоўка да самага добрага, самага чаканага свята, як у ягоным жыцці, так і ў жыцці яго дзяцей. Чамусьці з усіх свят ён больш за ўсё чакаў Новы год. Чакаў, што спраўдзяцца ўсе мары і надзеі. Нават дзень нараджэння, на які было столькі падарункаў, не быў такім жаданым. Можа, гэта пачуццё перадалося і яго дзецям.

Тут, у турме, іх чакае толькі невялікая святочная дабаўка к вячэры ды яшчэ навагодняе віншаванне прэзідэнта. Хтосьці, канечне, пасвяткуе. Як Падвойнаў, напрыклад. Падвойнаў — гэта адзін з канваіраў: укормлены, чырванатвары, аж ледзьве хапае партупеі. Шыі ў яго няма, галава адразу пераходзіць у тулава. Маленькія заплылыя вочкі заўсёды падазрона і пагардліва глядзяць на кожнага зняволенага. Ён гатовы на ўсё за грошы і хабар, зэкаў не лічыць за людзей. Зэкі, у адказ, яго таксама ненавідзяць і ўпотай «соляць», як могуць.

— Не ў кожнай бабкі на вёсцы ёсць такі ладны парсюк, як Падвойнаў, — пажартаваў неяк Адам. Вакол усе зарагаталі. Падвойнаў стаяў якраз ззаду, але не пачуў, што сказаў Адам. Ён толькі зразумеў, што гэта ў яго адрас вылецела нешта зняважальнае. Канваір падышоў да Адама з налітым чырванню тварам і скрозь зубы прасіпеў:

— Ты, быдла, менш раскрывай сваю хлебарэзку. А то не дажывеш нават да вызвалення. Я згнаю цябе ў карцары.

І ён перацягнуў Адама гумавай дубінай. Той захістаўся і ледзь-ледзь устояў на на нагах. З таго часу Падвойнаў неўзлюбіў Адама. Вось і сёння ён, тупаючы па пляцы, касіўся на Каленіка, быццам, той вінен яму грошай. Начальнік калоніі, ссівелы падпалкоўнік Ганчарэнка, павіншаваў усіх з надыходзячым Новым годам, прыстрашыў пакараннямі на выпадак парушэння рэжыму і загадаў разысціся па атрадах. Зэкі ўподбежкі кінуліся ў цёплае памяшканне.

— От жа, халера, бярэцца. Няйначай, як пад трыццаць будзе, — паціраў замёрзлыя рукі Алычаў, худы і нізкарослы, як вясковы падшыванец.

— Мабыць, будзе, — падтрымаў яго Аляксей, — а да цяпла так далёка.

— Халадрыга, ядры яе калена, — адзначыў Алычаў, — не тое, што ў нас у Сочы. Цяпло, мора жанчыны.

І ён салодка прымружыў хітрыя вочкі. Алычаў меў ужо трэцюю ходку, да зэкаўскага жыцця яму не прывыкаць. Да Аляксея ён спачатку ставіўся паблажліва: маўляў,

пацан, навічок, будзем вучыць жысці турэмнай. І на першым часе спрабаваў ткнуць таго носам, каб знаў сваё месца.

— Гэй, ты, бульбаш! Знайдзі-ка мне цыгарэтку, — расслаблена загадаў ён Аляксею, калі той толькі прыладкаваўся на нарах. Аляксей, крыху зведаўшы турэмных законаў, нават і вухам не павёў.

— Ты што, глухі? То я табе зараз слых падпраўлю. — Алычаў падняўся і рушыў да яго. А Заборскі з развароту так ткнуў Алычаву, што той юзам заляцеў пад стол. Пасля таго ён стаў паважаць Аляксея, бо на зоне толькі сілу і паважаюць.

— У нас таксама нядрэнна, — умяшаўся ў размову Адам, — летам не горш, чым у Сочы: зеляніна, цёпла, усё цвіце навокал. Благадаць!

— Цёпла, цвіце, — перадражніў яго Алычаў, — што ты ведаеш аб сапраўдным жыцці злодзея, дахадзяга? Калі ты шалясціш грашыма — жанчыны так і ўюцца вакол цябе, шампанскае ва ўсе бакі пырскае. Вось гэта благадаць.

Адам не адказаў яму, толькі скрушна пахітаў галавой.

На першым тыдні новага года Аляксей атрымаў ліст ад Ірыны. Ён адышоўся ў бытоўку, каб там, дзе менш вачэй, нацешыцца весткамі з дому. Стрымліваючы хваляванне, дрыготкімі пальцамі разарваў канверт. Са згорнутага лістка выпаў яшчэ адзін, маленькі. Аляксей разгарнуў яго. «Дарагі татачка! Віншую цябе з Новым годам! Я цябе моцна люблю і чакаю, каб ты хутчэй вярнуўся да нас. Цалую цябе. Даша». Дашыны літары скакалі па лісточку, бо пісала яна яшчэ слаба. Ах, якая малайчына, мая любая! Аляксею заказытала ў носе, і ён глыбока ўздыхнуў, каб не раскволіцца. Разгарнуў ліст ад Ірыны. «Вітаю цябе, мой любы. Віншую з надыходзячым святам і жадаю, каб ты быў здаровы. Каб хутчэй пранесліся гэтыя страшныя гады без цябе. Мы цябе моцна любім і чакаем. Сашка і Дашка здаровенькія. Вось Дашуля сама ўжо дасылае табе віншаванне. Яна такая смешная: калі піша, дык язык высуне, прыкусіць яго і старанна выводзіць літары. Сашка скончыў чвэрць амаль на выдатна, стараецца. На працы ў мяне ўсё, як і раней. Прыязджаў твой тата з тыдзень таму, падвёз нам прадуктаў, грошай. Малайчына, ён нас не забывае, дапамагае. А неяк на працу мне тэлефанавала і маці твая. Мы доўга так з ёй паразмаўлялі. Мае таксама нядаўна былі. Так што ў нас усё добра. Малыя, канечне, сумуюць па табе. Нядаўна заходзіў Ігар Смольскі. Ён зараз працуе начальнікам вытворчага ўчастка на ЗЖБВ. Кажа, што робіцца няблага, перадаваў табе прывітанне. А як ты? Табе, мабыць, цяжка прыходзіцца. Ты ўжо патрывай, любы. Час праляціць хутка. Ох, не хацела табе пісаць, ды нешта ўспомнілася. Ігар казаў, што Сівалап быццам усё прадае, нават і справы здае ды збіраецца за мяжу. Дзядзька яго перабраўся ў Амерыку, добра там уладкаваўся, і Сівалап збіраецца туды назусім пераехаць з сям'ёй. Я так падумала: хай едзе. Не будзе больш вочы мазоліць, менш будзе думацца аб тым, што было. Такой дрэні толькі ў Амерыцы і месца. Вось такія справы. Пішы нам, любы. Мы цалуем цябе моцна-моцна і чакаем твайго адказу. Твае Іра, Сашка, Дашка».

Ліст вываліўся ў яго з рук. Сівалап з'язджае! Гэты гад уцячэ ў Амерыку і пазбегне пакарання! Ды што ж гэта робіцца? Аляксей будзе гнісці тут, у турме, а той — баляваць за крадзенае. Не, не бываць гэтаму. Ён не заўважыў, як яго кулак гахнуў па стале.

— Гэй, Заборскі, лягчэй там, стол зломіш! — прыкрыкнуў на яго зэк Шчатко, адказны за бытоўку.

Аляксей падняў ліст і, аж хістаючыся ад хвалявання, пайшоў на выхад. Пачуцці перапаўнялі яго. Патрэбна нешта рабіць. Тэрмінова. Сівалап не павінен так проста з’ехаць. Толькі што рабіць? Што ён можа зрабіць, седзячы за калючкай? Яму раптам успомніўся апошні Новы год. Хто б мог падумаць тады? А тады побач быў лепшы сябар. Па праўдзе, і не сябар, а проста Аляксей быў сляпы, як крот. Не бачыў таго, што павінен быў бачыць.

Але — што ж рабіць? І раптам, як маланка, як куля, бліскавічна дзынькнула думка: збегчы. Уцячы адсюль, дабрацца дадому. Дабрацца, забіць яго, пабачыць сваіх, а тады можна і ў турму. Так ён і павінен зрабіць, але як? Як адсюль збегчы, а потым дабрацца па лесе да станцыі, без грошай і дакументаў сесці на цягнік? Пытанні, на якія няма адказу. Невырашальная задача. Не, д’ябал яго забяры, ён павінен рашыць гэты рэбус. Можа, з кім-небудзь паразмаўляць? Мо хто таксама захоча збегчы. Удваіх яно было б спрытней. Толькі каго ўзяць? Не таму ляпнеш — і ўсё, бывай планы. Бо могуць «стукануць» у аперчасць. Трэба толькі добра падумаць. Нешта нічога не надумваецца, гэта не семкі палускаць. Перабраўшы ўсе магчымыя варыянты, ён так і не знайшоў патрэбнага. Жыццё — дрэнь.

Аляксей думаў ноч, дзень і наступны дзень, але нічога ў галаву так і не прыйшло. Ні адзін ягоны варыянт не абяцаў нават таго, што ён зможа хаця б дабрацца да станцыі. Ды яшчэ вецер разгуляўся так, што паваліў фанерныя шчыты каля адміністрацыйнага будынка калоніі, дуйка з посвістам шматала голле дрэў, нястомна завіхалася ўздоўж прыціхлых будынкаў, круцілася і галёкала на розныя галасы панад дахамі. Снежныя пырскі ляцелі ў розныя бакі, закручваліся на твары і асядалі кволымі раўчукамі. Твар рабіўся мокрым, нібы ад слёз няспраўджаных надзей. Як быццам сама прырода з дакорам нашэптвала: што ты надумаў, нічога ў цябе не атрымаецца. Аляксей замкнуўся ў сабе, у сваіх думках. Адам, мабыць, паспеў заўважыць яго настрой. За абедам ён падсеў да Аляксея:

— Нешта ты зусім замаркоціўся апошнім часам? Прызнавайся, што здарылася. Дома справы дрэнь?

Аляксей крыху падумаў, але рашыўся: яму можна сказаць. Ён адвёў таварыша ўбок:

— Ведаеш, я рашыўся на ўцёкі.

— Што нарабілася? Чаму цябе так прыстрэнчыла?

— У мяне свае справы,— ухіліўся Заборскі ад прамога адказу, — так склаліся абставіны, што інакш не магу. Разумееш, я не магу пакуль табе сказаць.

— Ну, не можаш, дык не можаш, — пагадзіўся Каленік. — А ты цвёрда ўпэўнены, што табе гэта патрэбна?

— Абсалютна.

— І ты не ведаеш, як гэта зрабіць?

— Так.

Адам на хвіліну прыжмурыў вочы і прыхіліўся да бетоннага слупа.

— Магчыма, я табе дапамагу. Ёсць у мяне думка, але аб гэтым заўтра.

Аляксея неяк збянтэжыла Адамава самаўпэўненасць. Што ён можа зрабіць? Ён жа і мухі не пакрыўдзіць, у жыцці нічога не бачыў, акрамя сваіх бухгалтарскіх балансаў, сухотнік, грошай не мае. Ну чым ён можа дапамагчы? Не, разлічваць трэба толькі на

сябе. А можа, пагаварыць з бывалымі зэкамі? Яны ўжо будуць ведаць хады-выхады. Але няма гарантыі, што і яны цябе з вантробамі не здадуць аператыўнікам. Сярод іх ёсць розныя. Думай, думай, Аляксей.

Назаўтра Адам сам падышоў да яго:

— Пайшлі, ёсць размова.

Яны зайшлі ў курылку, як бы пакурыць. Мароз крыху паслабеў, вецер сціх. Снег выразна акрэсліваў сцяжынкі да жылых памяшканняў. Нейкім супакаеннем веяла ад заснежаных бяроз і дзвюх сябровак сосен, што прыжыліся каля курылкі. Цішыня. Аляксей закурыў.

— Ёсць адзін варыянт, — Адам хітравата прымружыў вочы, — ён павінен праскочыць. Так што я табе змагу дапамагчы.

— Які варыянт, кажы хутчэй, — Заборскі нервова глынуў даўкі камяк сліны.

— Не спяшайся. Я дапамагу, але ў мяне ёсць адна ўмова.

— Якая ўмова? — Аляксей здзіўлена падняў брыво.

— Я іду з табою.

— Што?! — папярхнуўся дымам субяседнік. — Што ты сказаў?

— Я іду з табой, — цвёрда паўтарыў Каленік.

— Ты? Навошта? Нашто яно табе?

— Мне здаецца, што я магу не выйсці адсюль. — Адам апусціў галаву. — Сухоты даканаюць мяне раней, чым я выйду за вароты турмы. Я так хачу пабачыць перад смерцю маму. А тады ўжо можна і памерці.

— Пачакай ты паміраць, — збянтэжыўся Заборскі, — ну чаму ты вырашыў, што памрэш? Адсядзіш і паедзеш сам да маці. Ды які з цябе хадок?

— Не пярэч, я ведаю, што кажу. Вырашаць табе: прымеш маю ўмову — я табе дапамагу. Бо я бачу, што ты так нічога і не надумаў.

— Не хачу я зруйнаваць тваё жыццё, — загарачыўся Аляксей, — нас жа могуць злавіць. Тады тэрмін за гэта падкінуць. Лепш ужо я адзін пацярплю.

— Глядзі сам, — Адам развёў рукамі.

Заборскі задумаўся. Так, плану на ўцёкі ў яго так і няма. Да таго ж аднаму вельмі цяжка вырашыць усе пытанні: і падрыхтоўка, і шлях, сабраць сякіх-такіх прыпасаў на дарогу. Аднаму няпроста. Да таго ж, і план у Каленіка ёсць. Але як Адам здолее прайсці адлегласць пад семдзесят кіламетраў па снезе, па лесе. Ён як быццам нямоглы, хворы. Аляксей асцярожна параспытваў бывалых зэкаў і ведаў, што калі адсюль ісці на захад, то якраз там павінна быць станцыя. Трэба выбіраць.

— Я змушаны прыняць тваю ўмову: спроба — не хвароба. Але ты добра падумай: ці зможаш адолець дарогу? Усё ж такі па цаліку.

— Ды думаў я, думаў. І сілы ў мяне пакуль яшчэ ёсць, не хвалюйся. Мы з табою зможам асіліць кіламетраў па дваццаць у дзень.

— Дык што за план у цябе?

— А план такі, — Адам з жарам пачаў жэстыкуляваць. — Ты ведаеш, што кожны дзень Ганчарэнку адвозяць дахаты ў пасёлак. Вось з ім мы і паедзем. Да пасёлка каля дваццаці кіламетраў. Для нас гэта будзе добрая фора.

— Ты з глузду з’ехаў? Як гэта мы паедзем з Ганчарэнкам? Можа, патлумачыш? — раззлавана ўскрыкнуў Аляксей.

— Цішэй ты. Пакуль я ляжаў у лазарэце, то ўважліва слухаў, хто і аб чым размаўляе. Пасля прыбіраў тэрыторыю каля адміністрацыйнага будынка, я цяпер там пастаянна прыбіраю, давер атрымаў. І што-кольвечы выслухаў.

— Ну, а нам што з таго? — не стрываў Заборскі. — Як мы зможам непрыкметна падсесці да Ганчарэнкі?

— Ты слухай. Калі я ляжаў у лазарэце, то пазнаёміўся з Тулічкіным, ён у чацвёртым атрадзе. Тулічкін, як выявілася, спец па аўтамабілях. Ён рамантуе аўтамабілі ўсім у калоніі, ніхто лепш за яго не робіць. Адным словам — ас і неблагі хлапец. Вось нядаўна я даведаўся, што ён будзе рамантаваць асабістую «Волгу» Ганчарэнкі. Недзе праз тыдзень павінны прывезці тое, што патрэбна. Рамантуе ўсе машыны ён тут, на тэрыторыі калоніі. Зрабіць павінен усё за адзін дзень. З раніцы Каложкін, шафёр Ганчарэнкі, прыгоніць машыну, а вечарам забярэ яе і на ёй жа адвязе Ганчарэнку дахаты. Наша задача — сесці ў багажнік, праехаць тыя дваццаць кіламетраў. Потым, у гаражы, вылезем і пойдзем куды нам трэба. Самае цікавае, што ніхто не будзе ведаць, у якім баку нас шукаць. Галоўнае для нас — падрыхтавацца і сабраць трохі харчу, адзежыну якую цяплейшую знайсці.

— Які ты разумны, — пакпіў Аляксей, — а як я з прамзоны сярод белага дня прабяруся ў адміністрацыйную зону? Хто нас пусціць у гараж? У машыну? Хто, залатая рыбка?

— На той дзень ты не пойдзеш на прамзону, — упэўнена загаварыў Адам, — прыкінешся загадзя хворым, я ад бывалых зэкаў адзін сродак ведаю, як тэмпературу да сарака падагнаць. Дзень-другі паваляешся. Што тычыцца праходу ў адміністрацыйную зону, то я аб гэтым падумаў. Учора я чуў, як намеснік Ганчарэнкі аддаў нашаму атрадніку загад якраз на наступным тыдні выдзеліць людзей на рамонт трох кабінетаў у будынку. Ты сёння-заўтра так, «выпадкова», прагаварыся атрадніку, што займаўся рамонтамі, на будоўлі пэўны час працаваў. Людзей зараз не хапае. Ты дзень-другі паваляешся, табе стане як бы лепей, а ён сам цябе накіруе на той рамонт. Астатняе — мая справа. Я дамоўлюся з Тулічкіным

— Вельмі шмат тых прыцірак, — уздыхнуў Аляксей, — а калі не атрымаецца хоць нешта? Усё прапала?

— Усё атрымаецца. Толькі рабі, што я кажу.

Аляксей задумаўся: план Адама слушны. Бо яму самому нічога лепшага ў галаву так і не прыйшло.

— Згодзен. Але ты добра падумаў наконт сваіх уцёкаў?

Адам ад яго пытання неяк пасур’ёзнеў, сцішыўся і ціха адказаў:

— Гэта канчатковае рашэнне.

— Слухай, — загарэўся раптам Аляксей, як бы нешта ўспомніўшы, — а калі мы на машыне, га? Мы ж умомант будзем на станцыі.

— А ты зможаш кіраваць аўтамабілем? Ці завесці яго без ключа?

— Не, я толькі збіраўся ісці вучыцца на кіроўцу, — павесіў галаву Аляксей.

— Я таксама не ўмею. Ды зусім нічога не разумею ў тэхніцы. Так што прыйдзецца старым дзедаўскім спосабам — пехам. Ды нічога: цішэй едзеш — далей будзеш, — супакоіў яго Адам.

— Добра. Тады за працу, — згадзіўся Аляксей. — Трэба збіраць сухары, знайсці месца. А вопратку цяплейшую шмарганём перад самымі ўцёкамі.

3

Зноў пацягнуліся такія ж аднастайныя і шэрыя будні, але цяпер яго цепліла думка, што ён хутка выйдзе адсюль і спраўдзіць тое, што задумаў. І станавілася весялей. Штодзень яны з Адамам употай, пад ватоўкай, выносілі хлеб, і той недзе прыхоўваў іх здабычу. Адам здолеў праявіць нядрэнны талент здабытчыка. Яму ўдалося нават раздабыць недзе некалькі кавалкаў мяса і рыбу, гэта ён паабяцаў падсаліць і засушыць. Пакуль усё ішло па плану. Як і казаў Адам, Аляксей «выпадкова» ляпнуў пры начальніку атрада Канавалаву аб сваім уменні рабіць рамонты. Той паляпаў яго па плячы і пахваліў. За два дні да ўцёкаў Каленік падышоў да яго, па-змоўніцку падміргнуў і працягнуў нешта чорнае, змешанае з хлебным мякішам:

— На, глыні. Гэта каб тэмпература была.

— Калі? — запытальна глянуў Аляксей.

— Я табе паведамлю.

Ён крыху памаўчаў і ціха сказаў:

— Ты ведаеш, ну зусім жыцця няма ад гэтага Падвойнава. Гэтак ён мяне неўзлюбіў. Як яго змена — спакою няма. Так і чапляецца за кожную дробязь. Усё круціцца каля мяне, бы нешта пранюхаў. Як датрываць?

— Патрывай ужо, — суцешыў яго Аляксей, — нядоўга засталося. Прыйдзе час — за ўсё адкажа. Быць такога не можа.

Адам толькі ўздыхнуў, перахрысціўся, паправіў сваю аблавушку і пайшоў.

Пад вечар у Аляксея паднялася тэмпература, ён стаў бледны і млявы. Канавалаў, ледзь глянуўшы на яго, адправіў да турэмнага доктара. Як і абяцаў Адам, на наступны дзень Аляксея выправадзілі адтуль, бо тэмпература спала. Канавалаў спадылба глянуў на яго:

— Што, Заборскі, хітрыш нешта? Ты ж быццам не з такіх. Ці навучыўся?

— Ды што вы, грамадзянін начальнік, — адмоўна хітнуў галавой Аляксей, — сапраўды крыху прыхварэў.

— А я на тваё месца даў Кучкіну іншага. Добра. З заўтрашняга дня пойдзеш рамантаваць кабінет.

— А да сваіх, у брыгаду, нельга? — прыкінуўся Аляксей.

— Не, пойдзеш туды, куды я сказаў, — Канавалаў матлянуў галавой на дзверы, даючы зразумець, што размова скончана.

Вечарам, у курылцы, Адам агледзеўся па баках і шапнуў:

— Усё, заўтра, роўна ў пяць вечара, сустракаемся каля боксаў.

Аляксей не мог дачакацца раніцы: хаця б усё атрымалася, хаця б Падвойнаў не чапаў Адама, хаця б ніхто не знайшоў хованку. Учора Адаму пашанцавала вынесці з бытоўкі дзе пары цёплых рукавіц, а за дзень да гэтага яны раздабылі яшчэ і цёплых байкавых парцянак. Іхнія прыпасы Адам яшчэ ўчора вынес і прыхаваў. Быццам бы ўсё добра, а на душы непакой, хваляванне не праходзіць. Аляксей працаваў механічна, як заведзены: раз — падаў, два — прыняў, тры — паклаў. У той дзень перад

вачыма стаяў чамусьці адзін і той жа малюнак, ён адлюстраваўся ў падсвядомасці, як бы назаўсёды.

Гэта тады яго перавозілі з СІЗА для адпраўкі ў калонію.

— Заборскі, на выхад з рэчамі, — гукнуў у «кармушку» бялявы, як прысыпаны мукою, наглядчык. Аляксей няспешна закінуў даўно падрыхтаваную торбу на плячо:

— Бывайце, мужыкі, — хрыпла кінуў ён сябрам па няшчасцю.

— І табе хутчэй тэрмін адматаць, — адазваўся нехта.

На вуліцы яго асляпіла сонца. Сонца, якое ён цяпер так рэдка бачыць, якім хочацца насалоджвацца і наталяцца. Яркія промні прылашчылі лоб, вочы, шыю, аддаючы ўсю сваю прыродную моц чалавеку. Вясна адчувалася паўсюдна: у ласкавым ветрыку, цёплых казытлівых промнях, задзірыстым цвырканні вераб'ёў у двары, разамлелых канваірах. Аляксей прымружыў вочы, стаіў дыханне і прыпыніў хаду, забыўшы аб існаванні таго нядобрага, што рабілася з ім у апошні час. Канваір груба абарваў яго летуценне, штурхнуўшы ў плечы. Аляксей палез у аўтазак. У гэты момант ён заўважыў невялічкага калматага сабачку, што сядзеў ля ўваходу ў СІЗА. Хутчэй за ўсё, ён тут і жыў, можа, яго і кармілі аб'едкамі. Такі нішто быў сабачка: кудлаценькі, чорны з белым, а пад вачамі чорныя кругі, нібы акуляры. Ён уважліва сачыў за тымі, хто садзіўся ў аўтазак. Аляксей на некалькі імгненняў затрымаўся на прыступках, гледзячы на сабаку, нават усміхнуўся яму, надта ж пацешны:

— Гэй, малы, што сумуеш?

Сабачка схіліў галаву ў адзін бок, у другі і ўтаропіўся ў яго. Затым ён падняўся, заскуголіў і радасна завіляў хвастом. Нават цяўкнуў некалькі разоў. Аляксей ужо з-за кратаў глядзеў на яго, а сабачка на Аляксея. Аляксей адразу не мог уцяміць: чаму сабака так глядзіць на яго? І зразумеў: ён адзіны, хто звярнуў увагу на малога. Тут усе заняты сваім — і зняволеныя, і канваіры. Нікому няма справы да гэтай малой істоты, якая таксама нешта думае. Хіба хто калі кіне кавалак хлеба. А тут з ёй размаўляюць на роўных, па-свойску. Вось малы і затурбаваўся: усё, ад'язджае той адзіны чалавек, якому ён патрэбен. Машына натужна гула па дарозе, а ў Аляксея перад вачыма стаяў той сабачка ў «акулярах» з пахіленай галавой. Тут, у калоніі, чалавек таксама нікому не патрэбен як чалавек. Тут ён зэк, ад якога патрабуюць толькі поўнага падпарадкавання, жывёльнай аддачы. І ўсё.

— Заборскі, ты што сёння цэлы дзень спіш, га? Бабу сваю сніш? Дык да яе далёка. Але нічога, мы табе тут, з нашых, бабу знойдзем, — і працуючы з ім Алычаў зарагатаў, задаволены сваім жартам. Аляксей страпянуўся, адышоў ад успаміну. Ого! Дык ужо і час падходзіць.

Апошнія хвіліны цягнуліся так марудна, што Аляксей стаў баяцца выдаць сябе хваляваннем. Па целе ажно пабеглі нервовыя дрыжыкі. Ён стараўся сябе супакоіць, але гэта дрэнна ўдавалася. Розныя думкі свідравалі галаву, бязладна скакалі, рвучыся на волю. Усё ж ён узяў сябе ў рукі, дэманстратыўна спакойна зайшоў у прыбіральню, а адтуль да сметніка з вядром друзу. Змрок даўно ўжо лёг на заснежаны пляц і спакойна спачываў пад водбліскамі жоўта-цягучых ліхтароў. Аляксей азірнуўся ды бегма кінуўся за вугал адміністрацыйнага будынка, а затым да складоў. Адтуль рукой падаць да гаражных боксаў. Ён стаў за вуглом. Дзе ж Адам?

— Давай да мяне, — пачуў ён раптам ззаду ціхі шэпт Каленіка.

Аляксей павярнуўся да яго:

— Ну што?

— Усё ў норме, з Тулічкіным дамовіўся. Прыйшлося аддаць яму свой заручальны пярсцёнак, ды халера з ім, тым пярсцёнкам. Тулічкін зараз выйдзе на некалькі хвілінаў да Ганчарэнкі. Ну, як бы сказаць, што ўсё скончыў, можна ехаць. Гэта ён нас чакаў, каб на яго не ўпала падазрэнне, калі што. Мы хуценька перабягаем вунь да той гурбы, адкапаем нашы запасы, бяжым у гараж і хаваемся ў багажніку.

Сапраўды, праз некалькі хвілінаў з гаража нехта выйшаў ды няспешна пашкандыбаў у бок адміністрацыйнага будынка.

— Хутчэй па нашы рэчы, — прасіпеў Адам. Уподбежкі, прыгінаючыся, яны падляцелі да гурбы снегу, разлаташылі частку гурбы, выхапілі невялікія хатулі і кінуліся ў гараж.

— Давай за мной, — хрыпла загадаў Каленік. У дальнім кутку стаяла чорная бліскучая «Волга». Рэчы закінуты ў багажнік. Аляксей асцярожна, але цвёрда прыкрыў крышку.

— Тут нейкае мешкавінне, захутваемся ў яго, — шапнуў ён, абмацаўшыся ў багажніку. Адам спрабаваў нешта сказаць, але закашляўся. Во толькі гэтага не хапала! Але той раз колькі кашлянуўшы, здолеў прыдушыць свой кашаль і змоўкнуць. Уцекачы стаіліся. Прайшло некалькі пранізліва-цягучых хвілінаў. Каля машыны затупалі нечыя крокі. Следам падышоў яшчэ хтосьці.

— Здароў, Ігар, — уцекачы пазналі радасна-лісьлівы голас Падвойнава, — што, па шэфа?

— Так, пара ўжо, чакае, — адгукнуўся нехта. Мабыць, Каложкін.

— Добра табе, — уздыхнуў Падвойнаў, — зараз у пасёлак. Ды зноў у цёплую пасцельку, да сваёй Валянціны, прызнавайся?

— Дык не без гэтага, гы-гы-гы, — зарагатаў Каложкін і затупаў на месцы: — Нешта шыны як бы слаба напампаваны. Але такой бяды, не хочацца сёння нічога рабіць.

— І не кажы, — азваўся Падвойнаў. — Я вось тут іду, гляджу, гурба снегу каля гаража перакалмачана. Што да чаго? Хто гэта у гурбе што шукаў? Ці то хаваўся? Як ты думаеш?

У Аляксея ўнутры ўсё абарвалася, ён стаіў дыханне. Вось жа сабака, усё заўважыць. Няўжо што западозрыў?

— Ды халера яго ведае, — адказаў Каложкін. — Зэкі сёння цягалі сталы у медчасць, мажліва, каторы і зваліўся.

— Можа, можа, — нядобра прабубнеў Падвойнаў, — ну, бывай, Ігарок.

Каложкін сеў у аўтамабіль, завёў, нейкі час пагазаваў, грэючы машыну, і паехаў да будынка адміністрацыі. Хутка ляснулі дзверы, Адам з Аляксеем пачулі голас Ганчарэнкі:

— Як, Ігар, Тулічкін усё зрабіў?

— Так, Іван Сцяпанавіч, я перад заканчэннем глядзеў, усё ў парадку.

— Мароз, здаецца, крыху паслабеў.

— Паслабеў, Іван Сцяпанавіч, хлопцы казалі, што недзе ўсяго каля дзесяці.

— Ну то і добра, жывём. А то мы якраз сабраліся заўтра на паляванне.

— Уга, паляванне — добры адпачынак, — з адценнем зайздрасці пагадзіўся Каложкін. Машына рыпнула тармазамі каля КПП. Ганчарэнка выйшаў, павітаўся з дзяжурным афіцэрам, нешта яшчэ сказаў яму, і вароты, натужна скрыгочучы, расчыніліся. Аўтамабіль фыркнуў, задрыжаў на нейкай яміне і паехаў наперад, а недзе праз хвілін дваццаць машына спынілася.

— Добра, Ігар. Вось ключы ад варот. Заганяй у гараж. Закрыеш — прынясеш. У нядзелю прыйдзеш каля дзевяці, — загадаў Ганчарэнка.

— Усё зразумеў, Іван Сцяпанавіч, — бадзёра азваўся Каложкін.

Не прайшло і хвіліны, як дзверы гаража, ляснуўшы, зачыніліся. Бадзёра пасвістваючы, Каложкін пайшоў да Ганчарэнкі. Уцекачы, счакаўшы яшчэ крыху, загаварылі.

— Што, выходзім? — хрыпла спытаў Аляксей.

— Выходзім, — шэптам адказаў Адам.

— Як будзем выбірацца? — шапнуў Аляксей.

— Пачакаем, хай усё сціхне, а тады праз акно. Невялікае, але нам хопіць.

Сапраўды, каля варот свяцілася невялікае акенца. Толькі дзякуючы яму тут было нешта відаць. Уздоўж сцяны цягнуўся стэлаж з розным начыннем, у кутку месціўся невялікі столік з парай драўляных табурэтак. Яны счакалі недзе трохі.

— Што, пайшлі? — Адам пасунуўся першы. Акенца зачынялася на дзве форткі, што выслізгвалі на вуліцу. Адам зняў ватоўку і, крэкчучы, стаў уплішчвацца ў акенца. Ён споўз па сцяне і прызямліўся на рукі. Аляксей, падаўшы яму іх прыпасы, палез следам. Асцярожна, шчыльна зачыніў форткі і з палёгкай уздыхнуў. Уцекачы агледзеліся.

Гараж стаяў крыху ўбаку ад ладнага цаглянага асабняка Ганчарэнкі. Да гаража ляпіліся яшчэ нейкія прыбудовы. Двор абнесены агароджай з металічнай сеткі, сцягнутай у вугалкі. Далей па вуліцы месціліся просценькія непрыглядныя дамы, па большай частцы цагляныя. Вокны дамоў свяціліся ўтульным дамашнім святлом, за якім ішло сваё размеранае жыццё. Было ціха, толькі недзе звонка і зацята брахаў сабака.

Яснае, халоднае паветра напоўніла грудзі прадчуваннем нечага новага, прагай да жыцця і жаданнем дзейнічаць**.** Спрытнюга мароз адразу накінуўся на іх, пакусваючы за шчокі. Неба, спрэс засеянае зоркамі, разлілося ўшыркі, няўцямна падміргвала ды мігацела. Зорная далячынь прыцягвала позірк няведамай таямнічасцю, асэнсаваным разуменнем вечнасці і нязведанасці Сусвету. Месяц спачатку стуліўся за невялічкім адзінокім воблачкам, але хутка і ён выцерабіўся на зорны прасцяг, дадаўшы святла і без таго яснаму небу. Бляск далёкіх зорак надаваў марознаму вечару выразную ўрачыстасць і надзею на поспех.

— Ну што, пайшлі? — Аляксей павярнуўся да Адама.

— Пайшлі,— згадзіўся той, — нам, здаецца, туды.

Ледзьве яны пасунуліся, як над вухам гучна і раз’юшана забрахаў сабака. Забрахаў так знянацку, што Адам коўзнуўся і паваліўся на снег. З вальера, абцягнутага металічнай сеткай, на іх кідаўся вялізны шэры аўчар. Сетка ад яго кідкоў хадзіла ходуном.

— Каб цябе халера, — вылаяўся Каленік, — бяжым, а то нам капец!

З усіх сіл яны паімчалі да агароджы. Немаведама як пераскочыўшы праз яе, уцекачы сцішыліся каля суседняга плоту. Бразнулі дзверы, з хаты выйшаў гаспадар.

— Што, Казбек, што здарылася? На каго гэта ты?

Сабака яшчэ некалькі разоў пакрыўджана гаўкнуў і вінавата заскуголіў. Ганчарэнка абышоў прыбудовы, патупаў па двары і падышоў да вальера.

— Усё добра, Казбек. Малайчына, ай, малайчына.

Ён прылашчыў сабаку і пайшоў у хату.

Уцекачы, перавёўшы дух, асцярожна пайшлі праз пасёлак, тулячыся да дамоў, каб застацца незаўважанымі. На іх шчасце, вуліцы заставаліся бязлюднымі. Праз нейкі час яны ўжо былі ў лесе. Выбраўшы накірунак, першым ішоў Аляксей, як больш моцны. Снегу было нямала, але Аляксей напорыста таптаў і таптаў яго, пракладаў дарогу наперад. Адам сунуўся за ім, намагаючыся не адставаць. Ён цяжка дыхаў ды зрэдку кашляў. Адно грэла душу Аляксею: снег быў не дужа глыбокі, можна ісці больш-менш зладжана. Над галовамі цямнелі верхавіны лесу, праз якія за імі шпарка сунуўся нястомны спадарожнік — месяц. Лес не сказаць каб быў надта густым, але дзе-нідзе пракідаліся нагрувашчванні вывернутых старых ялін, месцамі купілася цыбатае кустоўе. Усё гэта замінала і не давала той шпаркасці ходу, на якую разлічваў Аляксей. Абыходзячы перашкоды, ён баяўся толькі аднаго — хаця б не збіцца. Бо ў лесе напрамак лёгка згубіць, ды яшчэ ноччу. Добра, што яшчэ ноч зорная, відаць не раўнуючы як удзень. У далейшым яны будуць ісці светлым часам, але сёння патрэбна як мага далей адысціся ад пасёлка. Хоць тут іх не павінны шукаць, бо ніхто не ведаў, як яны выбраліся, але заставацца каля чалавечага жылля рызыкоўна, а гэта ім не патрэбна.

— Бадай што хопіць на сёння, — цяжка дыхаючы, спыніўся Аляксей. Вушы шапкі, падвязанай пад бараду, пакрыліся тоўстым слоем шэрані. Ён праступіў нават на спіне, на целагрэйцы.

— Можа, і хопіць, — пагадзіўся Адам, — зробім хованку ды спачнём крыху.

Ён прапанаваў зрабіць лежку ў снезе. Уцекачы выкапалі ў гурбе добрую яміну, наслалі туды наламанага яловага лапніку. Зверху накінулі некалькі тоўстых сукоў, на якія зноў палажылі ельніку, на іх накінулі снегу. Уваход Адам завесіў мяшком, збольшага прыкрыўшы хованку ад холаду. Яны разлажылі рэчы і з асалодай расцягнуліся на вецці.

— Во любата, амаль як дома. От каб яшчэ цяплей было, ды харчу больш, то зусім было б добра, — выказаўся Адам.

— Ага, яшчэ сюды печ ды бульбы варанай з малаком, — адазваўся Аляксей.

— Было б няблага, — пагадзіўся сябар, — але спынімся на тым, што маем. Я прапаную крыху перакусіць, як бы павячэраць. Сілы нам спатрэбяцца ўранку. Мяса крыху пагрызём: голад прагонім, і смагу спатолім.

Ён працягнуў Заборскаму падсушанага мяса. Той са смакам адкусіў. Змучанае цела патрабавала ежы. Падмацаваўшыся яшчэ і сухім акрайцам хлеба, Адам пацікавіўся:

— Ведаеш, я даўно хачу ў цябе спытаць: чаму ты рашыўся на ўцёкі? Там, у калоніі, ты не хацеў казаць. Я разумею, тады мы не ведалі, ці атрымаецца ў нас. Але цяпер можаш сказаць?

Аляксей прымоўк. У цемры не было відаць яго спахмурнелага твару. Успаміны зусім не цешылі, хутчэй наадварот.

— Што ж, можна і расказаць. Тым больш табе.

4

Алег Сівалап і Аляксей Заборскі ведалі адзін аднаго з таго самага ранняга дзяцінства, пра якое кажуць — пяшком пад стол хадзіў. Бо нарадзіліся з розніцай усяго ў тры месяцы, сем'і жылі ў адным двары. Таму і ў дзіцячы сад, і ў школу разам, разам цягалі за касу Светку Гарохаву. Разбягаліся толькі на лета, калі бацькі развозілі іх па вёсках. Разам неяк ледзьве не патапіліся ў сажалцы. Напрыканцы восені ўзяўся марозік, які прыхарошыў стылую восеньскую слоту, падсушыў цяжкае імглістае паветра і надаў бляску прыхмураным лістападаўскім дням. Яны збеглі з апошняга ўрока, каб пакоўзацца на сажалцы. Кінуўшы партфелі на шорхлую траву, Алег з Аляксеем паімчаліся на маладзенькі, свежы і траскучы лёд. Ах, як прыемна разагнацца і слізгацець па коўзкім лёдзе са свістам у вушах! Тады не зважаеш на холад, голад і пагрозы бацькоў. Алег першым даехаў да сярэдзіны сажалкі. Ён першым і праваліўся. Лёд трашчаў яшчэ па дарозе, але Алег не паспеў затармазіць. На сярэдзіне лёд быў слабейшы і не вытрымаў яго вагі. З крыкам Алег шуснуў у ваду. Аляксей, які крыху адстаў ад сябра, змікіціў, што трэба спыніцца. Ён упаў на калені і змог утрымацца.

— А-а-а, дапамажыце, — адчайна галасіў Алег, хапаючыся за лёд, які адразу крышыўся ў яго руках.

— Зараз, зараз, я зараз, трымайся, — крычаў Аляксей і ліхаманкава круціўся на месцы, шукаючы хоць нешта, што можна было б працягнуць сябру. Але нічога не знаходзілася, а Алег страшна крычаў. Тады Аляксей неяк датумкаў і хуценька зняў з сябе нагавіцы. Ён лёг, кінуў адну калашыну Алегу. Той ухапіўся, Аляксей стаў цягнуць што ёсць моцы. Пад цяжкасцю іх абодвух лёд хрупнуў, і Аляксей таксама апынуўся ў ледзяной кашы. Цяпер яны ўжо разам боўталіся ў сцюдзёнай вадзе і лямантавалі. Выратаваў іх нейкі студэнт, які з купкай аднакурснікаў ішоў з заняткаў. Ён мужна скокнуў у ледзяную купальню, выштурхнуў на лёд аднаго, затым другога. Вады там яму было якраз па па шыю. Сябры студэнта паспелі недзе знайсці добрую дошку, па якой іх выратавальнік выбраўся сам. Да гэтага часу на беразе ўжо сабралася мноства народу. Усім было цікава, што здарылася. На той момант падышла туды і Аляксеева суседка, якая шпарка пагнала малых дахаты. Так яны і не даведаліся нават імя таго студэнта, што іх выратаваў. Дома, за вечар, яны атрымалі і лекі, і папругі. На дзіва, ні адзін, ні другі не захварэлі і паслязаўтра пайшлі ў школу.

Непрыкметна свавольнікі выраслі, скончылі школу: Алег на «чатыры» і «пяць», а Аляксей нават з медалём. Нечым яны былі падобныя, нечым адрозніваліся. Аляксей — худаваты, светла-русы, пры спрэчках успыхваў, як порах, мог пакрыўдзіцца з-за аднаго слова, але хутка адходзіў. Меў рамантычную натуру і захапляўся паэзіяй. Алег — камлюкаваты, добра скроены, шыракатвары хлапец, выглядаў сталей, не на свае гады. Аб'ядноўвала іх і дзяцінства, і тое што абодва любілі прыгоды, цікавую кнігу, вясёлыя кампаніі. Пасля школы шляхі сяброў разышліся: Аляксей паступіў, як збіраўся, у педагагічны інстытут, а Алег пайшоў у радыётэхнічны. Але абодва вучыліся ў Мінску, таму бачыліся ледзь не кожны дзень. На трэцім курсе Аляксей сустрэў

свой лёс: Ірыну. Сябры трапілі тады ў парк на дыскатэку. Алег недзе першым заўважыў Ірыну, запрасіў на танец. Пасля падвёў да сябра, пазнаёміў:

— Вось, Ірачка, знаёмцеся: гэта мой лепшы сябар — Аляксей.

— Вельмі прыемна, — адказала Ірына. — А можна, я запрашу на наступны танец вашага сябра?

— Можна, — не адразу і са здзіўленнем працягнуў Алег, паглядзеўшы спачатку на Аляксея, затым на Ірыну.

Аляксей адчуваў сябе адразу вельмі няёмка адзін на адзін з незнаёмай дзяўчынай. Спачатку спадцішка разглядаў Ірыну: стройная, з доўгімі прыгожымі каштанавымі валасамі, вытанчана акрэсленыя вусны, усмешка малінавага ранку. Носік крыху няправільны, як бы ўзняты ўгору, але і ён быў якраз дарэчы да яе светлага твару. Лёгкі джэмпер бэзавага колеру так пасаваў да яе ладнай постаці, што перахоплівала дыханне. І вочы. Вочы, попельна-шэрыя, аздобленыя доўгімі, ідэальнымі ад прыроды вейкамі, іскрыліся, зіхацелі звышнатуральным бляскам. Ясныя, як блакіт горнага возера, як крышталь крыніцы. Ясныя. Ясачка мая. Зірнуўшы туды, адарвацца ад тых вачэй было немагчыма. Ён злавіў сябе на тым, што нясцерпна захацелася пацалаваць Ірыну ў тыя прыгожыя вусны, засыпаць пацалункамі да болю гэтыя ясныя вочы. І ён аж пачырванеў ад нечаканага сляпога жадання.

— А што вы, Алёша, нічога не расказваеце? — усміхнулася яму Ірына.

— Ды ведаеце, я неяк крыху разгубіўся. Мяне запрасіла такая прыгажуня, — знайшоўся Аляксей.

— О, дык вы мастак рабіць кампліменты, — засмяялася Ірына. — А што вы яшчэ ўмееце?

— На жаль, няшмат, — прызнаўся Аляксей, — пакуль, вось, вучуся. А так захапляюся паэзіяй, музыку люблю.

— Выдатна, я таксама люблю паэзію. Пачытаеце штосьці?

— Так, але не цяпер. Не ведаю, ці добра гэта, — замяўся Аляксей, — бо Алег з вамі першы пазнаёміўся. Але спытаю: ці можам мы з вамі сустрэцца заўтра?

— Так. Тым больш, што Алегу я нічога не абяцала. Давайце тут, у парку.

Калі яны вярнуліся, Алег неяк падазрона паглядзеў на Аляксея і запрасіў Ірыну на танец. Але Ірына адмовілася, сказала, што стамілася. Алег спахмурнеў. З парку сябры разышліся рознымі дарогамі.

Назаўтра Аляксей зразумеў, што закахаўся. Ён чакаў Ірыну каля галоўнага ўвахода і страшэнна хваляваўся. І вось паказалася яна, грацыёзная багіня, беларуская німфа з незабыўным позіркам попельна-шэрых воч, дзёрзкім і адначасова мякка-пакорлівым. Аляксей знямеў, знерухомеў ад аднаго погляду на яе прыгажосць.

— Ну што ж вы, Аляксей, — усміхнулася яна з лёгкім адценнем дакору, — сустракайце дзяўчыну. А не то яе падхопяць іншыя.

— Прабачце, — выйшаў са здранцвення Аляксей, — гэта я так... задумаўся.

Яны гулялі па восеньскім парку, любаваліся цёплым верасніўскім заходам сонца, потым доўга сядзелі ва ўтульным зялёным куточку вялізнага парку, слухалі пяшчотнае шапаценне шматлікіх галасоў мудрых старых дрэў. І было ім так хораша, так лёгка, як быццам засталіся на зямлі толькі ён і яна. Аляксей чытаў Ірыне вершы любімых

паэтаў, а яна яму адказвала другімі вершамі гэтых жа паэтаў. У квяцістасці вершаў, зеляніне парку нарадзілася іх каханне, якое бывае, мабыць, толькі адзін раз у жыцці.

Алег не заходзіў да Аляксея з тыдзень. Той ужо сам збіраўся зайсці да яго, але не змог, бо штодзень да позняга вечара бавіў час з Ірынай. Алег сам прыйшоў да яго.

— Што, сябар, адбіў у мяне дзяўчыну? — неяк, не то жартам, не то ўсур'ёз, спытаў ён, завітаўшы ў інтэрнат да Аляксея.

— Прабач, — усхапіўся Аляксей, — але ж ты разумееш: яна сама выбрала.

— Так, так, я разумею, сэрцу не загадаеш, — крыва ўсміхнуўся Алег, — мне твае сябры ўжо данеслі, што ў вас вялікае каханне. Добра, хай сабе. Што ж мы, з-за бабы разруйнуем наша старое сяброўства? Я думаю, што гэтаму не бываць. Трымай пяць.

Аляксей пацiснуў працягнутую яму руку без асаблівай радасці. Інтуітыўна ён адчуў, што Алег не дараваў яму гэтага выпадку, толькі што не падае выгляду. Аляксея тады разанула па сэрцы гэта грубае слова, «з-за бабы», але ён змаўчаў, бо адчуваў сябе трохі вінаватым. Усё ж Алег пазнаёміў яго з Ірынаю. Праз які час яны сустрэліся ўтраіх, нават разам хадзілі ў кіно. Алег смяяўся з імі, жартаваў і Аляксей вырашыў, што Алег застаўся сапраўдным сябрам. Закаханыя стараліся сустракацца штодзень, хоць гэта было цяжкавата. Ірына ўжо працавала тэхнолагам, а Аляксею хапала сваіх студэнцкіх спраў. Да таго ж ён быў яшчэ і камсамольскім сакратаром. Ды, як кажуць, гады бягуць. Прыйшоў і той дзень, калі Аляксей скончыў сваю адукацыю і павінен быў ехаць настаўнічаць. Перад гэтым яны з Ірынай згулялі сваё вяселле. Алег таксама быў на вяселлі, шмат піў, шмат жартаваў і жадаў шчасця.

Праз год Алег і Аляксей убачыліся на сустрэчы аднакласнікаў. Алег яшчэ больш памажнеў, завёў модны прыкід, стаў курыць. На вечары доўга сядзелі, смяяліся, успаміналі школьныя гады.

— Глядзі, якая Светка Гарохава стала, — шаптаў Аляксею Алег, — красуня.

— Ага, красуня. Не горшая за якую-небудзь замежную кінаактрысу.

І сапраўды, Света выглядала проста цудоўна: модная і прыгожая стрыжка, бездакорная касметыка, шыкоўная сукенка, упэўнены выгляд. Хлопцы толькі і зыркалі на яе цэлы вечар. Алег пайшоў праводзіць Светку дахаты. Праз некалькі дзён ён заехаў да Аляксея з бутэлькай шампанскага:

— Віншуй! Сабраўся жаніцца.

— Віншую. А хто яна?

— Светка Гарохава.

— Светка?! Як? Столькі год правучыліся ў школе — і нічога. А тут раптам…

— Вось так раптам усё і адбываецца ў жыцці, — філасофскі канстатаваў Алег. — Рыхтуйся да вяселля.

— Не ведаю, — пачухаў патыліцу Аляксей, — Ірына хутка павінна нарадзіць.

— Каго чакаеце?

— Сына.

— Сына? Гэта добра, калі сын. Як сабе хочаш, але на вяселлі павінен быць. Давай па фужэру шампанскага за гэта і за наша сяброўства.

Аляксей трапіў на вяселле, павіншаваў маладых, выпіў келіх віна і нават крыху пагуляў. Бо дома яго чакалі самыя дарагія людзі на свеце: жонка і сын.

Яны зажылі сваім сямейным жыццём, жыццём простых савецкіх людзей. Жыццём, у якім хапала ўсяго: цяжкасці і радасці, непаразумення і спагады, колкасці і пяшчоты, зайздрасці і павагі. І толькі адно заставалася непахісным, цвёрдым і ўзнёслым — іх каханне. Маладая сям'я Заборскіх жыла і радавалася кожнаму дню, нягледзячы на тое, што часам пазычалі грошы і не было чым заплаціць за кватэру. Яны радаваліся, калі даставалі білеты ў кансерваторыю або ў тэатр. Хоць тады трэба было шукаць, на каго ж пакінуць Сашку. Жыццё ішло. Праз чатыры гады ў Заборскіх з'явілася Дашка. Шчасце, на якое яны не маглі надыхацца. Бо Ірына вельмі хацела дачушку. І дачушка іх радавала сваімі першымі гукамі, першымі ўсмешкамі, першымі крокамі, першымі словамі. І ў Алега са Светай у той час таксама нарадзілася дачка.

Як кажуць, усё цячэ, усё змяняецца. У Савецкім Саюзе наступіў час буйных перамен — перабудова. З ёю прыйшлі як значныя змены, так і шматлікія цяжкасці. Адным з першых змены ў эканоміцы адчуў Алег. Неяк пасля Новага года ён прымчаўся да Аляксея:

— Чуў? Цяпер можна займацца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю, засноўваць кааператывы.

— І што з таго? — паціснуў плячыма Аляксей.

— Дзівак, грошы можам зарабіць.

— На чым зарабіць?

Алег нервова затупаў па пакоі:

— Я ўжо думаў над гэтым. У мяне ў Маскве дзядзька Васіль, бацькаў брат, добрыя сувязі мае. Абяцаў дапамагчы на першым часе. Для пачатку мы будзем займацца продажам мэблі і тканіны. А потым адчынім свой цэх. Справа пойдзе, я ўпэўнены.

— Ды дзе ты возьмеш усё гэта? — здзівіўся Аляксей.

— Я ж кажу — дзядзька дапаможа, патрэбна толькі каманда. Ты згодзен?

Аляксей памарудзіў з адказам:

— Я нават і не ведаю. Як гэта працу кінуць? Што ж гэта будзе?

— А якія заробкі на тваёй працы? — узлаваўся Алег. — Ды і тое атрымліваеш праз пень-калоду. Чым ты будзеш дзяцей карміць, баязлівец?

— Ды не баюся я, — узлаваўся ўжо Аляксей, — вось вазьму і згаджуся. Толькі я нічога не разумею ў тваім гандлі.

— За гэта не бойся. Адзін-другі раз — і ўсё пойдзе як па маслу. Толькі ты павінен стаць дырэктарам нашай фірмы.

— Я — дырэктарам? — папярхнуўся Аляксей. — Чаму?

— Разумееш, — развёў рукамі Алег, — я вымушаны буду на першым часе шмат ездзіць. А ты будзеш на месцы. Некаму ж трэба падпісваць паперы, распараджацца фінансамі. І каму гэта рабіць, як не табе — майму лепшаму сябру? Ну што, па руках?

Ужо потым, пасля арышту, Аляксей зразумеў, што Алег спланаваў сваю аферу на самым пачатку. Гэта яму, Аляксею, адводзілася роля ахвяры. І ён праглынуў прынаду. Але ж тады ён і падумаць не мог. Не мог уявіць сабе, што яго лепшы сябар, сябар з дзяцінства, можа быць на самай справе мярзотнікам. Дзеля праўды трэба сказаць, што, пакапаўшыся ў памяці, Аляксей успомніў: былі і раней сякія-такія званочкі аб тым, што ўяўляе сабой Алег. Ён трываць не мог, калі хтосьці ішоў супраць яго. Быццам бы забываў, а потым мог успомніць у патрэбны момант. Яшчэ ў школе

Алега пакрыўдзіў Вася Базурын: ці то нешта сказаў на Алега, ці то абразіў, але Алег не размаўляў з ім больш за два гады, да сканчэння школы. А Аляксей па характару быў добры і спагадлівы, можа, таму ў іх з Алегам ніколі не даходзіла да буйных спрэчак альбо стычак.

Да сябе ў фірму яны ўзялі Ігара Смольскага — аднакурсніка Алега. З Ігарам Аляксей хутка пасябраваў, бо той быў надзейным і добрым чалавекам, сапраўдным таварышам. Справы ў іх пайшлі добра. Ужо за першы год яны мелі добры прыбытак. На другім годзе існавання фірмы Аляксей з Ірынай змаглі пераехаць у новую кватэру, абжыцца. Запрацаваў той самы цэх, пра які казаў Алег. Аляксей не вельмі разбіраўся ў фінансавых дакументах і болей давяраў у гэтым галоўнаму бухгалтару — Адэлаідзе Пятроўне. Ён не ведаў, што Адэлаіда Пятроўна была чалавекам Алега, яна рабіла ўсё, што той казаў. Таму і на судзе яна выкладвала тое, што ёй загадаў Алег. Адным словам, пару год яны пажылі як мае быць: мелі грошы, з помпай гулялі на святы. А аднойчы, пасля буйнай рэвізіі, па Аляксея прыйшлі людзі ў цывільным, сунулі пад нос ордар і надзелі наручнікі. Яго абвінавацілі ва ўтойванні падаткаў, злоўжыванні службовым становішчам. У іх дома быў праведзены вобыск. Ірына казала, што шукалі грошы. Канечне, нічога не знайшлі. Спачатку Аляксей спадзяваўся, што адбылася страшная памылка. З усім хутка разбяруцца і яго выпусцяць. Але час ішоў, і яго ніхто не збіраўся адпускаць. Больш таго, следчы паказаў яму лісты допытаў Алега, Адэлаіды Пятроўны, з якіх вынікала, што ён і ёсць галоўны злачынца. Не верачы сваім вушам, Аляксей папрасіў спаткання з Алегам. Не адразу, але яму дазволілі.

Аляксея прывялі ў пакой для спатканняў, пасадзілі на табурэт. Канваір адышоўся крыху ўбок. У пакой няспешнай хадой увайшоў Алег. Яго твар нічога не выказваў, быў спакойны і ўпэўнены. Толькі вочы крыху бегалі, мітусіліся, чапляючыся то за столь, то за падлогу, то за канваіра.

— Алег, што ж гэта робіцца?! — падаўся ўперад Аляксей. — Можа, ты што-небудзь патлумачыш?

— Што я магу патлумачыць? — Алег хітнуў галавой і хутка адвёў позірк ад Аляксея. — Следчы табе, мабыць, усё патлумачыў.

— Не, д’ябал цябе вазьмі, ты ж ведаеш, што я не вінаваты і не браў ніякіх грошай. За што мяне так, за што?

— Ты пытаеш «за што»? — вочы Алега звузіліся. Ён змяніўся ў твары: пацямнеў, вусны агідна скрывіліся, на лобе праступілі чырвоныя плямы. — Ты пытаеш «за што»? Ды за тое, што ты забраў у мяне Ірыну. Я тады даў слова, што ніколі табе гэтага не дарую. Я яе кахаю да гэтага часу. А ты — самаўпэўнены індык, улез паміж намі. Калі б не ты, яна б была маёю. І яна будзе маёю. Ты пойдзеш у турму, а мне застанецца ўсё. Усё, разумееш: фірма, кватэра, Ірына, твая сям’я.

— Ды ты проста вар’ят, — жахнуўся Аляксей. У яго перахапіла дыханне. — З простай жыццёвай справы ты зрабіў страшэннейшую трагедыю. Ды Іра не кахае цябе, разумееш — не кахае.

— Нічога, — паспакайнеў Алег, — пройдзе месяц, другі — і яна будзе маёй. Я ўжо і зараз наведваюся да яе. Ты ж і не ведаеш аб гэтым.

— Ах ты, слізняк! — ірвануўся да яго Аляксей. — Як можа такая поскудзь існаваць на зямлі? Сволач!

Канваір перахапіў Аляксея і закруціў рукі ў наручніках:

— Стаяць на месцы, Заборскі! Рукі за спіну! У камеру!

Аляксей доўга не мог супакоіцца. Ён не верыў, што такое можа быць. Аказваецца, можа. Словы Алега пацвердзіла Іра, якую пусцілі на спатканне праз некалькі дзён. Аляксей заўважыў, што яна схуднела, асунулася, пад вачыма з'явіліся кругі. Хвалюецца, бедная.

— Не хвалюйся, любая, — спрабаваў супакоіць яе Аляксей, — усё абыдзецца.

— Не, не абыдзецца, — неяк сцішана і гаротна схіліла галаву Ірына, — бо ты ўсяго не ведаеш. Да мяне прыходзіў Сівалап.

— І што ён казаў? — пахаладзеў Аляксей.

— Ён сказаў, што кахае мяне, — Ірына падняла галаву і паглядзела Аляксею ў вочы, — казаў, што ён зробіць усё, каб я стала ягонай, абяцаў райскае жыццё мне і нашым дзецям.

— А ты? — Аляксей свідраваў вачыма Ірыну.

— А я разбіла аб яго галаву маю любімую керамічную вазу.

— І табе не шкада? — упершыню за доўгі час усміхнуўся Аляксей.

— Ані, — усміхнулася ў адказ Ірына, — проста я цяпер ведаю, хто стаіць за гэтай справай і каму гэта патрэбна. Ты толькі трымайся. Разам мы ўсё зможам. Падумаеш, некалькі год. Людзі і больш чакаюць. У нас усё будзе добра. Я цябе кахаю.

— І я цябе.

Калі яго выводзілі, Аляксей азірнуўся. Ірына глядзела на яго, глядзела з каханнем, надзеяй і непрыхаванай пяшчотай.

З таго дня Аляксей паспакайнеў, ён зноў знайшоў сэнс жыцця. Ён ведаў, што яму трэба жыць дзеля сям'і, яго там чакаюць. І яшчэ адно. Так, можа, помсціць — гэта нядобра, але зло павінна быць пакарана. Той дзень, калі ён выйдзе на волю, стане апошнім у жыцці Сівалапа. Суд прайшоў хутка, Аляксей атрымаў свой тэрмін і адправіўся па этапу. І адбываў бы гэтае пакаранне і далей, каб не паведамленне аб будучым ад'ездзе Сівалапа за мяжу. За мяжой Аляксей яго ніколі ні зможа дастаць, не зможа выканаць сваё абяцанне, якое даў самому сабе. Абяцанне забіць яго, каб падобныя Сівалапу не нараджаліся больш на зямлі. Таму што гэтая поскудзь можа натварыць яшчэ шмат нядобрых спраў.

5

Калі Аляксей скончыў свой расповед, усталявалася нейкая хвіліна цішыні, якую Адам парушыў першым:

— Ты думаеш, што, калі заб'еш Сівалапа, табе стане лягчэй?

— Упэўнены, — з выклікам адказаў Заборскі.

— А я не. Бо адно зло нараджае другое. Калі не разарваць гэты ланцужок, ён будзе цягнуцца бясконца, творачы новыя бедствы. Няма гарантыі, што нехта не захоча адпомсціць табе альбо тваім дзецям. А потым яны некаму. Так нельга жыць, — пераканаўча загаварыў Адам.

— Дык што, вось гэта, што завецца чалавекам, — перабіў яго Аляксей, — павінна спакойна хадзіць па зямлі, піць, есці, а я, невінаваты, гнісці ў турме? Гэта, па-твойму,

правільна? Ты ўжо тут талстоўшчыну прапагандуеш: калі цябе ўдарылі па адной шчацэ — падстаў другую. Абсурд нейкі.

— Я яму пра абразы, а ён мне пра гарбузы. Гэта не талстоўшчына. Сэнс не ў тым, каб падстаўляць шчаку, а каб не адказваць на злое злым. Проста трэба рабіць добрыя справы, жыць па законах Божых або па сумленню, як кажуць, а зло будзе абавязкова пакарана. Рана ці позна, але абавязкова пакарана.

— Гэта толькі ў казках дабро заўсёды перамагае зло, — не пагадзіўся Аляксей, — а ў жыцці такое, на жаль, бывае не часта.

— Табе толькі здаецца. Не абавязкова кагосьці павінны забіць. Зло можа быць пакарана па іншаму. Будзе трымцець, звівацца апошнім чарвяком у нечалавечых муках яго чорная душа. І гэта вельмі страшна — не знайсці сабе супакаення ні на гэтым, ні на тым свеце. А я ўпэўнены, што так і будзе, — цвёрда настойваў на сваім Адам. — А табе нельга жыць з такім грузам на душы. Вельмі цяжка так жыць.

— Нічога, груз гэты мой, і мне яго несці.

Пасля гэтых слоў яны абодва прымоўклі. Адам пакруціўся, уладкоўваючыся ямчэй:

— Давай да мяне бліжэй. Цяплей будзе, ды крыху паспім: пераначуем, то болей пачуем. Наперадзе цяжкі дзень, добры кавалак трэба агораць.

Аляксей, хоць і стаміўся за дзень, заснуў не адразу. Душа, развярэджаная ўспамінамі, не хацела спачываць. Яму зноў палезлі ў галаву думкі пра Ірыну, дзяцей. А потым пра тое, як будзе цяжка дабрацца дадому. Бо іх, канечне, аб'яваць у вышук, паўсюль развесяць фотаздымкі. Можа, ім і пашчасціць дабрацца да станцыі, сесці на цягнік. Але ж трэба раздабыць недзе цывільную вопратку, бо ў турэмных ватоўках іх адразу заматуць. Ці дабяруцца яны? Можа, дарэмна ён заварыў гэту кашу ды ўцягнуў сюды і Адама? З такімі невясёлымі думкамі непрыкметна заснуў. Яму прысніўся чамусьці бацька. Сцізорыкам ён часаў лазовы дубец і казаў:

— Не, Алёша, не туды ты пайшоў. Я ж табе казаў, ідзі да нас на чыгунку. Вывучыўся б на інжынера, жыў бы сабе спакойна. Вось не слухаў бацькі.

Раптам з-за бацькі вырасла чырванатварая постаць Падвойнава. Ён ляпаў па сцёгнах гумоваю дубінаю і паўтараў:

— Уставай, Аляксей, уставай. Ужо час ісці.

Той адчыніў вочы і прачнуўся. Над ім нахіліўся Адам, які будзіў яго:

— Уставай, трэба ісці.

Цьфу ты, прысніцца ж такое. Аляксей падняўся і вылез на свежае паветра. Ужо каторы час, як заднела. І ўпершыню за доўгія спахмураныя зімовыя дні сонца ярка разлілося надляснымі абшарамі. Як жывыя, іскрыліся, пераліваліся сняжынкі, зіхацелі ў сонечных промнях замёрзшыя кропелькі на галінках бяроз, ціха пакалыхваліся не палёгшыя адзінокія пругкія сцябліны лясной травы. Лес ажыў, прыхарошыўся пад пяшчотай сонечнага святла. Распушыліся і папрыгажэлі яліны, навастрыў зялёнае ўбранне малады сасоннік на ўзлеску, прыўзняліся над кустоўем красуні бярозкі. Каля бярозак прыгарнулася лясная прыгажуня каліна, якая надавала асаблівае хараство зімоваму малюнку. У той момант з шумам і пырханнем на яе спусцілася чародка чырванагрудых птушачак. Яны прыляцелі паласавацца лясным пачастункам, і маладзенькая каліна з маўклівай пакорай прыняла сваіх гасцей.

Аляксей зачарпнуў снегу, абцёр ім твар і хрумстануў зацвярдзелую скарынку. Храбусткі, халодны снег апаліў язык і зубы холадам, але ж піць хацелася болей. Адам, павярнуўшыся на ўсход, шаптаў малітву. Памаліўшыся, ён падняў торбу.

— На вось, паснедай, — Каленік дастаў з торбы засушаны кавалак хлеба і разламаў яго на дзе часткі. Жуючы на хаду, яны накіраваліся далей. Першым зноў пайшоў Аляксей, а па яго слядах Адам. Лес то месцамі радзеў, пераходзячы ў пералесак, то ахінаў іх непралазным гушчаром, праз які яны з цяжкасцю прадзіраліся. Часам даводзілася абыходзіць цэлыя завалы з накіданых адно на адно магутных елак, бяроз і асін. Адчувалася, што мясціны тут дзікія і амаль няходжаныя. У лесе стаяла спрадвечная цішыня, якую парушалі толькі іх крокі ды ападаючы бялюткі снег з галінак дрэў і яловых лапак. Аляксей стараўся не спяшацца, каб Адам паспяваў за ім. Але той усё роўна адставаў, і Заборскаму прыходзілася спыняцца, каб пачакаць таварыша. Пры хадзе Каленік часцяком пакашліваў. Недзе пад абед ён так моцна закашляўся, што Аляксей спужаўся: ці не стане яму зусім блага? Што тады рабіць тут, у лесе? Той кашляў, абапёршыся аб бярозу доўга, з надрывам. А калі сплюнуў, то на снезе з'явілася крывавая пляма.

— Што ж ты раней не сказаў, што ты такі хворы? — жахнуўся Аляксей.

— А што было казаць? — махнуў рукой збялелы Адам. — Ты ж ведаеш, што ў калоніі мы ніхто, быдла. І заставацца паміраць там зусім не хацелася. Я ведаю, што мне няшмат засталося. Бо здароўе і так было не вельмі. З-за гэтага мяне і ў войска не ўзялі, я табе казаў. А калі я ў лазарэце ляжаў, то чуў, як доктар казаў пра мяне санітару. Гэты, маўляў, сама болей паўгода ці працягне. Адным словам, яны мяне ўжо запісалі ў нябожчыкі. Канечне, каб на волі гэта было, то і лекі б якія, харчаванне прыстойнае, яно б было па-іншаму. А так…

Не дагаварыўшы, ён паціху пайшоў наперад. Аляксей упарта таптаў снегавое покрыва, раздумваючы над Адамавымі словамі, ягонымі ўчынкамі, ягонымі паводзінамі. У гэтым чалавеку пры ўсёй яго фізічнай слабасці адчуваецца моцная ўнутраная энергетыка, любоў да бліжняга, сіла волі, цвёрдая вера ў свае ідэалы, настойлівасць. Ён з той пароды, якая не скарыцца пад націскам цяжкасцей, не будзе рабіць тое, што яму агідна. Ён мае тыя рысы характару і чалавечыя якасці, якія даспадобы і Аляксею. Каб не ён, то ў Аляксея нічога не атрымалася б. Толькі аддзячыць яму ён пакуль ніяк не зможа. Дарэчы, дзякаваць пакуль рана, яшчэ трэба дайсці.

Яны ішлі пакуль хапала сіл. Пад канец і Аляксей прыстаў. Ён спыніўся каля заснежанай бярозы. Кароткі зімовы дзень сыходзіў у небыццё. Змрок збіраўся з сіламі, каб захіліць наваколле маўклівай чорнай і цягучай цішынёй. Здавалася, яму не цярпелася заўладарыць лесам, снегам, паветрам, падкінуць страху і роспачы ў слабыя чалавечыя душы. І падкінуць туды такой д'ябальскай сумесі, каб аж ім захацелася завыць ад невыноснасці існавання і бездапаможнасці.

Аляксей прысеў. На снежным покрыве выразна бялелі сабачыя сляды, свежыя і буйныя. Ланцужок слядоў збягаў за купку заснежанага кустоўя. А перад кустамі яго перасёк яшчэ адзін ланцужок такіх жа слядоў.

— Глянь, нейкія сабакі гойсалі тут, — Аляксей ткнуў пальцам на сляды.

— Сабакі, ды не тыя, — Адам стомлена азірнуўся па баках. — Здаецца, гэтыя сабакі ўжо даўно за намі ідуць. Вунь, глянь туды.

Паміж дзвюх разлапістых елак, у нейкай сотні метраў ад іх, Аляксей убачыў два шэрыя цені. Яны неадрыўна сачылі за людзьмі, іх рухамі.

— Вось халера, толькі іх не хапала. Што рабіць будзем?

— Што мы можам зрабіць з ваўкамі без зброі? — сцепануў плячыма спатнелы Каленік. — Прыйдзецца, мабыць, нам начаваць вось тут, дзе стаім — хоць нейкая прагаліна. Калі пойдзем далей у лес, могуць накінуцца на нас. Мажліва, яны толькі і чакаюць лацвейшага моманту. Мо тут іх не пара, а болей. Вось і наладзілі на нас паляванне.

— Дык мы ж скалеем тут.

— Не прападзем: чалавек маракуе, а Бог выракуе, — Адам рашуча павярнуўся да сябра. — Збірай ламачча для вогнішча, нам будзе цёпла, а яны не палезуць.

Аляксей ліхаманкава кінуўся збіраць вецце, ламаць сукі, выбіваць з-пад снегу сухія патырчакі. Адам тым часам, наламаўшы з невялічкай хвойкі сухіх тоненькіх галінак, ладкаваў месца для вогнішча. Ён разгроб ботам снег, наклаў ладную горачку галля і выцягнуў запалкі. Агеньчык ледзь-ледзь устрапянуўся пад галлём, нясмела захістаўся ў бакі, бы баючыся развярнуцца і паказаць сваю моц і сілу. Адам, укленчыўшы, стаў асцярожна падсоўваць танюсенькія галінкі і паціху дзьмуць на кволы агеньчык. Той, дзякуючы намаганням чалавека, стаў расці. У яго з’явіліся першыя, пакуль невялікія языкі, якія сталі расці ды набіраць моц. І вось ужо затрашчалі вільготныя сукі, ахапіла сівым дымам living ламачча, паляцелі ў вышыню да зораў такія ж зорападобныя барвяныя іскры. А цемра ўвабралася ў сілу, уладна зацягнула свае прасторы чорнай немаччу. І не стала відаць ні ваўкоў, ні лесу, нічога, акрамя невялікага куточку ля маладзенькай хвойкі з зыркім вогнішчам, дзе туліліся Аляксей з Адамам. Паспакайнеўшы, полымя паціху трушчыла небагаты запас дроў, які паспеў сабраць Аляксей. Толькі сіпеў набрынялы вільгаццю трухлявы пень, які ніяк не хацеў добра ўгарэцца, хоць яго ўжо некалькі разоў павярнулі з боку на бок. Зыркія сполахі агню кідалі на сцішаныя твары людзей барвовыя водбліскі, як з печы. Каля вогнішча зрабілася па-дамашняму цёпла, утульна і хараша. Не было ўжо ніякага страху ні перад ваўкамі, ні перад зімовай сцюжай, ні перад няведамай будучыняй.

— Добра вось так сядзець каля вогнішча, глядзець на агонь. Нікуды ўжо не хочацца. Здаецца, вось так сядзеў бы і глядзеў, — задумліва азваўся Адам, варушачы палкаю вуголле.

Ад яго рухаў у кастрышчы трашчала, у глухую чарнату ночы ляцелі дробачкі-іскаркі. Ляцелі і тут жа згасалі, як расцвітае і згасае кароткае і мімалётнае чалавечае жыццё ў глыбінях Сусвету. Так жа ўспыхвае на вялікім зямным кастрышчы чалавек, ляціць маленькай зорачкай-іскаркай, падымаецца ад маці-зямелькі ды згасае ў неўтрапёным сне. І толькі ад чалавека залежыць, ці застанецца на зямлі след які пасля яго, ці звергнецца ён у небыццё, у апраметную, незаўважаным і нікчэмным.

— Некалі, мажліва, так сядзелі і нашы продкі, — Аляксей пасунуўся крыху ад вогнішча, — сядзелі і разважалі, як мы з табою, думалі, у нешта верылі.

— Калі няма ў чалавека ані крушыначкі веры, ягонаю душою завалодваюць д’ябальскія сілы, ён можа тварыць такія рэчы, ад якіх стыне кроў у жылах. І найбольш каштоўная вера тая, якую мы маем, — вера ў Бога. Ды толькі людзі не разумеюць усяго таго, што дае вера, — з нейкай нечаканай крыўдай адказаў Адам.

— Я нічога не маю супраць веры ў Бога. Але ж няма ніякіх доказаў, што ён існуе, што вера нешта дае чалавеку. Бо чаму на зямлі столькі творыцца нядобрага, гэтулькі злачынстваў? — флегматычна заўважыў Аляксей.

— Бо гэта ўсё справа рук чалавечых. Людзі сляпыя, а вера дае ім зрок. Таму каб стаць відушчым, трэба прыйсці да Бога. Я не кажу, што трэба бегчы менавіта ў царкву альбо касцёл, — яны не панацэя. Вера — яна ўнутры, як мярыла, якое не дазваляе рабіць штосьці ганебнае. Сапраўды веруючы чалавек ніколі не ўчыніць злое, не стане рабіць так, як рабіў Сівалап. Разумееш? І сапраўды веруючы ніколі не будзе помсціць, бо ён абцяжарвае грахом не толькі сваю душу, але і душы сваіх родных, сваіх дзяцей, унукаў. Бо зло можа вярнуцца і праз пакаленні. Нездарма ў Кнізе прытчаў Саламонавых гаворыцца: «Если голоден враг твой, накорми его хлебом; и если он жаждет, напои его водою». Толькі праз гэта чалавек можа зразумець, што, зрабіўшы хоць адно злачынства супраць другога чалавека, ён непазбежна, рана ці позна, здзейсніць і другое. І ў гісторыі нямала таму сведчанняў.

— Добра, — падхапіўся Аляксей, — хай я буду зараз жорсткім, але мушу спытаць: калі злачынства — страшны грэх, то чаму ты пайшоў на злачынства?

— Я даўно чакаў гэтага пытання, — Адам неяк сцішана апусціў вочы, — чакаў, калі ты спытаеш мяне аб гэтым. А то я цябе вучу не ісці на злачынства, а сам закаранелы грэшнік. Памятаеш, я табе казаў, як не мог рашыцца на тое, што зрабіў. Я лічыў немагчымым узяць чужое. Так мяне вучыла мама, так вучыць слова Боскае. Але калі я ўявіў, што самага блізкага мне чалавека можа не стаць з-за маёй бяздзейнасці, мне стала так жахліва, што я не вытрымаў, перамог свой страх. Я заспакоіў сябе тым, што маё злачынства не наробіць шкоды ніводнаму чалавеку. Так, як бы тое ні было, красці — страшны грэх. Я адступіў ад гэтага. Можа, таму і Бог пакараў мяне за маё злачынства сухотамі. Усім нам прыйдзецца несці адказ за свае ўчынкі — і перад Богам, а найперш перад сваім сумленнем. І я вельмі не хачу, каб ты памыліўся ў жыцці, як я, стаў на Каінаў шлях. Ты добры чалавек, у цябе светлая душа, і няхай яна такою застаецца.

На нейкі час яны прымоўклі. Аляксей зноў задумаўся над словамі Адама. З аднаго боку, ён мае рацыю. Зло рабіць дрэнна. Гэтаму яго вучылі і бацькі, і дзед з бабуляй, і школа. І сам ён вучыў таму дзяцей сваіх. Толькі ці можна змірыцца з тым, што Сівалап будзе жыць і прыпяваць да скону дзён? Але Адам і тут мае рацыю. Бо ўзяць тую сіцыліянскую вендэту або кроўную помсту горцаў, аб якой ён чытаў. Б’юцца, б’юцца яны там, забіваюць адзін аднаго, а што з таго? Вырастае новы чалавек, які забівае далей. І няма таму канца. Можа, Адам кажа праўду? Тады, выходзіць, яго ўцёкі марныя, трэба вярнуцца і з узнятымі рукамі прыйсці ў калонію? Нешта тут яно не вяжацца. Аляксей хацеў сказаць аб тым свайму суразмоўцу, але яго апярэдзіла звонкае, працяглае і жудаснае воўчае выццё. Ад яго стала не па сабе, і Адам, нервова сцепануўшы плячыма, сказаў:

— Бач ты, ніяк не хочуць разысціся, чакаюць лёгкай здабычы. Толькі не, не па вашых зубах такая ежа. Мы яшчэ пазмагаемся, мы яшчэ пакажам, што ёсць сапраўдныя людзі.

Каму адрасаваліся гэтыя словы: ці то ваўкам, ці то людзям — невядома.

— Давай крыху перакусім ды паспім па чарзе, — прапанаваў Адам, — бо сілы нам спатрэбяцца.

Падсілкаваўшыся са сваіх прыпасаў, яны сталі рыхтавацца да ночы. Удваіх, з палаючымі галавешкамі, сябры прайшліся па бліжэйшых кустах, каб назбіраць крыху дроў. Сухастою было няшмат, але сяк-так удалося агараць нейкага запасу на ноч. Ісці далей у лес яны не рызыкнулі. Сцізорыкам Аляксей завастрыў палку, паціху накалупаў з вогнішча гарачага прыску, падгарнуў яго пад хваёвыя лапы. Усё ж цяплей будзе спаць. Першым лёг адпачыць Аляксей. Спаць было не надта каб утульна, бо з аднаго боку прыпякала ад кастра, а з другога было халаднавата. Але Адам здагадаўся і наламаў яшчэ ельніку. Тым веццем ён прыкрыў таварыша, і стала больш-менш утульна. Стома ўзяла сваё, Аляксей заснуў. А мо і не заснуў, а праваліўся ў кароткае забыццё, дзе не было месца снам і марам. Прахапіўся ён толькі ад слоў:

— Алёша, прачынайся, хутка раніца. Я гадзінку якую спачну.

— Дык чаму ж ты мяне так позна падняў? — схамянуўся той. — Мы ж дамовіліся каб ноч напалову. Навошта ты так?

— Ты маладзейшы, табе болей трэба паспаць. А мне хопіць і пару гадзін, які там сон у маім узросце, — заспакоіў яго Адам.

— А што так, усё спакойна?

— Ды як быццам, недзе там яшчэ вылі адзін раз, але зараз усё сціхла. Я думаю, што пайшлі яны.

Аляксей падкінуў яшчэ некалькі таўставатых галін у вогнішча і прымасціўся побач з Адамам. Сон прайшоў, ён адчуваў у сабе сілы да новага дня. Дзень жа пакуль не спяшаўся, вісела тая ж заспакоеная, пругкая, як заплеценая павуцінаю, цемень. Але і ў паветры, і ў самой цемені ўжо з’явіліся першыя няўлоўныя водгукі будучага дня. Недзе матлянулася галлё ад аб’ехаўшага снегу, шалахнуўся куст ад дотыку палахлівага зайца, спуджана і амаль нячутна запішчалі далёка пад снегавым покрывам мышы, злёгку азваўся і ранішні вятрыска. Мароз так і не збіраўся больш мацнець, што нядрэнна.

6

Аляксей зноў задумаўся над тым, што казаў яму Адам. Так, Каленік пабачыў жыццё. Складанае яно ў яго, але і ў самога Аляксея не лепшае. Хіба ён мог калі падумаць, што будзе некалі вось так, па-за законам? Што ён будзе ўцекачом, на яго будуць паляваць, а ён будзе хавацца? Нават, як кажуць, у самым страшным сне ўявіць сабе не мог. Толькі што рабіць далей, куды падацца? Мабыць, выбару няма. Трэба ісці далей, туды, куды і збіраўся. А там будзе бачна, што рабіць і з кім квітацца. Толькі наперад, як любіў казаць дзед Валодзя. Заспакоены такой думкай, успомніў, як лавіў у дзяцінстве з дзедам рыбу на вёсцы. Дзед Валодзя быў заядлы рыбак. І як толькі ўнук прыязджаў, ён адразу ладзіў таптуху. Бабуля пачынала бубнець: маўляў, дзіця прыехала адпачыць, а ты цягнеш яго па балацінах, азярынах, усё мала табе той праклятай рыбы. На што дзед казаў:

— Цыц, старая. Ты ўсё адно нічога не разумееш у мужчынскай справе. Мужчына — ён здабытчык, ён павінен забяспечыць сям’ю. Хоць рыбай, хоць бульбай, а забяспечыць. Я правільна кажу, унучак?

Аляксей згоднаківаў галавой, а дзед горда казаў:

— Вось так, бабуля. Назад няма шляху, толькі наперад.

Яны з дзедам усцягвалі на сябе старыя рызманы і ішлі да шматлікіх азярын, што разліліся на другім, нізкім, беразе рачулкі. Пасля веснавой паводкі там заставалася безліч рыбы. І яе лавілі, як толькі маглі. Аляксею падабалася цягаць таптуху, ставіць яе пад лазовыя кусты, боўтаць нагамі, выганяючы адтуль тлустых лінёў, залацістых карасёў ды вастразубых шчупачкоў. Хай тая рыба была не вельмі ўдалая, бо не паспявала вырасці. Хоць, дарэчы, траплялiся і ладныя экзэмпляры. Зацягвала само дзейства: загон, чаканне здабычы. Пасля падымаеш таптуху, а ў ёй трапечуцца ліні, шчупакі, вёрткія і няўлоўныя ўюны. Залаты быў час, бесклапотны. Няма дзеда, памёр дзесяць год таму, ды і сам Аляксей далёка ад родных мясцін.

Ён адарваўся ад успамінаў і згледзеў, што вогнішча добра-такі падгасла. Ён закінуў усе дровы, што заставаліся. Усё роўна яны ўжо непатрэбныя. Агонь накінуўся на новую здабычу, з трэскам ахопліваючы лясное паліва. За верхавінамі прыкметна пасвятлела, акрэслілася няроўная паласа густога ўзлеску. Хутка разднее. Аляксей паглядзеў на Адама. Водсвет ад вогнішча падаў на яго твар. У сне ён выглядзеў безабаронным і яшчэ больш змарнелым. Твар, зарослы сіваватай шчэццю, прыкметна выцягнуўся, стуленыя калені падобны на дзве гнутыя мыліцы. Шкада будзіць, хай паспаў бы яшчэ.

Недзе праз паўгадзіны ён усё ж пабудзіў Адама. Новы дзень, у адрозненне ад учарашняга, выглядаў няласкава: стылае воглае паветра, захмараны ранак, які ніяк не хацеў надыходзіць, панылы хмызняк на бліжэйшым узлеску. Адам пацягнуўся, размяў плечы:

— Як тут, не турбавалі цябе браты нашы меншыя?

— Ды не, ціха. Мабыць, сышлі. Будзем выходзіць?

— Ага, зараз што-небудзь на зуб возьмем ды ў шлях.

— Як мяркуеш, колькі ўчора мы адолелі?

— Цяжка сказаць, але мне здаецца, кіламетраў каля пятнаццаці змаглі прайсці. То ж не па асфальтавай дарозе шпацыраваць.

Уцекачы засыпалі вогнішча снегам. Пасля Адамавага «Ойча наш» яны глянулі адзін на аднаго і рушылі далей. Аляксей ішоў, паглыбіўшыся ў думкі і выбіраючы дарогу. Дзень быў бязветраны. Лес звыкла маўчаў, крыху схіліўшыся пад снегавым покрывам. У большасці то былі камлюкаватыя елкі, дзе-нідзе пракідаўся беразняк. Стаяў востры пах хвоі, вільгаці і яшчэ нейкагаляснога духу, што прыемна казытаў ноздры. Аляксей прадзіраўся праз ельнік і асцярожна адводзіў лапы, каб не сцебануць імі Адама. Той быў, відаць, у добрым настроі, бо спрабаваў нават нешта ціха спяваць сабе пад нос.

— Што гэта сёння з табой? — здзіўлена азірнуўся Аляксей.

— Ды не звяртай увагі, — адмахнуўся Адам, — гэта я так. Успомніў, што сёння ў мамы дзень нараджэння. За ўсімі прыгодамі ледзьве не забыў. Я даслаў ёй ліст з віншаваннем, мо ўжо і атрымала. Успомніў пра яе, і неяк добра стала.

— Ведаеш, на жаль, я рэдка сустракаў людзей, якія вось так самаахвярна, чыста адносяцца да сваёй маці,— шчыра прызнаўся Заборскі.

— Не, як жа можна інакш? Яна ў мяне такая, — таварыш шматзначна ўзняў палец, — ніколі нікому не пазайздросціла, нікому дрэннага слова не сказала. І нас з Толікам, царства яму нябеснае, гэтак выхоўвала. І сына майго, Сашку, старалася таму ж вучыць.

— Дарэчы, як твой сын? Якія ў цябе адносіны з ім?

— Ды нічога, ладзім мы з ім. Вольга мая спачатку, як разышліся, спрабавала падбіць яго супраць мяне. Толькі нельга ж яму было заставацца бязбацькавічам пры жывым бацьку. Хопіць таго, што я такім вырас. Я Вользе неяк растлумачыў тое і ніколі не цураўся іх. Чым мог, заўсёды дапамагаў. З сынам мы пасябравалі, лыжы, канькі яму прыдбаў. Колькі, памятаю, радасці ў яго было, як ён навучыўся на каньках стаяць. Я і ў школу на бацькоўскія сходы хадзіў. Вучыўся ён нядрэнна, але нікуды не паступаў пасля школы, як я яго ні ўгаворваў. Ён толькі на шафёра вывучыўся ад ваенкамата. А ўжо пасля службы сам пайшоў у аўтадарожны тэхнікум. Вось сёлета павінен скончыць. Спецыяльнасць будзе нядрэнная.

На гэтых словах Адам закашляўся.

— Вось жа халера, хапянеш халоднага паветра — і зноў ён чапляецца, — праз сілу вымавіў ён.

— Тады не размаўляй, — прыпыніўся Аляксей.

— Нічога, зараз пройдзе.

Пакуль яны стаялі, з гушчару выцерабілася цікаўная стракатая сарока. Птушка ўселася на верхавіне пышнай франтаватай ялінкі і заверашчала на увесь лес, як бы праганяючы няпрошаных гасцей прэч ад гэтага месца. Лясная пляткарка торкалася з адной лапкі на другую, страсаючы рэшткі снегу, і адчайна трашчала.

— Якой ты халеры расхадзілася? — здзівіўся Адам. — Няйначай, хоча нас адпудзіць ад нечага.

Так яно і было. Праз колькі крокаў уцекачы трапілі на жудасны малюнак. Паміж дзвюх завостраных купін снег быў спрэс стаптаны, здратаваны і чырвоны ад крыві. На снезе, перамешаным з зямлёю, травою і крывёю ляжала напалову з’едзенае тулава лася. Напаўзасыпаная галава ахвяры з адламаным рогам бязвольна хінулася да пакатага баку купіны. Левае вока, бы чорны гузік, здзіўлена блішчала на ўвесь белы свет у нямым пытанні: што тут робіцца, чаму я тут?

— Во, пажывіліся, знайшлі каго ўпаляваць. Відаць, ён здорава супраціўляўся, — заўважыў Аляксей.

— Яны ўпалявалі, а мы ім не далі баль скончыць, — Адам агледзеўся па баках. — І яны недзе тут недалёка, бо ваўкі сваю здабычу не кідаюць. Што ж, хоць адна карысць з іх, хай падзеляцца з намі сваёй здабычай.

З гэтымі словамі Каленік дастаў сцізорык, прысеў каля ваўчынай здабычы і стаў крамсаць шкуру, стараючыся выразаць кавалак мяса. Правалэндаўшыся некалькі хвілінаў, ён паказаў Аляксею ладны кавалак:

— Вось, і ў нас будзе невялікае свята. Пакаштуем з табою свежаніны. Не ўсё ж баляваць гэным шэрым разбойнікам.

— Ага, — засмяяўся Аляксей, — глядзі, каб яны за табой не пагналіся ды не адабралі сваё мяса.

Далей пайшло нейкае балацінне. Хоць яно і падмерзла, але сям-там віднеліся брудныя жоўтыя плямы. Сярод іх пачварнымі струпамі тырчалі згніўшыя бярозавыя пні, а ў зарасніках нядошлага хмызняку задзіралася ўгору рудое шамацістае куп'е. Параіўшыся, уцекачы вырашылі не рызыкаваць і абысці замінішча. Ім пашанцавала, круг аказаўся не вельмі значным. Мабыць, ад таго, што ў гэтым месцы пад снегам разраслiся імхі, ісці стала значна горш: мох правальваўся, ногі грузлі глыбока ў снег. Аляксей хутка замарыўся і збавіў тэмп хады. Адам упарта, часам кашляючы, ступаў следам. Заборскі каторы раз падзівіўся вытрымцы і цвёрдасці таварыша. Хоць і дрэнна яму, але ён не жаліцца, не ные, ідзе нароўні з ім. А з выгляду мяккі і просты, бы затурканы вучань-выдатнік.

Недзе апоўдні надвор'е стала змяняцца. Прывычная цішыня знікла. Спачатку высока ў верхавінах, а затым і па ўсім лесе зашумеў, загудзеў пранізлівы вецер. Застагналі старыя елкі, захваляваліся танканогія бярозкі, жаласліва зарыпеў прыгнечаны асіннік. Па лесе пракаціўся нейкі пасвіст, шолах, з-за асінніку ветрам выкаціла дробнае смецце з учарнелай мёрзлай лістотай. Неба, і без таго не вельмі прыветнае, сцямнела, завіхурылася, наганяючы нуду і адчай.

— Мабыць, снег пойдзе, — Аляксей з трывогай зірнуў уверх.

— Здаецца, што так, — пагадзіўся Адам, — але ж і тут нам прытулку добрага няма. Мокрадзь, лес такі, што няма дзе прытуліцца. Давай ісці далей. Магчыма, натрапім на прыдатнае месца ды перачакаем непагадзь.

Яны перабраліся праз асіннік, за ім зноў пайшоў бярэзнік. Прыдатнага месца для начлегу так і не знайшлося. Сярод голых ствалоў цяжка схавацца ад ветру і снегу. Зверху паціху зацерушыла дробным сняжком. Парывісты вецер свавольнічаў, шпурляючы снегам у твар. У гэты час Аляксей заўважыў, што сярод беластвольных бяроз, справа ад іх, выразна чарнее нешта вуглаватае, прысадзістае, падобнае на збудаванне. Уцекачы звярнулі ўправа. Збудаванне аказалася невялікай, крокаў на пяцьшэсць у даўжыню хаткай, зрубленай са смалістай елкі і крытай цёсам. Па ўчарнелым бярвенні было зразумела, што яна стаіць тут не першы год.

— Во гэта падарунак. Сярод лесу хата, ды яшчэ ў такую непагадзь. Здорава, — узрадаваўся Адам.

— Хутчэй за ўсё, хата паляўнічых. Яны тут збіраюцца, калі выязджаюць у лес. Заб'юць звера — ды сюды, здабычу засмажаць, гарэлкі пап'юць. Я такую бачыў у нас, калі з дзедам па грыбы хадзіў, — зазначыў Аляксей.

— Хай сабе і паляўнічая, а нам якраз яна патрэбная. Па-людску хоць пераначуем. Мо і прыпасы якія ёсць. Як туды толькі ўвабрацца?

— Ключ павінен быць недзе каля ўвахода. Дай я гляну.

Аляксей пашастаў рукою ўздоўж дзвярэй і хутка намацаў на цвічку ў падстрэшшы ключ. Ён урачыста патрос ім перад Адамам, адамкнуў замок і адчыніў дзверы. Адам чыркнуў запалкай. Полымя запалкі высвеціла ў цемры стол з лавамі, газнічку над сталом і невялікую печку ў куце.

— Газнічка — гэта добра, — заўважыў Адам, — будзем са святлом.

Ён выкінуў дагарэлую запалку, чыркнуў новай і паднёс яе да газнічкі. Затым зняў шкляны абажур, выкруціў кнот і падпаліў яго. Пры святле Аляксей заўважыў яшчэ і

партрэт Сталіна ў кутку, алюмініевую біклагу пад сталом, нары з дошак уздоўж сцен ды нейкія транты на печцы. Адам адразу ж палез на печку і выцягнуў з трантаў торбу.

— Во, трохі нешта маем.

Ён паклаў з торбы на стол галеты, пачак гарбаты, тры бляшанкі кансерваў, запалкі, соль, мяшочак з пярлоўкай, чорны перац у слоічку.

— Сёння ладны булён згатуем. Паляўнічыя — людзі запаслівыя. Якраз за печкай і чыгунок ёсць.

— Тады я пайду дроў пашукаю, — Аляксей выйшаў з хаты.

Снег паваліў ужо ў поўную сілу. Зверху сыпаліся і разляталіся ад ветру ў розныя бакі буйныя, як кляновыя лісты, сняжынкі. За завеяй не было відаць нічога, апроч шчыльнай белай сцяны. Добра, што яны набрылі на гэтую хаціну. Як толькі ў такой завеі што адшукаць, можна і самому згубіцца ў лесе. Абышоўшы вакол хаткі, ён наткнуўся на складзеныя каля сцяны дровы. Яны былі парэзаныя на паленцы і на чвэрць паколатыя. Во ўдача! Аляксей з задавальненнем наклаў добрае бярэмя і павалок у хату.

— Трымай, — зваліў ён паленцы каля печы, — паляўнічыя ўсё зрабілі для нас.

— Добра-добра. Тут нават сякера ёсць. Ты пашчапай крыху, я пакуль раскладу цяпельца, — Адам працягнуў Аляксею сякеру.

Хутка ў печы затрашчала. Адразу ў хаце пацяплела, стала па-дамашняму ўтульна. Адам наклаў у закопчаны чыгунок снегу і прыткнуў каля печкі. Калі снег растаў, ён парэзаў на кавалкі мяса і кінуў яго ў чыгунок. Пакуль ён завіхаўся з булёнам, Заборскі ціха прылёг на драўляныя нары і ляніва сачыў за Адамам. За сцяной, часам, злёгку завываў і падскугольваў вецер, шорхаў па дранцы ды кідаўся ў дзверы, спрабуючы трапіць у цёплае памяшканне. У хаце так пацяплела, што Каленік з задавальненнем зняў ватоўку і варажыў сабе каля чыгунка. Прыемнае цяпло разлілося па ўсім тулаве, аддалося ў галаву і ногі. Аляксея пацягнула на сон.

— Гэй, ты там не засні, — Адам нібы прачытаў яго думкі, — спачатку павячэраем па-царску. А тады ўжо можам і адпачыць. Эх, як добра на волі, калі ніхто над табой не стаіць, не ганіць цябе, не зневажае. Хочаш — ляжы, хочаш — пасядзі ля вогнішча. Што скажаш, Алёша, аб чым задумаўся?

— Ды так, — Аляксей прыўстаў і зняў ватоўку, — проста разморыла. А нічога не думаю. Дзеці ўспомніліся. Сумую я па іх.

— Канечне, будзеш сумаваць. Ды нічога. Кажуць, у мудрага цара Саламона на пальцы быў залаты пярсцёнак. І калі цар сумаваў, ён глядзеў на той пярсцёнак. А там было напісана: усё праходзіць, і гэта пройдзе. І ён усміхаўся. Таму я табе адкажу такімі ж словамі — усё пройдзе. Пройдуць і твае цяжкія дні. Некалі ты будзеш сядзець сярод сваіх родных і ўспамінаць сёняшні дзень. Будзе і на нашай вуліцы свята. Трэба толькі верыць у Божую літасць ды не губляць надзею.

— А я і не губляю надзею. Толькі ўсё адно цяжка, калі на цябе звальваецца такое. Пры тым, што ты адказваеш за тое, чаго не рабіў, цягнеш тую лямку, якую не павінен цягнуць. А дома жонка, дзеці, без мяне. Вось гэта і не дае спакою, точыць душу.

— Ты не вярэдзь яе, душу. Павер мне, як старэйшаму: у цябе ўсё будзе добра. Табе лягчэй, Алёша, ты абавязкова вернешся да сваіх. Ты яшчэ малады, — Адам уз-

дыхнуў са скрухай у голасе. — Гэта ў мяне жыццё, лічы, пражытае. Але я веру, што Усявышні не дасць прапасці маёй грэшнай душы.

Адам размашыста перахрысціўся, нахіліўся да чыгунка, лыжкай памяшаў варыва і зачэрпнуў варыва. Злёгку падзьмуўшы на яго, пакаштаваў.

— Слухай, ну такі смачны булён атрымліваецца, — ён прыцмокнуў языком. Сапраўды, па хаце паплыў пах наварыстага булёну, дамашняй стравы, пах дзяцінства. У чыгунку клекацела, дробныя пырскі ляцелі на агонь, і тады на агні ледзь чутна сіпела. Праз некалькі хвілін Адам зняў чыгунок і паставіў яго на стол.

— Давай, Алёша, сядай, будзем вячэраць. Шкада толькі, што місак ці талерак няма. Ды ўдваіх мы з табою, і так абыдземся.

Той нетаропка падняўся, сеў за стол. З чыгунка патыхнула свежазвараным мясам. Вячэралі яны доўга, са смакам: булён быў гарачы і наварысты.

— Смаката! Даўно так не еў, — шчыра прызнаўся Аляксей. — Шэрыя разбойнікі падсобілі нам з вячэрай. І згатаваў ты смачна. Дзякуй.

— На здароўе, — кіўнуў Адам. — Цікава іншы раз павернецца жыццё. Ваўкі як быццам драпежнікі, нават за намі цікавалі. А выйшла так, што карысць прынеслі. Іншы раз здаецца — чалавек табе сябар. А на самай справе горшы за любога ворага. Бо ты ведаеш, што той супраць цябе. А гэты прыкідваецца сябрам, а за пазухай камень носіць. Як у тваім выпадку.

Нейкі час яны маўчалі. Агонь у печцы згас. Адно цеплілася чырвонае вуголле ды ішло ад печкі лёгкае млявае цяпло. А ў дзверы стукалася завіруха, стагнала на розныя галасы. Было так добра, хораша сядзець каля напаленай печкі, што не хацелася больш нічога. Пакрысе адышла скруха, зашыўся ў далёкі куточак застарэлы сум, стаілася адзінота. Стала неяк спакойна і лёгка, як даўно ўжо не было. Не хацелася думаць нават аб заўтрашнім дні.

— Будзем спаць, мабыць, — павярнуўся да таварыша Аляксей.

— Так, чаго ўжо сядзець, — пагадзіўся той, — дабранач табе, Алёша.

— І табе дабранач.

Як даўно ўжо ніхто не жадаў яму добрай ночы! Хутка, хутка забываецца ўсё добрае, звязанае з домам. І ўсё ж такі як добра, што лёс звёў яго з Адамам. Дапамагае яму і справай, і словам. Ён умее знайсці такія простыя словы, ад якіх становіцца лягчэй, святлей на сэрцы. Хоць у самога, магчыма, на душы кошкі скрабуць. Таксама нялёгкі лёс у яго. Але не плачацца, не бядуе. І чаму такіх людзей меншасць? Ці, можа, ён памыляецца і проста яму не шчасціла на такіх людзей, як Адам? Галоўнае, трэба верыць у лепшае, як кажа ён. Сапраўды, тады лягчэй жыць, лягчэй перанесці цяжкасці і непрыемнасці. Усё будзе добра. З гэтай думкай Аляксей заснуў.

7

Прабудзіўся ён ад таго, што яго трос за нагу Адам:

— Алёша, уставай, хуценька. Нам трэба ісці.

— Што здарылася? — падхапіўся той. — Чаму так тэрмінова?

— Я з хаты выходзіў. У лесе зранку так ціха, чуваць кожны шолах. І чую, што недзе ўдалечыні машына працуе, крыкі нейкія. І сабакі там брахалі. Баюся, каб не сюды людзі тыя пайшлі. Калі нас тут заспеюць, то абавязкова паведамяць у калонію. Таму хуценька збіраемся.

Яны похапкам сабралі свае нешматлікія рэчы, зладжылі ўсё ў хаціне і замкнулі яе. За ноч ладна падсыпала снегу. Яшчэ добра не разднелася, але свежы снег падбавіў раніцы свету. Белым кілімам зіма ўпрыгожыла наваколле, беллю аж рэзала вочы. Дзівосныя снежныя шатры ёлак, прыпарошаныя свежасцю танклявыя бярозкі, завеяныя асінкі, неўтаймаваныя гурбы кустоў і хмызу ўпрыгожылі ранак непаўторным хараством. Аляксей хацеў ужо ісці, але Адам спыніў яго:

— Пачакай.

Ён выцягнуў з-за хаты ссечаную хвойку:

— Во, працягнем за сабою каб слядоў не было відаць.

Аляксей падхапіў канец хвойкі і пацягнуў. Снегу ў лесе стала вышэй каленяў, ісці было цяжка. Праз якую сотню-другую крокаў ён добра ўспацеў, спыніўся адпачыць. Цяжка соп і кехкаў Адам.

— Мабыць, хопіць. Далей не будзем цягнуць, няма сэнсу.

Яны кінулі хвойку і паціху пабрылі.

— Як думаеш, хто гэта мог быць? — першым запытаў Аляксей.

— Я мяркую, што якая-небудзь паляўнічая кампанія. А калі так, то яны могуць і сюды завітаць.

— А можа, гэта нас шукаюць?

— Хто яго ведае. Толькі хто мог ведаць наш накірунак, каб тут шукаць? Мне здаецца, што наўрад ці гэта за намі.

— Добра было б, каб не за намі, — уздыхнуў Заборскі.

Раніца тым часам уступіла ў свае правы. Злёгку ажылі і затрымцелі верхавіны дрэў. Цяжка і нядобра крумкаючы, праляцеў над імі чорны груган, за кустоўем мільгануў цень нейкага ляснога жыхара. Аляксей ішоў, паглыбіўшыся ў свае думкі, і не глядзеў на Адама, які адстаў ад яго крокаў на дваццаць. Аляксей шыбаваў напрасткі паміж двух заснежаных кустоў. У гэты момант ён адчуў, што губляе глебу пад нагамі. Нешта затрашчала, і ён паехаў уніз, хапаючыся за галлё, што вытыркнулася зверху. Але дарэмна. Галлё затрашчала і паехала разам з ім. Ён ледзь паспеў закрычаць, як з шумам уваліўся ў яму. Правы бок апякло рэзкім болем, Аляксей гахнуўся на мёрзлую зямлю, і правую нагу таксама працяў боль. Ён застагнаў.

— Алёша, ты дзе? Ты жывы? Алёша, адзавіся? — недзе ўверсе загучаў устрывожаны голас Адама. Хутка ў святлеючым праломе паказаўся яго твар.

— Жывы я, — скрыгатнуў зубамі ад болю Аляксей, — толькі бок баліць і нага.

Ён агледзеўся. Яма была пасткаю для буйнага звера глыбінёю каля трох метраў. Хто і калі яе зрабіў — невядома, але дно ямы было засеяна завостранымі каламі. Іх вострыя канцы драпежна ашчэрыліся ў неба. Аляксея кінула ў холад: ён нарадзіўся, мабыць, у кашулі. Выратавала тое, што ён аб'ехаў стоячы. Некалькі сантыметраў у любы бок — і кол прапароў бы яго, як відэлец каўбасу. Хаця, бок ён, мабыць, добра падрапаў. І нагу ці то вывіхнуў, ці яшчэ горш, зламаў. Вось не шанцуе, дык не шанцуе.

— Алёша, як ты? — зноў загаварыў Адам. — Устаць можаш?

— Зараз паспрабую.

Аляксей абшчаперыў кол і падняўся. Спрабаваў ступіць на нагу. Баліць, але трываць можна. То, дзякаваць богу, не пералом. Ужо добра.

— Во, стаю. Як быццам, усё цэлае.

— Добра, добра, — захваляваўся Адам, — стой на месцы. Я зараз пашукаю штонебудзь, каб цябе выцягнуць. Ты толькі трымайся. Я хутка.

Яго галава знікла. Недзе праз хвіліну-другую яна зноў паказалася.

— Алёша, трымай палку. Я буду цягнуць цябе.

— Ты не зможаш мяне выцягнуць, — засумняваўся Аляксей, — па слізкім снезе сам аб'едзеш у яму. Лепш знайдзі што таўсцейшае і спусці канец да мяне. Я паспрабую сам вылезці.

— Не, давай я паспрабую. У мяне павінна атрымацца, — заўпарціўся Адам.

Аляксей схапіўся за палку, упёрся левай нагой у кол і стаў падцягвацца уверх. Бок азваўся рэзкім болем. Адам пацягнуў палку. Хутка стала зразумела, што Аляксей меў рацыю.

— Добра, Алёша, чакай. Пайду шукаць дрэўца якое. Я пастараюся хутка.

Аляксей, сцяўшы зубы, прысланіўся да сцяны. Толькі гэтага не хапала. Што цяпер рабіць? З пакалечанай нагой цяжка трымаць належны тэмп хады, а адлежвацца няма дзе і як. От, халера, з гэтай ямай. Каб таму рукі паадсыхалі, хто яе выкапаў. Чаканне здоўжылася, нават сталі браць дрыжыкі, мо ад хвалявання, а мо і ад таго, што было холадна стаяць у мёрзлай яме.

— Трымай, — нарэшце паказалася галава Адама, — я спускаю табе канец.

У яму аб'ехаў бярозавы кол. Аляксей абшчаперыў яго і стаў падцягвацца. Не звяртаючы ўвагі на боль, ён падцягнуўся раз, другі, трэці. Вось ужо і рукі Адама блізка. Ён падхапіў Аляксея і пацягнуў яго наверх. Той пераваліўся праз край ямы і лёг на зямлю. Абодва цяжка дыхалі.

— Вось і добра, ты выбраўся, — Адам закашляўся, — а то я падумаў, што з табою здарылася бяда. А гэта не бяда, гэта мы перажывём.

— Паглядзі мой бок, — Заборскі павярнуўся да яго, — што там у мяне?

Каленік пацягнуў уверх ватоўку, кашулю. Бок засмылеў з новай сілай.

— Чаго ты маўчыш, га? Кажы, што там у мяне.

— Ды нічога, Алёша, — Адам ціха выдыхнуў, — табе пашанцавала, калом толькі скуру падрапала моцна. Таму і баліць. Калі б было чым апрацаваць, то праз некалькі дзён зажыло б, як на сабаку. Зараз нагу гляну.

Ён стаў сцягваць з яго бот. Аляксей сутаргава скрывіўся.

— Патрывай крыху, патрывай.

Адам сцягнуў бот, разматаў анучу, стаў абмацваць нагу. Праз хвіліну ён вынес вердыкт:

— Табе і тут пашанцавала. Усё цэлае, нават і не вывіх, здаецца, расцяжэнне ўсяго толькі. Я зараз табе шчыльненька так абкручу, яно і балець будзе менш.

І сапраўды, калі пасля Адамавай дапамогі Аляксей усцягнуў бот, нага стала балець менш. Асцярожна ступаючы, ён зрабіў некалькі крокаў.

— Так, я магу ісці.

— Табе толькі трэба кіёк добры зрабіць, — таварыш кінуўся да бліжэйшага куста. Сцізорыкам ён выразаў ладны дубец, абшморгаў яго і падаў Аляксею.

— Як цяпер?

— Быццам нічога, — Заборскі паціху пайшоў наперад, — так ямчэй. Пайшлі.

Зрабіўшы некалькі дзясяткаў крокаў, ён прыладзіўся да няладнага, ціха тлеючага болю ў назе. Бок амаль не турбаваў яго. То і добра, паціху будуць ісці. Адам спачатку спрабаваў пайсці перад Аляксеем, але той настаяў на тым, што сам будзе ісці першым і далей. Шчыра кажучы, Заборскі шкадаваў таварыша. Як той пойдзе першым? Ён жа і так задыхаецца пры хуткай хадзе. Хай лепей ужо ідзе, як ішоў.

— Алёша, можа, спачнём хвіліну? — гукнуў яго Адам.

— Ты стаміўся?

— Ды не, я ж ведаю, што табе цяжка ісці з развярэджанай нагой.

— Не, — упарта матлянуў галавой Аляксей, — я яшчэ не стаміўся. Пойдзем.

Калі ён адвярнуўся ад Адама, каб ісці далей, яму падалося, што наперадзе, каля напаўзасыпанага вываратня, мільгнуў нейкі цень. Ці не ваўкі зноў аб'явіліся? Аляксей уважліва прыгледзеўся. Перад ім быў толькі заснежаны лес, снежная цаліна і тая, занесеная снегам, паваленая хвоя. Не, там нікога няма, падалося. Заборскі торкнуў у снег кійком і рушыў наперад. Вось ужо і вываратень. У той момант ён выразна пачуў, як штосьці металічна шчоўкнула. Аляксей не паспеў нават падумаць аб тым, што гэта магло быць, як пачуў зверху ўладны загад:

— Ану, стой! Рукі ўгору!

Аляксей павольна ўзняў рукі і галаву. На вываратні, расставіўшы ногі, з аўтаматам у руках, у вайсковым бушлаце і цёплых нагавіцах, вышчарыў зубы ў злавеснай ухмылцы… Падвойнаў. Каля яго ног ляжалі лыжы з палкамі.

— Што, маць вашу, думалі, можаце так лёгка і проста збегчы? Не, толькі не ад мяне. Колькі я такіх пералавіў за сваю службу. Вам не раўня, дахадзягі. Што, Заборскі, не чакаў, га? Прызнайся?

— Не чакаў, — у Аляксея раптам перасохла ў роце, — ніяк не чакаў.

— То-та ж, — задаволена харкнуў на бялюткае покрыва Падвойнаў. Яго ружовы твар яшчэ больш пачырванеў. — Што, хацелі мяне вакол пальца абвесці? Ды я ўсе вашы хітрыкі даўным-даўно вывучыў. Гэта ўсё ты, сухотны Каленік, твая праца. Дарма я цябе там, на месцы, не прыбіў. Я ж ведаў, што вы ўсё роўна на станцыю пойдзеце. А там вас ужо чакаюць. Толькі я першым вас цёпленькіх вазьму і прыцягну. І за тое, што вас затрымаў, прэмію буду мець. Вось так, га-га-га.

Падвойнаў гучна зарагатаў, з бярозкі на яго зваліўся каптурок снегу.

— Я ж тут, у гэтых месцах, даўно палюю, ведаю ўсе дарогі. Вы, дурні набітыя, хацелі яшчэ след замесці. Ды я ўжо ведаў, што вы тут. І ў яму маю вы зваліліся. У тую, што я на мядзведзя рыхтаваў. Ды не патрапіў той гад у яе чамусьці, абышоў. Вам, халера, яшчэ пашанцавала, што жывыя выбраліся. Ой, пашанцавала. Але шанцаванне ваша на тым і скончылася.

Падвойнаў узняў аўтамат, зняў з засцерагальніка.

— Што будзем рабіць? Хутка хлопцы падыдуць. Цябе, Каленік, я, мабыць, прыстрэлю тут. Скажу, што пры спробе ўцёкаў, спішуць. А цябе, Заборскі, зноў у калонію. Пасядзі, ды яшчэ падкінуць. Вось так, грамадзяне зэкі.

Аляксей і Адам знерухомелі, бы невядомая сіла скавала іх рухі. Падвойнаў зрабіў крок наперад з вываратня на гурбу галля і снегу. Нечакана штосьці пад ім хрупнула, і Падвойнаў, войкнуўшы, праваліўся. Адам з Аляксеем пераглянуліся. Некалькі

імгненняў стаяла мёртвая цішыня. Затым у гурбе нарадзіўся нейкі глухі шум, валтузня, гырчанне. Потым закрычаў не сваім голасам Падвойнаў, а невядомая сіла выкінула яго з гурбы. Падвойнаў распластаўся на снезе, аўтаматываліўся з рукі. За Падвойнавым паказалася ўскалмачаная бурая галава, якая глуха раўла. Прабуджаны мядзведзь спрытна выбраўся са сваёй бярлогі, узняўся на заднія лапы каля Падвойнава і зароў на ўсю моц. Адам з Аляксеем сталі паціху адступаць. Падвойнаў тым часам ачухаўся, прыўстаў і спрабаваў схапіць аўтамат. Гэта ў яго амаль атрымалася. Але мядзведзь на дзіва хутка і спрытна шмаргануў Падвойнаву па грудзіне калматай лапай. Бушлат імгненна пачырванеў ад крыві. Падвойнаў заенчыў немым голасам не горш за мядзведзя:

— А-а-ва-ай-а, ратуйце, дапамажыце! Дапамажыце! Ой-ёй-ёй, людзі!

Яго енк рэхам панёсся па лесе. Аляксею стала не па сабе ад такога нечалавечага крыку. Мядзведзь у адказ зароў яшчэ мацней і зноў ударыў лапай сваю ахвяру. Ад яго ўдару Падвойнаў перакруціўся, а аўтамат адляцеў на некалькі метраў.

— Людзі, ратуйце, ой, не магу, дапамажыце! — зноў зароў Падвойнаў. Аляксей нічога не паспеў падумаць, як з-за яго спіны кінуўся наперад Адам.

— Адам, ты што, стой! Ты з глузду з’ехаў! — памкнуўся за ім Аляксей.

— Я вазьму мядзведзя на сябе, — кінуў на хаду той, — а ты хапай аўтамат. Хутчэй, трэба ратаваць чалавека. Ды не за мной, кажу табе, аўтамат хапай.

Адам схапіў нейкі сук і смела кінуўся на раз’юшанага звера. Ён з усёй моцы тыркнуў мядзведзю суком у спіну. Раззлаваная жывёліна з ровам павярнулася да крыўдзіцеля. А той стаў адступаць назад. Звер, пакінуўшы Падвойнава, пайшоў на новую ахвяру. Аляксей, як на скрут галавы, кінуўся да зброі: да яе яе было не больш сямівасьмі крокаў. Але Адам за гэты час не паспеў адступіць. Калі Аляксей з аўтаматам у руках павярнуўся да яго, ушчэнт раззлаваны драпежнік паспеў зваліць таварыша на снег. Была відаць толькі спіна звера.

— Не-не-не, — адчайна закрычаў Аляксей і ўскінуў зброю. Аўтамат таргануўся і заляскатаў. Аляксей спыніўся толькі тады, калі змоўкла сама зброя. Мядзведзь ляжаў нерухома, снег вакол быў спрэс стаптаны і чырвоны ад крыві. Аляксей шпурнуў аўтамат убок і падляцеў да безжыццёвай тушы звера. Пад ёй быў Адам.

— Адам, Адам, адзавіся, — зароў не сваім голасам Аляксей. Ніхто не адказваў. Калі нечалавечым намаганнем ён крыху пасунуў звера, паказалася рука і тулава Адама. Аляксей дапетрыў, што снег глыбокі і, пакапаўшыся, ён выцягне Адама. З крыкам, здзіраючы пазногці, ён стаў грэбці снег. Калі выцягнуў таварыша ў акрываўленай вопратцы, той падаўся яму нежывым.

— Адам, уставай, Адам! — затармасіў яго Аляксей.

Таварыш слаба застагнаў.

— Жывы! — узрадаваўся Аляксей. Прыўзняўшы Адама, ён прысланіў яго да нерухомага звера, расшпіліў ватоўку, прыклаў да твару снегу. Каленік зноў застагнаў і расплюшчыў вочы.

— Алёша? Ты? — ціха запытаў ён

— Я, я, хто ж яшчэ, — радасна выгукнуў Заборскі таварышу, нібы той яго не чуў. — Ты ляжы. Зараз дапамога прыйдзе, мы цябе ў шпіталь. Ты паправішся.

— Не, Алёша, — Адам скрывіўся ад болю і на момант змоўк. — Сёння маё зямное жыццё скончыцца. Не пярэч, не трэба. Што суджана, то не будзе адгуджана. Як там Падвойнаў, жывы?

— Ды д'ябал яго забяры, гэту свінню. З-за яго ты не павінен гінуць, — з гневам адказаў Аляксей.

— Не кажы так. Як там ні было, а ён чалавек, і грэх кінуць чалавека ў бядзе. Помні гэта, Алёша. Табе яшчэ жыць, у адрозненне ад мяне.

— Адам, навошта ты так? — голас Аляксея дрыжаў. — Ты павінен жыць.

— Алёша, сілы мяне пакідаюць, — па твары Адама прабегла не то сутарга, не то шкадаванне,— у мяне да цябе ёсць просьба. Абяцай, што выканаеш.

— Абяцаю, выканаю ўсё, што ты скажаш. Толькі жыві.

— Я не аб гэтым. Калі вернешся дахаты, то абавязкова заедзь да маёй мамы. Перадай, што я яе любіў усё жыццё і ўдзячны ёй за тое, што яна для мяне зрабіла. Супакой, хай яна не ўбіваецца па мне. І яшчэ. Здымеш з мяне нацельны крыжык і перадасі майму сыну. Гэты крыжык быў са мной, калі мяне знайшлі ў лесе. Я хачу, каб ён быў з сынам, зберагаў яго. Раскажы яму, што бацька не злачынца. Я думаю, з цягам часу ён зразумее гэта.

Адам закрыў вочы, цяжка дыхаючы. З яго грудзей прарывалася нейкае клякатанне, у вугалку губ з'явілася ружовая пляма крыві. Аляксей узяў яго за руку. Яна была халоднай. Адам расплюшчыў вочы, слаба ўсміхнуўся.

— Ведаеш, Алёша, у дзяцінстве, калі мама вадзіла мяне ў царкву, я часта доўга глядзеў на іконы: строгія лікі святых, біблейскія малюнкі, анёлы з крылцамі. І мяне вельмі зацікавілі анёлы, прыгожыя-прыгожыя такія, ну любата адна. Яны як людзі, толькі з крыламі. Я тады спытаў у мамы: навошта анёлам крылы? А яна адказала, што крылы анёлам дадзены, каб ахоўваць людзей. Што ў кожнага чалавека ёсць свой анёл-ахоўнік, і ён суправаджае чалавека, лятае за ім, аберагае яго ад бяды. А я тады спытаў: чаму ж анёл не збярог маму, што мяне нарадзіла, тату на вайне? А яна адказала, што ў кожнага свой лёс, і кожнаму адведзена Богам свая мера. Толькі пазней я зразумеў, што крылы анёлам не для гэтага патрэбны.

Адам закашляўся, струменьчык крыві пацёк уніз, па шыі.

— Маўчы, маўчы, табе лепш маўчаць, — Аляксей сціснуў яго руку.

— Не, я хачу каб ты ведаў пра анёлаў. Дык вось, я думаю, што крылы анёлам патрэбны для таго, каб яны ўвесь час былі побач з чалавекам, не далі чалавеку адступіцца ад Бога, утрымаць яго на той сцяжынцы, што вядзе да яго. Калі анёл не дасць чалавеку здзейсніць дурныя ўчынкі, зможа ўтрымаць яго гнюсных дзеянняў, тым самым ён выканае сваё прызначэнне. Гэта я сам дадумаў. Бо інакш быць не можа. Нашто тады жыццё, калі пражыць яго не па сумленню? Так, Алёша?

Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але ўнутры ў ім нешта тарганулася, Адам выгнуўся ўсім тулавам, захрыпеў, абмяк і сціх. Толькі рука яго яшчэ старалася сціснуць руку сябра, але і яна аслабла.

— Так, Адам, так, — слёзы запаланілі твар, душу і сэрца Аляксея, — ты ўсё правільна прыкмеціў. Толькі ты заўважыў гэта. Інакш для чаго жыць.

Асцярожна, бы баючыся прабудзіць, усёй сваёй далонню правёў па яго твары, закрыў Адаму вочы. Расшпіліў сарочку, асцярожна зняў з яго крыжык і павесіў сабе

на шыю. Так ён і сядзеў, пакуль не набеглі хаўруснікі Падвойнава і не ўсцягнулі самога Падвойнава, стогнучага і амаль беспрытомнага ад болю, на спехам зробленыя насілкі, пакуль не паднялі і павялі самога Аляксея. Але гэта ўжо адбывалася не тут, а недзе ў сне. У сне, у якім яму было зусім не страшна, не цяжка, бо ён ведаў, навошта анёлам крылы. А ў вушах стаяла звонкая няведамая цішыня. Яе парушалі толькі срэбныя сполахі крылцаў залатакудрых, круглатварых анёлаў. Іх было шмат, яны былі паўсюль: кружыліся ў паветры, сядзелі на дрэвах, уздымаліся ў нябесную сінь. Аляксей ішоў і ішоў сярод гэтай цішыні, не гледзячы, куды ідзе. Бо цяпер ён ведаў сваю дарогу, сваю сцяжынку і збочыць з яе ніяк ужо не мог.

**Эпілог**

Аляксея ў калоніі адразу кінулі ў штрафны ізалятар. Там ён прасядзеў два тыдні. Яго распытвалі аб абставінах уцёкаў, аб тым, што здарылася напрыканцы, а ён толькі механічна адказваў, не думаючы над тым, што кажа.

— Не разумею цябе, Заборскі, — Ганчарэнка стомлена тупаў каля стала, — чаму ты пайшоў на ўцёкі. У цябе невялікі тэрмін, пакаранне лёгкае. Чаму ты пайшоў на гэта? Канечне, мы абавязкова улічым, што ты свядома выратаваў жыццё нашаму супрацоўніку Падвойнаву. Гэта пахвальна. Але мяне цікавяць матывы. Хто быў падбухторшчыкам? Хто ўсё арганізаваў? Хто дапамагаў?

Ён так і не атрымаў адказу. Калі Аляксея выпусцілі з ізалятара, яму аддалі пісьмо ад Ірыны. Упершыню пасля трагічных падзей у Аляксея засвяцілася сапраўдная радасць у вачах. Ён разгарнуў ліст:

«Любы мой Алёша. Атрымалі твой ліст, што ты напісаў яшчэ напярэдадні Новага году. Мы радыя, што ў цябе ўсё добра. У нас таксама ўсё добра. Ёсць адна добрая навіна. Я нават плакала ад шчасця. І вось чаму. Мы з табою хутка сустрэнемся. Некалькі дзён таму мяне вызывалі ў пракуратуру. Аказваецца, у Сівалапа праводзілі праверку і выявілі, што справу супраць цябе сфабрыкавалі. Адэлаіда Пятроўна на допыце прызналася, што дзейнічала па прамым загадзе Сівалапа. Праверка выявіла яшчэ шмат іншых парушэнняў. Сівалап зараз арыштаваны, яго будуць судзіць. Следчы сказаў, што твая справа ў бліжэйшы час будзе перагледжана. І калі ніякіх доказаў тваёй віны не знойдзецца, то цябе выпусцяць. Я ж ведаю, што яны нічога не знойдуць. Таму мы хутка ўбачымся. Я такая шчаслівая, Алёша. Скончацца ўсе нашы пакуты, мы будзем урэшце разам. Усё, любы, мне час бегчы на працу. Пішы, мы чакаем. Цалуем і абдымаем цябе. Твае Ірына, Саша, Даша».

Ліст упаў. Гара звалілася з плеч: ён невінаваты. Так, раней ці пазней, ён вернецца дадому, убачыць сваіх. Не вернецца толькі Адам. Чалавек, які ведаў, навошта анёлам крылы. А мо і ён сам быў тым анёлам, адпраўленым з неба на грэшную зямлю? Толькі бяздушныя, прагныя, чэрствыя людзі не бачылі гэтага і не зразумелі яго. А Аляксей ведае, і гэтую сваю маленькую вялікую праўду ён панясе ў свет.

нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь. Юрыст, зараз прадпрымальнік. Жыве ў Навагрудку. Аўтар кніг прозы «Пропавшая свадьба», «Храм его души», «Зелянее рунь», «Оракулы Междуречья», дзіцячай кнігі «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.





**МІКОЛА КАНАНОВІЧ**

# Згадкі. Быліцы

## Канец, Калюга і Грудок

— Раней у Востраве* была адна вуліца, якая сёння называецца Снітко. А ўся вёска дзялілася на тры часткі: Канец, Калюга і Грудок. І ў кожнай частцы была свая чарада кароў. У нас, у Канцы, — з канца вёскі і па Змітрука, у Грудку — ад Змітрука і па Свістуна, а ў Калюзе — ад Свістуна і да канца вёскі, да Яўхутаў займалі людзі чараду на пашу. Былі гады, калі ў нашым Канцы па 30 галоў трымалі людзі кароў, ды ў Грудку і Калюзе — па столькі ж, калі не больш. Але хутка Саветам гэта не спадабалася, пайшлі па хатах забіраць цялушак. За грошы ці як, ужо не помню, але так было. Толькі па адной карове пакідалі на сям'ю. А пазней, наадварот, хацелі ўжо, каб людзі трымалі скаціны як найболей, ды дзе там — адвучылі. Сёння на ўсё Вострава можа толькі з дзясятак кароў у людзей і набярэцца, — расказвае маці, чакаючы, калі ёй «прыедзе» свежае малако.

Два разы на тыдзень маці (і іншым нямоглым старым) малако і іншыя малочныя прадукты ў Вострава на заказ прывозіць са свайго хутара Альшанка, што за Міжэвічамі**, спадар Сухарэўскі.

Такім калюжныя, канцавыя і грудкавыя гаспадыні, хто яшчэ не выбраўся ў лепшы свет, прычакалі сваё светлае «заўтра»... А пакуль я пішу гэтыя радкі, спадар Сухарэўскі прывёз на сваім старэнькім «Масквічы» маці літр малака і паехаў далей, у Калюгу, да Давыдзёнчы.

## Арочка, начальнік і Манах

Самы даўгавечны старшыня нашага колішняга калгаса «Рассвет» на Слонімшчыне Эдуард Іосіфавіч Арочка ў часы праўлення самага даўгавечнага Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева прымаў аднойчы ў сваёй гаспадарцы нейкага начальніка ці то са Слоніма, ці адкуль вышэй — памяць тое ўжо не захавала.

А ў тыя часы жыў сабе на хутары каля Новай Пераваловкі*** дзіўны чалавек па мянушцы Манах. Жыў сам сабе. Трымаў гаспадарку, а ў гаспадарцы — тры каровы. Бідонамі здаваў Манах малако ў калгас. Якраз праязджалі тады Арочка з начальнікам каля хутара Манаха. Убачыў начальнік, што тры каровы пасецца ў чалавека, дый кажа: «Вось жа куркуль, тры каровы трымае! Такога пад суд аддаць патрэбна!» — «Што вы! — адказвае яму Арочка. — Нам пабольш такіх патрэбна». Разумеў мясцовы чалавек Эдуард Іосіфавіч, родам з Вецявіч****, на кім гэтая зямля і ўвесь савецкі

---

* Вёска ў Слонімскім раёне, цэнтр былога калгаса «Рассвет».

** Вёска ў Слонімскім раёне, цэнтр сельсавета.

*** Вёска ў Слонімскім раёне на мяжы з Брэсцкай вобласцю.

**** Вёска ў Слонімскім раёне, радзіма старшыні калгаса «Рассвет» Эдуарда Арочкі і пісьменніка, паэта і навукоўца Міколы Арочкі.

лад трымаецца. А начальнік — набрыдзь, навалач з неабдымных прастораў былой савецкай імперыі.

Што да Манаха, то быў ён да ўсяго сляпы, і за дармаедства інваліда не маглі прыцягнуць да адказнасці… А так дзіўны быў чалавек. Сабак лавіў і ў людзей купляў па 1 рублю за галаву. Скуры з іх лупіў і вырабляў, а мяса, казалі варыў.

Да гэтай пары не ведаю, што потым рабіў Манах з сабачым мясам.

**Пушок**

Пушок быў ласкавы сабака. Заўсёды прывітальна махаў хвастом, як толькі да яго хто падыходзіў на падворку. Без разбору — свой, ці чужы. І хоць прыгожы быў, чорна-бела-рыжы, пушысты і даволі вялікі, але пагарэў Пушок праз сваю дабрыню, давер і любоў да людзей.

— Не магу больш цярпець і трымаць на сваім двары гэтую неўдаль! Ніякай карысці ад яго. Заходзь хто хоча, бяры што хочаш — нават не гаўкне ні разу. Завядзіце куды-небудзь, каб і духу яго не было на надворку! — загадала нам з сябрам яго маці і гаспадыня Пушка.

— А куды ж мы яго павядзём? — спытаў у маці Валодзя.

— Ды хоць куды. Да Манаха вунь завядзіце. Ён вам за такога сабаку яшчэ і рубель дасць.

Згадка пра рубель дадала нам з сябрам рашучасці весці Пушка пад Новую Пераволоку да Манаха.

Летні дзень той быў пагодны, цёплы і сонечны. Наш чатырохлапы сябра бег за намі, ці то наперадзе, ці аглядаў наваколле па баках, не адчуваючы, што гэта яго апошняя прагулянка. На павадок, ці, дакладней, на вяроўку, мы ўзялі яго ўжо недалёка ад сядзібы Манаха. Пушок прыціх, быццам адчуў штось нядобрае, але не ўпіраўся, ішоў павольна за намі. А мы не спяшаліся. Ногі, здавалася, пацяжэлі раптам. Ад думкі, што больш ніколі не ўбачым ласкавага прыгожага Пушка, жаль напаўняў нашы дзіцячыя душы, а горкі камяк падступаў пад горла. Рубель на дваіх за аднаго Пушка ўжо не здаваўся вартай і жаданай платай. Але ішлі. Бо Валодзева маці сказала, каб назад з ім не вярталіся.

Сам увесь цёмны, ды яшчэ ў чорных акулярах, Манах пагладзіў Пушка па галаве, дастаў з жаночага кашалька з бліскучымі круглымі зашчэпкамі зверху рубель і працягнуў яго Валодзю:

— На. І ідзіце адсюль! — сказаў, забіраючы другой рукой вяроўку з Пушком у сябра.

Мы, як нежывыя, павярнуліся і пайшлі. Пушок заскавытаў, заскуліў. Я азірнуўся і ўбачыў, як сабака ўпіраецца, а Манах неяк спакойна, звыкла валачэ яго за сабой, не звяртаючы на тое ўвагі.

…Не помню ўжо, колькі нам тады было гадоў і што мы зрабілі з тым рублём, здаецца, ён застаўся ў Валодзі. Пра Пушка мы больш не гаварылі. Але прыязная, усмешлівая (як здавалася) морда таго сабакі і цяпер часам усплывае ў маёй памяці, а жаль — у душы.

*Ліпень 2016 г., Вострава*

## АЛЬЖБЕТА КЕДА

### Імя

У праваслаўнай царкве адпявалі яе каляжанку. Кабету незвычайнае дабрыні і спагадлівасці, якая так раптоўна, так хутка сабралася ў свой апошні шлях. Людзей было многа. Бо многія шанавалі яе пры жыцці. А калі не стала, тыя, што не шанавалі, прыйшлі таксама. Пэўна, у такія моманты людскае прачынаецца ў кожным.

Калі паніхіда па Люсі Іванаўне закончылася, святар пачаў прамаўляць. Чакалася, што скажа пра жанчыну добрае слова, якое заслужыла яна ўсім жыццём сваім, пахрысціянску паспачувае родным. Тое, што людзі пачулі ад яго, жахнула. Быццам на сходзе ў даўнія часы бальшавіцкае чысткі, пра што ведала яна з літаратуры, выгаворваў ён родным пра імя памерлае, якое, аказваецца, не адпавядала дадзенаму ў часе хросту. Было вельмі няёмка. Яна нават патушыла сваю свечку. Але святар у царкве заўсёды мае рацыю. Ён гаворыць ад імя Неба. І яна жахнулася: а як яе запісалі ў той царкоўнай кнізе? І ці запісалі наогул?

Добра памятае свой хрост. Бабуля-верніца праймалася тым, што бацькі не пахрысцілі дзіця. Мела дзяўчынка пяць гадоў. Трэба было зрабіць так, каб у вёсцы ніхто не ўведаў. Каб і ўнучка не зразумела ды сяброўкам не прагаварылася. Бацькам гэта моцна зашкодзіць магло. Намаўляла яе бабуля:

— Ты такая худзенькая, слабенькая, як націначка. Нічога есці не хочаш. Нат малачка не п’еш. Хваробы якое дастанеш. Трэба цябе палячыць. Пойдзем з табою ў суботу да Лядкаў, там пераначуем. А ў нядзельку ранічкай — да лекара ў Турэц.

Да драбніцы запомніўся той дзень дзяўчынцы. На ўсё жыццё. І «лячэнне»-хрост у хаце святара, скрозь іконамі застаўленай. Ніколі не была яна ў такой хаце. І як бабуля паспрабавала крыху плату за паслугу зменшыць, бо ажно дзесяць рублёў бацюшка запатрабаваў, памятае. А пенсія бабуліна тады дванаццаць была. На яе просьбу строга запярэчыў:

— Жыць жа няпроста, ды і за таямніцу трэба дабавіць.

І першае прычасце памятае. Тое салодкае-салодкае віно, якое ў кроў Божанькаву ператварылася…

Пашанцавала ім: у царкве былі людзі з Сіняўскае Слабады, суседняе вёскі, падвезлі іх. А да Антанёва бабулінага ад тае Сіняўкі ўсяго чатыры кіламетры. Хутка дабраліся. А ў самым пачатку вёскі вестку атрымала: мама яе прыехала. Пакінула бабулю, як на крылах паляцела. Не дабегшы некалькі хатаў, згледзеўшы маці на надворку, гукнула на ўсю вёску:

— Мама! Бабуля мяне пахрысціла!

Неаднойчы пасля пра той бабулін сакрэт згадвалі, смяяліся. Тады, пэўна, не вельмі дарослым смешна было…

Вось жа імя. Яе назвалі Ала. Першая Ала ў той маленькай вёсцы Шчонава на Карэліччыне. Бацькі часам спрачаліся, хто з іх прыдумаў такое прыгожае, мадэрнае, як на той час, імя. Не называлі так дзяўчынак у нашым Краі, што знаходзіўся на схіле савецкай імперыі. Ды і там не хутка яшчэ з’явіцца на ўсіх экранах Ала Пугачова з яе

трыумфальным «Арлекіна». Была, праўда, знакамітая прыгажуня-акторка Ала Ларыёнава, перад якою схіліўся сам Галівуд. Але ніхто ў яе вёсцы ніколі пра тую савецкую красуню не чуў.

У дзяцінстве яна вельмі любіла сваё імя. Запомніла, як ехала з маці неяк аўтобусам да Карэлічаў. Людзей — паўнютка. На задняй лаўцы ў самым кутку сядзела маладая пара. Паклікалі малую, на калені мужчына пасадзіў. Між сабою паціху перагаворваліся. Запомнілася дзяўчынцы, як захаплялася ёю жанчына:

— Якая прыгожанькая! А вочкі якія сінія, як васілёчкі. А вейкі якія доўгія…

— У нас таксама такая будзе, — гэта мужчына да жонкі.

Спытаўшы яе імя, жанчына сказала:

— Як хораша называецца! І мы сваю так назавём…

Падабалася малой падабацца. І што імя ў яе прыгожае, падабалася. Гучала яно ласкава, нішто ў ім не скрыгатала, не шыпела, не свістала. Але ліміт тае любові закончыўся разам з дзяцінствам, як заканчваецца кожны ліміт. Юнай паненцы імя ўжо падавалася нейкім абарваным, укарочаным, занадта закругленым. Ды ці мала чаго нядобрага можна напрыдумляць на тое, што не падабаеш? Жыць з нялюбым імем стала некамфортна.

Падліў масла ў агонь дзед-літовец, у хаце якога на першай студэнцкай бульбе жыла. І гаспадар цікавы, і вёска цікавая. Гальчуны, што побач з Гервятамі — мястэчкам на Астравеччыне. Паклікаў яе той дзед і кажа:

— Ты такая прыгожая дзеўчына, а імя тваё зусім нявартае, брыдкае, няправільнае. Я цябе перахрышчу.

Узяў ліст паперы і напісаў лацінкай: Ala.

— Чытай. Якая літара другая?

— Эл.

— Не літара, гук які?

— Л.

— Не **л**, а **ль**. **Л** было б з крэскаю. То як правільна тваё імя? Аля, а не Ала. Так цябе і называць буду.

Пісьменны быў дзед. Шкадавала пасля, што не распытала, адкуль ён пра тыя гукі-літары ды яшчэ з крэскамі ведае, мо ў якой гімназіі за палякамі вучыўся…

Не надта ёй і тое дзядулева імя даспадобы прыйшлося. Такое ж кароткае ды занадта мяккае. А яна такою не была. У маладосці цвёрда за сваю праўду трымалася. Аж сэрца заходзілася, калі з несправядлівасцю сутыкалася. Гэта пазней уведала, што ніякае праўды няма, бо кожны яе на свой манер перарабляе, пераніцоўвае, да сваіх густаў і жаданняў падганяе.

Дапамог філалагіні з імем сваім палагодзіцца прафесар-анамаст, што прыязджаў у іх ВНУ чытаць лекцыю. Тлумачыў між іншага, што Ала — скарот ад Аліна, як Тома ад Тамара. І стала яна Алінаю. Загучала ёй гэтае імя песняю, расплылося хваляю пяшчотнаю. Праз многія гады сябе так называла.

Але нават самая любімая песня надакучыць здольна. Прыесціся, як калісь жаданы, але стаўшы даступным далікатэс. Так і Аліна ёй прыелася. І тая хваля пяшчотаю ўжо не агортвала. Хацелася ёй апошнія гады з імем пражыць, каб з гэтаю зямлёю, з даўніною спрадвечнаю знітавана было. Алінамі кабетаў у іхніх ваколіцах не называлі. А як называлі? Не знаходзіла між жаночых імёнаў ні аднаго, да ейнага падоб-

нага. Аж пакуль не пачула аповед пра Альжбету, дачку ўдавы шляхціца Далмацкага, што жыла калісьці на хутары ля яе вёскі. З тых, пра каго памяць праз стагоддзі захавалася. Не толькі таму, што незвычайна прыгожаю была тая дзяўчына, а таму, што загінула трагічна на самым парозе свае будучыні. Пра тое, што многія яе падабалі, і казаць лішне. Хто не ўпадабае першай на ўсю ваколіцу красуні? Ды не спяшалася яна камусьці аднаму перавагу аддаць. Усё чакала нейкага кахання-шчасця сапраўднага, суджанага незвычайнага. І дачакалася. На Спаса, калі ў нашых ваколіцах святкуецца парафіяльнае свята, угледзела Далмацкавічанка нетутэйшага маладога чалавека, сябра графа Раецкага, што прыехаў на фэст. І ён, відаць, дзяўчыну прыкмеціў, папрасіў сябра пазнаёміць з тутэйшаю прыгажуняю. Толькі некалькімі словамі і перакінуліся, пераглянуліся, перад царквою стоячы, але як ярка засвяціліся вочы Альжбеціны, як сэрца яе забілася! Усё гэта бачыў Габрыель, сын лесніка Кірыевіча, які за дзяўчынаю прападаў, неадвязным ценем яе стаўшы. Калі ішла яна ў наступную нядзельку да царквы праз дуброву, перастрэў. Што казаў ёй, ніхто не ведае. Толькі словы ягоныя: «Не мне, то і нікому не дастанешся!» — памяталі шчонаўцы, бо чулі ад хлопца неаднойчы. Знайшлі іх, мёртвых, з прастрэленымі грудзямі, а побач вінтоўка лёснікова ляжала…

Расказваючы пра гэта, суседка цётка Фаня часам называла дзяўчыну Аляй. «Гэта ж і ёсць тваё імя», — быццам падказаў ёй нехта.

А пазней трапіў на вочы спіс жыхароў яе вёскі, што зроблены быў пасля вайны. Жахнулася: усе Альжбеты ў тым спісе былі перароблены на Лізаветаў. Якім правам, чыёю воляю? Былога партызана, засланага з Расіі дыверсанта, што ў сельсавеце ў той час кіраваў, ці ягонай сакратаркай-прыслужніцай. Праўда, у дужках пазначалася — Альжбета. Такое прыгожае імя! Спрадвеку гучала на нашай зямлі. Спачатку чужынскія ўлады яго перайначылі, а пасля і самі кабеты зракліся. Не, яна яго адродзіць! Яна будзе Альжбетаю.

Яна стала Альжбетаю. І больш імя сваё не зменіць.

## Расстайнае

### Калі…

Калі адлятаюць птушкі за далёкія моры, зямля смуткуе і неба хмурнее. І сонца не мае змогі ўзняцца высока. Толькі слізгаюць па зямлі ягоныя промні, а сагрэць яе не ў стане. І лес нямее, замірае. Бо хто прапяе ў ім песню світання і песню змяркання? Балюча раніць ростань. Але той боль часовы, бо вядома: усё вернецца наступнай вясной. І сонца, і птушкі.

Калі адлятаюць за бязмежны акіян адзіная доня з адзіным унукам і маці ведае, што ніхто іх там не чакае і ніколі яны не вернуцца, што можа суцешыць яе? На кожным кроку бачыць яна сваіх наймілейшых, і сэрца яе абрываецца, разрываецца на мноства аскепкаў, якія ці збярэ? І хоць сонца высока, і кветкі красуюць, бо цёплае лета ў самым зеніце, раны яе невылечныя. Тыя, якія *залечвае толькі… смерць*.

*4–5 ліпеня 2016 г.*

**Вярнулася**

Яна пакінула дачушку, калі тая мела толькі сем гадкоў. З’ехала ў Мінск. Дачку даглядала яе мама. Так, як толькі можа даглядаць бабуля каханенькую-родненькую ўнучку. Да таго ж бабуля была яе настаўніцай. А дзяўчынка сумавала, плакала. Бо мама была патрэбная ёй мо як ніколі пазней. Асабліва невыносна было ў нядзельку, калі ўнучка ставіла бабулі невыканальныя ўмовы: «Выбірай: або маму, або ляльку Стэлу». Лялька таксама была недасяжна далёка.

Яна, дарослая, пакінула маці, адляцеўшы за акіян, забраўшы з сабою ўнука. Зараз, калі яны вельмі патрэбныя ёй.

Тады яны сустракаліся праз два тыдні. Зараз, у лепшым выпадку, толькі праз два гады яна можа ўбачыць сваю адзіную дачушку.

Усё ёй вярнулася.

*13 ліпеня 2016 г.*

**Маладая бульба**

Жанчына капала маладую бульбу. Хоць і ранавата, драбнаватая яшчэ бульбачка. Ды ўсё роўна смачная. Капала для свае дачушкі, што ад’язджала на адпачынак. Бо пакуль вернецца, бульба маладой ужо не будзе.

Мінула шмат гадоў. Тая дачка капае маладую бульбу. Хоць і ранавата, драбнаватая яшчэ бульбачка. Капае для свае дачушкі, якая адлятае за акіян, у далёкую, багатую краіну, дзе ёсць усё, а вось бульбачкі маладое няма.

Нішто не змянілася. Толькі тады не было ў сэрцы жанчыны болю. Была задаволенасць, што дачушка адпачне, хутка вернецца. А яна сваю ўнучку тым часам даглядзіць.

Сёння жанчына палівае зямельку сваімі слязамі, ведае, што дачка яе не вернецца ніколі.

*4–16 ліпеня 2016 г.*

**Ружа**

Ружа памерла. Не выпусціла вясною ні аднаго парастка. Усе думалі, што не перажыла зіму, вымерзла. Адна гаспадыня ведала чаму. Ружа надакучыла ёй, патрабавала шмат увагі, калола рукі. Яна так і падумала: не буду сумаваць, калі ружы не стане. Кветкі ведаюць, пра што людзі думаюць. Яны не напрошваюцца, не навязваюцца. Проста сыходзяць.

Калі гаспадыні было вельмі адзінока, вельмі балюча, яна глянула неяк на кветнік, на тое месца, дзе была ружа, і пашкадавала. Раней менавіта гэтая ружа магла адвесці яе самоту.

Назаўтра палола кветнік і ўгледзела, што ружа ажыла, выпусціла некалькі маладых парасткаў. У сярэдзіне лета. Ці ж не цуд? А праз два тыдні зацвіла.

Кветкі ўмеюць дараваць.

*18 ліпеня 2016 г.*

**Семкі**

Яна ніколі не лускала семкі. Лічыла, што гэта непрыгожа, нешляхетна. Хоць семкі любіла. Казала: «Буду есці, калі можна будзе есці лыжкай». Тады гэта нат уявіць нельга было. Але дачакалася. Семкі прадаюцца зараз палушчаныя, пачышчаныя.

Яна купіла вялікі пакет. У той апошні вечар яны з дачушкай і ўнукам елі семкі. Лыжкамі.

Яе каханенькія з’ехалі. Але колькі яна адкрывала шафку, столькі, згледзеўшы той пакет, згадвала сваіх любых. Яна і так увесь час іх згадвала, а тут яшчэ гэтыя семкі. Хутчэй бы яны скончыліся! Скончыліся.

Але калі яна адкрывае шафку, усё роўна бачыць, дзе стаяў пакет з семкамі, якія яны елі ў той апошні вечар.

*18 ліпеня 2016 г.*

**Траўнікі**

Дагледжаныя, пакошаныя. Па ўсёй сядзібе. А скрозь — аплікацыі з кветнікаў і сцяжынкі, выкладзеныя пліткай.

Гаспадыня вельмі хвалюецца, калі трава косіцца не ў часе. Але тым разам яна не прыспешвала гаспадара з гэтаю працаю. Больш за тое: баялася, што траву скосяць. Бо колькі глядзела на зялёны ставок між камянямі, столькі бачыла ўнука, што ляціць наперарэз, не выбіраючы шляху, па тым стаўку. Ніхто і ніколі не лятаў так, пераскокваючы праз высокія каны. Ажно сэрца яе замірала: баялася, што ўпадзе, разаб’ецца хлопчык любы…

Скасілі траву, па якой хадзілі ножкі яе каханых. Унука і доні.

Ды засталіся траўнікі і сцяжыны, па якіх яны хадзілі.

*20 ліпеня 2016 г.*

**Рукамыйнік**

Звычайны, металёвы. Замацаваны на драўлянай бярозавай падстаўцы. І мыла тут на палічцы пад брыльком, і ручнічок чысты.

Гаспадыня шануе гасцей, якія летам любяць мыць рукі на вуліцы. Лічыць недарэчнасцю цёплым днём бегчы ў хату, каб пакарыстацца выгодамі цывілізацыі.

Ваду ў рукамыйнік трэба налiваць штодня. Звычайная справа. Але апошнім часам рабіць гэта кабеце вельмі цяжка. Бо перад вачыма яе бяжыць (не, ляціць!) яе сямігадовы ўнучак і крычыць:

— Не налівай! Гэта мая праца!

Прыпыняецца, рукі яе апускаюцца, і яна доўга стаіць, глядзіць на свайго мілага працаўнічка…

І не хоча верыць, што яго тут няма.

*30 ліпеня 2016 г.*

**Дапамагае**

Унучак, няўрымслівы ветрык, носіцца па сцежках-дарожках у яе кветкавым раі, гольцае праз сходкі, пераскоквае праз высокія камяні на яе кветкавай горцы. Спрытны хлопчык. Ды ўсё ж часам падае, набівае сінякі. Яна прамывае, загладжвае, залечвае ягоныя ранкі. Прыкладвае лісток бабкі, што расце тут жа, між кветак. А яшчэ абвязвае сваім мяккім шалікам:

— Паглядзіш: дапамагае.

Хлопчык верыць. Боль сыходзіць…

Унучак ляціць у хату, выскоквае з шалікам для малое стрыечніцы, што плача, бо параніла пальчык. Падае ёй, каб абвязаць, настойліва даводзячы:

— Паглядзіш: дапамагае!

Унучак адлятае. Так далёка, куды і вецер тутэйшы не даляціць. Яна кладзе шалік:

— Калі будзе балець табе, любы, памятай: дапамагае…

*25 жніўня 2016 г.*

нарадзілася ў вёсцы Шчонава на Карэліччыне. Літаратуразнаўца, кандыдат філалогіі, паэтка, празаік. Працавала ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. Аўтарка 10 кніг, больш за 200 літаратуразнаўчых прац. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.





ВІКТАР САЗОНАЎ

## Навагодняя ёлка

Калі на вёсцы нехта некага называе гультаём, то раю не толькі не давяраць гэтым словам, але нават і не слухаць ілгуна. Ці, як паказвае практыка, ілгуху. На вёсцы няма гультаёў. Гультай у вёсцы проста не зможа выжыць, як рыба ў полі. Іх, гультаёў, там не можа быць у прынцыпе, як не можа быць кола, якое не здольнае каціцца.

А вось ілгуны ёсць. Таму калі вы чуеце, што ў дагледжанай вясковай хаце, аточанай хлявом, паветкамі, лазняй і сабачай будой, нехта некага назваў гультаём, то можаце быць упэўненыя, што гэта зрабіла ілгуха-жонка супраць свайго працавітага мужа, віна якога насамрэч палягае не на тым, што ён не хоча нічога рабіць, а толькі з таго, што той злёгку прыхіліўся стомленым ад жыцця тварам да мяккай падушкі з прычыны лёгкага недапіцця цяжкога напою.

— Падымайся, гультаіна, — раўла Верка Янушка на бацьку сваіх дзяцей, які толькі-толькі паспеў прыплюшчыць вочы. Каб хвіліначку адпачыць. Не болей. Хвіліначку. Ён нават порткі не здымаў для эканоміі часу. Нават фуфайку не зняў. Расшпіліў толькі, і ўсё. І прылёг. Ды вось жанчыне гэта чамусьці не спадабалася. — Зусім асвінеў, — крычала яна. — Новы год ужо на парозе. А ў хаце нават ёлкі няма. Дзеткі ўсё пытаюцца, калі бацька ёлку прынясе! А мне што ім сказаць? Што бацька алкаголік! Дык яны і так гэта ведаюць. Але ж і ў іншых дзяцей ёсць бацькі алкаголікі. Ды ёлкі ўжо даўно паставілі. Яшчэ перад каталіцкімі святамі. А ты і да нашых, праваслаўных, не здолееш. Гультаіна ты такі. І піяка. П’еш да імпатэнцыі.

Генка, так звалі соннага і падвыпіўшага мужа, добра ведаў, што жонка скажа далей. Гэта як прачытаць кнігу, а пасля перачытаць яе яшчэ некалькі разоў. Усё наперад ведаеш. Але ж чытаць цікава, калі кніга цікавая. У дадзеным выпадку ўсё было наадварот. Творчасць жонкі Генку ніколі не падабалася, нават з першай спробы яе прэзентавання. Ну а гэтыя словы пра ёлку ён чуў ужо дванаццаты раз, пачынаючы ад першага сумесна сустрэтага Новага года.

— Прыцягну я табе ёлку, — незадаволена буркнуў ён. — Дзе мне час было ўзяць? — пачаў крыху апраўдвацца. — Зранку кручуся, як грэшнік на пякельнай патэльні, ні дыхнуць ні выдыхнуць. А яна тут паніку развяла. Нікуды твая ёлка не дзенецца. Цэлы лес тых ёлак.

— Пакуль ты надумаешся, дык усе і павысякаюць, — не здавалася Верка.

Было бачна, што сварыцца ёй падабаецца. Яна ад сваркі нейкую энергетыку атрымлівала. Ёсць такая парода людзей. Як усё добра, то яны ўпадаюць у дзікую дэпрэсію. Вянуць на вачах. Старэюць. Хварэюць. Пакутуюць. Ну а калі складанасці якія, тады яны ажываюць. Галосна і цвёрда, з упэўненасцю, якой пазайздросцяць самыя перакананыя тэолагі, гэтыя людзі наракаюць на сваю гаротную долю, галосяць у тры гарлякі, тупаюць нагамі, махаюць рукамі. Бывае, плачуць або скардзяцца на сваё жыццё і блізкіх людзей суседзям. А пасля скардзяцца блізкім людзям на суседзяў. Ім здароўе ад гэтага прыбаўляецца. За кошт іншых, канечне. Бо калі недзе прыбаўляецца, то ў іншым месцы прападае. Законы фізікі. Навука. Тут не паспрачаешся.

— Ужо іду, — напалохана перабіў яе Генка, убачыўшы, што яго жонка толькі разаграваецца перад сапраўднай навальніцай прэтэнзій. І што калі іх даслухаць да канца, то можна сапраўды Новы год прапусціць. І не толькі гэты, але і наступны.

Генка яшчэ зранку агледзеўся па гаспадарцы. На навагоднія святы ўсе грошы аддаў жонцы. Але нечакана ў фуфайцы знайшоў не ўлічаныя трыццаць тысяч рублёў, якія былі затоеныя ад каханай яшчэ да падаражання гарэлкі. Тады гэта была дастатковая для шчасця сума. Зараз гэта складала ўсяго дзве трэція ад шчасця.

Брудна вылаяўшыся пра падняцце коштаў на тавары штодзённага попыту і віноўніка такога стану рэчаў прэзідэнта, Генка пайшоў шукаць частку, якой не хапала. І тут сустрэў брата па няшчасці, Юрку, у якога была дакладна такая ж праблема. Праз нейкі час яны ўжо весела размаўлялі пра тое, чаму інтэлект абмінуў іх жонак. Прычым не проста прайшоў бокам, а абышоў так далёка, што ні яны яго не заўважылі, ні ён іх не ўбачыў і не здагадваецца пра іх існаванне. Бо, чаркуючы, мужыкі шмат спраў вырашаюць. Вось і зараз, дамовіліся разам схадзіць па ёлку.

Таму, пасля жонкавай істэрыкі, Генка ўзяў сякеру, захапіў Юрку з яшчэ адной сякерай, і пасунуўся ў бок Налібоцкай пушчы. Іх жонкі пацягнуліся за імі аж да канца вёскі. Каб мужыкі чаго добрага не пераблыталі дарогі і не звярнулі да крамы. І праводзілі іх ажно да лесу. І толькі як мужчыны зніклі ў заснежаным моры дрэў, жанчыны патупалі назад, галосна спрачаючыся, чый мужык горшы. Чый больш піяка, лайдак. І ўвогуле, чый лёс горшы. Кожная сцвярджала, што ейны.

А хлопцы, абтрасаючы абухамі снег з дрэўцаў, пачалі паглыбляцца ў пушчу, шукаючы лясных прыгажунь.

І вось знайшлі. Яны стаялі побач. У снезе. Прыгожыя, стромкія, ладныя…

— Эх, шкада, што я жанаты, — прастагнаў Юрка і дастаў сякеру. — Жаніўся б з адной з іх. І прыгожыя, і маўчаць. Цуд, а не жонкі былі б.

Але як толькі былі ссечаныя елкі, у мужчын пераняло дух. Прама за ялінкамі, ці дакладней, схаваным у іх прыгажосці, стаяў лясны самагонны апарат. Побач, як жаўнеры перад псіхічнай атакай, роўненька выстраіўшыся ў маўклівыя шыхты, стаялі бідоны з бражкай.

— Генка, яна ўжо выспела, — выгукнуў Юрка, пакаштаваўшы прадукт. — Хутчэй разводзь агонь. Будзем гнаць. Шкада, сухіх дроў няма. Але і гэтыя распалім.

Генку нічога гаварыць было не трэба. Ён ужо пасёк прыгожыя навагоднія ёлачкі на дровы і дастаў запалкі. А каб хутчэй распаліць сырое, напачатку падпаліў шапку.

— Я даўно ўжо хацеў купіць новую, — патлумачыў ён. — А ёлкі на выхадзе з лесу высечам іншыя. Чаго нам гэтыя праз усю пушчу валачы?

— Яно-то так. Толькі там сухія, — засумняваўся калега. — Калгас нейкую атруту выліў, яны і павысыхалі. Акурат яны на дровы былі б добрыя.

— Нічога. Нешта падбяром, — запэўніў сябра.

Праз нейкі час над Налібоцкай пушчай паплыла песня.

«Цячэ вада ў ярок, цячэ вада ў ярок» — рэзаў як бензапілой Юрка, такім паскудным голасам, якога не ў кожнай бензапілы знойдзеш. Хіба што яшчэ ў тых, старых, савецкіх быў такі. Што «Дружбай» называліся.

«Цячэ, цячэ», — пагаджаўся Генка, закусваючы снегам.

Было ўжо цёмна, калі Верка з Юркавай жонкай сталі арганізоўваць выратавальную экспедыцыю па пошуку іх кепскіх мужоў. Жанчыны апрануліся і сталі выбірацца ў пушчу. Але нечакана забрахалі, як ашалелыя, вясковыя сабакі, зараўла ў хлявах іншая жывёла. Нават куры не змаўкалі. Толькі мудрыя каты ад страху цішком пахаваліся па даступных адным ім сховах. Гэта да вёскі прыбліжалася песня «Цячэ вада ў ярок» у выкананні найпаскуднейшага голасу заходняй часткі Беларусі. Можа, і ўсходняй таксама, але Генка, які быў вымушаны не толькі слухаць, але і падпяваць, выканаўцаў з усходу не чуў, бо з вёскі сваёй выязджаў рэдка, і то не далёка. Найдалей у Нямеччыну выязджаў. На танку. Яшчэ як служыў у Савецкім войску. Але гэта не ўсход.

Нарэшце мужчыны, спяваючы і хістаючыся ды па-сяброўску прытрымліваючы адзін аднаго, перакрочылі мяжу вёскі. За сабой яны цягнулі па зямлі кожны па ёлцы.

— Прымай дзяроўня трактар, — у адзін голас выгукнулі яны ды кінулі ёлкі пад ногі аслупянелым бабам. А пасля, з пачуццём выкананай справы, пачалі распаўзацца па хатах.

— О Божа, — у адзін голас, нібыта перадражніваючы мужыкоў, зараўлі жанчыны. — Што вы прыцягнулі?

Перад іх нагамі ляжала нешта падобнае да гіганцкіх пацуковых хвастоў. Сухія карчы, без аніводнай іголачкі. Бо тыя іголачкі, таксама сухія, хіба засталіся па ўсім шляху перацягвання навагодняга ўпрыгожвання. Як п'яныя мужыкі ў пацёмках ні стараліся знайсці штось адпаведнае, усё адно ссеклі тыя пасохшыя ад калгаснай атруты дрэўцы.

— Вам ніколі не дагодзіш. Хоць разарвіся, — задакляравалі мужчыны. І патупалі прэч.

А жанчыны схапілі сякеры ды кінуліся ў пушчу.

Верка паспела прывалачы ёлку да поўначы. Нават паспела ўпрыгожыць, накрыць стол, пасадзіць дзяцей і падсунуць да стала канапу з п'яным мужам, які спаў так салодка, як пшаніцу прадаўшы. Ці калі больш дакладна сказаць, то як ёлку прынёсшы. Падсунула, каб уся сям'я была ў зборы.

Сустрэўшы шампанскім Новы год, павіншавала дзяцей, уклала іх у ложкі ды прылягла сама. Але не паспела заснуць.

— Ну што ў мяне за дурная баба, — пачула яна незадаволены голас мужа.

Заляцеўшы ў залу, яна ўбачыла свайго абаронцу за сталом. Той дапіваў шампанскае. Убачыўшы Верку, паказаў рукой на навагоднюю прыгажуню.

— Ну і чым табе ёлка не падабаецца? — спытаўся той. — Ёлка як ёлка. Прыгожая. Я за ёй усю пушчу аблазіў, пакуль знайшоў.

— Прыгожая, прыгожая, — пагадзілася жанчына. Села ля мужа, наліла яму і сабе, абняла.

Яны выпілі. Яна крыху. Ён да канца і нагбом. Пацалаваліся. Павіншавалі адно аднаго з Новым годам і заспявалі:

— Цячэ вада ў ярок…

Песня загучала міла, лагодна, прыгожа. Не так, як у Юркі. А збунтаваныя Юркавым голасам сабакі і іншыя жывёлы ад новага выканання песні супакоіліся, замаў-

чалі, палагоднелі і нават заслухаліся. А каты дык павылазілі са сваіх сховаў і сталі церціся якія аб котак, а якія аб ногі гаспадароў.

А песня плыла над вёскай, над полем і даляцела ажно да Налібоцкай пушчы, дзе яшчэ гарэў не затушаны мужчынамі агеньчык. Гарэў і падаграваў лясны і незаконны самагонны апарат, з якога ў белы навагодні снег светлым і чыстым, як дзіцячыя мары, струменьчыкам сцякала самагоначка. У пушчы. У цэнтры Еўропы і ўсяго свету, на беларускай зямельцы, дзе жывуць працавітыя, добрыя і вясёлыя мужчыны, якіх кахаюць і ўсё даруюць ім іх чулыя жонкі.

І Верка ўсё даравала. Асабліва ў навагоднюю ноч, седзячы пры прыгожай, стромкай, чаравальнай навагодняй ялінцы, шукаючы якую яе муж усю пушчу аблазіў.

## Сумнае беларускае Эльдарада

— То ты больш не п’еш?! Вось гэта нумар! Не магу я цябе зразумець, — прастагнаў Сцяпан як па нябожчыку, хоця пры гэтым, зусім не адпаведна інтанацыі свайго стогну, весела і азартна разліваў па кілішках празрыстую вадкасць саракаградуснай моцы ды працягваў свой незадаволены маналог. — Не магу зразумець! Гэтак жа, як і нашых ды замежных навукоўцаў, якія так мала ўдзяляюць увагу таму, да чаго народ праяўляе павышаны інтарэс. Вось пытанне на засыпку! Чаму гарэлка хоць і празрыстая, але затуманьвае мазгі і засцілае вочы непраглядным смогам? Гэтага ніхто так ніколі па-сур’ёзнаму і не даследаваў. А тэма-то якая цікавая! Але навукоўцы чамусьці стараюцца заняцца больш практычнымі рэчамі, якія прыносяць або грошы, або славу. Або і тое і другое. А вось каб так, для душы, для народа, для цікавасці, для непераадольнай прагі пазнаць неспазнанае, для чыстай навукі, нарэшце… Дык не, тут іх няма.

Кілішкі весела, як вочкі вясковага шчанюка, пераліваліся то золатам, то меддзю ў чырванаватых промнях вечаровага ласкавага сонейка. Кволы агеньчык прыцягваў да сябе зрок прысутных і ствараў спрыяльны настрой для роздуму пра сваю старадаўнюю, дзікую, мужчынскую прагу жыцця на волі ў дзікай прыродзе.

Эх, воля! Гэта яна цягне мужчыну ў дзікую прыроду і невядомую прыгоду, як злачынцу непераадольна цягне на месца злачынства. Гэта яе, і толькі яе страцілі прадстаўнікі моцнай паловы чалавецтва, каб дагадзіць сваёй слабой палове, якую некалі перавезлі з жорсткіх, але натуральных умоваў выжывання ў ненатуральны і штучны гарадскі камфорт, наіўна і тупа спадзеючыся хоць на невялічкую ўдзячнасць з іх боку. Дурні. Удзячнасці так і не дачакаліся. Наадварот. Цяпер ужо невядома, хто мацнейшы стаў. Мужчына можа сябе добра праяўляць выключна ў экстрэмальных сітуацыях, дзе яго няма кім замяніць. А вось у камфортных умовах горада ён аказаўся неканкурэнтаздольным і ўсё часцей прайграе месца лідара жанчыне. Жанчына ўжо і без мужыка пражыць у стане. Ёй цяпер мужык патрэбны, як сабаку ашыйнік. Выключна для статусу. І ўсё радзей яна, жанчына, па праву пераможцы часова адпускае свайго мужа на волю, у дзікую прыроду, хоць бы на кароткі вечарок… Як вязня на прагулку. Хай, бядота, крыху падыхае свежым паветрам. Але не шмат. Свежае паветра, маўляў, сучаснаму мужчыну шкоднае для псіхікі. Нагадвае яму тую страчаную вольнасць, ад якой ён шалее, але вярнуцца туды назаўсёды ўжо не ў стане.

Бо абабіўся ўжо мужчына за доўгі час камфортнасці. І нідзе яму сапраўднага ўтулку няма цяпер: ні ў горадзе, ні на прыродзе…

Невялічкая рачулка дыхала цнотай, свежасцю і чысцінёй. Краскі розных колераў і адценняў паслухмяна хілілі галовы ў бок далягляду, куды ўжо ныркавала сонейка, хаваючы сваё аблічча ад убачаных за дзень зямных геройстваў ды мярзотнасцяў, нарobленых людзьмі. Пейзаж завяршалі некалькі высокіх дрэў, паміж якімі і размясцілася выключна мужчынская кампанія, ды палявая дарога, што ляцела некуды далёка-далёка, нагадваючы ўсім, што ўсё адно збірацца да гарадскіх бетонных кватэраў рана ці позна прыйдзецца.

Пра гэта нагадваў і сумны бусік «Фольксваген-транспарцёр», які ўсім сваім выглядам паказваў, што зачакаўся гэтую п’яную кампанію больш, чым іх разгневаныя жонкі. І што ён хоць і церпіць п’яніц, але не ўхваляе іх паводзінаў. І што нават у машыны цярпенне можа лопнуць. І што… Ды ну яго, гэты «Фольксваген»…

А няп’ючых гэтым разам было толькі двое. Гэта ўсё той жа бусік і яго цярплівы кіроўца. Сцвярджаць, што яны псавалі агульны пейзаж, было б крыху перабольшваннем. А вось усеагульную гармонію і цэласнасць памкненняў вясёлай кампаніі, якая ўжо без асаблівых намаганняў злілася з космасам і калектыўна ўвайшла ў глыбокі транс, крыху збівала з містычных акордаў.

— Душа баліць глядзець на цябе, — усё стагнаў Сцяпан, не мяняючы тэму, ляніва павярнуўшыся ў бок гаспадара бусіка. — Як ты нас церпіш цэлы дзень сёння? Васіль, плюнь ты на ўсё і замахні кілішак-другі! Колькі таго жыцця?! А дахаты паедзем заўтра. Як праспімся. Нам і тут добра будзе спацца. Праўда, хлопцы?!

— Праўда, — хорам пагадзіліся хлопцы. — Даўно марылі заначаваць тут. Што нас чакае ў хаце?! Папрокі! Прэтэнзіі! Лямант! А тут хораша, міла, прыгожа, спакойна, добра… І ніхто ў душу не лезе. Рай для мужчынаў.

— Вось бачыш, — падсумаваў Сцяпан. — Усе за. А я нават магу распавесці, што такое рай для мужчынаў. Ведаеш такое слова — Эльдарада?

— Ну, ведаю, — ляніва адгукнуўся Васіль.

— І што яно, па-твойму, значыць?

— Калі сур’ёзна, то вы ўсе ведаеце правільны адказ.

— Ты зараз пра геаграфію…

— Ну так. Я ў геаграфічным сэнсе кажу правільны. А ўвогуле, людзі гэтую назву атаясамліваюць з краінай нейкага міфічнага шчасця, дабрабыту, гармоніі… Ты гэта хацеў пачуць?

— Вось, — пагадзіўся Сцяпан, і вочы яго загулялі хітрымі агеньчыкамі. — А скуль пайшла гэтая назва, ведаеш?!

— Не ведаю.

— Ну то я табе давяду. Яе прыдумалі ангельскія маракі. Першая частка слова — эль. Гэта ў іх алкаголь быў такі. Як наша самагонка, або піва. Ці штосьці пасярэдзіне. Я дакладна не знаю. А дарада, гэта рыба. Яе падсоліш і з тым элем ужываеш. А вакол мора, і аніводнай бабы. Вось што такое зямны рай для мужчыны. Закуска, выпіўка і каб жанчын не было. А то тыя ўсё псуюць. Усе з-за іх перасварацца, пераб’юцца — і раю канец. А без іх, ды з чароўным напоем, ды пад добрую закуску… Вось гэта і

ёсць Эльдарада. А вось нашае беларускае Эльдарада тут. На гэтым месцы, дзе мы сядзім. На ўскрайку лесу, ля рачулкі. Каб мне праваліцца, калі лгу. Хай мяне твой бусік у глебу затопча, як кабыла жабу, калі гэта не так. Так што далучайся. Нікуды мы з свайго беларускага раю не паедзем! Прынамсі сёння!

— Дзякуй хлопцы, — адмахнуўся Васіль, крыва ўсміхнуўшыся з бязглуздасці п'яных прыяцеляў. — Але адмоўлюся. Вы ж ведаеце, я даўно ўжо не п'ю. Кінуў, як адрэзаў. Раз і назаўсёды.

— Але чаму? — так залямантавалі сябры, што аж на некалькі дзясятых праміле працверазелі ад абвостранай зацікаўленасці. — Гэта ж нешта ненатуральнае! Распавядзі. У цябе ж няма ад сяброў сакрэтаў.

— Якія сакрэты? — крыва ўсміхнуўся адзіны цвярозы мужчына, і здавалася, што «Фольксваген» таксама ўсміхнуўся. Таксама крыва. А пасля нават уздыхнуў. Здавалася. — Вось лепш скажыце: навошта піць? Чаму людзі п'юць? З якой прычыны?

— Па-рознаму бывае, — напружыў розум Сцяпан, і яшчэ некалькі дзясятых праміле зляцелі з яго як з гуся вада. — З гора, з радасці, з няма чаго рабіць, з роспачы, для весялосці, каб стрэс зняць… Ды ўсяго і не пералічыш. П'юць людзі з усяго! Во!

— Во-во! І я раней піў ад усяго. Як вы сёння. І тосты падымаў такія ж. А пасля задумаўся. П'ю я за здароўе. А яго не прыбаўляецца. Наадварот, толькі менш становіцца. То чаго за яго піць?! Ну а нашыя тупыя тосты за жанчын? Ці жанчынам яны патрэбныя? Я дакладна ведаю, што не. Калі не верыце, спытайце ў сваіх баб.

— А за ўсё добрае? — нерашуча паспрабаваў аспрэчыць пачутае Сцяпан.

— Дык толькі ж горш становіцца.

— А за сяброўства?

— Дык сябруем і без гарэлкі. А як нап'ёмся, то толькі шкодзім сяброўству. Бо ці пакрыўдзім сябра неабдуманым словам, ці яшчэ горш — паб'ёмся, нахіляўшыся да бяспамяцтва…

— А за дабрабыт?

— Акурат яго мы і прапіваем, разам са здароўем і павагай да сябе з боку жонак, сваякоў, сяброў, проста знаёмых і нават незнаёмых.

— Ну?!

— Гну! Вось так, Сцёпа. Няма ў шклянцы аніякага Эльдарада. А калі і ёсць, то не такое, як нам хочацца. А даволі сумнае.

— Ну і якія высновы ты зрабіў? — грымнуў басам Сцяпан, зразумеўшы, што на кожнае яго пытанне ў апанента ёсць лагічны адказ, з якім не паспрачаешся. І таму сэнсу больш даказваць няма аніякага. Бо эфект адваротны.

— А высновы простыя. Паколькі здароўе я ўжо прапіў, жонку мае тосты да глыбіні душы не кранаюць у станоўчым сэнсе, іншых таксама, з сябрамі і сваякамі пры кілішку толькі сваркі, дабрабыту гэта не прыносіць, міру ва ўсім свеце не ўсталёўвае і нават ядзернай зброі на планеце не робіць менш, я прыйшоў да высновы, што ў мяне не засталося аніводнай прычыны, каб піць.

— Як гэта аніводнай? — прастагнала ў адзін голас уся кампанія.

— А вось так. Аніводнай, — адрэзаў Васіль. — Няма ні за што піць, ні дзеля чаго. Таму я вырашыў завязаць. І вам усім раю. Калі мяне хтосьці зараз пераканае ў адваротным, то нап'юся як парсюк. А як не, то збіраемся.

І пайшоў да бусіка. Мужчыны нават аспрэчваць не сталі яго высноў. Паківалі галовамі і неахвотна, як бараны на бойню, пацягнуліся за ім. Па дарозе нешта бурчэлі, што Васіль праўду гаворыць, але…

І ніхто з іх не сказаў, што галоўная прычына ўсё ў той неабмежаванай дзікай волі, якую даўно ўжо страцілі прадстаўнікі моцнай паловы чалавецтва, каб дагадзіць сваёй слабой палове. І што менавіта яе шукаюць яны цяпер на дне бутэлькі… Можа, не там шукаюць. Гэта іншае пытанне. Але ж шукаюць менавіта яе, волю.

Пасаромеліся, хіба, казаць такое. І ўвогуле гаварыць пра гэта не захацелі. Бо неяк сорамна шукаць волю там…

## Восьмага сакавіка

Калі Лявон Кулік прачнуўся з цяжкой, пасля ўчарашняй выматваючай гонкі пад назвай «літарбол», галавой і паглядзеў у ранішняе акно, то са здзіўленнем заўважыў, што з вонкавага боку акна на яго ўзіраўся хоць і той жа самы, што і заўсёды, пейзаж, але ж ён быў нязвыкла, нясціпла і нават непрыстойна ўсыпаны кветкамі розных гатункаў і колераў. І тыя кветкі з надзвычай урачыстымі тварамі кудысьці цягнулі пераважна прадстаўнікі мужчынскага полу.

Здзівіла Куліка не тое, што мужчыны кветкі менавіта цягнулі, а не перамяшчалі ў прасторы неяк па-іншаму. Тое, як мужчыны дастаўляюць гэтыя цуды прыроды да канчатковага месца прызначэння, рэдка можна ахарактарызаваць іншымі эпітэтамі. Лявона насцярожыў, і спачатку нават напалохаў нязвыклы выраз урачыстасці на расчырванелых фізіяноміях мужыкоў з кветкамі.

Версія, што Кулік памёр і бачыць свае ўласныя паховіны з таго свету, прыйшла першай, але адпала вельмі хутка. Па-першае, ён не мог памерці ад «літарбола», бо быў прызвычаены да гэтай гульні з ранняга юнацтва і ў дадатак яшчэ добра закусваў. Іх мясцовая версія гэтай вясёлай народнай забавы, якую Лявон з суседзямі ладзілі пасля кожнага авансу, прадугледжвала спаборніцтва не толькі ў выпіванні гарэлкі, але і ў паглынанні закускі. Па-другое, ажно на такую колькасць кветак на свае паховіны сціплы па натуры Кулік ніколі не разлічваў. Тым больш ад мужыкоў. Таму што Куліку ў жыцці падабаліся дзве рэчы: гарэлка і жанчыны. Гарэлка, хай на яго не крыўдуюць прадстаўніцы прыгожага полу, падабалася крыху больш. А значыць, на думку Лявона, мусіла адказваць яму ўзаемнасцю і ні ў якім разе не нарабіць шкоды. Таму версія імгненнай смерці ад «літарбола», не вытрымала лагічнага разважання нават непрацверазеўшых да канца ягоных мазгоў.

Другая версія, якая наведала яго галаву, была яшчэ больш недарэчнай, чым першая. Усяго толькі на сотую долю імгнення Лявон засумняваўся, што, можа, да іх завітаў кіраўнік краіны, і сам рассмяяўся з гэтай бязглуздзіцы. Беларусы то і раней не любілі сваіх кіраўнікоў, ну і гэтаму добраахвотна кветкі ніхто не пацягнуў бы дакладна. Пад прымусам то так. Але тады гэта былі б збольшага безабаронныя жанчыны, на плечы якіх звычайна айчыннае начальства ўскладвае найбольш непрыемныя абавязкі. А тут з кветкамі адны мужыкі.

Заставалася трэцяя версія, самая кепская і жудасная, пра якую яго інтэлект падазраваў адпачатку, але не хацеў прыняць і паверыць, шукаючы паратунку ў варыянтах

з меншай канцэнтрацыяй сусветнага зла. Бо менавіта гэтай версіі баяўся. Таму так інтэнсіўна, з хуткасцю, якая перавышала хуткасць самага прафесійнага камп'ютара, падбіраў другія варыянты. Але ж не. Кепскія навіны прыходзяць заўсёды тады, калі ты найбольш безабаронны. А разбіты, з поўнай галавой болю і абсалютна пустымі кішэнямі Кулік сапраўды быў зараз так безабаронны, як тыя няшчасныя жанчыны, на плечы якіх звычайна айчыннае начальства ўскладвае найбольш непрыемныя абавязкі…

Сумневаў больш не заставалася. Сёння Восьмага сакавіка. Гэта значыць, што жанчыны святкуюць міжнародны жаночы дзень, а мужыкі цягнуць ім кветкі. На карысць гэтай версіі ўсё супадала з дакладнасцю касмічнага гадзінніка. Кветкі цягнуць мужыкі, твары ўрачыстыя, як на паховінах, бо свята жаночае. А расчырванелыя фізіяноміі ад таго, што сёння кожнаму з іх дазволяць легальна і не хаваючыся ад мілых дам выпіць за іх жа прыгажосць і здароўе.

— Лепш бы спрацавала першая версія, і я зараз узіраўся б на свае паховіны з таго свету ды з задавальненнем пасмейваўся б з гэтых, яшчэ жывых прыдуркаў, якія мусяць цэлы дзень дарыць сваім бабам кветкі і старацца ўсяляк ім дагадзіць, — ледзьве чутна прастагнаў Лявон і задумаўся, што рабіць далей.

Заставалася спакойна і без непатрэбнай панікі прааналізаваць сітуацыю. Жонка ў яго ёсць. Гэта факт, ад якога можа пазбавіць толькі аддзел разводаў. І то не так хутка, як хацелася. Кветкі прадаюць на кожным кроку. Але вось тыя паперкі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, за якія кветкі можна купіць, скончылася яшчэ ўчора. А паперак нацыянальных банкаў іншых краін у яго і раней не заводзілася. Кішэні былі пустыя, як учарашнія бутэлькі.

— Ну не забіваць жа жонку з-за таго, што я не магу купіць ёй кветкі? — зноў загаварыў ён сам з сабой. — Ні адзін прадстаўнік моцнай паловы чалавецтва, у якога засталіся яшчэ мужчынскія гонар і годнасць, ніколі не дазволіць сабе забіць жанчыну ў яе жаночае свята. Нават калі гэта яго жонка.

Паколькі версія з радыкальным пазбаўленнем ад жонкі была непрымальнай, Кулік стаў меркаваць, як ад жонкі пазбавіцца не так катэгарычна. Можна, прыкладам, сказаць, каб паехала на дзень-другі да сваёй старэнькай маці на вёску. Трэба ж і пра старых падумаць у такое свята. Але тады жонка можа запатрабаваць букет яшчэ і для маці. Можна дазволіць пайсці ў кафэ з сяброўкамі. Але тады папросіць грошы на кафэ.

— У гэтых жанчын заўсёды ёсць контраргументы на кожнае наша слова, — ужо больш моцным, крыху акрэпшым голасам прабубнеў ён.

Развесціся з жонкай не выпадала, бо на свята аддзелы па разводах не працуюць. Здаць пустыя бутэлькі, якіх было столькі, што ўсе фінансавыя праблемы сённяшняга дня вырашыліся б лёгка, таксама не атрымлівалася па той жа прычыне. У свята і пункты прыёму шклатары таксама не працуюць. Хоць ты трэсні! Вось табе і міжнародны жаночы дзень! Не свята, а армагедон нейкі.

Была яшчэ надзея. Адкупіцца добрымі вершамі. Лявон сярод безлічы сваіх прафесій, хобі і заняткаў, як натура разнастайная і неўтаймаваная, быў яшчэ і паэтам. І некалі раней, у маладосці, на беразе старадаўняга Нёмана, у цёплую ноч, асветленую поўняй, яна, яго Аксана, яшчэ не маючы статусу жонкі, узахлёб расхвальвала

яго творчасць. І кожны новы верш слухала з большымі вачамі, чым тая нябесная поўня. Але з тае пары шмат вады выцекла. І не толькі з Нёмана. А колькі гарэлкі… Не вымераць і адразу не вызначыць, чаго болей. А вочы Аксаны, цяпер ужо законнай жонкі, ад новых вершаў больш не расшыраліся. Наадварот. Звужаліся да ўзроўню танкавай амбразуры, і заўсёды суправаджаліся крыкам прыкладна такога зместу: «Што, алкаш, зноў грошы будзеш клянчыць?!» Ды і напісаць новы верш, з бадуна, не пахмяліўшыся, не ўяўлялася мажлівым. П’яным атрымлівалася. Ды яшчэ як. Цвярозым таксама пісалася нешта. Крыху горш, але пісалася. А вось паміж гэтымі двума станамі ніколі нічога не атрымлівалася.

Але з кожнай хвілінай галава Куліка ўсё цверазела і святлела, і ідэі ў яе сталі прыходзіць усё больш цвярозыя і светлыя. Ад былых думак Лявон і сам здрыгануўся, як успомніў іх. Нават паражагнаўся.

І вось раптам яго інтэлект наведала ідэя, якую гаспадар гэтага інтэлекту адразу назваў геніяльнай.

— Геніяльна!!! — выбухнуў ён і рашуча махнуў сціснутым кулаком, аж паветра свіснула.

Геніяльнасць ідэі палягала на тым, што грошы на падарунак жонцы трэба было папрасіць у самой жа жонкі. Без вершаў. А проста сказаць праўду. Так маўляў і так, здуру грошы распазычыў, распусціў, аблічыўся, а без падарунка не магу табе паказацца на вочы. Няўжо яна сама сабе пашкадуе на падарунак? Ну не дурная ж яна. Жанчыны без падарункаў жыць не могуць, як бізнес без рэкламы. І рэалізаваць гэтую ідэю было не так і цяжка. Бо ў словах Куліка было насамрэч больш праўды, чым падману.

— Ясна, што грошай у цябе няма, — агрызнулася на прапанову спонсарства самой сябе ў сваё ж свята жонка Лявона. — Дзіўна, што ў цябе яшчэ порткі засталіся. А мог бы і іх прапіць, алкаголік.

— Сапраўдны мужчына ніколі не прап’е талент, гонар і порткі, — парыраваў Лявон.

Ён добра ведаў, што зараз будзе крык, лямант, папрокі… Але мусіў праз гэта прайсці, як праз рэчы, якія ад яго не залежаць і на якія паўплываць немажліва. Затое ў канцы жудаснага маналогу каханая Аксана шпурлянула прама яму ў морду жменьку грошай, якіх чыста тэарэтычна мусіла хапіць на букет кветак, бутэльку шампанскага, каробку цукерак і яшчэ што-небудзь неспадзяванае.

— Да жанчын трэба мець адпаведны паэтычны падыход у кожнай сітуацыі, — праз паўгадзіны тлумачыў Кулік свайму сябру і ўчарашняму сабутэльніку Змітру Макарэвічу, які зранку пакутаваў ад галаўнога болю, адсутнасці грошай і перспектыў набыць сваёй жонцы кветкі.

— Добра, — кіўнуў ён галавой, і ў яго спакутаваных вачах засвяцілася надзея. — Паспрабую зрабіць, як і ты.

І ўжо праз гадзіну двое шчаслівых мужчын, якія мала чым нагадвалі ранішніх спакутаваных істот, весела крочылі ў кірунку кветкавых шапікаў. Цюльпаны. Канечне, цюльпаны. Традыцыйна на гэтае свята, і танна. Шампанскае, як абавязковы атрыбут

рамантычнага святочнага вечара з жонкамі, таксама было набытае. А замест цукерак і якойсьці неспадзяванкі мужыкі вырашылі ўсё ж узяць па бутэльцы гарэлкі. Ну не вяртацца ж дахаты хворымі ад бадуна? Лепш жа прыгожымі, вясёлымі, пахмеленымі і закаханымі… Ну і кветкі ў наяўнасці.

— Давай, Лявон, вып’ем за нашых мілых жонак, — прапанаваў Зміцер на лаўцы ў гарадзенскім парку імя Жылібера. — Усё-такі добрыя яны ў нас. Гэта мы крыху не так нешта робім. Гады мы. Свінні…

Стадыя самабічавання пасля ўчарашняй п’янкі ў яго заўсёды прыходзіла прыкладна ў адзін і той жа час. У тры гадзіны трыццаць сем з паловай хвілінаў пасля поўдня. І заканчвалася пасля трэцяга кілішка. Таму Лявон, каб не слухаць таго ныцця, якое чуў ужо безліч разоў, два наступныя тосты, «За жанчын» і «За каханне», пастараўся агучыць як мага хутчэй. Далей ініцыятыву перахапіў Макарэвіч. І яго інтэнсіўнасць агучвання тостаў была не меншай.

— Можа, шампанскае адчынім, — прапанаваў ён, як гарэлка скончылася.

— Давай, — адгукнуўся суразмоўца.

А як скончылася і шампанскае, Кулік звярнуўся з прапановай:

— Давай крыху прыляжам ды падрэмлем. Хоць ужо і цемнавата, але жаночы дзень яшчэ не скончыўся. Паказацца каханай на вочы ў такі дзень п’янаму неэтычна для маёй тонкай паэтычнай натуры. Таму гадзінку падрэмлем, і айда з кветкамі да жонак.

Макарэвіча доўга ўгаворваць не прыйшлося. Ён ужо салодка спаў, палохаючы варон і мінакоў сваім устойлівым і крыху арытмічным храпам.

Прачнуліся мужчыны адначасова. Быў дакладна такі ж змрок, як і перад сном. Здавалася, прайшла ўсяго хвілінка. Мужчыны падняліся і пасунуліся да прыпынка грамадскага транспарту. Лявона насцярожвала толькі адно, што людзі, якія там стаялі, былі без кветак. «Хіба падарылі ўжо. А мы яшчэ толькі ідзём дахаты. Трэба спяшацца», — падумаў ён.

— Трэба спяшацца, — нібыта злапаўшы яго думку, прастагнаў Макарэвіч. — А ў выходныя транспарт ходзіць рэдка.

— Якія выходныя? — звярнуўся да іх нейкі мужчына з прыпынка, які хіба таксама кепска арыентаваўся ў прасторы і часе. — Што, зноў выходны?!

— Вось жа алкашня, — смеючыся, адгукнуўся Лявон, аглядаючы, ці ў парадку яго букет цюльпанаў. — Піць трэба менш. Сёння свята, Восьмага сакавіка, міжнародны жаночы дзень! Хоць і вечар.

І тут нейкая жанчына сталага веку ціха падышла да яго і ледзьве не на вуха заявіла:

— Мужчына, сёння ўжо дзявятага сакавіка, а не восьмага. Раніца. Будні дзень. Восьмага скончылася яшчэ ўчора. А наконт таго, што піць трэба менш, я з вамі абсалютна згодная.






нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Гальшаны Ашмянскага раёна. Скончыў ГрДУ імя Я. Купалы, гісторык. Выдаў кнігі «Занатоўкі кантрабандыста», «Notatki kontrabandzisty» ў перакладзе на польскую мову, «Bajdy sąsiedzkie» ў перакладзе на польскую мову, «Сандалі метрапалітыка, або Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## АНДРЭЙ МЯЛЕШКА

# 100 слоў

### Певень

Кожнага ранку а шостай на вёсцы мяне будзіў певень. Яго кукарэканне мяне раздражняла, і хацелася адкруціць яму галаву. Пасля прыезду ў горад мне не хапае яго спеву і паху вёскі. Нам, гарадскім жыхарам, пахі вёскі запомніліся па-рознаму: камусьці вёска пахне яблыкамі ды сенам, а камусьці смярдзіць гноем. Для мяне вёска — гэта ранак, певень і пах яек. Гарадскія яйкі я не надта люблю, а ў вёсцы яны пахнуць па-асабліваму. А певень — спытаеце вы? Певень у горадзе — гэта назва крамы і цукеркі, а таксама ранішняя мелодыя будзільніка ў тэлефоне.

### Страчанае пакаленне

У дзевяностыя нам па дваццаць. Мы чакалі зменаў і надлому сістэмы. Тры гады перад Лукашэнкам мы думалі, што гэта — пачатак, і краіна будзе мяняцца далей.

Потым прыйшоў ён. У канцы дзевяностых мы хадзілі на акцыі і думалі, што сістэму можна змяніць мірна. Мы пісалі артыкулы і кнігі, спрабуючы такім чынам усё перайначыць. Але «сістэма» змяніла нас.

Частка з нас, згубіўшы надзею, з’ехала за мяжу. Другія — пайшлі ў сістэму, мяркуючы змяніць яе знутры. Трэція — засталіся ў сваім «змаганні». Мы — страчанае пакаленне з надзеяй у сэрцы.

### Ліст да сябра: Забыцца і забіцца

Штодзённасць і навіны пра Расею ды Украіну выклікаюць стрэс. Хочацца забыцца пра ўсё і з’ехаць у вёску, дзе б ты быў родным для кожнага суседа. На яго просьбу ты б адклікнуўся і талакой пабудаваў ці адрамантаваў яму дом. Але ж у горадзе разуменне вёскі — абстрактнае. Такой вёскі даўно няма.

Таму застаецца забіцца ў кут і, сабраўшы думкі, пісаць ліст прыдуманаму сябру ў невядомую вёску. У лісце ты распавядзеш пра жаданне жыць у яго вёсцы. У адказ атрымаеш: Гарадскі, што ты сабе прыдумаў? Гарадскія — яны «з жыру бесяцца». Мы ўсе ў горад марым з’ехаць, а ім — абстрактную вёску падавай.

### Лунна-Воля, зондэркаманда і кіно

Паглядзеўшы фільм «Сын Саўла», які атрымаў Оскар за лепшы фільм на замежнай мове, я згадаў паездку ў заходнебеларускае мястэчка Лунна. З прыходам немцаў у 1941-м тут існавала гета, якое вядомае сваімі катаваннямі.

Менавіта адсюль паходзіць Залман Градоўскі, габрэй з зондэркаманды Аўшвіца, удзельнік Супраціву. Залман схаваў свае занатоўкі пра побыт у Аўшвіцы ў попеле, які застаўся ад спаленых вязняў. Саўл — галоўны герой фільма «Сын Саўла», таксама быў у зондэркамандзе і ў Супраціве.

У сучасным Лунне ніхто не ведае пра Залмана Градоўскага, а на помніку вязням лунненскага гета ні слова няма пра тое, што яны былі габрэямі. Савецкая і беларуская ўлада ўзгадвае толькі пра жыхароў…

**Цацкі ад дзеда з Магілёўшчыны**

Свайго дзеда з Магілёўшчыны я амаль не памятаю. Але памятаю цацкі, якімі ён даваў гуляць нам, унукам. Самымі галоўнымі цацкамі былі яго «жалезкі». Так ён называў свае медалі. Іх была вялікая жменя. Круглыя з Ленінам, з савецкімі салдатамі. Большая частка гэтых цацак была без стужак. Толькі кругляшы, падобныя да манетаў.

На савецкія святы ён ніколі не насіў свае медалі і не любіў распавядаць пра вайну. Усю вайну ён партызаніў, а яго жонка, мая бабуля з трыма дзецьмі, жыла пад «немцам». Дзеда ўжо няма, яго цацкі згубіліся, а бабуля — яшчэ жывая.

**Амерыка**

Сябра распавядае пра прыгоды «дальнабойшчыка» ў Амерыцы. Яму прыходзіцца жыць месяцамі ў трэйлеры. Другі — спрабаваў пачаць новае жыццё з «грын-картаю», але, пабыўшы месяц, вярнуўся дадому. Мая «Амерыка» мае дзве асацыяцыі. Першае — суседскі дзед, які ў 30-я гады XX стагоддзя ездзіў у ЗША за «доўгім рублём». Багацця ён не займеў, але зарабіў хваробу і праз некалькі месяцаў пасля прыезду «аддаў богу душу».

Другое — вайсковы «студэбекер», які выцягваў наш легкавік у канцы 90-х, калі кампаніяй падарожнічалі па Беларусі. Стары «студэбекер» быў адзінай працуючай машынай з вёскі, якая справілася з нашай праблемай. Вось такая яна, «Амерыка».

**Дзень пісьменніка пад міліцэйскі аркестр**

Дзень пісьменніка, які адзначаюць трэцяга сакавіка ва ўсім свеце, у Горадні прайшоў пад гукі міліцэйскага аркестра. І хлопцы ў парадней форме прайшліся па цэнтральных вуліцах горада. Некалькі дзясяткаў чыноў атрымалі пад гукі аркестра новыя званні і ўзнагароды. А што пісьменнікі?

Пра іх ніхто не згадаў — пра іх могуць пісаць толькі незалежныя СМІ і згадваць раз на год пад час так званага Дня пісьменства. А марыцца, што ім пад гукі аркестра будуць уручаць узнагароды і адзначаць Дзень пісьменніка ў вялікіх залах. Але гэта толькі мары…

**Орша**

Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасня некалькі разоў адзначаў на Крапівенскім полі. У пачатку 2000-х гэта было цікавай традыцыяй. Выклік пра святкаванне перадаваўся эсэмэскамі, і ў Менску збіраліся актывісты з усёй Беларусі і некалькімі аўтобусамі рушылі пад Воршу. Намёты, вогнішча, выступы бардаў і перформанс Алеся Пушкіна — такія ўспаміны засталіся ў маёй памяці надоўга. «Краёўцы» з паходнямі і двубоі змагароў у вайсковай вопратцы — дзе яно зараз?

Што там цяпер на тым Крапівенскім полі? Няма свята — яно толькі ў памяці…



нарадзіўся ў 1975 годзе. Журналіст і краязнаўца. Гэтыя некалькі невялічкіх расповедаў паявіліся на старонцы радыё «Свабода» ў сеціве.



ВІКТАР ШУКЕЛОВІЧ

## Жыццёвыя гісторыі

### «Бабуня, дык ты са шляхты ці не?»

— Бабуня, дык ты са шляхты ці не?

— Тата мой са шляхты быў, надта добры чалавек быў. Усё рабіць умеў, не гультай які: і боты шыў, і кажухі, і лыжкі выразаў, і кашы плёў з лазы… Араць як паедзе, дык адзін усё поле заарэ. Шмат зямлі меў. Дык яму цяжкавата было аднаму, то ўжо маміны браты, усе кавалеры, прыязджалі і тату памагалі.

Мечка, дзед твой, дык да мяне даваўся ў залёты праз зямлю тую. А пазней, як забралі зямлю ў калгасы, дык Мечка будзе мне казаць: я жаніўся, думаў, зямлі шмат будзем мець, а дзе тая цяперака зямля? А я яму шапку даю: бяры во шапку, ідзі тую зямлю чэрпай ды насі сабе… І лесу кавалак тата меў, такія файныя бярозкі раслі. Дык тата шкадаваў свайго лесу надта, уначы збярэцца ды паедзе ў графскі, пару бярвён украдзе, каб хаця са свайго не браць. А гэна не жарты былі… Быў ляснік у графа, дык як бы злавіў тату, то ў плечы мог стрэліць. А дзе той лес цяпер, нічога няма…

Надта тата наш быў файны, я яго болей ад мамы любіла. У нас пяць дзяўчат у сям’і, а як паедзем на фэст у Крэва, то кожнай па перніку купіць. Мама будзе ва́дзіцца з ім, што грошай не шкадуе, а ён будзе ёй казаць: не сварыся, матка, заробім тыя грошы. І на танцы пускаў — у Ракаўцы мы хадзілі. Позна прыйдзем — дык мама намочыць ручнік у вадзе і лупцуе па кумпяках, па лытках, а тата толькі пальцам паківае і кажа, што другім разам пойдзе нас пільнаваць пад вокны, дзе тыя танцы. Дык нам ужо сорамна, што бацька будзе пад вокнамі стаяць, дык мы ўжо другі раз раней прыйдзем.

Мама мая была з Качаноў, а тата з Шымакоў. Неяк мама яшчэ дзеўкай кароў пасвіла ды вышывала. А тата ішоў у лес з хлопцамі, сякера за пасам. І яму так мама спадабалася, што не лянуецца, вышывае. І ён яе пытае: чыя будзеш? Яна кажа, што Страхава дачка. А тата ўжо заляцаўся, жартаваў: не скажаш, што Страхава,— такая харошая. А тады ўжо мама будзе пытацца: а чый ты? А ён кажа, што Траццяк. А мама таксама будзе жартаваць: бычок-трацячок. А ў нядзелю мама была паехаўшы з бацькамі на імшу ў Крэва. І селі яны па імшы ў брычку дахаты ехаць, а тата адкуль ні ўзяўся ды будзе пытацца: ці не падвезяце да Шымакоў? І гэтак штонядзелю прасіўся, каб яго падвезлі. А потым і сам у сваты прыехаў.

### Я быў у вышыванцы, а мне крычалі ўслед: «Смотри, какой немчик прикольный»

Гэтым разам наведваючы Нямеччыну, я адправіўся ў этнаграфічны музей Шварцвальда пад голым небам у мястэчку Гутах. Туды я адмыслова апрануў традыцыйную кашулю, пашытую паводле ўзораў з маіх родных мясцін, — з Ашмяншчыны. Аўтэнтычныя падворкі выпадала наведваць у аўтэнтычнай вопратцы.

Выходджу з аднаго са старых дамоў, у якім некалі жыла сям'я нямецкага баўэра, і чую розгалас расейскай мовы з характэрным маскоўскім зацягваннем: «Па-а-а-п, па-а-а-п, смотри-и-и, какие штуки».

Расейскамоўная сям'я круціцца каля сельскагаспадарчых прылад. «А чё это такое?» — паказваючы на малацілку, пытаецца хлопец-падлетак у пузатага таты, апранутага, відаць, ва ўрачыстую вопратку — чырвоную майку з надпісам «СССР».

Тата не дае наўпроставага адказу: «Сынок, надо ценить труд. Труд — это важно. Труд ведь сделал из обезьяны человека. А здесь сосредоточена история. Этому вас в школах не учат, не то что раньше в советских школах. А труд надо уважать. Как это было когда-то в великой стране…»

Я міжволі прыпыняюся.

Тут на ўвесь музей пачынае крычаць меншы сын — бялявы хлапчук, паказваючы пальцам на адну са спадарыняў: «Смотр-и-и-те какая толстая, как жаба!» Пузаты тата, маці з асветленымі валасамі ды большы сын дружна адварочваюцца ад грабляў з віламі ды глядзяць. Татка нешта гмыкае, мама ківае галавой ды папраўляе пасму валасоў, а сын-падлетак толькі смяецца: гы-гы.

Таго, што паважаць трэба не толькі працу, але і іншых людзей, відаць, не праходзілі ў савецкай школе, якую хвіліну таму так расхвальваў мужчына. Ніхто з бацькоў нават не прытупнуў, не паківаў пальцам, што гэтак рабіць нельга — гэта брыдка. Пра тое, што ў замежжы можа нехта разумець тваю мову, савецкія настаўнікі таксама, мабыць, не казалі. Імаверна, гэтых тэмаў не было ў праграме.

І тут адбылося для мяне самае нечаканае. Раптам хлапчук выцягнуў палец у мой бок: «Смотри-и, смотри-и, какой немчик прикольный!»

«Ну да, в своем костюме расхаживает фриц, деловой такой!» — дабрадушна кажа мама-бландзінка.

«Почему сразу фриц? Может, он Ганс», — глыбока заўважае тата.

А я стаю знямелы і толькі чую, што кроў то прыплывае, то адплывае ад твару.

«Так, идёмте. Пускай этот немец фото делает. Он стоит тут, как истукан, наверное, ждёт, когда мы отойдём, чтобы фото сделать», — загадвае маці ды бярэ за руку малодшага сына.

«Мама, мне надоели эти старые штуковины, идём лучше на мороженое», — малы глядзіць з надзеяй у вочы мамы. Тая кідае позірк на мужа ды цвёрда кроіць: «Ну ладно, идём. Хватит этого старья». Гэтак нямецкае марозіва перамагло савецкую павагу да працы.

Я стаю яшчэ некалькі хвілінаў на месцы, нібы ў шоку, яшчэ да канца не сцяміўшы, што адбылося. Але праз хвілю адчуваю, як мой твар сам раз'язджаецца ва ўсмешцы. Пасміхаючыся сабе пад нос, я шпарка крочу далей. Усё ж вышыванка — гэта найлепшая альтэрнатыва для маек з сярпом і молатам альбо для шапак з пяціканцовымі зоркамі. У «расейскім свеце» традыцыйная вопратка зусім іншага фасону.

**Як я шукаў радасць і надзею ў аграгарадку**

У маім мястэчку некалі стаяў кальвінскі збор. Яго пабудавалі з дрэва ў часы Вялікага Княства Літоўскага на беразе ракі Ашмянкі, у цэнтры мястэчка, адкуль разыходзіліся тры дарогі. Пры зборы былі шпіталь ды школа, выпускнікі якой вучыліся ў

еўрапейскіх універсітэтах. Недалёка жыў пастар, які штонядзелю чытаў местачкоўцам казанні пра збаўленне душы. Пры зборы мусіла быць людна: непадалёк былі корчмы, а пры самой святыні будавалі свае дамы шляхцянкі-ўдовы, каб «жыццё пры хвале Божай весці».

У старых кнігах я прачытаў, што сярод прыхаджанаў жупранскага збору была мясцовая дробная шляхта — Пясэцкія. Акурат такое дзявочае прозвішча мела адна з маіх бабуль. Ейны род паходзіў з Замасцянаў, вёскі, што ляжыць на другім беразе Ашмянкі, амаль насупраць таго месца, дзе некалі стаяла пратэстанцкая святыня.

Пэўна, не раз з Замасцянаў прыходзілі мае продкі ў жупранскі збор на нядзельнае набажэнства.

Мая прапра…бабуля, магчыма, спаткаўшыся з адною са шляхцянак, якія жылі пры зборы, казала:

— Добры дзень вам, панечка, як здароўечка, што чуваць новага ў мосціпані?

— Дзякуй вам, ясачка! Усё добра. Сяную і грыбы сушу, што разам са службай у лесе назбірала…

— А ці чытала мосціпані апошнюю кнігу Кальвіна?

— А дзе там, мая любачка, панечка, яшчэ ўсяго Цвінглі праз гэнае сенаванне не адолела…

— А што зробіш, трэба працаваць, бо, як пастар казаў, хто будзе багацейшы, той больш пэўна можа меркаваць, што ў рай трапіць.

— Але, але, мая панечка. Твая праўда… Трэба мець надзею, як пастар казаў, дай яму Бог здароўя.

* * *

Цяпер я шпацырую па месцы, дзе некалі стаяў збор, і зайздрошчу тым людзям, якія жылі ў Жупранах у часы Вялікага Княства Літоўскага. Пры іх увесь час была надзея.

Цяпер у аграгарадку Жупраны не чытаюць Кальвіна ды Цвінглі, адно, бадай, гартаюць раённую газету з паведамленнямі пра ўраджай збожжавых і зернебабовых.

* * *

— Ёсць што? — крычыць адзін мужык з сінім носам другому, які падшывае бот на падворку.

— Няма, — круціць той галавой. — Але можна падляцець на «точку»…

«Точка» — хата, дзе нелегальна, употайкі прадаюць самагонку. У аграгарадку ёсць некалькі такіх «точак».

* * *

— Ай-я-яй, — галосіць таўставатая маладзіца на вуліцы ды кляне сама сябе. — Чаму я такая нешчаслівая нарадзілася, чаму мяне мама маленькаю не задушыла-а-а?

Маладзіцу пабіў п’яны муж. Але яна не наракае на яго, не кляне гарэлку.

— І чаму я такая тоўстая? — сама сябе грызе маладая жанчына. — Як Манька худая, то ад мужа ў шафе схаваецца, а Танька праз акно выскачыць, калі мужык разыдзецца, а я ж тоўстая, у шафу не ўлажу, я ж праз акно нагі не задзяру-у-у.

* * *

Сухенькі і ахайны стары, які спяшаецца ў краму, сам зачэплівае мяне ды пачынае гаворку:

— Эх, навошта ў Савецкім Саюзе забаранялі рэлігію? Каб не забаранялі, дык, глядзіш, і Саюз бы не распаўся, і жылі б як людзі… А тут Амерыка ўсяго намяшала, паглядзі, што ва Украіне амерыканцы нарабілі, якую вайну развялі…

Пасля гэтых словаў багабойны стары тройчы жагнаецца ў бок касцёла, што стаіць на пагорку.

* * *

Пры краме кабетка расказвае сяброўцы:

— Баба нашая памерла, паехалі мы яе хату на дровы разбіраць. Заходзім, а ў куфры, ну, бо раней шафаў не было, цэлая гара старых лахманоў, нейкіх посцілак. Нейкай цвіллю ўсё гэта занялося, смярдзела староццем, дык мы расклалі агонь, папалілі прама на падворку. Шукалі, думалі, мо недзе якія залатыя манеты царскія будуць, але не знайшлі нічога…

— То вы ж маглі тыя посцілкі ў музей прадаць. Цяпер, кажуць, купляюць…

— Праўда, купляюць?

— Ну, пэўна, у Шчопанах, я ведаю, людзі гэтак посцілкі папрадавалі.

Кабетка падкусіла губу ды пайшла, знерваваўшыся.

— Паглядзі на дурную, як згрызлася… А я ж ёй нагаварыла абы-чаго, дзе тыя посцілкі хто ў Шчопанах купляў, каму яны патрэбныя? А гэная ад сквапнасці не засне, ха-ха-ха.

* * *

А каля рэчкі вэрхал: знайшлі ў лапухах басаножкі Агаткі, старой п’янчужкі, а яе самой нідзе няма.

— Утапілася, а мамачка, а родненькая, — плакаў яе сын, што таксама любіў выпіць.

Ён ужо два разы прыбягаў у краму, браў «на вэксаль» — без грошай, адно з пазначэннем у сшытку — дзве скрынкі таннага віна, нібыта маці на паховіны.

— Не вытрымала такой жысці, — жаліўся дзябёлы сын. — А на каго мяне аднаго пакінула-а-а? — заводзіў ён пад крамаю.

Увечары босая і расхрыстаная «нябожчыца» з растрапанымі валасамі прыйшла сама ў краму.

— Аеячкі, Агатка, а ты ўваскрэсла ці не ўтапілася? — пыталіся здзіўленыя прадавачкі.

— Што вы за х(…)ню выдумалі… — сварылася Агатка. — Я разулася і спала ў кустах, бо басаножкі ціснулі…

Прадавачкі на радасцях далі ёй таксама дзве віна «на вэксаль».

* * *

А маладая Галінка, у якой трое дзяцей і ніводнага зуба, пільна разглядвае паліцы з віном.

— Галінка, ты ж атрымала грошы на дзяцей, не купляй віна, купі дзецям кашы.

— Ну, пэўна што куплю, — сказала, пачырванеўшы Галінка, ды пайшла з крамы без нічога. Ногі самі яе панеслі да «точкі».

* * *

— Вось мой унук у Маладзечне проці Пуціна і Лукашэнкі, боўдзіла ж! — кажа мне даверліва, але адначасна і павучальна нейкая бабуля на прыпынку. — Ну, паўдурак! Сядзеў бы ціха, а то зараз павяжуць, у турму кінуць. А ён не баіцца, усім гаворыць. Справядлівасці яму трэба, а яе ж ніколі не было, гэнай справядлівасці. А чым цішэй сядзіш, тым цалейшы будзеш. Ці не праўду я кажу? Як мы яго з бацькамі ні прасілі, як ні плакалі, а ён усё роўна за сваё, хоць кол яму на галаве чашы.

* * *

Я еду ў райцэнтр — у Ашмяну, а ў думках — чорна, і нешта страшна грызе, точыць у грудзях. Можа, некаму ўсё роўна, але я зусім не чую надзеі ў сваёй старонцы. Нешта, як жорнам, цісне душу.

На аўтастанцыі ў Ашмяне, дзе людзі чакаюць сваіх аўтобусаў, таксама ўсе гамоняць пра сумнае: гэны павесіўся, той засек жонку, гэты падпаліў хату суседцы — усё праз гарэлку. Ажно, выйшаўшы на перон, бачу хлопца — ідзе на аўтобус у майцы з беларускай Пагоняй і ўкраінскім Трызубам. Я ажно закалаціўся, а сэрца, здавалася, зараз выскачыць і пакоціцца па бруку — гэтак мяне агаломшыла пабачанае.

Гляджу-пільную, не зводзячы вачэй, у які аўтобус сядзе маладзён. Пэўна, у Менск ці Вільню? Не, едзе недалёка, у Граўжышкі. Не магу паверыць ды штосілы тру вочы. Аказваецца, жыве Пагоня яшчэ ў маім краі, жыве памяць пра Княства… Дык ёсць яшчэ тая надзея, што ўсё ж Жыве Беларусь!

**Як у маёй вёсцы на бураковае поле прывезлі бел-чырвона-белы сцяг**

Шмат каму кінулася ў вочы, што беларусы былі на Сусветных днях моладзі ў Кракаве з двума сцягамі: афіцыйным і нацыянальным. Адным не падабалася, што моладзь паехала ў свет з сімвалам, які трымае нас на повязі савецкага мінулага ды нібыта кажа: «Думаеце, што вы самастойныя? Ну, не больш, чым у СССР».

Бел-чырвона-белы сцяг выклікаў крытыку іншых, бо нібыта палітызаваў рэлігійнае спатканне. «Людзі туды прыехалі маліцца ці сцягамі махаць?» — ніяк не маглі зразумець некаторыя.

Для мяне ж не было ніякіх пытанняў: мой сімвал — гэта бел-чырвона-белы сцяг. Чаму — гэтым асабістым я хацеў бы падзяліцца. Можа, нехта з абаронцаў афіцыйнага сімвалу таксама натхніцца ды падзеліцца сваімі думкамі.

Гэта было ўлетку 1994 года. Я быў худым, высахлым падлеткам, якому не было яшчэ і 12 гадоў. Тое лета было для мяне нялёгкім, зрэшты, як кожнае лета для ўсіх вясковых дзяцей.

Калі гарадскія выхаванцы, што прыязджалі на вакацыі ў вёску, чыталі кнігі ў бабуль і купаліся ў рэчцы — мы, дзеці беларускага сяла, мусілі часта дапамагаць дарослым у полі. Памятаю, што на пачатку лета 1994-га я палоў ды разрываў буракі на дзялянцы ў бабулі. За гэта калгас меў даць надзел з травою, якую трэба было яшчэ скасіць, высушыць на сена ды звезці ў пуню.

Тады палоў я, побач са мною бабуля, а каля нас яшчэ адна старэнькая жанчына з унучкаю, крыху далей — групка нанятых суседкай Ядвінькаю людзей.

Успаміны з таго дня жывыя і цяпер: горача, смаліла сонца, па лбе вялікімі кроплямі сцякаў пот, ад спякоты было аж чорна ў вачах. Я аблізваў салёныя парэпаныя вусны, але ўпарта дзяўбаў гачкай цвёрдую зямлю, нібы зубамі рваў. Спіна балела нясцерпна, бо працавалася ўвесь дзень угнуўшыся. Хацелася хоць на хвіліну выпрастацца і пастаяць — але бабуля зіркала неяк з трывогай, што гэта я нібыта адлыньваў ад работы. І неяк няёмка станавілася перад старэнькай, таму я зноў згінаўся, горбіўся і валіў у, здавалася, скамянелую глебу, што аж нямелі рукі.

І раптам цуд: па дарозе ехаў цяжкавік, у кузаве якога стаяў чыйсьці партрэт, а над партрэтам развіваўся вялікі бел-чырвона-белы сцяг. Акурат таго лета 1994 года мелі быць першыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, і па вёсках вазілі партрэты кандыдатаў, агітуючы за іх.

Я расправіў плечы і глядзеў, як мне падавалася, на незямную прыгажосць, абапёршыся на вышэйшую за мяне гачку. Бел-чырвона-белы сцяг гэтак трапятаўся на ветры, быў такі чысты, зіхацеў свежай беллю, а яго чырвань была такой глыбокай, такой яскравай, што ажно напаўняла нейкай бязмежнай радасцю. Пасля спечанай сонцам зямлі ды зялёных буракоў, ад якіх стаяла рабацінне ў вачох, гэты сцяг быў марскім брызам, глытком крынічнай вады.

Цяжкавік затрымаўся, адтуль вылезлі людзі ды падышлі спачатку да суседкі Ядвінькі, якая пры дарозе частавала абедам на разасланай посцілцы нанятых людзей. Госці з цяжкавіка нешта тлумачылі Ядвіньцы і яе працаўнікам, а тая толькі адмахвалася рукою ды гучна крычала: «Адыдзіцеся, я не вашай нацыі…»

Бабуля Ядвінька нарадзілася ў Першую сусветную вайну. У хаце яе маці некаторы час жыў нямецкі жаўнер. Ён пайшоў з фронтам, а маці Ядвінькі засталася з вялікім жыватом. Калі нарадзілася Ядвінька, з вайны вярнуўся муж яе маці. Ваяка быў вельмі здзіўлены, пабачыўшы ў доме дзіця. Але ён быў някепскі мужчына, дараваў жонцы ды прызнаў дзіця сваім. Ядвінька ж памятала пра сваю нямецкую кроў, і ў сітуацыях, калі не ведала, што сказаць, то мела адзіны аргумент: «Ай, адчапіцеся, я не вашай нацыі…»

Людзі з цяжкавіка нарэшце падышлі да нас ды намаўлялі маю бабулю ды суседку, што працавала побач, галасаваць за Зянона Пазняка. Гэта яго вялікі партрэт стаяў у кузаве машыны. Дзве бабулі нечага плакалі, выціраючы канцамі хустак слёзы, шморгалі насамі, жаліліся, што яны адзінокія ўдовы, што пра іх ніхто не дбае, усё ж, пэўна, цешачыся ўвагаю незнаёмцаў.

А я быў таксама вельмі ўдзячны гэтым людзям, што мог пастаяць, разагнуўшыся, на бяскрайнім бураковым полі. Пакуль старэйшыя гаманілі, я не зводзіў вачэй з бел-чырвона-белага сцяга, ад якога, як мне падавалася, ажно ішлі нейкія светлыя прамяні. Над зямлёю, куды падаў мой дзіцячы пот, над вялізнаю гачкай, над голымі ды карэлымі ступнямі бабуль, над Ядвінькаю з яе прымаўкамі, рабаціннем у вачах, над кожным каменем і божаю кароўкай на бураковым лісце — над нашымі лёсамі лунаў гэты сцяг, мой сцяг.

Тады яшчэ дзіцём я пастанавіў, што іншых сцягоў мне не трэба.

# Як найстарэйшая беларуска Чыкага ўцякала ад бальшавікоў на ровары па лёдзе

Спадарыні Лідзе Швэфэль у 2013 годзе, калі я яе наведваў у Чыкага, пайшоў 89-ы год. Больш за 60 з іх яна пражыла ў ЗША. І большую частку жыцця з ёй разам быў каханы муж Даніла, які, немец паводле паходжання, стаўся беларусам у сэрцы.

### Дачка «балахоўца»

Спадарыня Ліда нарадзілася на хутары Выгоды каля Гайнаўкі на Падляшшы. Яе тата Васіль Севасцьянаў паходзіў з-пад Пскова і быў адным з расейскіх белагвардзейцаў, якія пасля бальшавіцкай рэвалюцыі ваявалі супраць «чырвоных» ды засталіся потым у Белавежскай пушчы, хаваючыся ад пераследу. Нейкі час бацька спадарыні Ліды змагаўся супраць бальшавікоў у злучэннях генерала Булак-Булаховіча, за што яго з калегамі называлі пазней «балахоўцамі». Выйшаўшы з пушчы пасля ваеннага ліхалецця, былыя белагвардзейцы разышліся па навакольных паселішчах, якія паводле Рыжскай мірнай дамовы адышлі да Польшчы, ды ажаніліся з мясцовымі кабетамі.

«Апроч мяне ў сям'і было яшчэ шасцёра дзяцей. Я была найстарэйшая і мусіла ўжо малою цягаць са студні вёдры з вадою. Зямлі ў нас было мала, бо адкуль яе ўзяць, калі тата быў прышлы чалавек. Трохі зямлі нам аддаў дзядзька маёй мамы», — успамінае спадарыня Ліда.

Адной гаспадаркі, каб пракарміць вялікую сям'ю, было мала. Таму бацька мусіў наняцца на тартак. «Тата працаваў вельмі цяжка, але, прыйшоўшы ўвечары, дапамагаў маме чысціць бульбу ды скрыляць яе на вялікія бляхі, якія пазней устаўляліся ў печку», — узгадвае спадарыня Ліда. Мужчына знаходзіў таксама час, каб пачытаць газеты ды паразмаўляць з іншымі «балахоўцамі» — пра палітыку. Пад хатаю Севасцьянавых, дзе на гутарку збіраліся былыя ваякі, часцяком можна было заўважыць таксама польскую паліцыю, якая старалася падслухаць, ці «балахоўцы» не задумляюць нейкага бунту. Мужчыны ж размаўлялі пра палітыку Савецкага Саюза і з асуджэннем выказваліся пра камуністаў, памятае спадарыня Ліда са свайго маленства.

### Паход у царкву як бонус

Бацька вельмі цікавіўся, што адбывалася ў 1920-я гады на яго радзіме — пад Псковам, але не мог напісаць родным ліст з «буржуазнай» Польшчы, бо баяўся, што тых арыштуюць камуністычныя ўлады. Толькі з дапамогаю нейкіх знаёмых у Галандыі яму ўдалося перадаць блізкім у савецкую Расею вестку, што ён жывы.

Вялікі ўплыў на выхаванне спадарыні Ліды, як сама ўспамінае, аказала ейная бабуля Наталля. «Часта я хадзіла разам з бабуляй на могілкі адведаць магілы дзядоў. Там бабуля мяне вучыла, што трэба шанаваць сваіх прашчураў, трэба любіць праваслаўную веру». Разам з бабуляй спадарыня Ліда часта хадзіла таксама ў царкву ў Нова-Беразове, бо ў Гайнаўцы польскія ўлады не дазвалялі тады пабудаваць праваслаўную святыню. «Я вельмі любіла хадзіць у царкву. Гэта была ўзнагарода, бонус, бо інакш трэба было б заставацца дома, а там поўна работы — вады нанасіць, буракі

свінням таркаваць, сечку рэзаць. Пайсці ў царкву для нас, дзяцей, было і свята, бо можна было наведаць мястэчка, і адпачынак».

**На работах у Нямеччыне адчула сябе беларускаю**

У 1939 годзе Падляшша занялі савецкія войскі, і 14-гадовая Ліда паехала ў Беласток, каб вучыцца на прадавачку. «Я з маленства сабе пастанавіла, што не хачу жыць на вёсцы. Мой тата дачыняўся з людзьмі, якія хоць і не былі багатыя, жылі прыгожа, мелі прыгожыя дамы і рэчы. Я таксама хацела жыць прыгожа ды думала, што так зажыву, калі стану прадавачкаю».

Але ў 1941 годзе на Беласточчыне з’явіліся немцы, якія амаль адразу вывезлі маладую і здаровую дзяўчыну на работы ва Усходнюю Прусію. Так Ліда Севасцьянава трапіла ў Кёнігсберг (сённяшні Калінінград). «Нас прывезлі і выставілі на пляцы ў радочак. Немцы-гаспадары прыходзілі ды выбіралі з нас, каго хацелі. Мяне дык узялі адразу».

Так спадарыня Ліда трапіла ў гатэль для вайсковых на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, дзе дапамагала на кухні ды прыбірала пакоі. «Было цяжка… Але не ведаю чаму, да праваслаўных беларусаў немцы ставіліся лепей, чымся да палякаў-каталікоў». Шпацыруючы аднойчы ў гарадскім парку, спадарыня Ліда пазнаёмілася з іншымі беларусамі, якіх забралі на работы. (Некаторыя з іх мелі нямецкія дакументы ды працавалі на фабрыках разам з немцамі).

Яны і запрасілі маладую дзяўчыны ў беларускі гурток, які стварылі самі. «Было там многа моладзі, таму мне было і цікава да іх прыйсці. Гурток меў сваю залу, дзе мы спатыкаліся, размаўлялі, хто адкуль, знаёміліся».

Беларусы збіраліся, каб пасьпяваць народныя песні, найчасцей — пра жніво. Дзякуючы гэтаму гуртку дзяўчына з Падляшша адчула гонар за беларускую культуру ды ўсвядоміла сябе беларускаю.

**Уцёкі і «манна нябесная»**

Пад канец вайны, калі немцы пачалі адступаць, у Кёнігсбергу з’явіліся прадстаўнікі Беларускай цэнтральнай рады, тагачаснага беларускага ўрада, які дзейнічаў з дазволу немцаў у часы акупацыі. «Уцякалі тады і настаўнікі, што працавалі ў беларускіх школах, і людзі, што былі старастамі ў вёсках пад немцамі. Яны нас найбольш настрашылі зверствамі камуністаў, і мы вырашылі таксама ўцякаць».

Прадстаўнікі Беларускай цэнтральнай рады выдалі беларусам з Кёнігсберга дакументы, дзякуючы якім тыя маглі трапіць на цягнік, што ехаў на Захад, але месцаў для ўсіх не было. Спадарыня Ліда разам з сяброўкамі на беразе замерзлага Балтыйскага мора знайшла тады некалькі ровараў, на якіх дзяўчаты паехалі па лёдзе на Захад. «Тады ўцякалі шмат якія нямецкія гаспадары з Прусіі. На санкі, запрэжаныя конна, яны грузілі многа рэчаў. Але калі трэба было ехаць праз затоку, дык, баючыся праваліцца пад лёд, шмат якія рэчы кідалі проста на беразе», — тлумачыць спадарыня Лідзія.

Дзяўчаты-ўцякачкі знаходзілі на марскім узбярэжжы таксама ежу, якую называлі «маннаю нябеснаю». Часам на нейкіх станцыях, дзякуючы дакументам, атрыманым ад Беларускай рады, ім удавалася атрымаць кубак кіпню ці вараную бручку.

Па дарозе на Захад спадарыня Ліда перажыла некалькі бамбаванняў, калі, як успамінае, неба мяшалася з зямлёю, а душа сыходзіла ў пяткі. Аднойчы па цяжкавіку, які падвозіў дзяўчыну разам з іншымі гаротнікамі, пачалі страляць амерыканцы. Спадарыня Ліда выскачыла з прычэпа і моцна ўдарылася галавою аб зямлю ды страціла прытомнасць. Гэта, як мяркуе, уратавала ёй жыццё, бо амерыканцы стралялі потым па рухомых цэлях і шмат хто з яе знаёмых загінуў.

**Пасляваеннае каханне**

Пасля некалькіх месяцаў бадзяння спадарыня Ліда трапіла ў лагер для перамешчаных асобаў у Ватэнштаце ў брытанскай зоне. Як узгадвае, беларусы імкнуліся ўцячы туды з савецкай зоны, бо баяліся мець справу з камуністамі. «Праўда, англійскія ўлады здрадзілі нам і выдавалі Саветам тых, хто запісаўся беларусам, нібыта для рэпатрыяцыі на радзіму, але мы ведалі, што нас там можа чакаць. Таму шмат хто запісваўся палякам, хто хаваўся, калі ў лагер прыязджала савецкая інспекцыя, хто ўцякаў, хто змяняў прозвішча і жыццяпіс. Камбінавалі, як маглі», — падзялілася спадарыня Ліда.

У лагеры яна пазнаёмілася са сваім будучым мужам Данілам Швэфэлем, немцам, які дзяцінства і маладосць пражыў на Палессі. Яго сям'я даўно прыняла праваслаўе ды трымала свой маёнтак пад Кобрынам, гандлявала прадукцыяй з уласнай цагельні. Даніла добра размаўляў па-паляшуцку і дасканала ведаў палескія звычаі. Ён вельмі шкадаваў, калі ў 1939 годзе сям'я мусіла выязджаць з абжытых мясцінаў у Нямеччыну. Савецкія ўлады далі дазвол на выезд, бо Сталін тады яшчэ сябраваў з Гітлерам.

Вайну Даніла адбыў у нямецкім войску і цудам застаўся жывы. Пасля ваеннай завірухі разам з сябрам-беларусам на прозвішча Пунтус уцёк з савецкай зоны ў Нямеччыне, пераплыўшы ўначы памежную раку, ды трапіў таксама ў лагер у Ватэнштаце. Там яму прыглянулася дзяўчына з Падляшша, мова якой была блізкая да палескай гаворкі.

**З Нямеччыны ў ЗША**

Неўзабаве ў лагеры справілі вяселле. У Ватэнштаце, паводле ўспамінаў спадарыні Ліды, беларусы ладзілі шматлікія імпрэзы, дзейнічалі беларускія скаўты, працавалі беларуская царква і школа. Са сваімі прыяцелямі яна і яе муж размаўлялі толькі па-беларуску.

З лагера сужэнцы перабраліся ў мястэчка пад Гамбургам, да сваякоў Данілы. Тут жа нарадзілася дачка Швэфэляў Лізавета. Аднак жыццё ў пасляваеннай Нямеччыне было занадта цяжкім, і маладая сям'я вырашыла эміграваць у ЗША.

«Не кожны мог у тыя часы выязджаць. Але ЗША прызначылі Нямеччыне некалькі караблёў для людзей, якія хацелі эміграваць. Каб выехаць, я мусіла прыняць нямецкае грамадзянства», — расказала беларуска з Чыкага.

Прыехаўшы ў ЗША ў самым пачатку 1951 года, Швэфэлі пасяліліся ў Нью-Джэрсі, дзе жыло тады вельмі шмат беларусаў. Але праз некалькі гадоў перабраліся ў Чыкага: там можна было знайсці працу з лепшым заробкам. У Чыкага спадар Даніла і спадарыня Ліда актыўна ўключыліся ў беларускае грамадскае жыццё. Яны былі аднымі з закладальнікаў беларускага праваслаўнага прыхода. Спадар Даніла, маючы мастацкія здольнасці, сам змайстраваў алтар і браў удзел у роспісе іканастаса ў царкве. Ён жа намаляваў Пагоню, якая цяпер месціцца ў прыхадской зале.

«Даніла быў вельмі глыбокі і добры чалавек. Ён ніколі не сумняваўся, што Бог існуе, і ўсё рабіў паводле Божых запаветаў», — распавяла спадарыня Ліда. Немец паводле паходжання, ён вельмі любіў беларускую мову і з жонкаю размаўляў толькі па-беларуску ды пісаў нават патрыятычныя вершы на беларускай мове. Спадарыня Ліда, аднак, шкадуе, што іх дачка Лізавета мала што можа сказаць на мове бацькоў, бо моцна амерыканізавалася.

**Па чым сумуе беларуска на чужыне?**

Выйшаўшы на пенсію, спадарыня Ліда, як сапраўдная беларуская гаспадыня, трымала разам з мужам курэй. «Каб мне нават давялося выбірацца на самотную выспу, то я б абавязкова ўзяла з сабою малітоўнік і курачку. Бо курачка — гэта ж і яйка табе на ежу, і пацеха…» — прызналася яна.

Да сённяшняга дня спадарыня Ліда сумуе па бульбяной бабцы, якую ейная мама запякала ў печы. «Бабка — гэта ж нашая беларуская піца. Мама пякла яе з варанай тоўчанай бульбы, дадаўшы свежую ці квашаную капусту, моркву, сала і трохі мукі. Эх, смаката была».

Спадара Данілы няма побач са спадарыняй Лідаю ўжо 10 гадоў, але яна пры кожнай магчымасці спяшаецца адведаць яго магілку. «З беларускай пасляваеннай эміграцыі я засталася адна. Усе паўміралі…»

Ужо адна, без мужа, як некалі, чытае яна беларускае Евангелле, выдадзенае ў Лондане ў 1948 годзе, а падчас малітвы — верш Наталлі Арсенневай «Магутны Божа». Цяперашнім беларусам, лічыць спадарыня Ліда, патрэбна больш свабоды. А самае галоўнае ў жыцці — гэта добрая ды шчаслівая сям'я.



нарадзіўся ў 1982 годзе ў вёсцы Лусцішкі Ашмянскага раёна. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011). Жыве ў Варшаве. Апавяданні і эсэ друкаваліся ў газетах «Наша Ніва», «Новы Час», у двухмоўным часопісе «Echa Polesia», у віленскім квартальніку «Znad Wilii» і ў альманаху «Новы замак».





# Падмосткі

## Яўген Петрашэвіч

### Сказ пра Каложу

*Спектакль-араторыя паводле паэмы*

*Прысвячаецца светлай памяці маёй сястры Веры Белакоз*

Старажытную Каложу,
Нёмна хваляў зычны тон
Блаславі, магутны Божа,
І прымі зямны паклон.

Дзея пачынаецца на ўзыходзе сонца. Гледачы ўладкоўваюцца насупраць паўночнага боку Барысаглебскай царквы перад пляцоўкаю з памятным каменем Давыду Гарадзенскаму. Тут устаноўлена невялікая сцэнічная пляцоўка. Гучыць уверцюра і гудочны покліч. На сцэнічную пляцоўку падымаюцца трое акцёраў-вядучых.

П е р ш ы  а к ц ё р

Стаіш на Нёманскай кручы
І лічыш, колькі часу і вады тут сплыло…
Паклон зямны, спадарыня Каложа,
Натхнення ты майго надзейнае вясло.
Шыбуй у глыб вякоў, мой човен забыцця,
Што доўга так трымаўся на прыколе.
Каложа! — шматвякоўя сівізна,
Стаю перад табой, нібы дзіця,
У роздуме, адчаі, неспакоі…

Д р у г і  а к ц ё р

Над Каложскай царквой уздымаецца сонца.
Божа, зірні на тварэнне сваё!
Штосьці шэпча дачушцы-Гараднічанцы
Бацька Нёман на вушка.
Моўчкі на хвалях нясе сакрэт Нёман
Да Балтыйскага мора
І там сумна з Нептунам аб нечым гамоніць…

Трэці акцёр

А Стары Замак з Каложай
Вядуць гамонку асцярожна:
— У нас, як і ў людзей,
Час сівіць мuроў скроні.
Дзе ж звон тых мячоў
У гарачых хлапцоўскіх далонях?
Дзе ж тупат уздыбленых коней?
Час накладае свой след, безумоўна,
Ад разбурэння ратуй нас, анёл-ахоўнік…

Хор выконвае песню «Гэй, на зары».

Гэй, на зары едуць ваяры,
Гэй, на зары едуць ваяры.
На кані гарцуе князь,
Конь капытам топча гразь.
Гэй, гэй, гэй!
Конь капытам топча гразь.

А з той гары едуць мазуры,
А з той гары едуць мазуры.
Кожны мае востры меч,
Каб сячы галовы з плеч.
Гэй, гэй, гэй!
Каб сячы галовы з плеч.

Прагне мазур знішчыць Гародню,
Прагне мазур знішчыць Гародню.
Стрэнем іх вяльможна мы
Пад самай Каложаю.
Гэй, гэй, гэй!
Пад самай Каложаю.

Востры мячы, хлопцы-крывічы,
Востры мячы, хлопцы-крывічы.
У князя моцная рука —
Мазур робіць драпака.
Гэй, гэй, гэй!
Мазур робіць драпака.

Пасля песні на сцэнічнай пляцоўцы — дружына з Князем.

Першы акцёр

Гучаць гарадзенскія трубы. Вечар.
Сонца схіляе на захад праменне.
Ідуць землякі на параду — на веча,
Кажуць, пытанне ў іх важнае вельмі.

Другі акцёр

За рэчкай Гараднічанкай сабраўся народ,
Шэпчуць, гамоняць ды цягнуць шыі.
Шапкі знялі гарадзенцы.
Князь лёгка ўзышоў на памост.
Правую руку ўздымае —
Сціхлі ўсе, нібы нямыя.

Князь

Грамада!
Маю да вас пытанне:
— Ці не час узвесці царкву, славяне?

Трэці акцёр

Гудзяць гарадзенцы:
— А як называцца святыня будзе?
— А хто пакладзе камень першы ў падмурак?
— Назву трэба!

Князь

Шаноўныя людзі!
Царква будзе з імем Барыса і Глеба!..

Першы акцёр

Ко ложа?
— Хто ложа? —
Плёскатам нёманскіх хваляў
Загуло веча — разгараецца спрэчка.
— Ко ложа?
— Хто ложа?
— Да Нёмна буйных патокаў так блізка?

Другі акцёр

І вырашыў лёс, далёкі продак вяльможна:
Каложа-царква — гарадзенцаў калыска —
Ля Нёмна буйных патокаў так блізка.

Трэці акцёр

І так вырашае веча:
«Хай камень першы
Кладзе старэйшы —
Самы мудрэйшы.

Першы акцёр

А другі камень пакладзе мацнейшы
Гарадзенскі асілак-вой,
Што мужна змагаўся ў бойцы-сечы».

Другі акцёр

Камень цяжэрны вой малады
Пад моцны натоўпу гоман
Коціць на край страмніны з левага боку,
Дзе бераг падточвае велічны Нёман.

Трэці акцёр

Здаля ад берага з правага боку
Дзядуля старэнькі
Ў зрэбным адзенні.

*(Шэпча, усунуўшы голаў у плечы.)*

Сіла ў маёй немачы,
Сіла ў маёй немачы…

*(Кладзе валун у падмурак, хрысціцца тройчы.)*

Божа!
Пашлі храму вечнасць,
Пашлі храму вечнасць!..

Трэці акцёр

Дзядуля да роднай зямлі схіляецца нізка.
— Людзі!
Паслухайце дзеля Хрыста, прашу,
Не кладзіце камяні ў падмурак царквы
Да берага занадта блізка…

Першы акцёр

Святар сівы, як лунь, белы,
Благаславення ў Госпада просіць

І наразмаш святою вадою
Накрыж зачацце дойлідства кропіць.
А хор пеўчых стройна і дружна
Госпаду хвалу галосіць.

Д р у г і   а к ц ё р

Узрушаны Князь казаць будзе:
— Ці здолеем самаахвярна храм збудаваць?
Адкажыце, людзі.

Х о р

З дапамогай Гасподняй збудуем!
Адолеем, Княжа! Царква будзе!

Т р э ц і   а к ц ё р

Работа кіпіць:
Месяць спраўна вапну і гліну
Капытамі па кругу нястомныя коні,
Хлопцы носяць наверх на будоўлю цагліны,
А з Панямуні сплаўляюць сосны і елкі —
На рыштаванні, на бэлькі.
Цесляры склютамі махаюць чынна.

Д р у г і   а к ц ё р

Ляціць час, мінаюць леты, як сон,
І неўзабаве, відавочна і стромка,
Узносіцца вянец за вянцом
З песняй звонкай.

Хор выконвае песню «Гэй, дружына вясёлая».

У Кіеве званы звоняць,
А ў Гародні царкву ўзводзяць.
Гэй, гэй, гэй,
Мая дружына вясёлая!
Гэй, гэй, гэй,
Талака — дружына вясёлая!

А у Менску ўсё мяняюць,
А ў Гародні сваё маюць.
Гэй, гэй, гэй,
Мая дружына вясёлая!
Гэй, гэй, гэй,
Талака — дружына вясёлая!

У Гародні трубы граюць,
Робяць справу і спяваюць.
Гэй, гэй, гэй,
Мая дружына вясёлая!
Гэй, гэй, гэй,
Талака — дружына вясёлая!

Бо у нашым слаўным Гродна
Будзе ўсё, высокародна.
Гэй, гэй, гэй,
Мая дружына вясёлая!
Гэй, гэй, гэй,
Талака — дружына вясёлая!

П е р ш ы  а к ц ё р

Над берагам Нёмна ад самай зары
Мужчыны шліфуюць каменні гладка.
Будуюць Каложу — хвала вам, майстры! —
Кладуць сцены моцныя — след для нашчадкаў.

Т р э ц і  а к ц ё р

Пасадзіў куст бэзу-дубца
Дзед на стрэлы нашчадкам.
А Замчышча-гару наказаў
Мацаваць калючай ракітай.
І развёў ля Каложы спадораны сад,
Песціў унукаў ды сеяў жыта.

П е р ш ы  а к ц ё р

А на беразе Нёмна сасна векавая
Камліста расла.

(*Моўчкі дзед схіляецца долу. Хрысціцца тройчы. Малітву мовіць.)*

Ахвяруйся, сасна — зямная краса,
На цяслёны, кірпацісты човен.

Д р у г і  а к ц ё р

А майстры будавалі Каложу-царкву,
Стаяў гоман, і храм узрастаў на вачах…
Плённа! Кружыла галаву…

На сярэдзіну пляцоўкі выходзіць Белы Анёл з макетам Каложскай царквы на руках. Харэаграфічная група з макетамі лодак і чаўноў заводзіць карагод вакол пляцоўкі.

Першы акцёр

Плывуць вастраносыя лодкі з вярхоўя Нёмна.
Вязуць у Гародню з Менска тавары каштоўныя.
Крычаць гарадзенцы ім:
— Што маем?
У адказ купцы:
— Не мяняем!
Мяняюць, мусіць,
У Каралеўцы, што ў Прусіі.

Другі акцёр

Пад вечар супраць Нёмна плыні
Таварамі запоўненыя чоўны волакам пнуцца:
Галандцы, датчане, прусы
Спяшаюць патрапіць на шлях
З варагаў у грэкі,
Праз нашы каналы, рэкі.

Трэці акцёр

А з вярхоўя сплаўляюць плытамі лес
І збожжа на баржах.
Усіх Нёман нясе на сваіх плячах,
Усіх уважыць.
А на развецці ракі ля Каложскай царквы,
На стромай вежы,
Вартуюць належна
За тым, як з Усходу ды Заходу
Шыбуюць парусна-вяслярныя лодкі,
Ды баржы ўпіраюцца-цягнуць
Басаногія плытнікі.
Нават з іх бяруць у казну даніну-ўзнагароду,
Тут пільна сочаць мытнікі.

Да маленькай царквы падыходзяць Князь і Князёўна, апускаюцца на калені.

Князь, Князёўна

Найсвяцейшую Каложу,
Хваляў Нёмна зычны тон,
Благаславі, Магутны Божа,
І прымі зямны паклон.

П е р ш ы  а к ц ё р

Пад чыстым небам
І ясным месяцам
Зорка лёсу і шчасця гарыць,
А Князь і Князёўна
Наважыліся адпачыць.

К н я з ё ў н а *(спявае «Калыханку»)*

Месік пазяхае —
Баю, баю, бай.
Ночка пакрывае
Мой блакітны край.

*Прыпеў:*

Засынай, мой любы Княжа,
Дай спакой вачам.
Сон прысніся важны
І паведай нам.
Ночка пакрывае
Мой блакітны край.

Злая бура ноччу
Больш не прыляціць.
Князь прыжмурыў вочы,
Стомлены, не спіць.

*Прыпеў:*

Можа, шчасце нам падарыць
Літасцівы Бог,
Зоркі ў небе ззяюць
Для людскіх дарог.
Князь прыжмурыў вочы,
Стомлены, не спіць.

П е р ш ы  а к ц ё р

Князю не спіцца.
Маладзік крутарогі
Кінуў цень і напомніў пра многае.
Галасіла душа, нібы немаўля,
А можа, сама стагнала зямля?..

Д р у г і  а к ц ё р

Ці быў той Князеў плач
Як жаль за маладосць раздольную?
А можа, боль грахоў,
Вольных ці нявольных?

Т р э ц і  а к ц ё р

І стомлены блуканнем
У лабірынце трывожных дум,
Пад раніцу Князь заснуў.
Ды зноў усплыў перад ім
Прывід ночы кожнай.
— Ці не здарыцца нешта з Каложай? —
Праз сон штось мармыча, кажа…

К н я з ё ў н а

Што з табою, мой любы Княжа,
Мо трывожыць твой сон сіла злая?

К н я з ь

Непакоіць мяне здань начная…
З Нёмна вадзянік, пачвара тая.
Да сябе клікаў, маніў і падманваў,
Шаптаў: «Ідзі. Ідзі сюды,
Бліжэй да берага, да вады…»
Снілася мне дарог скрыжаванне:
Адна лягла ўздоўж Нёмна, на ўзгорку,
Другая — накрыж ёй, уніз з гары стромкай.

А ў т а р

Нёман, у чым прычына,
Што гоніш воды так імкліва?
На ліха?
Жыццё і так хуткацечнае:
У адны дзверы зайшоў,
А ў другія — выхад.

За якія грахі, Ясны Божа,
Царква, што так доўга ўзбудоўвалі людзі,
Вадою рачною падточана будзе,
Няўжо Ты дазволіш, каб знікла Каложа?

Па-над пляцоўкай падымаецца вялізная постаць вадзяніка — Нёмна.

Н ё м а н

За тое, што чэрпаеце ваду
І ловіце рыбу,
За тое, што муціце на Купалле
Мае чыстыя ўладанні,
Я, Нёман, як і мой продак Кронан,
Бяру з вас ахвяраванне.
І як заўсёды ў даўніну,
Дай і ты, Каложа, даніну!

К а л о ж а

Мяне будавалі продкі на вякі,
Каб засталася на памяць нашчадкам.
Ці зможаш ты, Нёман, выпадкам
Не падточваць бераг, а абысці?..
Не падмывай майго падмурка, прынамсі.

Н ё м а н

Маё прызванне — імчаць удаль
Магутныя плыні прэсных хваль,
У Балтыйскае мора нястомна,
Каб не было такім салёным.
Ад гарадоў і весяў,
Дзеля раўнавагі і закону,
Бяру я ахвяраванні,
Як наказваў мне прадзед Кронан.
Так ахвяруй мне, царква Каложа,
Калі ўся не зможаш, то хоць палавіну.
Адкрый Сусвету, сонцу і зорам
Душы сваёй чысціню з пакорай.

Раскрыйся!
І можа, настане між нас пагадненне,
За ўсе пагарды, непаразуменні,
За тое, што людзі чэрпаюць з ракі,
За рыбу, што цягнуць сеткай рыбакі,
За тое, што лодкамі рэжуцца хвалі
І муцяць ваду на святое Купалле, —
За ўсё тады, можа, прабачыць змагу
І хутка далей, на Літву пабягу.

Хор і харэаграфічная група выконваюць музычную кампазіцыю «Купалле — шырока раздолле».

Купалле, Купалле, шырока раздолле,
Шырока раздолле, як жытнёва поле!
На Купалле, на Купалле!

На жытнёвым полі, шырокім раздоллі
Дзеванькі сплялі вяночкі з куколю.
На Купалле, на Купалле!

Як пайшлі да рэчкі, рэчкі-самацечкі,
Вяночкі пускалі, хлопцаў заклікалі.
На Купалле, на Купалле!

Хлопчыкі-малойцы, слаўны рыбалоўцы,
Лавіце вяночкі, Купалінкі-дочкі!
На Купалле, на Купалле!

Ды нырайце ў воду, ля самага броду,
Хто вянок дастане — нарачоным стане!
На Купалле, на Купалле!

Купалле, Купалле, шырока раздолле,
Шырока раздолле, як жытнёва поле!
На Купалле, на Купалле!

Грукат грому. Карагод з крыкам разбягаецца. З'яўляецца Чорны Анёл. Хвалі Вадзяніка-Нёмна захліствають маленькую царкву на руках Белага Анёла. Анёлы раз'ядноўваюць царкву на дзве паловы. Чорны Анёл адыходзіць са сваёю паловаю.

Першы акцёр

Палова заходняя апала,
Другая — усходняя — стаіць.
Устаяла, як вера,
Па сённяшні дзень,
Як скарбніца нашых надзей.
Каложы палова,
Узвыш двухтысячны год новай Эры,
Эры Хрыстовай.

Другі акцёр

Каложа!
На ўзгорку тваім нешта згубіць,
І знайсці, пэўна, можна.
Згубіць свой сум,
Знайсці заспакаенне —
Прыстанак таемных дум.

Творчых адкрытых душ —
Скарбніца натхнення.

Т р э ц і   а к ц ё р

Каложа!
Ты, як і ўсе мы, стаіш
На ветразях раздарожжа.
І хто адказаць на пытанне можа:
Ці на белым свеце быць у цэласці,
Або распалавіненай, як Каложа,
Планеце?

Чорны і Белы Анёлы злучаюць дзве часткі царквы ў адну. Гучыць песня «Там, каля рэчкі Гараднічанкі».

Гараднічанка весняй паводкай
Прыманіла белую лябёдку.
На чыстай мелі лябёдка села —
Адпачыць з дарожкі захацела.
Ой, лю-лі, лю-лі,
Лё-лі, лё-лі, лё-лі.
Адпачыць з дарожкі захацела.

А ясны сокал — зоркае вока
На лябёдку дзівіцца звысока.
Спусціўся сокал да струмкай рэчкі
І звіваў прасторнае гняздзечка.
Ой, лю-лі, лю-лі,
Лё-лі, лё-лі, лё-лі.
І звіваў прасторнае гняздзечка.

Наша лябёдка дзяўчо-малодка
Расцвітае, нібы ружы кветка,
А ясны сокал — хлопец сінявокі
Беражэ народныя вытокі.
Ой, лю-лі, люлі,
Лё-лі, лё-лі, лё-лі.
Беражэ народныя вытокі.

Горад Гародню тут заснавалі,
Радавітых дзетак нараджалі.
Міла Гародня радуе сёння —
Гонар і пашана Прынямоння.
Ой, лю-лі, лю-лі,
Лё-лі, лё-лі, лё-лі.
Гонар і пашана Прынямоння.

А ў т а р

Колькі гадоў сады зацвіталі,
Столькі разоў ладзілі свята.
Лісточкі ападалі…
Напалову Каложская царква распята,
Як доля майго рода
І народа.

Гудуць гарадзенскія трубы.
Настаў сіні вечар.
О Край мой любы!
Сонца зайшло, каб раніцою ізноў
З намі сустрэцца.

Шаноўныя мае землякі,
Што вам яшчэ паведаць, яшчэ сказаць?..
Сказаць больш нечага, паверце.
Пачуццём перапоўнена сэрца.

У аркестры гучыць тэма Нёмна і царкоўныя званы. Феерверк высвятляе старадаўнія сцены Барысаглебскай царквы.

**Аблога першая**

У святліцу Князя ўрываюцца ганцы.

П е р ш ы  г а н е ц

Княжа! З боку Грандзіч
Набліжаецца шведская навала!

К н я з ь

Жанчын і дзяцей — у Каложскую царкву!
Мужчыны і воі — за мною!

П е р ш ы  г а н е ц

Княжа, крыжакі ля Каложы ладзяць пантоны!

Д р у г і  г а н е ц

А на другім беразе Нёмна будуюць намёты,
Паляць кастры…
Напэўна, рыхтуюць аблогу!

К н я з ь

Князёўна, мая галубка, скажы слова.
Па тваім слове я на ўсё гатовы.

К н я з ё ў н а

Бацька наш і абаронца, Кронан!
Збяры разам усе свае прытокі, ручаі, крыніцы.
Кронан, разбуры варожыя пантоны,
Захлыні іх сваёю вадзіцай!

*(Спявае.)*

У крынічкі
Ёсць вытокі.
Там бярэ пачатак родны Кронан
Сінявокі,
Сінявокі.

Кронан родны,
Кронан сіні,
Ты плывеш, як песня, паўнаводны,
Па краіне,
Па краіне.

Льюцца песні,
Падгалоскі
Пра цудоўны край, наш край бацькоўскі,
Край бацькоўскі,
Край бацькоўскі.

Заспявайце пра цудоўны край,
Край бацькоўскі,
Край бацькоўскі!

П а ч в а р а з Н ё м н а

Ой, будзе вам, людзі,
Ой, гора вам, будзе!

П е р ш ы г а н е ц

Княжа, варожыя дружыны пачынаюць пераправу!

К н я з ь

Ганца!

*(І калі той з'яўляецца, загадвае яму.)*

Ляці, сокалам у Румлёва,
Няхай пускаюць бярвенні,
Ды адмыслова!

Князёўна і жаночы хор спяваюць, а калі чуюць гул, які нарастае, пачынаюць гаманіць кожны пра сваё.

А ў т а р

І трэснулі пантоны,
Іржалі гучна коні —
Патанулі варожыя воі.

Х о р

Хвала Усявышняму, пільным ганцам,
Лесарубам, вытокам, крыніцам, ручаям!
Хвала Кронану!
Князю хвала!

**Аблога другая**

У Каложы жанчыны і дзеці запалілі свечкі і моляцца на каленях. Гучыць манатонны звон, у сцену бухае таран. Чуваць, як ідзе бойка: крыкі, енк, іржанне коней, лязганне зброі — з нарастаючай сілай.

С в я т а р

Молімся за ўратаванне душ нашых!
Дапамажы, Божа!

П р ы х а д ж а н е

Дапамажы, міласэрны!

С в я т а р

Божа, пашлі сілу непераможную абаронцам!

П р ы х а д ж а н е

Пашлі, Божа!

*С в я т а р*

Госпадзі, дай Князю моц вялікую!

П р ы х а д ж а н е

Госпадзі, даруй!

Чуюцца радасныя крыкі дружыны: Перамога! Перамога! Перамога!!! Званы звоняць. Гучаць гарадзенскія трубы. Скончана сеча. Змоўк таран. У царкву заходзяць вoі дружыны на чале з Князем — гэта пераможцы-гарадзенцы.

К н я з ь

Хвала Госпаду!

П р ы х а д ж а н е

Хвала Князю! Хвала дружыне!

Выводзяць палонных. Яны кідаюць Князю да ног зброю. Іх важак дае Князю меч з надпісам «TRINKBLUT» (пі кроў).

К н я з ь *(мячом плазам кранае плячо палоннага, які ўкленчыў перад ім).* Дарую вам жыццё, а каб ведалі нашу дабрату і высакароднасць, пакідаю харобрых вояў на развод, на насенне, як у нас кажуць. Але перадайце вашым нашчадкам, каб не хадзілі больш на нашу зямлю з мячамі, бо ад іх і загінуць. Перадайце, каб ведалі, што жывуць тут працавітыя, мужныя людзі, якія заўсёды змогуць адстаяць родную зямлю!

Гучыць урачыстая музыка аркестра. На пляцоўку і вакол яе выбягаюць дзеці і пачынаюць вадзіць вясновы вясёлы карагод, спяваюць разам з усімі «Вяснянку»:

Ідзе вясна, вітай вясну,
Разбудзіла ад зімовага сну.
Зацвітайце, кветкі-вясёлкі,
Вылятайце з вуллёў, пчолкі.
Вясна-красна на ўвесь свет!
Вясна-красна на ўвесь свет!

Вясна-красна, вясна-красна!
Што ты, вясна, нам усім прынясла?
Прынясла нам песні-вяснянкі,
Дзеткам абяцанкі-цацанкі.
Вясна-красна на ўвесь свет!
Вясна-красна на ўвесь свет!

Вясна-красна, вясна-красна!
Што ты, вясна, нам усім прынясла?
Прынясла дзяўчатам вяночкі,
Хлопчыкам дубцы і свісточкі.
Вярба б’е — не я б’ю,
За тыдзень — Вялікдзень!
Вясна-красна на ўвесь свет!
Вясна-красна на ўвесь свет!

Вясна-красна, вясна-красна!
Што ты, вясна, нам яшчэ прынясла?

Прынясла вам птушачкі-гускі,
Вясну клікаць у край наш бацькоўскі!
Вясна-красна на ўвесь свет!
Вясна-красна на ўвесь свет!..

Звоняць званы і вечавы вялікі звон. Гучаць гарадзенскія трубы.

Пасля заканчэння падзеі пачынаецца рыцарскі турнір на мячах з вогненнымі спецэфектамі.






нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна. Настаўнік музыкі, скончыў Мінскую музычную вучэльню. З'яўляецца членам Гродзенскага клуба кампазітараў-аматараў. Аўтар скульптур для літаратурнага музея ў Гудзевічах. Узнагароджаны Дыпломам абласнога конкурсу кампазітараў-аматараў Гродзеншчыны за цыкл песень-балад на гістарычную тэматыку на вершы Я. Чачота. Выдаў зборнікі паэзіі «Пасынкі» і «Віншаванкі».



# Кінагісторыя

ІНГА АСТРАЎЦОВА

## Як здымалі «Пана Тадэвуша» ў 1928 годзе

«Пан Тадэвуш» быў самым дарагім кінапраектам даваеннай Польшчы. Здымкі адбываліся на Навагрудчыне. Кінаэпапея была падарункам да 10-годдзя незалежнасці Польшчы. Бюджэт нямой стужкі перавысіў 500 тысяч злотых (на той час больш за 56 тысяч долараў). Для маладой дзяржавы — вельмі вялікія грошы. Першы гукавы галівудскі фільм, мюзікл «Спявак джазу» (1927), каштаваў 422 тысячы долараў.

Галоўныя ролі ў «Пане Тадэвушы» выконвалі тагачасныя зоркі Леон Лушчэўскі і Зоф'я Заянчкоўска.

### Нават Фердынанд Рушчыц удзельнічаў

Навагрудчыну, і, у прыватнасці, маёнтак Чамброва, рэжысёр Рышард Ардынскі абраў для натурных здымкаў (іншыя сцэны паўсталі ў Мірскім замку, маёнтках Красіньскіх у Радзяёвіцах і Шыперскіх у Банёсе на тэрыторыі Польшчы, а таксама ў Рудніцкай пушчы, што ў Літве). Апекаваўся здымачнай групай сам навагрудскі ваявода Зыгмунт Бячковіч, які ўзначальваў мясцовае краязнаўчае таварыства. А самыя жывапісныя месцы дапамагаў выбіраць мастак Фердынанд Рушчыц.

На Нёмане, напрыклад, імітавалі пераправу маладых ліцвінаў, якія хацелі далучыцца да напалеонаўскіх войскаў. «Пры гэтым патанулі шапкі ды не абышлося без эксцэсаў, паколькі там, дзе адбываліся здымкі, было вельмі глыбока», — распавядаў газеце «Ilustrowany Kurjer Codzienny» рэжысёр, які дзень таму, 15 жніўня 1928 года, вярнуўся з творчай камандзіроўкі.

Пасля нёманскіх прыгодаў здымачная група праз станцыю Наваельня (цяпер у Дзятлаўскім раёне) накіравалася на возера Свіцязь, дзе зорны склад цягам двух тыдняў жыў у сціплых драўляных дамках, устаючы а пятай, а часам і ў тры раніцы, каб злавіць для ўдалых кадраў першыя промні летняга сонца.

### Там збірала зёлкі маці Міцкевіча

Наступным пунктам творчай камандзіроўкі быў маёнтак Чамброва, што за 17 км на поўдзень ад Навагрудка. Тут паўстала большасць сцэн, знятых па-за студыяй, — усё, што адбывалася на фронце, у садзе і на ганку: бітва з «маскалямі», рамантычнае спатканне Зосі з Тадэвушам, шляхецкія «заезды».

Чамброва мае шмат агульных рысаў з літаратурным Сапліцовам, у якім Адам Міцкевіч змясціў галоўныя падзеі «Пана Тадэвуша». Хоць, паводле літаратуразнаўчай

традыцыі, мясцовасць гэтая — зборны вобраз, таму на пачэсную ролю прататыпа прэтэндаваў не толькі маёнтак на Навагрудчыне. Але менавіта тут правёў сваё дзяцінства будучы класік. У Чамброве служыў аканомам ягоны дзед Матэвуш Маеўскі, а маці Барбара мела пасаду зельніцы (па-польску panna apteczkowa): загадвала нарыхтоўкамі на зіму, варыла сочыва, ставіла наліўкі, збірала зёлкі ды рабіла лекі.

Здарыўся ў Чамброве аднойчы і шляхецкі заезд* — такі ж, як у «Пане Тадэвушы», — прычым кіраваў ім дзед паэта. Пра гэта піша ў сваёй кнізе «Спадкаемніцы Сапліцова» Ёанна Пухальска, продкам якой належала Чамброва, а праправбабуля Анэля Узлоўская стала хроснаю маці Адама Міцкевіча. «Паводле аўтарскага каментара да парыжскага выдання “Пана Тадэвуша”, апошні заезд на Літве адбыўся ў грамадзяніна У., які каля 1817 года […] у Навагрудскім ваяводстве разбіў на заездзе цэлы навагрудскі гарнізон і ўзяў у палон камандаванне», — цытуе Ёанна Пухальска.

У тыя гады Чамброва належала яе прапрадзеду Юзафу Узлоўскаму, мужу Анэлі. А пра гісторыю заезду, што кожны паляк ведае са школьнай лавы, спадарыня Ёанна выпадкова прачытала ў паперах маёнтка, якія сям’я захавала з XVI стагоддзя. Дарэчы, яе прадзед Караль Карповіч зняўся ў экранізацыі 1928 года.

**Сяляне таксама хацелі здымацца**

Масоўку набіралі з мясцовых. «…Нават сяляне дамагаліся ўдзелу ў здымках і вялікім задавальненнем апраналі кунтушы [верхняя вопратка заможных мужчынаў, якую апраналі зверху на жупан]», — угадваў Рышард Ардыньскі. І далей: «Мы захаваліся нягодна, прызнаюся, з шаноўным і ласкавым гаспадаром нашым і цягам трох тыдняў ператварылі яго цудоўнае Чамброва ў лагер вандалаў. Так што, уласна кажучы, не граф на сядзібу Арэшкаў, а мы на сядзібу спадарства Карповічаў учынілі апошні заезд на Літве. Апараты скакалі, як козы, па градках самай дарагой гародніны, шляхцічы з карабэлямі** […] тапталі сад, а я разам з памочнікамі ды аператарам Ваўрынюком абсалютна ахрып».

З Чамброва ў фільм сярод іншых трапілі запамінальныя сцэны, як Войскі вітае на ганку галоўнага героя і як Зося будзіць паночка на паляванне, а яе твар паказваецца ў сэрцайку, адмыслова для фільма выразаным у аканіцы.

Паводле рэжысёра, калі «пан Тадэвуш» на брычцы прыехаў у маёнтак, жыхары нават праслязіліся, гэтак жа пасля рэагавалі і гледачы ў кінатэатрах. Фільм аказаўся вельмі папулярным. «Мы з радасцю ўсведамлялі, што закладаем падмурак нашай народнай эпапеі на экране. Толькі гэта падтрымлівала нас падчас працы, калі штодня мы ўставалі з пеўнямі а чацвёртай ранку і працавалі нястомна да шостай [вечара], калі ўжо рукі ды ногі пераставалі слухацца і калі толькі старапольская гасціннасць спадарства Карповічаў была ў стане ўтрымаць нас ля густа застаўленага сытаю вячэрай стала».

---

* Заезд — форма грамадзянскага правасуддзя. Калі арандатар зямлі не плаціў за яе або не хацеў пакінуць пасля заканчэння тэрміну арэнды, яго выдалялі сілаю. Здаралася, што падзея заканчвалася шляхецкім самавольствам.

** Тып шаблі.

**На прэм’еры прэзідэнт Масціцкі і маршал Пілсудскі**

З сэрцайкам у аканіцы пасля любілі фатаграфавацца турысты: перад другой сусветнай вайной Чамброва ўваходзіла ў маршрут «Шляхам Міцкевіча», які пралягаў праз Навагрудак, Свіцязь, Варончу, Туганавічы, Гарадзішча ды Мір. У 1929-м яго наведаў нават польскі прэзідэнт Ігнацы Масціцкі. За некалькі месяцаў да гэтага яны з маршалам Юзафам Пілсудскім прысутнічалі на прэм’еры фільма ў Варшаве. Яна адбылася ў лістападзе напярэдадні польскага Дня незалежнасці.

Між іншым, Рышард Ардыньскі наракаў на тое, што да экранізацыі культавага літаратурнага твора шмат хто ставіўся з недаверам, часта здараліся непаразуменні з чыноўнікамі. То дырэктар тэатра адмовіцца даваць касцюмы, то на чыгуначныя квіткі для здымачнай групы скідкі не дадуць… Толькі войска палюбіла здымкі: у батальных сцэнах бралі ўдзел Першы полк швалежэраў маршала Пілсудскага і Чацвёрты Занёманскі полк уланаў.

А ў 1940-м выканаўцу эпізадычнай ролі Караля Карповіча, які жыў у Чамброве са сваякамі, арыштавала НКВД. Ён трапіў у лагер у Карагандзе, пазней загінуў без весткі. А праз тры гады Чамброва спалілі партызаны.

Сам фільм, знішчаны ў час вайны, аднавілі зусім нядаўна, у 2012 годзе.

скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала ў гродзенскай «Ратушы», рэдактарам аддзела навін газеты «Вечерний Гродно». Закончыла аспірантуру пры Польскай акадэміі навук па спецыяльнасці «Сацыялогія». Жыве ў Варшаве. Любіць катоў, каву па-грэцку, падарожжы і каралеўскія Лазенкі.







# Успаміны

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## Мой зямляк Алег Лойка

Мне здаецца, што мой зямляк доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук пісьменнік Алег Лойка (1931–2008) меў вялікае шчасце, што нарадзіўся ў Слоніме на беразе ракі Шчары. Пра свой родны горад і пра Шчару ён напісаў тысячы радкоў:

І я рады, што зразумеў:
З гэтай радасцю — не таіцца,
Што я шчасце вялікае меў
Па-над Шчараю нарадзіцца!..



- *З кацянятамі, злева направа: Анатоль Кулагін, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка*

Упершыню са сваім знакамітым земляком я сустрэўся ў Мінску на філфаку Белдзяржуніверсітэта ў 1980 годзе. Я, як і многія мае аднакурснікі, запісаліся да яго ў літаратурнае аб'яднанне «Узлёт». Не часта адбываліся пасяджэнні літаб'яднання, але калі яны былі, то праходзілі даволі цікава, весела, актыўна. І Алег Антонавіч нас адразу запамінаў, ведаў і шанаваў.

Да мяне старастам літаб'яднання была паэтка-студэнтка Ала Канапелька. А потым, калі Ала скончыла філфак, Алег Лойка прызначыў мяне. Хлопцы нават жартавалі: «Слонімцы літаратуру хочуць узяць пад свой кантроль». Іншыя называлі мяне вядомым лойкавым радком «Юнак быў з-пад Слоніма родам...». Тым не менш, ніхто за гэта ў крыўдзе не быў. Літаб'яднанне актыўна працавала, а ў 1985 годзе «ўзлётаўцы» выдалі свой чарговы паэтычны зборнік «Вусны».

Быў 1984 год. На філфаку сустрэў мяне Алег Антонавіч і кажа: «На наступным тыдні будзе пасяджэнне "Узлёту", то напішы аб'яўку і вывесі на другім паверсе факультэта (мы тады вучыліся на Чырвонаармейскай вуліцы, 6). І я «выканаў» просьбу прафесара. Напісаў: «...адбудзецца пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Узлёт». Запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску».

Вечарам да мяне ў інтэрнацкі пакой прыбягае вахцёр і кажа, што прафесар Лойка тэлефануе і хоча тэрмінова са мной пагутарыць. Я бягу на першы паверх, падымаю трубку і чую ўсхваляваны голас Алега Антонавіча: «Сяргей, калі ты пісаў гэтую аб'яву, чым ты думаў — галавой ці іншым месцам?» — «Галавой!» — адказваю. «Не думаю, што галавой», — сказаў прафесар і паклаў трубку. Нічога не зразумеўшы, я пайшоў у свой пакой. Толькі потым я даведаўся, што Алега Антонавіча па змесце аб'явы выклікалі ў рэктарат і зрабілі заўвагу. А ён папярэдзіў мяне. Бо ў тыя 1980-я гады радок «запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску» «пах» нацыяналізмам. У апошнія гады жыцця, калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я яму прыгадаў гэты студэнцкі факт. Алег Антонавіч сказаў: «Далібог, Сяргей, не памятаю...».

У 1982 годзе прафесар Лойка выдаў у Маскве ў серыі «ЖЗЛ» кнігу «Янка Купала». Гэта была першая кніга напісаная беларусам пра беларуса і выдадзеная ў вядомай расійскай серыі, якую заснаваў Максім Горкі яшчэ ў 1933 годзе. Пасля выхаду кнігі ў актавай зале філфака БДУ адбылася яе прэзентацыя. Зала была запоўнена студэнтамі і выкладчыкамі. Прафесар Сцяпан Александровіч выступіў з вострай крытыкай кнігі, усе астатнія выступоўцы яе хвалілі і віншавалі Алега Антонавіча з творчай удачай. Пазней я запытаўся ў свайго земляка: а чаму ваш сябра і калега так крытычна паставіўся да выдання кнігі? Алег Лойка адказаў: «Сцяпан Хусейнавіч Александровіч хацеў у Маскве выдаць адначасова кнігу і пра Якуба Коласа. Але Маскве тэкст той кнігі не спадабаўся. Вось ён і зазлаваў». Прадмову да кнігі Алега Лойкі напісаў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Прадмова была невялікая, але важкая. У ёй Іван Пятровіч адзначыў, што «кніга ёсць, — гістарычна дакладная, праўдзівая, шчырая».

Супраць выдання кнігі Алега Лойкі пра Янку Купалу ў Маскве была і пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юльянаўна Раманоўская. Па словах Алега Лойкі, у 1981 годзе яна паехала ў Маскву, завітала ў выдавецтва «Молодая гвардия» і прасіла, каб не выдавалі кнігу Алега Лойкі пра Янку Купалу. «Лойка, — казала Раманоўская, — кулак, памешчык, у яго было шмат зямлі на Слонімшчыне. А цяпер ён з'яўляецца членам польскай "Салідарнасці". Кнігу такога чалавека ў Маскве выдаваць нельга...».

Але кніга выйшла. Наклад яе тады быў 150 тысяч экзэмпляраў. Тым не менш, купіць у Беларусі кнігу было немагчыма. Толькі праз 16 гадоў Алег Лойка мне яе падпісаў у Слоніме: «Майму земляку і філфакаўцу Сяргею Чыгрыну, што Купалаўскімі сцежкамі крочыць. Поспехаў і шчасця! Алег Лойка, 1998 г.».

Калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я вельмі часта яго наведваў. З ім можна было гутарыць бясконца, гутарыць на ўсе тэмы. Мне здаецца, што побач з Алегам Антонавічам я скончыў два філалагічныя факультэты. Неяк я спытаў у яго: а які ганарар вы атрымалі за маскоўскае выданне кнігі пра Янку Купалу? Алег Антонавіч сказаў: «Сорак тысяч савецкіх рублёў». О, гэта былі вялікія грошы на той час! Калі груба іх перавесці ў даляры, то атрымаецца — больш за сорак тысяч амерыканскіх даляраў. «Я быў тады самым багатым беларускім пісьменнікам. Грошай нікому не шкадаваў: даваў ці пазычаў пісьменнікам, сябрам…» — прызнаваўся Алег Антонавіч.

У Слоніме Алегу Лойку жылося цяжка, але пісалася лёгка. Хвароба яго даймала. Але калі я да яго прыязджаў, ён радаваўся, ажываў, усміхаўся. Алег Антонавіч адказваў на ўсе мае пытанні. Найбольш я ў яго пытаўся пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Гэта з яго вуснаў я даведаўся, што Янка Купала першы заўважыў і ацаніў талент Канстанцыі Буйло. Калі Купала быў рэдактарам «Нашай Нівы», да яго ў кабінет часта заходзіла Канстанцыя. Дарэчы, яна была тры разы замужам, па пашпарце — значна маладзейшая, бо мяняла гады. Купала быў у яе закаханы і нават паэтку цалаваў. У 1914 годзе ў друкарні Марціна Кухты выйшаў яе першы паэтычны зборнік «Курганная кветка», адрэдагаваны Янкам Купалам.

Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі. Ён казаў, што Янка Купала і Якуб Колас былі добрымі сябрамі. Хаця паміж імі здаралася featurelessрознае. Жонка Якуба Коласа — Марыя Дзмітрыеўна была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, адданай мужу. Яна кахала Якуба Коласа. І Якуб Колас яе кахаў. Але падчас вайны, калі песняр апынуўся ў Ташкенце, ён моцна закахаўся ў перакладчыцу Сомаву з Санкт-Пецярбурга. Колас прысвяціў ёй цэлы цыкл вершаў «Ташкенцкая торба». Толькі пару вершаў з гэтага цыкла трапілі ў друк…

Расказваў Алег Лойка і пра іншых беларускіх пісьменнікаў, прыгадваў вучоных, медыкаў, палітыкаў…

Апошнія гады жыцця мой зямляк правёў у родным Слоніме. Гэты горад ён называў сваім першым святлом, прасторам і любоўю. Ён так і пісаў: «Ды я не ведаю. Рос я ў горадзе ці ў вёсцы, бо з кожнай вуліцы і вулічкі гэтага лёгшага абапал Шчары гарадка відаць на ўзгоркавым небасхіле сінія лясы, відаць разлогія палі: вясною — у руні, летам — у спелых нівах, восенню — у срабрыстым павуцінні…».

Алег Лойка любіў родны Слонім, любіў людзей, якія жывуць і жылі ў ім, ці, як ён называў, у «гэтай Шчаравай даліне». Ён заўсёды ўсёй душой быў з родным горадам. Любы Слонім — ён шчыра насіў у сэрцы. А Першамай (нарадзіўся 1 мая) у Слоніме для Алега Антонавіча быў найвялікшым днём, які збіраў усіх яго сяброў і сваякоў за адным сталом. Збіраў у бацькоўскай хаце на Зялёнай вуліцы ці ў цешчынай хаце на Віленскай вуліцы.

Пасля Мінска ён вярнуўся ў Слонім назаўсёды. Жыў у цешчынай хаце, спачатку з жонкай Ліліяй, а потым, калі яе не стала, жыў адзін:

«Мілая!.. Мілая!..» —
Дык як я тое скажу
Па-над тваёй магілаю,
Поруч якой не ляжу…

У апошнія гады жыцця знакамітага слонімца мне некалькі разоў прыйшлося з ім разам сустракаць Першамай — гэта значыць святкаваць дзень яго нараджэння. Сябра-зямляк Алега Антонавіча — энцыклапедыст і літаратуразнавец з вёскі Вялікая Кракотка Янка Саламевіч — таксама часта бываў у яго слонімскай хаце. А на дзень нараджэння свайго сябра спадар Янка спяваў народныя песні. А яму дапамагаў Алег Антонавіч. Як яны разам, землякі-слонімцы, спявалі народныя песні!.. О, гэта трэба было бачыць і чуць! А колькі яны іх ведалі — дзясяткі, сотні… А ці мы сёння зможам за сталом праспяваць хоць адну беларускую народную песню?.. А?.. Праспяваць ад пачатку да канца… А яны спявалі бясконца — адна за адной, якія толькі прыходзілі на памяць. Я і сёння іх бачу разам, чую іх, слухаю іх, яны — перада мной, як жывыя, мае славутыя землякі…

На вялікі жаль, сёлетні Першамай у Слоніме ўжо быў восьмым па ліку без Алега Антонавіча. Ён, бясспрэчна, — асоба вялікая ў маштабах не толькі Беларусі, але і Еўропы. Такімі людзьмі мы павінны ганарыцца, а таксама і ўслаўляць гэтае імя заўсёды. Але ў нас сёння такіх людзей не ўшаноўваюць, не згадваюць, не цэняць ні пры жыцці, ні нават пасля смерці. А чаму б не адкрыць у Слоніме ў яго гонар мемарыяльную шыльду на будынку ліцэя, дзе ён вучыўся, надаць яго імя гэтаму ліцэю? Устанавіць у Слоніме стыпендыю імя Алега Лойкі лепшым вучням школ горада і навучэнцам вучылішчаў. Стварыць у Слоніме беларускі культурны цэнтр імя Алега Лойкі, дзе наладжваліся б і праводзіліся б літаратурна-музычныя вечары і сустрэчы. Устанавіць помнік нашаму вялікаму земляку і г. д.

Прайшло восем Першамаяў без Алега Лойкі і восем гадоў бяспамяцтва. Цяпер я разумею, чаму ён свае апошнія кнігі так і назваў: «Плач зямлі», «Дрэва жыцця», «Галгофа», «Неўміручасць», «Ушанаванне». Алег Антонавіч быў не толькі таленавітым, але і мудрым, мужным чалавекам. Ён ўсё прадбачыў наперад, адчуваў час і са шчырым спачуваннем хацеў нам дапамагчы:

Не дабягу, — дайду,
Не дайду, — дапаўзу
У кожную бяду,
У кожную слязу…



# Архіў

## Аляксей Пяткевіч

### Спроба стварыць арганізацыю
*З мінулага гродзенскай пісьменніцкай суполкі*

У перадваенны час (1939–1941) цэнтрам культурнага жыцця Заходняй Беларусі, калі Вільня была перададзена Літве, быў прызнаны Беласток. Тут адкрыўся педагагічны інстытут. Тут былі сканцэнтраваны і літаратурныя сілы (пераважна яўрэйскія і польскія пісьменнікі), аб'яднаныя ў Беластоцкае аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР. Кіраваў бюро гэтага аддзялення Піліп Пестрак, які жыў тады ў Гродне. У Беласток прыязджала вялікая група пісьменнікаў з Мінска на чале з Я. Купалам і Я. Коласам. Пасля ж вайны, калі Беласток для Беларусі быў страчаны і паўстала пытанне ідэйнага мацавання заходнебеларускіх тэрыторый, увага кіраўніцтва савецкай Беларусі была перанесена на Гродна, дзе вырашана было стварыць пісьменніцкую арганізацыю. З гэтай мэтай у Гродна прыслалі з Мінска паэта Анатоля Астрэйку (1911–1978), вядомага сваімі партызанскімі заслугамі і яшчэ кнігай вершаў «Слуцкі пояс», унікальнай тым, што выйшла падчас вайны ў савецкім падполлі.

Была вясна 1946 года. А. Астрэйка прыехаў у Гродна, дзе пазней нарадзілася яго старэйшая дачка Наталля. Уладкаваўся на працу літкансультантам у газеце «Гродненская правда». Пачаў друкаваць тут свае вершы, артыкулы, нарысы. Толькі неўзабаве пераканаўся, што стварыць пісьменніцкую суполку няма асабліва з каго. Хаця, на першы погляд, тут былі вядомыя літаратары. Узяць хаця бы такіх, як Міхась Васілёк (1905–1960), Зінаіда Бандарына (1909–1959), сам А. Астрэйка ды яшчэ знаны рускі празаік у Беларусі Аляксандр Міронаў (1910–1992), які, дэмабілізаваўшыся, атрымаў у Мінску ў сакавіку 1946 года прызначэнне ў Гродна — уласным карэспандэнтам газеты «Звязда» і Інфармбюро па Гродзенскай вобласці. У Гродне і жыў. Аднак М. Васілёк, адзін з пачынальнікаў заходнебеларускай літаратуры, якога можна было б лічыць самым моцным звяном у структуры абласнога аддзялення СП, зусім не карыстаўся даверам уладаў. Чаму? Быў, на думку афіцыёзу, ідэйна непераборлівым у віленскіх перыёдыках 30-х гадоў, дзе друкаваўся. Меў стасункі з Беларускім Нацыянальным Камітэтам, што прадстаўляў усе беларускія дэмакратычныя партыі ў Польшчы. Не абышоў увагаю як паэт газету «Раніца», што выдавалася ў 1939–1945 гадах у Берліне. Прымаў удзел у рабоце Беларускага з'езда пісьменнікаў, што прайшоў у 1943 годзе ў Беластоку. Хаця і лічыўся кіраўніком (з 1943 г.) мясцовага антыфашысцкага падполля, рэальныя здабыткі яго дзейнасці камусьці не былі прыкметнымі. Таму і арыштоўваўся Саветамі ў 1944-м, адразу пасля вызвалення. У Саюз

пісьменнікаў быў прыняты толькі ў 1946 годзе (у даведніку «Беларускія пісьменнікі», што выйшаў у 1994 годзе, памылкова названы 1945 год), апошнім з усіх заходнебеларускіх пісьменнікаў. У Мінск — цэнтр літаратурнага жыцця — яго, вядомага паэта, не клікалі, не зважаючы на яго ўласныя неаднаразовыя захады.

З 1944 года працаваў М. Васілёк у скідзельскай раённай газеце «Чырвоны сцяг», але правінцыйны перыёдык з яго аднатонным казённым ладам жыцця ды шэрымі буднямі не задавальняў паэта. І калі нарэшце ўсе старанні атрымаць літаратурную працу ў сталіцы аказаліся марнымі, ён кінуў скідзельскую раёнку і асеў на хутары Гаёўка, дзе жыла сям'я. Гаёўка — хутар-леснічоўка другой жонкі М. Васілька, з якой не так даўно пабраўся шлюбам (першая жонка памерла ў 1939 годзе). Гэта быў жэст адчайнага пратэсту непакорнага паэта, які не прывык жыць па чыёйсьці волі зверху. Ішоў 1946-ы год, які нёс суцэльныя матэрыяльныя нястачы. А ў новай сям'і М. Васілька было ўжо пяцёра дзяцей. І давялося заняцца гаспадаркаю, балазе тут быў багаты досвед з даваеннага жыцця. Прапановы наконт газетнай працы ў Гродне М. Васілёк таксама не прымаў, зацята трымаючыся свае пазіцыі. І толькі ў 1948 годзе перабраўся ў Гродна і пачаў працаваць у «Гродненской правде». Вядома, у гэтыя гады ён друкаваўся як паэт. Але рэдка. Адзінкавыя вершы траплялі ў мінскія часопісы «Беларусь», «Бярозка». У сваёй абласной газеце апублікаваў тры вершы ў 1946 годзе, шэсць вершаў — у 1947-м і тры вершы — у 1948 годзе. Гэта зусім не тая творчая актыўнасць, што была характэрна для яго ў міжваенны час.

А як жа Зінаіда Бандарына? Яна добра заявіла пра сябе ў літаратуры яшчэ ў другой палове 20-х — пачатку 30-х гадоў. Шмат друкавалася. Выдала зборнікі паэзіі «Вершы» (у сааўт., 1926), «Веснацвет» (1931). У 30-я, падчас масавых савецкіх рэпрэсій абачліва з'ехала з Беларусі. Жыла ў Ленінградзе, Маскве, Архангельску, Горкім. Вярнулася з вайны лейтэнантам медыцынскай службы. Асцярожнічаючы, ад літаратурнай дзейнасці, па сутнасці, адышла. У 1946 годзе прыехала ў родны горад Гродна, дзе жылі бацькі, і пачала працаваць у Доме народнай творчасці. Як нядаўняя франтавічка, атрымала пасаду дырэктара гэтай установы культуры. У розных друкаваных крыніцах даўно ўсталявалася меркаванне, што З. Бандарына працавала дырэктарам ДНТ у 1946–1948 гадах. Так, у прыватнасці, сцвярджаецца і ў даведніку «Беларускія пісьменнікі» (т. 1, 1994, с. 41). Але ў рэальнасці яна пратрымалася на гэтай пасадзе зусім нядоўга. Бо, як сведчыць інфармацыя ў «Гродненской правде», 25.10.1947 быў звольнены з працы за службовую бяздзейнасць яе пераемнік на гэтай кіраўнічай пасадзе нехта Ібраеў. У друку не выступала, калі не лічыць яе адзінага за гады жыцця і працы ў Гродне (1946–1948) верша «Сыну» («Гродненская правда», 01.05.1946) і дзвюх нататак: «Майстры народнай творчасці» («Гродненская правда», 26.01.1946) і «Выстаўка народнай творчасці» («Гродненская правда», 07.08.1946). Гэтыя матэрыялы, дарэчы, не зафіксаваны ў аўтарытэтнай энцыклапедыі «Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах» (Мінск, 1991–1995). Яе прозвішча прамільгнула яшчэ раз у рэдакцыйнай інфармацыі абласной газеты, дзе паведамлялася пра гарадскі вечар у памяшканні філармоніі, прысвечаны Я. Коласу, што прайшоў у верасні 1946 года. На гэтым вечары З. Бандарына чытала свае вершы. Яна не была тады яшчэ сябрам Саюза пісьменнікаў. Прынята была толькі ў 1957 годзе, калі выйшлі (у 50-х гадах) яе новыя кніжкі.

Што да Аляксандра Міронава, то ён быў ужо вопытным пісьменнікам, аўтарам цэлага стосу зборнікаў прозы на марскую і ваенна-марскую тэматыку. Прыехаўшы ў Гродна, А. Міронаў неўзабаве выступіў у абласной газеце з вялікім артыкулам «Яны здабывалі перамогу на моры» («Гродненская правда», 09.05.1946), у якім распавёў пра беларусаў, што ваявалі на марскіх франтавых маршрутах. Разам з З. Бандарынай выступаў на згаданай вышэй Коласаўскай вечарыне. Прыкметны быў і на іншых літаратурных імпрэзах. Прыняты ў Саюз пісьменнікаў яшчэ ў 1939 годзе, разам, дарэчы, з А. Астрэйкам.

Найбольш упэўнена пачуваўся тады ў Гродне Анатоль Астрэйка, вядомы ўжо беларускі паэт. Заняўшы сваё службовае месца ў абласной газеце, ён прымае даволі чынны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці горада. Выступае ў педінстытуце, на розных гарадскіх пляцоўках. Нямала друкуецца. За 1946–1947 гады А. Астрэйка змяшчае ў «Гродненской правде» 10 вершаў, 3 артыкулы, 1 нарыс. Прычым творы вылучаюцца добрым літаратурным узроўнем, асабліва на стракатым фоне аматарскіх парадна-аптымістычных вершаў, што траплялі на старонкі абласной газеты. Тут трэба зазначыць, што ў тыя суровыя паваенныя гады штодзённая чатырохпалосная «Гродненская правда», застаючыся паслядоўна казённай паводле свайго стылю, вымушаная перадрукоўваць амаль у кожным нумары вялікія ўсесаюзныя афіцыйныя матэрыялы, шмат месца, тым не менш, адводзіла літаратуры. Друкаваліся вершы, апавяданні, нарысы, артыкулы пра беларускую і рускую літаратурную спадчыну. Пачынаючы з 26.05.1946 года, практыкавала, хоць і нерэгулярна, «літаратурныя старонкі». Іншая справа, што мастацкая якасць масавай, пераважна рускамоўнай вершаванай прадукцыі была невысокай. Часцей друкуюцца вершы С. Дудзікава, П. Шахана, С. Бандарэнкі, М. Грыгор’ева, П. Барсукова. Лепшыя з іх — творы Сяргея Дудзікава, які працаваў выкладчыкам Гродзенскай педагагічнай вучэльні, пад адной са сваіх публікацый падпісаўся як «кансультант па фальклоры пры Доме народнай творчасці».

У нумары за 16.07.1946 «Гродненской правды» — артыкул А. Карпюка пра баявыя справы партызанскага атрада, якім ён камандаваў у час вайны. Гэта другое выступленне ў друку (таксама не зарэгістраванае энцыклапедыяй «Беларускія пісьменнікі») Аляксея Карпюка (1920–1992), вядомага беларускага празаіка, які з 1944 года жыў і працаваў у Гродне. З інфармацыі газеты за 13.02.1948 даведваемся пра гарадскую «літаратурную сераду», на якой чыталі свае творы мясцовыя пачаткоўцы, сярод якіх названы Кліманскі. Гэта не хто іншы, як знаны пазней гродзенскі літаратуразнавец, дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы Сяргей Уладзіміравіч Кліманскі (1928–2008).

Шмат месца адводзілася ў газеце літаратуразнаўчым матэрыялам. Рэгулярна асвятляліся юбілеі рускіх класікаў. Пра беларускую літаратуру паспяхова і даволі часта пісаў кандыдат філалагічных навук Я. Міхалап. Ён працаваў тады на кафедры беларускай мовы і літаратуры Гродзенскага педінстытута і адзіны на гэтай кафедры меў кандыдацкую ступень. За 1946–1948 гады Я. Міхалап надрукаваў у «Гродненской правде» 18 артыкулаў (некаторыя ў сааўтарстве). Пісаў пра К. Каліноўскага, Я. Карскага, Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цётку, пра новыя кнігі П. Броўкі, М. Танка, І. Шамякіна. Выступаў з дакладамі на розных гарадскіх мерапрыемствах. І, напэўна,

мог бы выканаць значную ролю ў арганізацыі абласнога СП. Але так чамусьці не сталася. Нямала друкаваўся ў абласной газеце, пры гэтым і на літаратурныя тэмы, знакаміты пазней Рыгор Шырма. Тады ён узначальваў Беларускі дзяржаўны ансамбль песні і танца, што з 1944 года знаходзіўся ў Гродне. Р. Шырма і пазней плённа працаваў як літаратар і быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў у 1966 годзе. Добрыя нарысы змяшчалі П. Барэйка, А. Сінілаў. З 1948 года працаваў у абласной газеце Аляксандр Кіркевіч, вядомы гродзенскі краязнавец, літаратурны крытык, публіцыст. Яго артыкулы вылучаліся даследчыцкай дапытлівасцю, значнасцю думкі, добрым адчуваннем мастацкага слова.

Грамадскі статус пісьменніцкай асобы і пісьменніцкай творчасці быў у той час даволі высокім. І абласная газета гэта ўлічвала. Напрыклад, на пачатку жніўня 1946 года адбыўся візіт у Гродна маладых маскоўскіх пісьменнікаў. Візіт гэты на старонках газеты асвятляўся, і творы некаторых з гасцей былі надрукаваны. 8 снежня 1948 года ў Гродна прыехалі беларускія пісьменнікі Міхась Ларчанка, Аляксей Кулакоўскі, Рыгор Няхай і Мікола Аўрамчык. Днём раней газета надрукавала аб’яву, што адбудзецца «сустрэча літаратурнай грамадскасці горада з мінскімі пісьменнікамі» ў рэдакцыі «Гродненской правды». Пасля пісала пра іх выступленні ў розных установах.

Усё гэта сведчыць: А. Астрэйка добра разумеў адказнасць сваёй місіі ў Гродне. Ствараць абласную пісьменніцкую суполку было неабходна. Але ж у наяўнасці было толькі трое літаратараў, якія мелі пасведчанні сяброў Саюза савецкіх пісьменнікаў. Гэта М. Васілёк, сам Астрэйка і А. Міронаў. Малавата, каб рабіць з гэтага публічную падзею. Таму шматвопытны А. Астрэйка правёў акцыю ўтварэння мясцовага СП ціха і кулуарна. Пакуль без афіцыйнага апавяшчэння. Прамаўчала пра гэта і «Гродненская правда». І ў пратаколах Гродзенскага аблвыканкама гэты факт нідзе не занатаваны. Але досыць хутка, трэба меркаваць, гродзенскі філіял (як яго яшчэ называлі) Саюза пісьменнікаў абнародаваў сваё з’яўленне на свет, інфармуючы пры гэтым, што стварае масавую творчую арганізацыю — літаратурнае аб’яднанне. Маўляў, мы набываем вялікую апору і падтрымку і мы — сіла. 26 мая 1946 года абласная газета на сваёй 4-й паласе буйным шрыфтам апавясціла (цытуецца ў перакладзе): «Учора ў рэдакцыі газеты “Гродненская правда” адбыўся першы арганізацыйны сход членаў Саюза Савецкіх пісьменнікаў і аўтараў-пачаткоўцаў». Паведамлялася, што створана пры рэдакцыі літаратурнае аб’яднанне. У абмеркаванні плана работы ўдзельнічалі А. Астрэйка, Р. Шырма, З. Бандарына, А. Міронаў, партыйны работнік Мягчанкоў. «Сход выбраў аргбюро літаб’яднання у складзе А. Астрэйкі, А. Міронава, З. Бандарынай». Сакратаром абраны А. Астрэйка. Усе амаль — знаёмыя твары. М. Васілька, відаць, на сходзе не было: ён не любіў сходаў, ды і жыў тады ў сваёй Гаёўцы.

Так ці інакш, але абласная пісьменніцкая суполка падмацавала сябе і змагла аб’явіцца. А раз аб’явілася, то стала грамадскай з’явай на гродзенскай ніве. З такой з’явай трэба было лічыцца, прыслухоўвацца да яе патрэбаў. Пра гэта сведчыць адзін красамоўны дакумент, што з’явіўся праз чатыры месяцы пасля стварэння мясцовага СП. Цытуецца ў перакладзе:

*«Рашэнне № 743 Выканкама Гродзенскага Абласнога Савета дэпутатаў працоўных ад 27 верасня 1946 года. Аб прадстаўленні памяшкання Гродзенскаму Філіялу Саюза Савецкіх пісьменнікаў БССР.*

*1. Перадаць пад кватэры работнікаў Гродзенскага Філіяла Саюза Савецкіх пісьменнікаў драўляны дом у прыгарадным пасёлку Пышкі, які цяпер заняты чырвонаармейцамі войск МУС.*

*2. Абавязаць старшыню Гродзенскага райвыканкама вызваліць дом і падрыхтаваць для чырвонаармейцаў іншае памяшканне.*

*3. Абавязаць намесніка старшыні Гродзенскага гарвыканкама т. Штэйнбаха адрамантаваць названы вышэй дом за сродкі жылбудаўніцтва.*

*Намеснік старшыні выканкама Абласнога Савета дэпутатаў працоўных Н. Грыбаедаў.*

*Сакратар М. Бугроў» (Дзярж. архіў Гродз. вобл. Ф. 1171, воп. 1, адз. зах. 62, арк. 101).*

Увогуле ж мала што змянялася з утварэннем абласнога аддзялення СП. Час быў цяжкі, артадаксальна-камуністычны, зусім не спрыяльны для роднага мастацкага слова. А. Астрэйка бачыў, што прыкметных зрухаў на гродзенскім творчым палетку дасягнуць уласнымі стараннямі не можа, і ўсё часцей пачаў азірацца на беларускую сталіцу з яе літаратурным жыццём, якое вымушана пакінуў. У сваёй біяграфіі ён пазней запіша: «У 1946 годзе мяне накіравалі ў Гродна для арганізацыі аддзялення Саюза Савецкіх пісьменнікаў, якое і ўзначальваў каля двух год <…> Пачынаючы з 1947 года, трывала асталяваўся ў Мінску…» (Пяцьдзясят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мінск, 1963, с. 28). Пражыў ён у Гродне, па сутнасці, адзін год. Незадоўга да ад'езду яшчэ сфатаграфаваўся ўдваіх з М. Васільком у знак прыязных адносінаў. Апошняя публікацыя А. Астрэйкі ў «Гродненской правде» — нарыс «На плытах па Нёмане» — датуецца 01.05.1947. Праз месяц С. Дудзікаў друкуе ў гэтай газеце агляд творчасці маладых, падпісваючыся як «член аргбюро літаб'яднання». Нагадаем, што Дудзікаў год таму назад у склад гэтага аргбюро не ўваходзіў, там былі прафесіяналы. Галоўнае ж тут, што такі агляд павінен быў бы зрабіць сам Астрэйка, калі б быў у Гродне. У 1947-м з'ехаў у Мінск і А. Міронаў, пачаў тут працаваць адказным сакратаром альманаха «Советская Отчизна». А ў 1948 годзе пакінула Гродна і З. Бандарына, перабраўшыся з бацькамі ў Мінск. Бацька, Аляксандр Бандарын, выкладчык лацінскай мовы, атрымаў працу па спецыяльнасці ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Дачка ж пісьменніца пачала працаваць у філіі музея Я. Купалы. Застаўся ў Гродне толькі М. Васілёк ды шматлікія маладыя і немаладыя аматары мастацкага слова. Была яшчэ такая аўтарытэтная постаць, як Р. Шырма, што дзейнічаў у Гродне да 1955 года, але ж ён займаўся пераважна музыкай. А. Астрэйка ў 1948 годзе яшчэ фармальна кіраваў з Мінска гродзенскім аддзяленнем СП. Але як арганізацыйная структура яно не было ўжо запатрабаваным. Узнікаюць пытанні, ці не дарэмнымі былі ўсе тыя захады па стварэнні тутэйшага СП, ці пакінуў ён нейкі след у літаратурных справах рэгіёну. Думаецца, што адказ дало само жыццё. Бо менавіта на гэтай, гродзенскай духоўнай глебе неўзабаве выраслі такія яркія літаратурныя асобы, як Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль, Юрка Голуб. Чаму В. Быкаў, прыехаўшы ў 1947 годзе ў Гродна і пачаўшы працаваць у мастацкіх майстэрнях, доўга там не затрымаўся, а перайшоў у «Гродненскую правду», бліжэй да літаратуры? А літаратура тут, як ні кажыце, мела салідную пісьменнцкую арганізацыю. Ніводная вобласць такой не мела. Яе прысутнасць не маглі не адчуваць і вядомыя ў

будучыні беларускія пісьменнікі, што вучыліся ў 40-я ў Гродзенскім педінстытуце — Фёдар Янкоўскі, Мікола Грынчык, Аляксей Карпюк, Уладзімір Дадзіёмаў, Пятрусь Макаль, які першы свой верш надрукаваў у «Гродненской правде» (21.12.1949). Тое ж можна сказаць пра школьных настаўнікаў гэтых гадоў, што працавалі на Гродзеншчыне і прышлі ў літаратуру, — Лідзію Ялоўчык, Апанаса Цыхуна, Сяргея Дразда. У 1950 годзе ў Гродна трапіў непаседлівы Янка Маўр. На здымку, зробленым у рэдакцыі абласной газеты, побач з ім сядзяць Міхась Васілёк, Сяргей Дудзікаў, Аляксандр Кіркевіч і Міхась Дуброўскі, беларускі паэт і перакладчык, які ў тым жа 1950-м пераехаў у Гродна і пачаў выкладаць беларускую літаратуру ў педінстытуце. У 1951–1954 гадах жыў у Гродне і працаваў карэспандэнтам Рэспубліканскага радыё Уладзімір Дадзіёмаў, які напісаў тут раман «Над Нёманам» (1957). У 1950-я выходзяць новыя кнігі М. Васілька. Тады ж выдаюцца пад апекай «Гродненской правды» два выпускі літаратурнага альманаха «Нёман», што сталі падзеяй рэспубліканскага значэння. У мясцовай перыёдыцы выступаюць са сваімі творамі Уладзімір Васько, Уладзімір Шурпа, Яўгенія Сідаровіч (Аўгіння Кавалюк), Вольга Іпатава, Ларыса Марушка, Сяргей Бандарэнка, Фаіна Таранка, Аляксандр Кіркевіч, Сяргей Дрозд і многія іншыя. Жыццё працягваецца. І восенню 1964 года пісьменніцкая суполка ў Гродне аднаўляецца пад назваю «Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР», перайменаванае ў 1991 годзе як «Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў».






нарадзіўся ў 1931 годзе ў мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Літаратуразнавец, культуролаг, краязнавец. Кандыдат філалагічных навук. Прафесар. Скончыў філфак БДУ. З 1957 года працуе ў Гродзенскім універсітэце (педінстытуце). Выдаў кнігі: «Наднёманскія былі» (у суаўтарстве, 1968), «Сюжэт. Кампазіцыя. Характар» (1981), «Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст.» (у суаўтарстве, 1981, 2-е выданне 1998), «Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі, Кнігі» (1996), «Людзі культуры з Гродзеншчыны. Даведнік» (2000), «Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне» (2002), «Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з’явы, асобы» (2006). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.



# Лёсы

## Таццяна Трафімчык

### Паэт у манастыры

*Аб творчасці Зніча*

Паэтычная творчасць Зніча (Алега Бембеля) — непаўторная і самабытная з'ява ў беларускай літаратуры. Нарадзіўся Алег Бембель у 1939 годзе ў сям'і вядомага беларускага скульптара. Таленавіты навуковец, ён быў выгнаны ў 1980-х гадах з Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук БССР за напісанне неабароненай дысертацыі, якая была прызнаная «нацыяналістычнай». Пасля атрымаў ярлык «дысідэнта» за выдадзеную ў Лондане працу «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс». Зборнікі вершаў «Малітвы за Беларусь», «Саната ростані» (1988), «За мурам: саната вяртання» (2007) выйшлі пазней. А сам А. Бембель у 1996 годзе стаў манахам і пасяліўся ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры (дзе жыве ўжо 20 год). Вось што пра сябе піша сам А. Бембель (Зніч) у 2015 годзе: «*У свеце я быў грэшным Алегам 62 гады і 2 дні. Потым з'явіўся інак Мікалай, які пабыў з намі 12 гадкоў і 2 месяцы. А замест яго прыйшоў немаўлятка Іаан, якому ўсяго другі гадочак*». Зараз Алег Бембель носіць царкоўнае імя айцец Іаан, тлумачачы, што новае імя дало яму новага нябеснага ахоўніка. У 2015 годзе выйшла кніга Зніча з выбранымі публікацыямі розных гадоў «Шляхам сумоўя». Дадамо, што паэт Зніч яшчэ выдае шматлікія «Жыровіцкія лісткі», куды таксама ўключае свае вершы на беларускай мове. Наогул, пра яго кажуць: «*Ён — выспа беларускасці ў моры Маскоўскага Патрыярхату*».

Паэт Зніч сваёй творчасцю дапамагае нам, беларусам, глыбей пазнаць сябе. Бел-чырвона-белы сцяг ён бачыць у аблачэнні праваслаўнага архірэя з бел-чырвона-белай стужкай. Ад гэтага сімвала Зніч не адмовіцца і на Страшным судзе, ён кажа: «*Аблачэнні святароў упрыгожаныя колерамі Плашчаніцы ўкрыжаванага і ўваскрэслага Богачалавека Хрыста. І калі ў мяне пытаюць, дзе "жыве Беларусь", кажу — глядзіце на святочныя аблачэнні праваслаўных патрыярхаў ды архірэяў. Такім чынам Беларусь пакрыта Хрыстовымі колерамі як нацыянальным сцягам! Дзяржаўныя сцягі могуць мяняцца ў залежнасці ад палітычных варункаў. А пад нацыянальнымі плямёны пойдуць і на Страшны суд. Мы гэтымі колерамі набліжаны да Хрыста і павінны прайсці ўвесь Яго зямны шлях — ад укрыжавання, ганення, знявагаў, пакут да крыжовай смерці і Уваскрасення*». Прыведзеная цытата сведчыць аб тым, што Зніч ставіць знак роўнасці паміж беларускасцю і Боскасцю, святасцю. Паэт вучыць нас шукаць Радзіму ў святых месцах і кнігах:

У вогнішчах і хмарах дыму —
ад кніх святых і месц святых —
згубілі мы сваю Радзіму —
сляпыя, што вядуць сляпых…

*(«Роўнаапостальны Уладзімір»)*

Паэзія Зніча незвычайная хаця б тым, што ў манастыр прыходзяць людзі, як кажа сам паэт, «*у стане спавядальным, дзеля сустрэчы з Богам*». Вось чаму вершы Зніча блізкія да малітваў за Беларусь, за яе людзей:

…зямную сцяжыну завершы
раскаяным сэрцам найперш…
маленні — вышэй за вершы…
хай стане маленнем верш!..

*(«зямную сцяжыну…»)*

Гэтыя вершы-малітвы вучаць нас будаваць Царства Нябеснае ўжо тут, на роднай зямлі, найперш у сваёй душы і сэрцы:

Вораг распальвае недавер,
Каб з памяці грэшніка сцерці.
Мы маем вечнае тут і цяпер —
Царства нябёснае ў сэрцы!

*(«Вораг распальвае недавер»)*

Каб гэта задума збудаваць у сабе Нябеснае Царства здзейснілася, трэба, раіць паэт, мець чыстае сэрца, бо толькі ў яго прыходзіць Госпад, які прамаўляе з вершаў Зніча:

…і чую Голас: — …чадо, у жыцці,
падораным асобам і народам,
Я сам абмежаваў Сваю свабоду:
Я ў сэрцы чыстыя
магу ўвайсці…

*(«…як на душы цямней…»)*

Клапоцячыся пра захаванне беларускай нацыі, Зніч піша, быццам перадае спадчынны запавет нашчадкам:

…будзь са Хрыстом…
хай поўняць тваё сэрца —
Ягоны прыклад… Слова… Плоць і Кроў…
…і ты ніколі не спазнаеш смерці —
бо Смерцю смерць перамагла Любоў…

*(«Апошняму беларусу»)*

«*Быць са Хрыстом*», — гэты наказ як выратаванне, як дапамога ў цяжкую хвіліну, як мудрая парада гучыць з вуснаў паэта, быццам ад Самога Бога.

Айцец Іаан, паэт Зніч, мае моцнага нябеснага ахоўніка Іаана Багаслова — апостала Ісуса Хрыста. Іаан Багаслоў — аўтар аднаго з чатырох Евангелляў. Таксама Новы Запавет уключае ў сябе такі раздзел, як «Адкрыццё Іаана Багаслова», дзе прадказана будучыня свету, і ў тым ліку «*зорка перадсконная — Палын*» — Чарнобыль.

…сцэнар гісторыі напісаны даўно —
змірэнным Іаанам Багасловам,
узлюбленым Апосталам Хрыстовым:
Як камень, грэшны свет ідзе на дно…

*(«Ліст абуранаму сябру»)*

І толькі:

«ўсё Сваёй Галгофай Божы Сын пакрыў»,
нам толькі крыж маленькі
застаецца,
што носім, не здымаючы, ля сэрца…

Разумеючы сваю місію ў зямным жыцці як вайну «*з самім антыхрыстам*», інак Мікалай заўсёды на перадавой. Ён піша пра сябе і братоў-манахаў:

…ваенныя карэспандэнты,
наш послух — лінія агню…
наш павадыр — матыў «memento»… —
што апявае вышыню…

*(«Грукоча…»)*

Словамі «Memento mori» («Памятай, што прыйдзецца паміраць») манахі віталі адзін аднаго ў Сярэднявеччы, прымушаючы задумацца над важнасцю таго, каб пражыць жыццё богаўгодна:

…нам не відаць зямнога раю…
тут мы заручаны журбе…
даруем тым, хто ў нас страляе…
Гасподзь прытуліць — да Сябе…

Верным, хоць і блудным сынам паўстае лірычны герой Зніча ў вершы «…Радзіма мая, Беларусь». Ён заклікае-просіць у журбе сваю «*зямную*» Айчыну, каб прымусіла сябе маліцца, бо «*агеньчык твой дагарае*». Усхвалявана гучаць радкі верша-малітвы за Беларусь. Болем напоўнена кожнае слоўка, клопатам аб тым, каб дзеці не забывалі сваю зямельку-маці, скалечаную і знявечаную, але адзіную, родную.

…Айчына зямная мая,
хто прысна цябе памінае?..
як рэха забранага раю,
палынам услана Зямля…

Царкоўнаславянскае слова «прысна» (пастаянна, няўпынна) быццам падкрэслівае тую думку, што паэт і сам не заўважыў, як «*маленнем*» стаў верш. Ды і як не маліцца на тую зямлю, якая нарадзіла столькі «*летуценняў*», хоць і «*пабітых*». Зніч-паэт і Радзіма — гэта адзінства, якое кідае свету «*выклік сляпы*», бо ў гэтай злітнасці спялее любоў, жыве душа паэта, святая ад самаахвярнай любові да Бацькаўшчыны, — «*адзіны нятленны набытак*». Вось за такую душу Бог-бацька скажа свайму блуднаму сыну: *«...сын Мой, прыходзь... Я й з пекла цябе чакаю...»*

Жыццёвы вопыт не адразу падказаў паэту шлях ад «*спакусна-прыгожых*» зямнога «*жыцця берагоў*» да Тайнаў Бога. Гэты шлях патрабуе шмат пакутаў і любові, што толькі можа ажывіць, уваскрасіць сэрца паэта, якое ад перажытага ператварылася ў камень. Жывучы ў Жыровічах, у Божым Доме, паэт малюе карціны свайго быцця тут:

...Дом Божы —
ля каменя сэрца майго...
...і грукае ў гэты камень
Хрыстос...
і пільна ўзіраецца,
быццам за краты... —
...але вобраз Божы,
грахамі распяты, —
ў труне майго сэрца
яшчэ не ўваскрос...

*(«...ад бэзавых пахаў...»)*

Сэрца сумавала, апранапася ў змрок, «*у жалобныя строі*», яму было «*скрушна і вусцішна*» ў манастыры. Лірычны герой Зніча адчуваў сябе «*на разломе між светам і мурам*». Гэты «*разлом*» быў вынікам той барацьбы, якая ішла ў самім паэтавым сэрцы, што палымяна патрабавала, марыла аб тым часе, калі «*Канстытуцыяй Радзімы зноў стане Божы Запавет*». І ўжо ў вершы «Мова» гучыць матыў ачышчэння душы «*музыкай Слова ў Храмах*»; паэт славіць славянскія мовы, якія толькі з Богам «*твораць прастору й святло*», «*сумоўе культур*». А без Бога ўсялякія «*языкоеды*» здзекуюцца са святой «*Крывіцкай мовы*», пытаючы, дзе існуе такая мова. Для паэта яна была і ёсць заўсёды.

...і Літургічнай... і дзяржаўнай...
і мовай чыстае красы,
што лашчыць ружы й верасы... —
яна была — з часін праддаўніх...

*(«...а дзе абшар Крывіцкай мовы?»)*

Гэта «*Мова Плашчаніцы*», гэта «*Мова на Крыві*». Пішучы з вялікай літары словы, аўтар падкрэслівае іх моўнае падабенства, а таксама значную ролю, якую яны адыгрываюць у жыцці роднага краю. Паэт мае права напісаць гэтыя радкі, разумеючы і ведаючы гісторыю роднай мовы і яе самаахвярных патрыётаў. Зніч піша: «*Плашчаніца — гэта першы мой Бел-Чырвона-Белы сцяг!*». Пры гэтым ён звяртаецца да

святых роднай зямлі, каб процістаяць тым, хто пагарджае яго роднай мовай. У наш час, піша Зніч,

…у час, калі зорка Палын дабівае
пыхлівай грахоўнай гісторыі гмах,
Патронку Святой Беларусі згадаем
і вернемся — з Ёй —
на ратункавы Шлях…

*(«Шляхам Святой Еўфрасінні»)*

Добра ведаючы гісторыю Беларусі, паэт Зніч, як крыж, нясе грахі бацькоў, прашчураў. У ім гучыць «*голас успамінаў, нібы з магілы ўсіх вякоў*». Веды пра мінулае становяцца каменем на сэрцы. І толькі «*Дух Святы аблашчыць сэрца*», вызваліўшы яго праз пакаянне ад цяжару мінулых грахоў і ўспамінаў. Інак Мікалай, стаўшы вольным ад пакутаў, даруе і Расіі «*даўнія грахі*» гісторыі, «*братняй Польшчы яе шляхотныя грахі*», Нямеччыне змірэннай даруе «*Марсавы грахі*», «*Ватыкану палітыканскія грахі*». І гэта не словы, гэта выражэнне той палёгкі, якая пануе на душы пасля таго, як манах Зніч пачаў жыць па Боскім прыказанні: «*Ойча, я ворагаў люблю*». Сам жа пра сябе, пра свой паэтычны талент Зніч сціпла напіша:

Я ўхілюся ад сірэнаў…
і падымуся ад сахі…

*(«Грахі гісторыі»)*

Гэтыя радкі сведчаць аб тым, што салодкія галасы сірэнаў, слава не для паэта Зніча, бо ён, як і яго продкі, зноў і зноў хоча ўзвышацца ад сахі, ад працы. Іншы шлях не для Зніча, душа якога ўсё больш патрабуе малітвы і працы, таму ён звяртаецца да чытача з просьбай:

душы ўзарэм рупліва, як араты,
малітваю і працаю зацятай…

*(«Перамога будзе за намі»)*

Але, бадай, самы вялікі боль адчувае інак Мікалай, айцец Іаан, з-за таго, што жанчыны забіваюць у сваім улонні дзетак-немаўлятак. У Беларусі, напрыклад, за 2001 год дзяўчатамі, маладзейшымі за 18 год, зроблена 81 тысяча абортаў. Паэт піша ў вершы «…пасля Вялікай Айчыннай»:

кроў ліецца ў касметыку…
ў лекі амаладжэння…
некаму поўніць кішэні…
некаму «біяэтыку»…

Паэт Зніч прыводзіць канкрэтныя звесткі, ад якіх халадзее сэрца: маленькія цельцы немаўлятак, знішчаныя абортамі, становяцца лекамі для амаладжэння. Так, «*пад бомбамі бясоўскае свабоды*», якая не абмяжоўвае ў Беларусі аборты,

ўзыходзяць на Галгофу —
ў сконны час,
павольна — праваслаўныя народы…

Антыхрыст правіць светам, у якім зноў распятыя дабрыня, чалавечнасць, любоў, святасць, родная мова:

…напагатове каты і цвікі…
Хрыстос Сваіх наследнікаў чакае…
і — як дарожка церпнікам да Раю —
рассыпаны ў нябёсах васількі…

*(«…з гісторыі гаротнай, без прыўкрас»)*

Зоркі-васількі ў нябёсах сведчаць аб пакутах беларусаў, якія вядуць у бессмяротнасць, аб нязломнасці іх надзеі і веры ў свой народ.

Уздымае паэт і праблему існавання хрысціянства, калі «*дэманскі хаўрус*» неапаганскіх рэлігій спраўляе баль ведзьмаў, дзе Беларусь параўноўваецца з вокам тайфуна — адзіным спакойным месцам у кругавароце грамадскіх падзей, ідылій чалавечага існавання. Каб паказаць сур'ёзнасць праблемы, Зніч узгадвае гунаў — качавы народ, які ў IV стагоддзі рабіў разбуральныя набегі з Азіі на Усходнюю Еўропу:

…горш чым пад даўнім Гунам
сёння плямёнам Хрысцьянскім…
у шабасе неапаганскім
Русь Белая —
вока тайфуна…

*(«…дух Лейбы…»)*

Слова «паганыя» ў вершах Зніча мае значэнне — нячыстыя рэлігійна; побач стаіць слова «расхрыстаныя», якое быццам сведчыць аддаленне ад Хрыста. Аднак аўтар сцвярджае, што там, дзе «*малітва й трывога*», там «*Сам Уваскрослы Хрыстос*». Выказваючы глыбокую пашану праваслаўю, паэт Зніч называе яго «Богачалавецтвам», бо Хрыстос — гэта Богачалавек.

— …як уваскрасіць чалавецтва?..
— Богачалавека —
пусціць у сэрцы…

Вобраз Хрыста дапамагае раскрыць сутнасць паэта Зніча. У вершы «Касавінка і мы» апавядаецца пра двух разбойнікаў, якія былі распяты побач з Хрыстом (так, тлумачыць паэт, узнікла касавінка на праваслаўным крыжы). Адзін з разбойнікаў памёр без пакаяння, а другі раскаяўся ў зробленых грахах, таму трапіў з Хрыстом у рай.

…а трэці, пушчаны на волю
замест распятага Хрыста,
ён намі незаўважна стаў —
гісторыяй і нашай доляй…

Злучыўшы ў сабе рысы разбойніка і Хрыста, паэт Зніч сведчыць аб трагічнасці чалавечага лёсу і аб бясконцасці самаахвярнай любові Хрыста да людзей. Як лёгка чалавек можа парушыць касавінку на крыжы або сваім грахом, або святасцю! Як афарызм гучыць верш Зніча «Бліжняму»:

…дэман не можа тварыць:
лёс яго — толькі бурыць…
помні не мімаходзь:
дзеюць і Той, і той —
нашай з табою рукой…

«*Дух чалавечы ратуецца ў царкве*», — напіша Зніч у вершы «Гімн Белай Русі». Узгадаваўшы дух, схіліўшыся ў журбе, смуткуючы па загінуўшых, паэт заўважае, што жыве Беларусь «*паўсюдна, дзе са смерці паўсталі, — хто не забыў сябе*». Як Хрыстос, так уваскрасае Беларусь у вершах Зніча. Уваскрасае і герб Пагоня пад бела-чырвона-белым сцягам Хрыста — нацыянальным сцягам беларусаў:

…ля сэрцаў, сляпых і глухіх, —
крывавячы губы і скроні, —
лятуць і лятуць тыя коні… —
па гонях сваіх і чужых…
…лунаюць бель — чырвань — і бель
у золаце і блакіце…
то — нібыта золак у жыце —
ўзыходзіць Царквы карабель…

*(«Гімн Белай Русі»)*

Жыве Беларусь у душах тых, што «*са смерці паўсталі*», але паэт-патрыёт бачыць, як фізічна знішчаюцца тыя, хто не змог духоўна ўратавацца. Зніч непакоіцца пра тое, як вярнуць надзею свайму народу, калі

…першыя класы пусцеюць…
магілкі — жах!.. як растуць…
на будучыню надзею —
як Беларусі вярнуць?..

Адказ на гэта пытанне гучыць у вершы «Цнота», дзе паэт піша, што шчасце Бог «*даў у цэласці*», а мы яго шукаем у частцы, дзе кожнага з нас паасобку «*джаляць шалы і жарсці*». Трэба быць разам, каб даць адпор «*ворагу*», які завецца д'яблам. Чалавек жа павінен быць адкрытым для іншых,

…каб ангелы
радасна нас віталі —
ўсе крыўды з сэрца
выкінем вонкі…
усё — забылі… —
ўсё — даравалі…

й пачынаем дзень —
з чыстай старонкі!..

*(«...каб ангелы»)*

Але самы важны наказ ад Зніча гучыць у вершы «Беларусам», каб кожны з нас зразумеў, што выратавацца зможам толькі з Хрыстом:

...Божа, зразумець дапамажы —
нам і ўсім зямным заканадаўцам:
мы — у часе й вечнасці —
са Збаўцам...
мы — і на Фаворы... й на Крыжы...

Паэт зноў і зноў нагадвае нам: «*Царства Нябёснае ўнутры нас*». І гэтым сцвярджэннем прасякнута ўся творчасць Зніча, нават жаночая тэма — тэма кахання. Паэт абраў сабе псеўданім Зніч, што абазначае свяшчэнны агонь. Жанчына ў яго паэзіі — гэта знічка. Пра сябе паэт піша:

...стварыў Гасподзь Зніча —
свабодным... —
як зародак птушкі ў скарлупіне...:
ад пачатку ўклаў яму нязводны
рытм народзін —
вырааў птушыных...

«*Зніч знікае і ўзнікае — раптам*», ён шчаслівы ў вечнай «*сябрыне выраю і раю*». Сваім сэрцам Зніч прыдумаў сабе ў птушынай сябрыне залатую птушку, вольную, як і сам паэт:

...а аднойчы Зніч сасніў у яве
залатую птушку — у няволі...
і у рыфмах — выпусціў на волю...
рай і вырай — сэрцам унаявіў...

Калі Зніч — гэта нязгасны свяшчэнны агонь, дык жанчына — гэта тая, якая замірае «*ў надхмарным каханні*», яна «*знічка з рабрыны Зніча*». А знічка, падаючая зорка, у каханні хутка згарае. І тым не меней, «*ёсць!.. — у сэрцы рай...*». Паэт апісвае гэты рай у сэрцы:

— ...абяздоленая... неспатоленая...
заняволеная — вельмі рана...
— адпусці мяне... адпусці мяне...
адпусці мяне — мой каханы...

Зямное каханне Зніч называе «*агнём іншасветным ў акрасе вар'яцтва й тугі*», гэта каханне сваёй самаахвярнасцю спальвае жанчыну як свячу:

...лілеяю ў вір я ўпала
і ў плынях надмарных лячу...

о, Божа, мне гэтага мала…
запальвай мяне, як свячу!..

*(«…шукаю адчайна й цяжка»)*

Зямны свет Зніч называе «*чорным*», сумным і бядотным, аднак каханне наталяе гэты свет «*бліскавіцамі святла*», якое прытушвае свяшчэнны агонь паэтавага сэрца, каб разгарэцца там з новай сілай ачышчэння душы. Вось што піша Зніч пра місію жанчын у яго жыцці:

…пакутліва —
для жарсцяў —
паміраю…
асенніх бліскавіц
святло лаўлю…
Гасподзь мне —
праз жанчын —
адкрыў зямлю…
а праз цябе —
зямны куточак
раю…

Цікава пабудаваны радкі гэтага верша, якія разрываюцца то на тры часткі, то на дзве. Гэты разрыў надае кожнай частцы радка ў шмат разоў павялічаную эмацыянальную энергетыку слоў і выразаў, якую адчувае чытач.

Аднак манах створаны не для зямнога кахання, а для Бога. Незвычайную будову мае верш Зніча «…Божа, я ў скрусе й журбе…», дзе паэт размаўляе з Айцом Нябесным. Гэты дыялог сведчыць аб тым, як пакутна несці яму манаскі крыж. Паэт жаліцца Богу: «*Больш не магу ў целе несці сваю душу*». Просячы Бога ўзяць яго да сябе, Зніч чуе ў адказ:

— …сэрца — той самы камень,
што я не магу падняць…

Бог, даючы чалавеку вольную волю, нагадвае яму аб тым, што сэрца чалавечае падобна да каменя, калі яно жыве без любові. Вось чаму манах павінен знайсці ў Бога сілу, каб любіць, хоць, як піша паэт,

бліжнія ўсе мяне кінулі…
сілы мае ў пекле згінулі…

Але ўжо ў наступным вершы «Беласточчына» Зніч піша пра «*суладдзе блізкіх душ*», калі гучыць матыў «memento» ў «*краіне руж і дыяментаў*». Так паступова сэрца, акамянелае ад пакутаў, ажывае для любові да Бога, да роднай Беларусі, да братоў-манахаў. І толькі Крыж застаецца побач, бо ў ім выратаванне:

…і толькі Сэнс Раскрыжавання
заўсёды з намі…

*(«Ліст сябру»)*

Лірычны герой Зніча разумее, што з «*Богам не можна быць гордымі над грахоў сваіх чорнымі прорвамі*». Каб быць з Богам, трэба «*ад шалаў адмовіцца*», а з Ім пасумовіцца можна толькі ў няшчасці: у час хваробы, бяды, у астрозе. І толькі так прыходзіць супакой і ўсведамленне адкрыцця новага ў сабе:

…боль ад колішніх шалаў —
сціх…
найважнейшае —
дзеля Бога —
як мы сёння
духа ліхога
адганяем
ад сэрцаў сваіх…

*(«…боль ад колішніх шалаў»)*

І толькі ў раскаяныя сэрцы можа ўвайсці Нябесная Любоў, так сцвярджае паэт, а «*кутні камень Ісціны*» — гэта перакананне, якое і ў перадсмяротны момант «*завоблачным Тайным голасам*» прамовіць: «*Брат, пекла — гэта вечнасць без Хрыста*». Ды і саму Беларусь манах Зніч стаў любіць па-іншаму, свята і больш глыбока. Яна для паэта «*як Нявеста Хрыстова*». А мясціны роднай зямлі, «*намоленыя, чыстыя мясціны*», нагадваюць паэту, што беларусы гэтага часта не заўважаюць:

…і процьма душ
у ганьбе запусцення
блукаюць — не чужыя й не свае…
заблудная краіна йшчэ жыве
бясконцасцю Госпадняга цярпення..

*(«Мой край»)*

У паэзіі Зніча гучыць «*матыў вяртання*» блудных сыноў да Бога, але часта ён чуецца ў трагічную хвіліну чалавека, «*калі наўкол — абрыў*». Паэт заклікае ісці да святых мясцін Беларусі, не марудзіць, каб уратавацца:

…калі ты і плоццю
й душой нездароў,
і боль твой суняцца не можа —
успомні, што ёсць
жыватворны Пакроў
Жыровіцкай Маці Божай…

Жыватворнымі з’яўляюцца і паэтычныя радкі Зніча, якія вядуць чытача да ўратавання душы, да збаўлення, якое, па словах паэта, можа даць толькі Бог. Паэт раіць быць заўсёды з Хрыстом, каб душою ўваскрасаць. Ён піша:

Хрысце мой, на крыжы
ўваскрасаю!..

Уваскрасае душой і чытач, які паглыбляецца ў змест паэзіі Зніча. І гэта ўваскрашэнне беларусаў і беларускасці ў паэтычнай творчасці Зніча адбываецца праз вобраз Хрыста, нацыянальныя сімвалы і гісторыю роднага краю, святыя мясціны і святых Беларусі, самаахвярную любоў да Радзімы і яе мовы. Гэта ўваскрашэнне датычыць перш за ўсё сэрца і духу чалавека, што гартуецца праз жыццёвыя выпрабаванні ў самаахвярнай любові да Бога і Радзімы.






нарадзілася 23 снежня 1953 года ў горадзе Баранавічы. Скончыла СШ № 1 горада Слоніма, у 1975-м — Гродзенскі дзяржаўны педінстытут імя Янкі Купалы па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура». У 2002 годзе скончыла аспірантуру па тэорыі і методыцы навучання літаратуры пры ГрДУ імя Я. Купалы. Вынікам навучання ў аспірантуры стаў метадычны дапаможнік «Навучанне лірыцы праз творчасць на занятках літаратурнага гуртка» (2012). Друкуецца ў «Настаўніцкай газеце», «ЛіМе», «Нашым слове», «Слонімскім весніку», «Газеце Слонімскай», у часопісах «Роднае слова», «Беларуская мова і літаратура». Цяпер на пенсіі.



# Памяць

## ВІКТАР ЖЫБУЛЬ



▪ *Юры Гумянюк (1969–2013)*

### Да ўвагі «фэнаў»
*Крыху пра архіў Юрыя Гуменюка*

…Успамінаюцца падзеі 20-гадовай даўніны. Полацак. Скончылася 3-я канферэнцыя Таварыства Вольных Літаратараў. Поўныя ўражанняў і крыху прытомленыя ўдзельнікі з іншых гарадоў сядаюць на аўтобус, каб ад'ехаць дадому. Раптам дзесьці паблізу, ля аўтавакзала, чуецца крык: «Юра! Юра!»

— Чуў, Юра? Цябе клічуць! — штурхануў Юрыя Гуменюка ў бок нехта, здаецца Ілля Сін. І дадаў: — Фэны твае!

Гумянюк толькі іранічна пасміхнуўся. Дзверы тым часам зачыніліся, і аўтобус крануўся, вырульваючы на шлях да Менска.

Магчыма, гэты дробны празаічны эпізод не варты і згадкі: клікалі нейкага зусім іншага Юру, і не «фэны», а, мабыць, банальныя сабутэльнікі. Але чамусьці падумалася, што да Юрыя Гуменюка, да самой ягонай асобы вельмі пасавала б такая сітуацыя: кола прыхільнікаў, якія пазнаюць на вуліцах, вітаюць, просяць аўтографы і чакаюць новых твораў. Ён быў адметнай постаццю і сваю паэтычную сутнасць падтрымліваў знешнім іміджам: насіў модныя, элегантныя гарнітуры, матылькі, капелюшы, і часам здаваўся госцем аднекуль з часоў эстэтызму і дэкадансу. Яго смелыя і разняволеныя вершы шмат каго ўражвалі, а барды і рок-гурты выконвалі песні на яго словы. Чаму б такому неардынарнаму чалавеку сапраўды не мець сваіх «фэнаў»? Я думаю, што яны ў яго былі. І нават ёсць. Проста яны не крычаць на вуліцах, а ў вольную хвілінку звыклым рухам бяруць з хатняй палічкі кніжку, каб пагартаць і… зноў уразіцца чымсьці не заўважаным у ёй раней.

Мне не часта даводзілася бачыцца з Юрыем Гуменюком: усё ж мы з ім жылі ў розных гарадах. Часам, бываючы ў Менску, ён завітваў на пасяджэнні літаб'яднання пры часопісе «Першацвет», у якім я тады працаваў. Ці наадварот: я па літаратурных справах прыязджаў у Гародню і сустракаў там Юрыя. Разам 4 красавіка 2006 г. мы ўступілі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Цяпер як памяць пра нашыя нешматлікія сустрэчы ў мяне захоўваецца кніжка «Твар Тутанхамона» з аўтарскім подпісам: *«Віктару, які пакрысе крочыць да запаветнай мэты, з найлепшымі пажаданнямі. 01.11.1996. Полацак, III ТВЛаўская канферэнцыя. Тутанхамон Гарадзенскі Ю. Гумя-*

*нюк»*. Ва ўсялякім разе, ён быў адным з тых паэтаў, якія валодаюць нейкай асаблівай прыцягальнасцю і творы якіх сапраўды хацелася чытаць і перачытваць.

27 лютага 2013 г., неўзабаве пасля трагічнай смерці Юрыя Гуменюка, мы з калегамі-літаратарамі зладзілі ў чытальнай зале Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва вечарыну памяці паэта. Месца было абрана не толькі таму, што мне як супрацоўніку БДАМЛМ найзручней было арганізаваць вечарыну, так бы мовіць, не адыходзячы ад працоўнага месца. Рэч у тым, што некаторыя творчыя набыткі Юрыя Гуменюка знайшлі прытулак у сховішчах архіва-музея яшчэ раней, пры жыцці аўтара, — у фондах рэдакцыі часопіса «Крыніца» і Таварыства Вольных Літаратараў. Заходзіў сюды неяк і сам Юры — бываў у пакоі нашага дырэктара Ганны Запартыкі.

Праз тры гады спадчына Юрыя Гуменюка атрымала ў БДАМЛМ больш сталую прапіску: цяпер тут ёсць яго асабісты фонд, што з’явіўся дзякуючы паэтавай сястры Людміле Сафронавай і гарадзенскай паэтцы, літаратуразнаўцы Але Петрушкевіч, якія і перадалі ў архіў-музей дакументы і матэрыялы. Сама ж ідэя стварэння фонду Юрыя Гуменюка ў Менску належала ягонаму сябру, полацкаму паэту і каардынатару Таварыства Вольных Літаратараў Алесю Аркушу.

Фонд атрымаўся невялічкі: з Гародні ў Менск яго я вёз у двух пакетах*. Прычым большы па аб’ёме займалі не рукапісы, а знакамітыя капелюшы — чорны фетравы і саламяны — неад’емная частка іміджу паэта. А пра астатняе раскажу крыху падрабязней — каб сапраўдныя «фэны» Юрыя Гуменюка — інтэлектуалы-нонканфармісты, а заадно і ўдумлівыя даследчыкі — ведалі, што ж з паэтавай спадчыны захоўваецца цяпер у Менску, і пры выпадку маглі зарыентавацца.

Дакументаў у фондзе сабралася пакуль няшмат, але яны даволі разнастайныя. Вось падшытыя ў кардонныя тэчкі курсавыя працы студэнта Юрыя Гуменюка: «Эвалюцыя “праблемы помніка” ў творчасці Гарацыя, Г. Дзяржавіна, А. Пушкіна, А. Міцкевіча і Ю. Славацкага» і «Паэт як прадстаўнік і волат свайго народу на падставе твораў “Exegi monumentum”». Напісаныя яны ў 1992 і 1993 гг. на польскай мове — Ю. Гумянюк вучыўся тады на аддзяленні паланістыкі філфака Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. І адчуваецца, што тэма «нерукатворнага помніка» была блізкая паэту, які ведаў і цану самому сабе, і цану Паэзіі. Да атрыманага ва ўніверсітэце літаратуразнаўчага досведу Юры Гумянюк, як вядома, звяртаўся і надалей: памятаюцца яго артыкулы і літаратурныя эсэ, напісаныя ўжо ў часы ТВЛ.

Значнае месца сярод рукапісаў Ю. Гуменюка займаюць яго працы для Гарадзенскага абласнога тэатра лялек, у якім паэт пэўны час загадваў літаратурнай часткай: рукапіс яго першай п’есы для дзяцей «Баль у барона Мюнхаўзена (Наварочны ранішнік у тэатры Тызэнгаўза» (1993), тэксты песняў для спектакля «Прыгоды Пінокія», пастаўленага на рускай мове, нататка «Гродзенскі тэатр лялек у 2000 годзе», каля тузіна сінопісаў да пастановак. Па іх можна скласці ўяўленне пра рэпертуар 1990-х гг., калі лялечным тэатрам кіраваў рэжысёр Мікалай Андрэеў, ён жа — пастаноўшчык

* Гэта калі не лічыць важкага заплечніка, напоўненага дакументамі, якія перадала для свайго фонду Данута Бічэль.

спектакляў «Доктар Айбаліт», «Цуд святога Антонія», «Тутэйшыя», «Кентэрвільскі прывід», «Казкі Пушкіна», «Аладзін і чароўная лямпа», «Храбры кравец»…

Знайшоўся і рукапіс адзінага Гуменюковага рамана «Апосталы нірваны» — дакладней, апублікаванай у часопісе «Калоссе» (1995) першай часткі, і тое не цалкам. Міжволі шкадуеш, што не другой, якая, магчыма, існавала толькі ў электронным выглядзе і згубілася разам з камп'ютарам, на якім была набрана…

Што яшчэ можа знайсці тут адданы «фэн» — дакладней, старанны даследчык — жыцця і творчасці Юрыя Гуменюка? Працоўнае пагадненне з рэдактарам газеты «Пагоня» Віктарам Бараноўскім (06.04.1992). Пасведчанне аб заканчэнні моўных курсаў ва ўніверсітэце Марыі Кюры-Складоўскай у ліпені 1993 г. Даведку пра тое, што «Юры Гумянюк зьяўляецца галоўным рэдактарам часопіса Таварыства Вольных Літаратараў "Калосьсе" і мае паўнамоцтвы на вядзеньне перамоў ад імя выданьня і на атрыманьне маёмаснай і грашовай дапамогі на карысьць часопіса», падпісаную 17.05.1996 Алесем Аркушам. Дыплом пераможцы першага туру акцыі «Супервобраз 21-га стагоддзя» Юрыя Гуменюка ў намінацыі «Літаратура» (05.01.2000), падпісаны старшынёй аргкамітэта, тагачасным рэктарам БДУ Аляксандрам Казуліным.

Вось поўнае пяшчоты віншаванне ад маці з 30-годдзем, вось запрашэнне ад паэта Славаміра Адамовіча на яго творчую вечарыну, а вось ліст кампазітара Максіма Іўкіна, які дасылаў Юрыю газету Беларускага калегіюма «Антыпод»… Усё астатняе паэтава ліставанне трапіла, мяркуючы па ўсім, у гарадзенскі Музей Максіма Багдановіча. А эпісталярная спадчына ў яго мусіць быць багатая — скажам, у менскім біяграфічным альманаху «Асоба і час» выходзіць змястоўная публікацыя лістоў Юрыя Гуменюка да Алеся Аркуша*, па якіх можна прасачыць светапоглядную эвалюцыю таленавітага гарадзенца, багата даведацца пра тагачасную літаратурную атмасферу, пра вытокі стварэння Таварыства Вольных Літаратараў… «Фэны» зацэняць!

Даволі шмат у фондзе фотаздымкаў: ад яшчэ школьных да фота апошніх гадоў — калі пасталелы Юры Гумянюк насіў вусы і бародку. Але найболей здымкаў з 1990-х — пачатку 2000-х гг. Паэт паўстае перад намі то ў рамантычным атачэнні асенніх дрэваў, то на фоне муроў старажытных замкаў, то ў будзённай працоўнай атмасферы за камп'ютарам. Ёсць здымкі і з літаратурна-мастацкіх мерапрыемстваў: устаноўчага сходу ТВЛ (1993), першых угодкаў ТВЛ у полацкай галерэі «Рыса» (1994), віцебскай акцыі «Арт-прагноз-96», арганізаванай мастаком Алесем Пушкіным, выступу ў галерэі на выставе Алеся Суровага… Застаецца пашкадаваць, што амаль усе здымкі (у тым ліку калектыўныя) не маюць на адвароце ніякіх подпісаў — не думаў Юры, што гэта некалі можа камусьці спатрэбіцца.

Сапраўдным адкрыццём для мяне асабіста было тое, што Юры Гумянюк сам захапляўся маляваннем — прынамсі, у раннім юнацтве. Частка яго мастацкіх прац, захаваных у фондзе, датуецца чэрвенем 1984 г. Гэта акварэльныя пейзажы, бадай тыповыя для навучэнцаў мастацкіх студый. Назвы кажуць самі за сябе: «Горы», «Ціхая ноч», «Туман над пралівам», «Царква на востраве», «Рака», «Бярозы» і інш. Пазнейшыя малюнкі — 1986–1987 гг., ужо большага фармату — адлюстроўваюць

---

* «Я заглыбіўся ў філязоўскія развагі, але мне гэта не ўласьціва» (Лісты Юрыя Гуменюка да Алеся Аркуша, 1991–1993) // Асоба і час. 2016. № 7. С. 265–302.

пошукі Юрыя Гуменюка ў галіне сюррэалізму, авангарду і ўяўляюць з сябе даволі абстрактныя кампазіцыі з вачэй, вуснаў, бурбалак, геаметрычных фігур, выяваў розных дэманічных істотаў — трэба думаць, для аўтара ўсё гэта мела сваё сімвалічнае напаўненне.

Але ведаем і шануем мы Юрыя Гуменюка найперш як паэта, а таксама журналіста і эсэіста. І ў ягоным невялічкім фондзе паэтычная спадчына прадстаўлена чатырма агульнымі і паўагульнымі сшыткамі. Здавалася б, гэта і нямнога, і ў той самы момант — дастаткова, каб прасачыць творчую эвалюцыю, якую прайшоў паэт з сярэдзіны 1980-х да сярэдзіны 1990-х гг. З чатырох сшыткаў у трох — вершы, напісаныя на рускай мове яшчэ ў юнацкі перыяд. Першае, што кідаецца ў вочы, гэта стараннасць і нават вытанчанасць, з якой паэт вёў свае сшыткі. Усе вершы напісаныя акуратным почыркам, строга пасярэдзіне старонкі, пад кожным прастаўлена дакладная дата стварэння. Вершы падзелены на цыклы, кожны з якіх аддзелены асобнай чыстай старонкай з напісаным вялікімі літарамі загалоўкам: «Голубые сны. 1985–1986», «Роза в снегу. 1986–1987», «Воздушный замок. 1986–1987», «Северное небо. 1987–1988». Некаторыя цыклы, у сваю чаргу, падзяляюцца на падцыклы. Бачна, што пачынаючы з падлеткавай пары Юры Гумянюк адчуваў сябе перадусім Паэтам і ўжо ўсведамляў, напрыклад, ролю кампазіцыйнай будовы кнігі. І не толькі кнігу, а яшчэ нават сам сшытак вершаў ён мысліў як паўнавартасны эстэтычны аб’ект, у якім няма месца неахайнасцям і крамзолям. Нават закрэсліванні ён рабіў роўна і акуратна.

Па тых сшытках — асабліва самым раннім, з сярпом-молатам і «XI пятилеткой» на вокладцы — яшчэ цяжка пазнаць таго Ю. Гуменюка, якога мы прызвычаіліся ведаць і якім ён сцвердзіў сябе ў літаратуры. Многія тагачасныя вершы малады паэт пісаў пад уплывам мадэрнізму і дэкадэнцтва канца XIX — пачатку XX ст. У некаторых з іх прысутнічаюць непасрэдныя адсылкі да творчасці Аляксандра Блока, Канстанціна Бальмонта, Андрэя Белага, Мікалая Гумілёва. Юры Гумянюк пісаў тады пра Чароўную Даму, люстраную бездань, Свет Сімвалаў туманных, Чырвоны Вецер, Паветраныя Замкі і Палацы Блакітных Сноў… Быццам жыў і ў іншым часе, і ў іншым вымярэнні. Што, зрэшты, для паэта і не дзіўна.

Пра сваю кнігу Юры таксама марыў, і далёка не пра адну. У другім, самым тоўстым, сшытку сустракаем аўтарскія накіды вокладак: «Два города: первая книга стихов. 1986–1987», «Властелин: третья книга стихов. 1987–1988», а таксама цэлыя пералікі назваў задуманых кніг ці асобных паэтычных цыклаў: «Два города. 1986–1987», «Горящий терем (Символы смерти). 1986–1987», «Тернистая роза. 1986–1987», «Экзотика. 1986–1987», «Вечная религия. 1988», «Роза в бокале», «Узлы и грани. 1987–19??»*, «Колокольный перезвон. 1988», «Пылающий жираф: лирическая альтернатива. 1987–1989», «Земля в огне. 1986–1987», «Гиперборей», «Дама в белом», «Фиолетовый ландшафт», «Маленький Париж». Ёсць і кароткі спіс апавяданняў (ці былі яны ўвогуле напісаныя?): «Настигающий ужас», «Провинциальный анекдот», «Ветеран». У сшытку багата аўтарскіх малюнкаў і проста графічных накідаў: металісты з вастракутнымі гітарамі і шыпастымі бранзалетамі, байкеры ў скуранках, міфічныя асілкі з мячамі… Відаць, рок-культура ў той час сур’ёзна захапіла Юрыя Гуме-

* Так у аўтара.

нюка: спробы яго ўласных рок-тэкстаў, разлічаных на песеннае выкананне, у сшытку таксама ёсць. Знаходзім і адзіны беларускамоўны верш пад назвай «Сюррэалістычная саната», напісаны, мяркуючы па датах пад суседнімі тэкстамі, у канцы 1987 ці самым пачатку 1988 года і пераназваны пазней у «Фасфарычны танец».

Але найбольш цікавыя з эстэтычнага гледзішча вершы ўвайшлі ў сшытак пад загалоўкам «Танго траурного цвета. 1987–1990». Ён складаецца з двух цыклаў: «Ритмы танго под луной» і «Королевство абсурда». Асабліва ярка паэт выявіў сябе ў другім з іх. Адпаведна назве, вершы там вылучаюцца абсурдызмам, гратэскам, іроніяй і сарказмам. І калі ў больш ранніх вершах Ю. Гумянюк не хаваў прыхільнасці да сімвалістаў і акмеістаў, дык цяпер яму бліжэй іраністы і канцэптуалісты — у прыватнасці, Уладзімір Друк, радкі з якога ўзятыя эпіграфам да верша «Естествоиспытатель». Чытаючы згаданы твор, адчуваем ахопленасць маладога паэта стыхіяй свабоды, нонканфармізму, звяржэння колішніх ідэалаў. У пэўнай ступені гэта было ўласціва і ўсёй паэзіі эпохі перабудовы — паэзіі, якая адчула вольнае паветра, пазбаўляючыся ад ідэалагічных ланцугоў:

Я плюю с высокой колокольни
На Лимонии пахучие миазмы,
Я уже не тот наивный школьник,
Не вникаю в свойства протоплазмы.

Не влечет меня политика в пучину,
До свидания, Карл Маркс и Фридрих Энгельс!
Тащат на Голгофу гильотину
Сталин-Жданов, Гитлер-Геббельс.

У некаторых творах «фэны» Юрыя Гуменюка ўбачаць і надта знаёмае — і напраўду, вершы «Пизанская башня» (27.12.1987) і «Брожение ума» (20.03.1990) аўтар пазней пераклаў, перапрацаваў і апублікаваў адпаведна пад назвамі «Пізанская вежа» і «Супэрвобраз». Але, як і ў папярэднім сшытку, беларускамоўны верш тут толькі адзін — «Поўня» (1987), якім аўтар хацеў распачаць цыкл пад назвай «Вампірава вока».

Неўзабаве пасля задумы новага цыклу Юры Гумянюк, мабыць, зразумеў, што пераходзіць на беларускую мову канчаткова і беззваротна, і — завёў для яго асобны сшытак. Вокладку — дакладней, тытульны ліст — аўтар аформіў сам. На фоне прамяністага сонца і трох крыжоў адмысловым крывава-чырвоным шрыфтам выведзена назва: «Вампірава вока». І ўнізе, ужо дробнымі літарамі: «Гародня. 1990». Але сшытак змясціў і вершы за некалькіх наступных гадоў: апошні па часе (01.01.1995) — «Ёкагама», які дзякуючы гарадзенскаму рок-гурту «Айша» набыў потым і песеннае ўвасабленне.

Менавіта назву «Вампірава вока» паэт у свой час хацеў даць першаму зборніку вершаў, які потым перайменаваў у «Леапардавую скуру», а выйшаў ён урэшце ў 1992 г. пад назвай «Водар цела»*. Аднак у зборнік увайшло ўсяго 33 вершы, у сшы-

* Падрабязней пра гэта можна прачытаць ва ўжо згаданай публікацыі лістоў Ю. Гуменюка ў альманаху «Асоба і час».

тку ж іх ажно 84. Які ж лёс напаткаў астатнія? Звяраючы змест сшытка з кніжнымі выданнямі Юрыя Гуменюка, заўважаем, што іншыя вершы ўвайшлі ў зборнік «Твар Тутанхамона» (1994), яшчэ некаторыя трапілі ў кнігі «Рытуал» (1999) і «Вуліца тыгровых архідэяў» (2003).

Аднак ёсць у сшытку 13 вершаў, якія не ўвайшлі ні ў адну з прыжыццёвых кніг Ю. Гуменюка, ні ў пасмяротны збор яго вершаў «Назаві мяне геніем», укладзены Алесем Аркушам. Вось менавіта з гэтымі невядомымі творамі Юрыя Гуменюка і хацелася б пазнаёміць чытачоў «Новага замка».

## ЮРЫ ГУМЯНЮК

*З КНІГІ «ВАМПІРАВА ВОКА»**

### Фасфарычны танец**

Ліхтары… ліхтары… ліхтары…
Позірк бледна-ружовы, зусім як дзіцячы.
Нейкі востры прамень рассакрэчвае вежы, муры.
Далягляд аксамітавы робіцца ўдзячным.

Я не бачу свінцовых шалёных вятроў,
я знікаю ў крыштальна-празрыстых пакоях,
я чытаю імёны касмічных сяброў,
што на небе пазначаны яснай крывёю.

Вось ляцяць, вось імкнуцца, дзе высь,
металічныя птушкі, стальныя кандоры,
і ўжо вулкаю ходзіць міфічная рысь,
ўжо дымяцца вулканы ды іншыя горы…

*[канец 1987 — студзень 1988 г.]*

### Спаленае сэрца

Маё сэрца спалілі на стосе.
Я рыхтую чарговы замах.
Засталося сем дробненькіх костак.
А яны выпраменьваюць жах.

Жах сціскае напятае цела.
Марна ходзіць за вокнамі кат.
Маё сэрца на стосе згарэла.
Больш няма чаго ўзяць з па-за крат.

*[1990]*

* Выходзячы з першапачатковай задумы рукапіснага зборніка, вершы «Спаленае сэрца», «Не псуй!», «Белы крыж» і «Credo» ўваходзілі ў цыкл «Малітвы Дайманда», а вершы «Блукаючы нябожчык» і «Сабака» — у цыкл «Начныя прывіды». Пры напісанні тэкстаў аўтар карыстаўся тарашкевіцай, тут жа яны публікуюцца ў афіцыйным правапісе.
** Пачатковая назва — «Сюррэалістычная саната».

## Не псуй!

Не псуй мне, вужака, лірычны настрой,
дазволь апрануцца ў жалобныя шаты,
ўсё роўна пачуцці трапляюць за краты,
навокал пануе варожы спакой.

Навокал палаюць вялізныя хаты,
бо нейкі вар'ят пасварыўся з ракой.
Не псуй мне, вужака, лірычны настрой,
дазволь апрануцца ў жалобныя шаты.

*[1990]*

## Белы крыж

Сапсаваны вырадак чакае,
каб скусаць сваю апошнюю ахвяру.
Ён яе нібыта вызваляе
ад смяротна-небяспечнага пажару.

Ён ужо сінее. Хутка сонца
з кулямёта промнямі прыпаліць.
Паляцяць у чорную бясконцасць
яго зубы, што жанчыну свідравалі.

Не паспее створ начны схавацца —
разваліласа труна, як цыгарэта…
Больш табе не трэба хвалявацца, —
бо на небе белы крыж, Кароль Сусвету.

*[1990]*

## Credo

Акрываўлены крыж пацалую
і ўваскрэсну, як некалі, зноў.
Сто анёлаў за ноч намалюю,
буду славіць Езусаву кроў.

Як заўсёды, паду на калені
і заплачу, малое дзіця.
Праз вякі прыйдуць зноў пакаленні,
каб адкрыць свае душы, як я.

Голас мой узнясецца да неба
і адтуль прагучыць на ўвесь свет.
Больш нічога ў жыцці мне не трэба,
дзякуй Богу, шчаслівы паэт!

*[1990]*

## Блукаючы нябожчык

Бачу цень незнаёмага мне чалавека.
Толькі цень. Больш нічога. І поўня ў імгле.
Гэта нехта агідны, здаецца, калека,
але ж зубы блішчаць, як прамені на шкле.

Ён мне хоча сказаць, што страшэнна галодны,
што блукае па вуліцах некалькі год,
што пакінуў свой дом адпачынку і родных,
каб не дыхаць атрутай, пазбыцца клапот.

Ён самотны і белы. Вядома, нябожчык,
які выйшаў на шпацыр з халоднай труны.
Не патрэбны яму ні каханкі, ні грошы,
толькі нехта прыгожы, як голкі сасны.

Бедны, кажа, што прагне маленькі кавалак
чалавечага сэрца, якое жыве
сярод бруду мяйсцовага, смеху і сварак,
сярод промняў у жоўтай ад поўні траве.

*[1990]*

## Сабака

Апоўначы брэша сабака
на нейкі рухомы аб’ект.
Спі, хутка пачнецца атака,
і нехта кагосьці заб’е,

а нехта ўзарве прыбіральню
і выкажа моцны пратэст.
Хай вецер уздымецца шквальны,
знясе сацыяльны кантэкст.

*[1990]*

## Кат

Плача бацька, дачушку цалуе.
А дачушка прыкута ў труне,
ўсё ёй роўна, яна ў дзіўным сне
і нічога, напэўна, не чуе.

Вось дрыжаць, цяжка стогнуць арганы.
Сядзь-прысядзь, ці падзі, будзе лепш.
А малітва — ратункавы верш
хутка згоіць глыбокія раны.

Плача бацька, бо вырашыў помсціць,
забіваць ваўкалакаў падрад.
Ён цяпер безлітосны, як кат,
і збаўлення ў касцёле не просіць.

*[1990]*

## Пісьмо Міхасю*

*Міхасю Скоблу***

Як жывеш, старажытны святар
адляцелых у бездань вякоў?
Ці прыходзіш складаць на алтар
свае кветкі пад спевы ваўкоў?

Тваё сэрца баліць, ажно я,
ўжо пачуўшы, як быццам манах,
што хварэе СВЯТАЯ ЗЯМЛЯ,
перамог атакуючы жах.

Я трымаю агонь у руках,
да нябёсаў узносячы кліч:
«О, няхай дапаможа нам Бог
захаваць праз гады Вечны Зніч***!»

*[1990]*

---

* Аўтограф верша ў арыгінале перакрэслены.
** Скобла Міхась (нар. 1966) — паэт, журналіст.
*** «Вечны Зніч» — назва першай кнігі вершаў М. Скоблы (Мінск, 1990).

## Крывавыя слёзы

*Андрэю Пяткевічу**

Я хіба звар’юю ад чорнага сонца.
Яно хоча высмактаць сокі з мяне.
Яно атакуе, кусае бясконца,
пілуе вароты ў каменнай сцяне**.

Жыццё — не жыццё, а жалезныя вілы,
якія збіваюць настойліва з ног.
Чырвоныя д’яблы зарыюць магілу
і крыкнуць штосілы: «Нарэшце падох!»

Але я жыву пад зямлёй і ў нябёсах,
сярод груганоў ды магільных крыжоў,
глытаю штодня зыржавелыя слёзы.
А гэтыя слёзы — уласная кроў.

*[1990]*

## Лёс

Калі зраблюся белым, бы мярцвяк,
і літары расшарпаюць мой чэрап —
усім скажу: «Нікому я не веру!»,
ўздымуся над руінамі, як птах.

Гадзіннік абыякава «цік-так»
адмерыць час драпежнікам-хімерам,
нашчадак старажытнага Гамэра —
грэк Зорба — мне зайграе жвава ў такт.

Ўзабраўшыся на стромы Эверэст,
нашараваўшы цела масцю з хвоі,
я выстралю атручаным набоем,
каб выказаць кумірам свой пратэст.

---

* Прысвячэнне ў арыгінале закрэслена. Пяткевіч Андрэй (1966–1995) — паэт. Разам з Ю. Гуменюком з’яўляўся сябрам суполкі «Верш-гурт Дыяген».

** Над вершам напісаны пазнейшы варыянт 1-й страфы, які абрываецца на паўслове:
Я хіба звар’юю ад чорнага глею.
Ён высмакча творчыя сілы зь мяне.
Як цюцік аблезлы зімой акалею
і буду ляжаць на прам…

І мне ўсё роўна: Д’ябал ці Хрыстос
па смерці вырашыць мой лёс.

*Чэрвень 1991 г.*



Бляск пазамежны каляровага металу —
не тое, што ў кавярні — штучны бляск,
дзе атмасфера трансфармуецца ў арас,
гарачыня і кава моцна скуру паліць.

Ты свой адбітак *разам з кавай* праглынаеш*,
пасля цытуеш мне урывак з Дантэ,
што азірнуцца віленскія франты,
маўляў, паэт штосьці знаёмае чытае.

І бізнесмен, і далікатны летуценнік,
аднак асоба, што тут ні кажы.
Не існуе перасцярогаў і мяжы…**

*[1993]*

## Грукат сэрца

Біямаса сплывае па сходах павольна,
паміж стэндаў чорна-бела-чырвоных…
Раздражняе рэцэптары суперрэклама…
Металёвыя шыбы ды штучны мармур

аздабляюць фірмовыя крамы, канторы.
Дынамічная музыка грукае звонку…
Вось і ты сярод замкаў і хмарачосаў…
Вось нарэшце сапраўдная вольнасць прыйшла!

*ліпень 1993 г., Люблін****

*Падрыхтоўка тэкстаў да друку і заўвагі Віктара Жыбуля*

---

* Варыянт: ‘ціха праглынаеш’; абодва варыянты закрэслены.

** Верш не дапісаны.

*** У Любліне з 5 да 25 ліпеня 1993 г. Юры Гумянюк вывучаў польскую мову на моўных курсах для студэнтаў польскай філалогіі з Усходу (Універсітэт Марыі Кюры-Складоўскай).



# Літаратуразнаўства

Анатоль Брусевіч

## Спачатку быў хаос...

*Да пытання энтрапіі ў сістэме мастацкага слова*

Кожная сістэма, валодаючы з аднаго боку цэласнасцю і стабільнасцю, можа мець у сваёй структуры пэўныя элементы, якія не абмяжоўваюцца стандартным для дадзенай сістэмы наборам якасцей і ўласцівасцей. Зразумела, такія элементы могуць несці некаторую пагрозу для сістэмы: няспраўнасць у яе функцыянаванні часцей за ўсё зыходзіць менавіта адсюль. Зрэшты, адсюль неўзабаве пачынаецца і аздараўленне, гэта значыць вяртанне сістэмы ў звыклы рэжым, альбо яе перабудова ў нешта зусім новае. Так ці інакш, сістэма не гіне. Яна змяняецца, эвалюцыянуе, магчыма, раз-пораз паўтарае свае былыя, забытыя формы, але жыве. Калі ж па нейкай прычыне сістэма пазбаўляецца згаданага механізму абнаўлення, яе рана ці позна, але чакае крах. Праўда, для некаторых сістэм абнаўленне часам уяўляецца тоесным смерці, а можа і горшым за смерць. З-за страху змяніцца, такія сістэмы стараюцца любым шляхам пазбавіцца ад усіх «нестандартных элементаў», што ў рэшце рэшт прыводзіць да вядомага выніку.

Аднак спынімся на літаратуры, а гэта, згадзіцеся, адна з найбольш складаных і дасканалых сістэм, якая бездакорна функцыянуе не адно стагоддзе. Складанасць, дасканаласць і даўгалецце вербальнага мастацтва тлумачыцца толькі наяўнасцю ў ягонай прыродзе нечага сапраўды вельмі нестандартнага, што ўадначассе і супрацьстаіць сістэме, і робіць яе працу гарманічнай. Паколькі маецца пэўнае супрацьстаянне сістэме, то зыходзіць яно павінна ад нечага, што можна акрэсліць як хаос. З іншага боку, хаос, які служыць сістэме, мусіць мець нейкую стабільнасць, а значыць, і нейкія каардынаты. Выяўленне такіх каардынат павінна дапамагчы раскрыццю няпростай логікі развіцця ўсёй сістэмы. Гэтым пытаннем і зоймемся, спрабуючы вымераць суадносіны хаатычнага і гарманічнага ў сістэме прыгожага пісьменства. Ёсць, дарэчы, тэрмін, ужываны, што праўда, найчасцей у класічнай фізіцы, — энтрапія (з грэцкай мовы ἐντροπία — паварот, пераўтварэнне), прапанаваны Рудольфам Клаўзіусам для абазначэння здольнасці энергіі да пераўтварэння*, але, мяркую, яго можна ўжыць і ў дачыненні да літаратуры. Прынамсі, філасофія гэтае паняцце выкарыстоўвае, трактуючы пераважна энтрапію як меру бязладдзя**.

---

* Энтропия // Философский словарь / под ред. И. Т. Фролова. 5-е изд. Москва, 1986. С. 567.

** Гл.: Хайтун С. Д. Трактовка энтропии как меры беспорядка и ее воздействие на современную научную картину мира // Вопросы философии. 2013. № 2. С. 62–74.

Адразу звернем увагу на такі момант: з макраскапічнага пункту гледжання вынікае, што з узрастаннем у сістэме энтрапіі змяншаецца здольнасць сістэмы да пераўтварэння*. То бок чым больш хаосу, тым менш шансаў да зменаў. Канечне, на ўвазе тут маюцца выключна фізічныя сістэмы. Але як быць з сістэмамі нефізічнымі, са «светам ідэальным», чым па сутнасці з'яўляецца літаратура? Верагодна, у дадзеным выпадку ваганне энтрапіі ў той ці іншы бок (яе ўзрастанне або спад) павінна прыводзіць да іншых скуткаў. Цалкам магчыма, што ўзрастанне энтрапіі ў нефізічнай сістэме, наадварот, прыводзіць да трансфармацыі — пераходу сістэмы ў іншы стан. Магчыма і тое, што хаос, пасля таго як дасягне сваёй максімальнай велічыні і зменіць сістэму, страціць статус хаосу, бо сам станецца сістэмай. Але ўнутры яго, былога хаосу, будзе развівацца тое, што засталося ад былой сістэмы. Яно, зразумела, будзе адрознівацца, стаяць у апазіцыі, хоць і з'яўляцца неад'емнай часткай цэлага. Гэта будзе новая форма хаосу, які таксама будзе нарастаць, каб у рэшце рэшт зноў змяніць сістэму (стацца сістэмай). І ўсё паўторыцца нанова. Дарэчы, такую гіпотэзу часткова пацвярджае гісторыя развіцця еўрапейскага вербальнага мастацтва: нельга не заўважыць чаргаванне літаратурных эпох, у якіх дамінуе то рацыянальны пачатак, то ірацыянальны, то прынцып аб'ектывізму ў адлюстраванні свету, то крайні суб'ектывізм. Так, напрыклад, антычная літаратура, нягледзячы на ўсе свае неадназначныя сувязі са старажытнымі міфамі, містыкай, магіяй і іншай рытуальнасцю, выглядала даволі рацыянальнай: у цеснай звязцы з філасофіяй, рыторыкай, палітыкай і юрыспрудэнцыяй яна служыла трывалым падмуркам інстытуту дзяржавы — хіба што самай рацыяналістычнай форме людскіх стасункаў. Дзеля гэтага, дарэчы, антычнай літаратурай і была створаная ўстойлівая сістэма жанраў, якая, у сваю чаргу, сфарміравала строгую іерархію стыляў — ад нізкіх да высокіх. І калі ўсё гэта разглядаць у святле энтрапіі (чаргавання ў сістэме бязладдзя і парадку), атрымліваецца вось што: для культуры антычнасці хаосам з'яўлялася суб'ектыўнасць, якая паступова нарастала, аж пакуль сістэма не здолела прыняць новае аблічча, вядомае нам як сярэднявечная культура і літаратура. Такую думку, між іншым, пацвярджае ў сваіх знакамітых «Дванаццаці тэзісах аб антычнай культуры» Аляксей Лосеў, вядомы расійскі філосаф і літаратуразнавец. Ён піша, што антычная культура заснавана на прынцыпе аб'ектывізму, чым кардынальна адрозніваецца ад сярэднявечнай культуры з яе абсалютызацыяй духу**.

І вось настае эпоха Сярэднявечча. Вядома, яна мае вельмі неаднародную сутнасць. Нават часавыя межы дадзенай эпохі акрэсліць цяжка, у сувязі з чым існуе цэлы шэраг самых розных яе перыядызацый. Аднак наша галоўная задача іншая — прасачыць пераход «хаосу» з другасных пазіцый на дамінантныя. Мы ўжо высветлілі, што магло з'яўляцца «хаосам» для антычнай літаратуры, а што «парадкам», правілам. Зыходзячы з гэтага не цяжка, напрыклад, зразумець схільнасць антычных творцаў адлюстроўваць пераважна свет знешні, прадметны ды, па магчымасці, не засяроджвацца на «ўнутраным жыцці» сваіх герояў. Як заўважае ўсё той жа А. Ло-

* Гл.: Энтропия // Философский словарь. С. 567.

** Гл.: Лосев А. Ф. История античной эстетики. Итоги тысячелетнего развития: в 2 кн. Москва, 2000. Кн. 1. С. 396–408.

сеў, *«гэтым антычная літаратура рэзка адрозніваецца як ад сярэднявечнай літаратуры, у аснове якой ляжыць духоўнае, спірытуалістычнае разуменне свету, так і ад літаратуры XVIII і XIX стст., пераважна прысвечанай аналізу псіхічных перажыванняў чалавека»**. Як бачым, тое, што ў антычныя часы было хутчэй выключэннем, у наступную эпоху робіцца правілам. Такім чынам, хаос, справакаваўшы пераход літаратурна-мастацкай сістэмы на новы ўзровень, сам набывае ўстойлівыя формы і адначасова пазбаўляе стабільнасці колішні лад, зводзячы яго да хаатычнага стану.

Але час не стаіць не месцы. Механізм нарастання хаосу ў сістэме мастацкага слова працуе далей, а як вынік — у Еўропе настае эпоха Адраджэння. Літаратура як бы імкнецца вярнуць сваё папярэдняе аблічча. Вядома, гэта зрабіць немагчыма, бо мастацкая сістэма не з’яўляецца нейкай замкнёнай манадай: на яе пастаянна ўплываюць іншыя сістэмы — і фізічныя, і нефізічныя, як, зрэшты, і само мастацтва, перадусім вербальнае, заўжды аказвала істотны ўплыў на развіццё навакольнага свету. Між тым шэраг запамінальных рыс антычнай культуры амаль у нязменным выглядзе праяўляюцца на абліччы постсярэднявечнага еўрапейскага пісьменства, пра што сведчыць і сама назва новай эпохі. Сярод іх — антрапацэнтрызм, свецкасць, схільнасць да рэалістычнасці ў адлюстраванні свету і некаторыя іншыя рысы.

Вядома, мы разважаем пра літаратуру Еўропы як пра сукупнасць роднасных мастацка-эстэтычных элементаў, уласцівых для ўсіх нацыянальных еўрапейскіх літаратур. Можна, канечне, паспрачацца наконт наяўнасці непасрэдных сувязей літаратур славянскіх або скандынаўскіх з культурай Старажытных Грэцыі і Рыма. Затое ніхто не будзе спрачацца з тым фактам, што першакрыніцамі кожнай літаратуры з’яўляюцца міфалогія і фальклор. А гэта значыць, можна назіраць за энтрапіяй у асобна ўзятай нацыянальнай сістэме мастацкага слова, пачынаючы з дапісьмовых часоў. І тады мы ўбачым наступную карціну: асобныя лакальныя мастацкія сістэмы як бы адразу з «фальклорнага» стану пераскокваюць у еўрапейскі Рэнесанс. Вобразна кажучы, яны нібы цягнікі, шлях якіх не пралягае праз станцыю «Антычнасць». Яна застаецца недзе збоку, але пасажыры могуць бачыць яе. Тое самае можна сказаць і пра станцыю «Сярэднявечча». Нехта доўга стаіць на ёй, а нехта пралятае побач, не спыняючыся. Так, напрыклад, шлях «цягніка» нашай беларускай мастацкай сістэмы лёг уводдалі «Антычнасці», ды і на «Сярэднявеччы» таксама доўга не стаяў. Таму і не так шмат мы маем сярэднявечных аўтараў, хоць, вядома, тыя, якія ёсць, — яркія, самабытныя, арыгінальныя творцы. У святле «тэорыі нарастання хаосу» дадзеная эпоха фактычна зліваецца з эпохай далітаратурнай (зыходнай станцыяй адпраўлення) — у іх той самы хаос і той самы лад. Хутчэй за ўсё, менавіта па гэтай прычыне на беларускіх (славянскіх) землях хрысціянства не здолела выцесніць многія язычніцкія традыцыі, а таму ўтварыла з імі пэўны сінтэз.

Але вернемся да эпохі Адраджэння. Дакладней, да сістэмы мастацкай літаратуры ў гэты час і да суадносінаў ладу і бязладдзя ў яе межах. Гісторыкі літаратуры сведчаць, што на вялізных абшарах Еўропы існавалі розныя варыянты Рэнесансу. Нельга

---

* Лосеў А. Ф. Античная литература [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://antique-lit.niv.ru/antique-lit/losev/zaklyuchenie.htm. Дата доступа: 14.08.2015..

з імі не пагадзіцца. З іншага ж боку, усе гэтыя варыянты мелі шмат тыпалагічных сыходжанняў, але ў той самы час кожны меў сваю ўласную меру гармоніі і меру хаосу. У гэтым іх асноўнае адрозненне. Агульныя дамінантныя рысы рэнесанснай культуры мы назвалі, прычым для нас не важна, адкуль яны прыйшлі — ад старажытных грэкаў і рымлянаў ці ўвогуле з іншай планеты. Важна, што згаданыя рысы — антрапацэнтрызм, свецкасць, схільнасць да рэалізму і іншыя элементы — былі некалі хаосам, а цяпер сарганізавалі лад сістэмы. У сваю чаргу, хаосам для мастацкай сістэмы эпохі Адраджэння сталася трагічнае светаадчуванне многіх творцаў, якія разумелі (адчувалі) недасканаласць гуманістычных ідэалаў. Як заўжды, хваля хаосу паступова нарастала (на розных нацыянальных адрэзках, зразумела, з рознай інтэнсіўнасцю), каб нарэшце сістэма трансфармавалася ў тое, што мы завём барока.

Не лішне для нагляднасці звярнуць увагу на каго-небудзь з прадстаўнікоў айчыннага Адраджэння (чужы прыклад, думаю, заўсёды здольны выклікаць больш сумневаў), каб яшчэ раз пазнаць у новым абрысы старога, падзівіцца на стоены хаос і гатоўнасць «бязладдзя» змяніць сістэму. Ёсць, напрыклад, сярод нашых паэтаўгуманістаў цікавы аўтар Мікола Гусоўскі. Кожны ведае ягоны твор «Песню пра зубра». Хочацца тут згадаць словы прафесара Уладзіміра Калесніка, які вельмі трапна выказаўся пра вобразы апавядальніка і ўяўнага чытача згаданай паэмы: *«У нашым выпадку апавядальнік і слухач — людзі далёкіх краін, прадстаўнікі розных культур і мастацкіх традыцый. Каб зразумець адзін аднаго, ім трэба дамовіцца, прыняць нейкія агульныя прынцыпы зносін. Гусоўскі прапануе пакласці ў аснову паэтычных зносін праўду і сэнсоўнасць — прынцып рэалістычны, рэнесансавы»**. Слушныя словы. Яны пацвярджаюць агульную прыроду ўсёй еўрапейскай сістэмы мастацкага слова. Праўда і сэнсоўнасць, такім чынам, і будуць першаасновай ладу, які кіраваў сістэмай у часы Адраджэння. Цяпер пра хаос у сістэме — трагічнасць светаадчування. У «Песні пра зубра» гэтая трагічнасць іскрыць скразным матывам, асабліва калі паэт раскрывае тэму палявання, паказваючы «*тую мяжу, што ператварае акт змагання за жыццё ў акт знішчэння гэтага самага жыцця»***. Акрамя таго, не забывайма, што актуальны хаос у папярэдняй сваёй рэінкарнацыі быў ладам. Гэта значыць, што цалкам рэнесансны твор М. Гусоўскага павінен утрымліваць і пэўныя адгалоскі папярэдняй эпохі. Пра гэта гаворыць і У. Калеснік: *«“Песня пра зубра” захавала стылёвы каларыт вуснага расказу-гутаркі, адрасаванага слухачу. У стылі паэмы ёсць шмат чаго ад гутарковай жывасці казак, былін і дружынных прамоў з іх шчырай прастатою і непасрэднасцю зносін. Можна лічыць гэту размоўнасць адгалоскам сярэдневяковай літаратуры, дзе творы звычайна разлічваліся на вуснае чытанне і калектыўнае праслухоўванне»****.

Як бачым, адзін з найбольш паказальных твораў беларускага Адраджэння мае цесную сувязь з папярэдняй эпохай, а таксама ўтрымлівае ў сабе жывое зерне хаосу, з якога вырасце лад наступнага варыянту сістэмы. Зрэшты, можна прасачыць, як тое

---

* Калеснік У. Зорны спеў. Літаратурныя партрэты, нарысы, эцюды. Мінск, 1975. С. 91.

** Тарасава С. М. Матыў палявання ў творах беларускіх пісьменнікаў паэмнага жанру // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: зб. навук. артыкулаў / рэдкал.: У. І. Каяла, І .В. Жук. Гродна, 2009. С. 363.

*** Калеснік У. Зорны спеў. С. 90.

«зерне хаосу» расце ўнутры ўласнай сістэмы асобнага пісьменніка (у нашым выпадку — М. Гусоўскага). Гісторыкі літаратуры ў такім выпадку кажуць пра эвалюцыю творчасці. Вось што, напрыклад, піша Сяргей Кавалёў: *«Эвалюцыю творчасці Мікалая Гусоўскага можна акрэсліць наступным чынам: ад гуманістычнай, пераважна свецкай паэмы "Песня пра зубра" да рэлігійных, вытрыманых цалкам у каталіцкім духу вершаў "Заахвочанне пастараў да апекі над Гасподняй паствай" і "Пад выяваю ўкрыжаванага Хрыста". Мікалай Гусоўскі рухаўся ў кірунку ад літаратуры да тэалогіі, хрысціянскі мараліст перамог у ім свецкага паэта-філосафа»**.

Ёсць яшчэ адзін наш цікавы рэнесансны аўтар — Ян Каханоўскі (наш, бо прадстаўнік Рэчы Паспалітай, агульнай дзяржавы для многіх народаў, у тым ліку і беларусаў). На прыкладзе спадчыны гэтага пісьменніка таксама прасочваецца шлях ад папярэдніх літаратурных эпох у наступныя пасля Адраджэння. Гісторыкі літаратуры, дарэчы, заўсёды стараюцца адшукаць такія стасункі — сувязі таго ці іншага творцы з яго папярэднікамі і спадкаемцамі. Мы ж, даследуючы энтрапію ў сістэме мастацкага слова, спрабуем убачыць прычыну ўзнікнення такога кшталту пераемнасці. Што да Я. Каханоўскага, то ў аснове яго мастацтва таксама ляжыць праўда і сэнсоўнасць — у гэтым ён падобны і да М. Гусоўскага, і да многіх іншых прадстаўнікоў сваёй эпохі. Такія прынцыпы не дазвалялі рэнесанснаму творцу адмоўчвацца, калі яму нешта не падабалася, альбо апранаць свой пратэст у шаты абстрактнай іншасказальнасці. У якасці прыкладу можна прывесці паэмы Я. Каханоўскага «Згода» і «Сатыр, або Дзікі Муж», у якіх смела крытыкуецца як знешняя, так і ўнутраная палітыка Рэчы Паспалітай. Цікава, што, крытыкуючы няўдала абраныя дзяржавай шляхі развіцця грамадскай супольнасці, паэт пры гэтым сам служыў пры двары і пэўны час нават быў каралеўскім сакратаром. Гэта сведчыць перадусім пра знітаванасць літаратурна-мастацкай сістэмы з грамадска-палітычнай. Так, зрэшты, было раней — у Антычнасці. Мы пра гэта казалі вышэй. Вядома, наш цягнік, не мог спыніцца на той станцыі, але яе агні былі нам бачныя, а іх водблеск асвяціў нашае Адраджэнне. Менавіта таму ў творах Я. Каханоўскага знаходзім мноства вобразаў і матываў, звязаных са старажытнай грэцкай і рымскай міфалогіяй, літаратурай і філасофіяй. Згадаем хоць бы знакамітыя «Трэны», напісаныя на заўчасную смерць дачкі Уршулі. Знешняя канструкцыя «Трэнаў» цалкам рэнесансная. Акрамя таго, ледзь не кожная фраза тут адсылае чытача ў кантэкст антычнай культуры. Ды і сам жанр «Трэнаў» узыходзіць да старажытнагрэцкага трэнасу — пахавальнай песні з аплакваннем і ўсхваленнем памерлых герояў. Але што мы маем? Паэт робіць героем не ваяра ці каралеўскую асобу, як вялося і ў антычнай, і ў рэнесанснай традыцыі, а малую дзяўчынку. А далей пад цяжарам асабістай трагедыі аўтара на вачах разбураюцца ўсе вядомыя каноны рэнесанснай культуры, эстэтыкі, філасофіі і іх увасабленне ў мастацкім слове. Перш за ўсё рассыпаецца традыцыйнае перакананне ў існаванні разумнага, справядлівага парадку рэчаў — тагачаснай логікі свету. Толькі ў апошнім, дзевятнаццатым трэне, паэт (герой-апавядальнік) паступова вяртаецца ў рэчышча рэнесанснага светапогля-

---

* Кавалёў С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу. Мінск, 2010. С. 79.

ду, і на старонках, густа акропленых слязьмі адчаю, раптам узнікаюць цвяроза-разважлівыя радкі:

Ні скрусе, ні журбе не варта паддавацца,
Мы розумам сваім павінны кіравацца,
Разважлівымі быць, інакш не апануем
Ні гора, ні сябе ў хвіліну вельмі злую*.

*(пераклад наш. — А. Б.)*

Гэтыя словы прамаўляе маці аўтара (героя-апавядальніка), якая да яго прыходзіць… у сне. Такі прыём — калі да героя нехта прыходзіць у сне з просьбай, з навукай ці па любой іншай прычыне — як вядома, шырока выкарыстоўваўся ў агіяграфічнай літаратуры, а таксама ў вуснай народнай творчасці. Ва ўсім гэтым нам бачыцца працэс нарастання ў сістэме хаосу адгалоскаў Сярэднявечча, народна-песенных традыцый (галашэнняў) і спроба выйсця карабля паэзіі ў барочны фарватар. Такім чынам, «Трэны» Я. Кахановўскага — яшчэ адно яскравае сведчанне нестабільнасці мастацкай сістэмы, пастаяннага змагання ўнутры яе супрацьлеглых пачаткаў. У дадзеным выпадку назіраем барацьбу рацыянальнасці і аб’ектыўнасці з ірацыянальнасцю і суб’ектыўнасцю. Дзякуючы згаданай нестабільнасці і барацьбе супрацьлегласцей рэнесансная сістэма паступова перарастае ў барочную. Таму не дзіва, што прадстаўнікі барока многае пераймаюць ад сваіх папярэднікаў — прадстаўнікоў Адраджэння. Напрыклад, той жа Я. Кахановўскі істотна паўплываў на станаўленне нашай барочнай літаратуры, будучы неаспрэчным аўтарытэтам для Сімяона Полацкага. На гэты факт звярнулі ўвагу такія даследчыкі, як Іван Ралько**, Адам Мальдзіс***, Уладзімір Мархель**** і некаторыя іншыя гісторыкі літаратуры.

Зразумела, творчасць Я. Кахановўскага мела яшчэ большы ўплыў на прадстаўнікоў той мастацкай традыцыі, якая прыйшла на змену літаратуры барока — гэта значыць, на пісьменнікаў эпохі Асветніцтва. Прычына ўсё тая ж — чаргаванне хаосу і ладу, якія становяцца то дамінантай, то нечым другасным. Сярод спадкаемцаў аўтара «Трэнаў», а дакладней, уладальнікаў падобнай з Я. Кахановўскім творчай свядомасці і збалансаванасці ў ёй хаатычнасці і гармоніі, можна назваць такіх цікавых літаратараў, ураджэнцаў Беларусі, як Францішак Дыянізы Князьнін і Юзаф Маралёўскі. Творчасць абодвух паэтаў (мала даследаваная, на жаль, айчыннымі літаратуразнаўцамі) яскрава сведчыць пра наяўнасць у сістэме мастацкага слова тых працэсаў, якія мы называем узрастаннем энтрапіі. Напрыклад, назіраючы за паэзіяй і драматургіяй Ф. Д. Князьніна, можна ўбачыць, як лад папярэдняй эпохі гасне, ператвараючыся ў хаос (познебарочныя тэндэнцыі (ракако) згадваюцца на раннім этапе творчасці пісьменніка), але раптам зноў успыхвае, паступова робячы з паслядоўніка Анакрэонта,

* Кахановўскі Я. Трэны // Тэрмапілы. 2010. № 14. С. 302.
** Гл.: Ралько І. Д. Беларускі верш. Старонкі гісторыі і тэорыі. Мінск, 1969. С. 37.
*** Гл.: Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мінск, 1980. С. 54.
**** Гл.: Мархель У. І. Ян Кахановўскі ў Беларусі (XVI–XIX стст.) // Весці АН БССР. 1985. № 3. С. 98.

Гарацыя і Я. Каханоўскага* прыхільніка сентыменталізму. Калі ж назіраць за рухам паэзіі Ю. Маралёўскага, які меў «*рознабаковую сувязь з ідэалізаваным вобразам Каханоўскага, з яго вершаванай спадчынай»***, то таксама можна ўбачыць нарастанне хаосу, а як вынік гэтага — наяўнасць вершаў у духу перадрамантызму. Вось што піша на гэты конт У. Мархель: *«Творчасць Маралёўскага выяўляла характэрныя рысы літаратуры ў часы пераходу ад класіцызму да рамантызму. Адначасова з класіцыстычнымі трэнамі, элегіямі, эпіграмамі, панегірыкамі, наследаваннямі Гарацыю пісаў у перадрамантычным стылі лірычныя песні, у якіх з агульнагуманістычных і хрысціянскіх пазіцый разважаў пра выхаваўчае значэнне паэзіі, выказваў замілаванне да прыроды і роднага краю»****.

Наступнае аблічча сістэмы вербальнага мастацтва — рамантызм. На гэтым этапе таксама адбываецца нібыта вяртанне літаратуры да мінулых традыцый, хоць насамрэч маем усяго толькі падобныя формы ўзаемадзеяння паміж хаосам і гармоніяй, якія назіраліся раней — у барочныя часы, часы Сярэднявечча і ў дапісьмовы перыяд мастацкага слова. Таму і чэрпалі рамантыкі натхненне з фальклорных крыніц, таму і лічылі, што *«Сярэднія вякі — час адзінства мастацтва і жыцця, аднолькава адухоўленых рэлігійным пачуццём»*****, таму і захапляліся выкшталцонасцю барочных формаў.

Калі хваля рамантызму, якая пракацілася не толькі па еўрапейскай вербальнай прасторы, але накрыла і другія культуры, пачала паступова спадаць, правакуючы актывізацыю разрозненых, бязладных рацыянальных ідэй (чарговае нарастанне хаосу ўнутры сістэмы), літаратура зноў кінулася адраджаць свае рэалістычныя формы. Вядома, аблічча ўсёй сістэмы пісьменства нельга ні ў якім разе атаясамліваць з асобна ўзятым мастацкім кірункам, аднак фактам застаецца тая акалічнасць, што крытычны рэалізм, які прыйшоў на змену рамантызму, так бы мовіць, задаў тон сістэме. Згадаем таксама, што крытычны рэалізм — трэцяя гістарычная форма рэалізму. Дзве ж папярэднія формы (асветніцкі рэалізм і рэнесансны рэалізм) найбольш ярка праявіліся ў «дарамантычныя» і «дабарочныя» часы, што выглядае цалкам заканамерна ў святле тэорыі энтрапіі — чаргавання хаосу і ладу. Гэтаксама заканамерным будзе і ўзнікненне мастацтва сімвалізму, а пазней і іншых мадэрнісцкіх плыней ды кірункаў, якія пачалі актыўны наступ на крытычны рэалізм. Усе яны вельмі раскошна праяўляліся ў большасці еўрапейскіх нацыянальных варыянтах вербальнага мастацтва. Аж не настала чарговая ратацыя ладу і бязладдзя ўнутры сістэмы, што прывяло да ўзнікнення ў адных літаратурах такога дзіўнага феномену, як сацыялістычны рэалізм, а ў іншых трохі пазней не менш дзіўнага постмадэрнізму. Дзіўнымі гэтыя аблічча сістэмы слова падаюцца вось чаму: неверагодна цяжка, амаль немагчыма

---

* Гл.: Fieguth R. Intertekstualność i kompozycja cykliczna. Anakreont, Horacy i Kochanowski w Erotykach F. D. Kniaźnina. URL: http://www.mzk.al.uw.edu.pl/kniaznin.pdf (odczyt 23.08.2015).

** Мархель У. І. Ян Каханоўскі ў Беларусі (XVI–XIX стст.). С. 99.

*** Мархель У. Маралёўскі Юзаф // Беларуская энцыклапедыя: у 18 тамах. Мінск, 2000. Т. 1. С. 104.

**** Бердичевский А. М. История зарубежной литературы: средние века, возрождение [Электронный ресурс]. URL: http://sfedu.ru/lib1/filolog/520600/m4_520600.htm (дата обращения 30.08.2015).

вызначыць унутры іх суадносіны паміж хаатычным і гарманічным пачаткамі. Выглядае на тое, што ўпершыню за шматвяковую гісторыю чаргавання хаосу і ладу два складнікі, традыцыйна мяняючыся месцамі, раптам узялі і зліліся ў адно цэлае. Калі гэта сапраўды так, то, значыць, сістэма мастацкага слова аджыла сваё і мы з’яўляемся сведкамі канца эпохі прыгожага пісьменства. З іншага боку, пераход хаосу ў стан гармоніі можа працягвацца даволі доўга і быць незаўважным для людзей, якія жывуць ў гэты перыяд. Калі так, то наперадзе нас чакае новае аблічча сістэмы слова. Слова, безумоўна, будзе мець свае адметныя рысы, але ўважлівы яго пашаноўнік заўважыць у ім прысутнасць папярэдніх абліччаў — глыбіню мадэрнізму, узнёсласць рамантызму, непрадказальнасць барока, таямнічасць Сярэднявечча і мілагучнасць фальклорных традыцый.






паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гродне. У 1999 годзе скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі згаданага ўніверсітэта. У 2004 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Адама Міцкевіча. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (Гродна, 1992), «Падаю ў неба» (Гродна, 2006), «Апошні дзень» (Мінск, 2013), літаратуразнаўчай працы «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (Гродна, 2008). Жыве і працуе ў родным горадзе. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.



# Публікацыі

## Сяргей Астравец

### Апавяданне Быкава пра Быкава і Карпюка

Аляксей Карпюк быў у Гродне вельмі заўважным чалавекам. Чалавекам каларытным. І адзіным, па сутнасці, празаікам. Даволі буйным, па беларускіх мерках. Гаворка пра канец 1980-х. Пра часы перабудовы, калі нарэшце дазволілі гаварыць і друкаваць. І ён гэтым скарыстаўся. Чалавек быў азартны, самастойны ў думках. Пачаў пісаць — як усё было. Калі прыйшлі Саветы ў 1939-м, ды як пасля вайны «парадкі» наводзіліся, як заганялі ў калгасы.

На той час пасада Карпюка нешта значыла — старшыня абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў. Ён прыносіў свае тэксты ў абласную газету «Гродзенская праўда», і рэдактар іх друкаваў, хоць любіў нагадаць на планёрцы, што ён «кандыдат у члены абкама партыі». А якраз Карпюку ў той час на гарадскіх партканферэнцыях даставалася за крытыку савецкай улады. І ад празмерна актыўных «ветэранаў вайны і працы». Я працаваў тады ў рэдакцыі абласной газеты, і ўсё гэта адбывалася на маіх вачах.

Чаму Карпюка друкавалі? Таму што ён быў вядомым пісьменнікам, меў аўтарытэт. І таму, што яго тэксты былі звычайна цвіком нумара.

Нечакана пра падзеі тых дзён нагадала сёння апавяданне Васіля Быкава, знойдзенае ў пісьменніцкім архіве. Яго надрукаваў пад назвай «У тую вясну…» часопіс «Дзеяслоў». Быкаў пісаў яго ў 1989 годзе, але не закончыў.

Пачатак твора, зрэшты, не зацягвае адразу. Герой быў у камандзіроўцы, захварэў, трапіў на два тыдні ў бальніцу, а пазней яму «мясцкам» «выбіў у аблсаўпрафе пуцёўку ў адзін з мінскіх беларускіх санаторыяў». Першая думка: якія яшчэ могуць быць мінскія санаторыі? Але спакваля Быкаў уцягвае сваім звычайным нібы аповедам, таму што змест выклікае цікавасць.

У санаторый жонка прывозіць яму апошнія нумары «Гродзенскай праўды». Што праўда, змест даволі нудны (за дзесяць год не памяняўся!): нарада ў абкаме, пастанова аблвыканкама наконт падрыхтоўкі да жніва. Але змены ўсё-ткі ёсць. На вочы трапляе новы крытычны тэкст Карпюка. Пра пасляваенную калектывізацыю на Гродзеншчыне. Расказчык чытае яго ў чарзе на працэдуры. Побач сядае незнаёмы чалавек, просіць газету. І пачынаецца знаёмства.

Тэксты, якія друкаваў тады Карпюк у «Гродзенскай праўдзе», пазней выйшлі пад агульнай назвай «Развітанне з ілюзіямі». Аб чым ён пісаў? Напрыклад, пра нейкага таварыша Чыркова: праштрафіўся ў НКВД, паслалі ўмацоўваць ідэалагічныя кадры ў

педінстытуце. Пісьменнік не шкадуе адмоўных слоў: Чыркоў быў абмежаваны, але самаўпэўнены, у нячышчаных ботах са стаптанымі абцасамі. А Карпюк вучыўся на аддзяленні ангельскай мовы. Выкладчыцы былі добрыя, асабліва ён вылучаў Фаіну Квяткоўскую, што закончыла ўніверсітэты ў Львове і ў Шанхаі.

Часы былі сталінскія, канец 1940-х. Чыркоў кінуўся выкрываць «схаваных ворагаў». Сталін вучыў, што яны не абавязкова «з агідным фізіяноміяй, з вялікімі зубамі», вось вам іншы тып — прыемная кабета, інтэлігентка! І зрабіў сваю справу: адразу дзвюх лепшых выкладчыц звольнілі, загадаўшы пакінуць прыгранічны горад за 24 гадзіны. А ў кабінеце англійскай мовы пазнішчалі плакаты.

Вось яшчэ адзін карпюкоўскі загаловак: «Класічны сталініст» і наступны — «Начны хапун». Ва ўніверсітэце знялі любімага студэнтамі рэктара Уласаўца, замяніўшы «п’яніцай і нікчэмнасцю». Арыштавалі пяць студэнтаў, затым яшчэ чатыры і выкладчыка Гайдучыка. А потым яшчэ некалькі чалавек, прозвішчаў якіх Карпюк не запомніў. Усіх абвінавацілі ў антыкалгаснай прапагандзе. Плюс для кожнага знайшлося індывідуальнае абвінавачанне. Адзін выключыў у інтэрнацкім пакоі радыёкропку, калі зайграў «Інтэрнацыянал», другі прызнаўся ў любові да замежнай акардэоннай музыкі, далі дзесяць год. Іншы пажартаваў на суботніку: ну вы, хлопцы, працуеце, як стаханаўцы!

Некалькі дзясяткаў проста выключылі з інстытута, што былі дзецьмі «ворагаў народа», а не сказалі. Але ім пашанцавала, што не пасадзілі.

У апавяданні Быкава высвятляецца, што новы знаёмы расказчыка ведае пра Карпюка ўсё. Бо ён учорашні супрацоўнік КДБ. Спачатку трапіў на службу ў Сапоцкін, куды паслалі пасля педінстытута на працу Карпюка, затым ужо ў Гродне пільна сачыў за яго творчасцю і жыццём: творы не проста прачытаў, «амаль з алоўкам праштудзіраваў. Кожнае слова». Якраз за Карпюка зноў узяліся, хоць быў гарбачоўскі час «публічнасці і галоснасці», зноў прыціснуць хацелі. Расказчык адчуваў, што новаму знаёмцу хочацца нешта сказаць аб гэтым, як пачала раскручвацца новая справа супраць гродзенскага пісьменніка. Але агонь унутры былога кадэбіста хіба патух. Ён прызнаецца, што хварэе на рак, але лячэнне не дапамагае. І ў вачах чытача ён робіцца сам пацярпелым бокам.

Расказчык спрабуе ўраўнаважыць сітуацыю: «Карпюк таксама штосьці занямог. Ляжаў у бальніцы». Але чуе ў адказ: «Карпюка чорт не возьме. Здаровы, як бык! А што не п’е, не курыць… Ну, можа, трошкі з нервамі непарадак».

Запал у былога чэкіста супраць Карпюка яшчэ не прапаў, ён яшчэ выкрывае пісьменніка ў размове з выпадковым знаёмым па санаторыі. Але паступова пераходзіць з Карпюка на Быкава, які таксама «органам» не здаваўся надзейным чалавекам. І тут унутры апавядання паяўляецца сам Быкаў. Ён прыдумаў сабе даволі нечаканую ролю «публікатара» занатаванай са слоў расказчыка гісторыі.

Першы расказ публікатара датычыць супольнага выпадку з Карпюком. Карпюк загадваў агенцтвам «Інтурыст» на гродзенскім чыгуначным вакзале. Аднойчы памежнікі «знялі з цягніка» аднаго ўдзельніка італьянскай турыстычнай групы, што вярталася з Ленінграда. У яго не было дакументаў. Праз некалькі дзён скрадзены ў Ленінградзе пашпарт знойдуць. А пакуль апекавацца замежнікам давялося Кар-

пюку. Ён паклікаў і Быкава. І Быкаву ўдалося запісаць ад яго патрэбныя выразы для сваёй італьянкі з «Альпійскай балады».

Так, пачаўшы з Карпюка, Быкаў паступова перайшоў да аповеду аб тым, як цкавалі яго самога. І засяродзіўся на гэтым. Аднак не закончыў апавяданне, у якое была ўкладзена праца пісьменніка. Як гэта бывае: не ўдалося адразу закончыць, а потым з'явіліся іншыя творчыя задумы, і жыццё не стаяла на месцы…

Напэўна, пазней Васіль Быкаў адчуў, што ўжо не зможа закончыць апавяданне так, як яму магло бачыцца спачатку. Праз тры гады Аляксей Карпюк памёр, у яго быў рак. А ў 2003-м не стала самога Васіля Быкава: таксама рак.

Рэальным публікатарам тэксту стала ўдава пісьменніка, Ірына Быкава, якая перадала знойдзены тэкст у рэдакцыю «Дзеяслова». «У тую вясну…» — прыклад таго, як пісьменнік ператварае жывую рэчаіснасць у мастацкую, дзейнічаючы нібы на мяжы жыцця і літаратуры.

## 486 лістоў да беларускай эміграцыі

Чытанне лістоў, тым больш калі іх амаль пяць соцень, бывае даволі аднастайнай справай. Але таксама пачынаеш адчуваць, што іх змест выбудоўваецца ў гісторыю. Гісторыю беларуса і беларусаў на чужыне, з заходняга боку ад жалезнай заслоны.

Адзін з вядомых дзеячаў пасляваеннай эміграцыі, супрацоўнік Радыё «Вызваленне» / Радыё «Свабода» Янка Запруднік выдаў пад адной вокладкай збор сваёй карэспандэнцыі 1950-х гадоў. Гэта супольнае выданне Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку і Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Аўтар зрабіў проста: друкаваў лісты на машынцы ў двух асобніках.

Большая частка напісана ў Мюнхене, дзе Янка Запруднік працаваў на радыё, якое пачаткова мела назву «Вызваленне», займаўся адначасова выпускам вядомай газеты «Бацькаўшчына» і марыў пра дысертацыю. Паступова вымалёўваецца вобраз чалавека, які сам сябе зрабіў. Адчуваеш, як складана было апынуцца ў сямнаццаць год уцекачом, закончыць у лагеры ў пасляваеннай Нямеччыне беларускую гімназію, затым працаваць у шахце ў Англіі, каб зарабіць на жыццё, на вучобу. Універсітэт у Бельгіі, у Лювэне. Нарэшце Мюнхен.

Міжволі параўноўваеш. Вось некалькі дзясяткаў хлопцаў і дзяўчат, якія стварылі ў Лювэне беларускую суполку. Большасць здолела закончыць універсітэт, але не ўсе. Адны засталіся ў Еўропе, іншыя падаліся за акіян, пераважна ў ЗША, асабліва студэнты і рабочыя з Бельгіі. А каго чакала Канада і нават Аўстралія. Па лістах адчуваецца, што існавала боязь, каб СССР не запатрабаваў вярнуць тых, хто ўцёк у 1944-м. У Штатах ці ў Аўстраліі, зразумела, можна было адчуваць сябе больш надзейна. Янка Запруднік, як вядома, меў іншае імя і прозвішча — Сяргей Вільчыцкі (паходзіў з Міра). Змяніў іх у 1946-м, каб быць менш заўважным. Там зрабіў не ён адзін. У 1955-м ён піша сябрам і знаёмым, што хоча атрымаць магчымасць пераехаць у ЗША. І хацеў бы па-ранейшаму працаваць на радыё, але гэта — як атрымаецца.

Праўда, размовы сярод астатняй моладзі ўзнікаюць і аб пераездзе ў Іспанію ці Партугалію, і нават у Афрыку.

У 1953-м Запруднік наведаў землякоў у Штатах: «Усіх знаёмых тут цяжка пералічыць. Жывуць усе добра — не раўня нам, еўрапейцам», напісаў ён Юзэфе Брэчцы ў Мюнхен.

Нам сёння вядома таксама аб дзясятках іншых, хто застаўся ў Беларусі, у канцы вайны ўступіў у Саюз беларускай моладзі. А пазней — у падпольныя патрыятычныя арганізацыі. І былі засуджаныя часта на дваццаць пяць год ГУЛАГу. Беларуская патрыятычная моладзь на Захадзе, зразумела, пазбегла такога лёсу. Былі свае цяжкасці, свае страхі. Але не было рэальнай небяспекі апынуцца за кратамі, у становішчы раба ў лагеры. Не ва ўсіх ўсё складалася ўдала, некаторыя з пачаткам антысталінскай адлігі пры Хрушчову спакусіліся на заклікі вярнуцца ў БССР. Мянялі часам Лондан на Мінск. Запруднік аб іх успамінае.

А паасобныя раней рашыліся трапіць на радзіму на парашуце. Іх чакаў ГУЛАГ. Ёсць у кнізе згадка аб кнізе «Б-52» (1957), выдадзенай у Маскве, дзе «савецкая версія аперацыі з чатырма беларуска-амерыканскімі парашутыстамі, закінутымі ў Беларусь», адным з якіх быў Міхась (Цімох) Вострыкаў, піша аўтар. У кнізе ёсць здымак Вострыкава 1949 года: паглядны, інтэлігентны твар. У лісце да Барыса Рагулі аўтар пытаецца: ці чытаў той у «Звяздзе» «Паслядовічаву “Дакументальную аповесць” пра Філістовіча?» Аднаго з тых парашутыстаў.

Радасць выклікае выпадкова знойдзеная ў Парыжы кнігарня з выданнямі з СССР, дзе беларускія кніжкі можна купіць найтанней! У кнігарні паабяцалі выпісаць каталогі мінскіх выдавецтваў, калі Запруднік забяспечыць пакупку ўсіх наяўных беларускіх кніжак па пяць асобнікаў. Тут жа святары Гарошка і Сіповіч паабяцалі, што возьмуць па адным. Між іншым, калі першы з іх даслаў пачку з савецкімі кніжкамі ў ЗША, амерыканская мытня яе сканфіскавала.

Удаецца таксама выпісваць і чытаць мінскую прэсу, знаёміцца таксама з прапагандысцкай і палітычнай літаратурай, «бо толькі там можна глыбейшую плыню падсавецкага жыцця». Аўтар усведамляе, што на радыё трэба пазбягаць мовы часопіса «Конадні» і вершаў Юхнаўца, бо, звяртаючыся да савецкіх беларусаў, трэба зважаць на мову літаратуры БССР, якою больш-менш карыстаецца інтэлігенцыя і «якая часта здзіўляе сваім багаццем». Беларускія газеты прыходзілі, дарэчы, з трохдзённым спазненнем. Вялікую цікавасць выклікае з’яўленне гімна «Мы — беларусы» і хочацца атрымаць Канстытуцыю БССР. А вось «Советскую культуру» ён залічвае да газетнай макулатуры.

Захапленне выклікаў выхад у Беластоку новай газеты «Ніва». Сталі абменьвацца з ёю нумарамі «Бацькаўшчыны». З «Нівы» папрасілі даслаць новы літаратурны альманах «Ля чужых берагоў». І ў «Ніве» з’явілася новая рубрыка «З беларускага жыцця на эміграцыі»!

У лісце да Наталлі Арсенневай (1955) Янка Запруднік паведамляе, што ўкраінцы атрымалі з бацькаўшчыны ліст, з якога можна ясна зразумець, што перадачы слухаюць. А што ў самім Мюнхене? Бывае, ён наракае то на моцны холад, то ў іншы час на працяглыя дажджы. Клімат яму зусім не падабаецца. Аднойчы былі такія страшныя маразы, што нават вуха крыху адмарозіў, напісаў ён аднойчы Янку Жучку ў Лювэн.

Кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё Вінцэнт Жук-Грышкевіч працягла хварэе, аб чым не раз піша знаёмым Запруднік. Аказваецца, Янка Ліманоўскі самастойна да-

мовіўся з амерыканцамі, што зойме ягоную пасаду. Што выклікала дрэнную рэакцыю ў беларускім асяроддзі: ён не ўзгадніў з Радай БНР! Таму наступным кіраўніком мае стаць Уладзімір Дудзіцкі (Гіцкі), прыезду якога з Венесуэлы на радыё будуць даволі доўга чакаць, калі той уладзіць усе паперы. І што калі прыедзе, то «рэдакцыя будзе складацца амаль што з паэтаў», піша аўтар.

Даволі цікавы запіс, зважаючы на сённяшнія беларускія рэаліі: Запруднік піша ў Лондан Аляксандру Лашуку (1955) пра кіраўніка Рады БНР Міколу Абрамчыка — «у нашага Прэзідэнта радзіўся сын — будзем мець наступніка»…

Нечакана радкі пра «апаратуру», самагонны апарат, якім беларусы карысталіся нават у Мюнхене. Запруднік просіць прывезці яго, каб нешта «выціснуць» на месцы. Нагода: з раддома вярнулася жонка з дачкой. Дапамагчы прыязджала цешча, піша бацька Барысу Рагулю: «Выціснула, брат, такой сівухі, што трымайся. Так што хрэсьбіны будуць вытрыманы ў поўнай традыцыі!» І ўдакладняе Вітаўту Кіпелю, што хрэсьбіны адгуляў «пад самагоначку» і ўсім хапіла.

Цікавая згадка ў адным з лістоў (1955) аб навуковай канферэнцыі ў Жэневе, што была прысвечаная атамнай энергетыцы. Прадстаўнікоў Украіны не было, а з Беларусі — два навукоўцы з дакладамі. Запруднік надае гэтаму факту вялікую ўвагу, «бо такія весткі маюць вялікае псіхалагічнае значэнне, выкарэньваючы сабой рознага роду комплексы», паколькі ў Беларусі праводзяцца доследы нават у галіне атамнай энергіі. І аб гэтым неабходна напісаць у «Бацькаўшчыне», зазначае ён.

У 1956-м даклад аб кульце асобы — пра Сталіна, але таксама — савецкія танкі супраць паўстання ў Венгрыі. Аб гэтым паведамляе беларуская рэдакцыя, даводзіцца працаваць нават уначы, каб даваць свежыя навіны. Узнікаюць міжволі думкі: а раптам у Еўропе здарыцца «міжнародны закалот»? Трэба падбаць, каб захаваліся гадавікі «Бацькаўшчыны», архівы, кніжкі, выказвае ў адным з лістоў занепакоенасць Янка Запруднік.

Кузьма Кісялёў выступіў у ААН «супраць радыё “Вызваленне”», піша Янка Запруднік і робіць выснову: «Гэта неблагі довад, што нас там не толькі чуюць, але й слухаюць».

З Аўстраліі яму напісаў Мікола Нікан, што рабіліся спробы кантактаваць з беларускімі спартоўцамі, што выступалі на Алімпіядзе ў Мельбурне (1956), але яны былі «пераважна няўдалыя».

Калі Янка Запруднік пераедзе ў Нью-Ёрк, то працягне супрацоўніцтва з радыё. І —нечаканасць! Уладзімер Дудзіцкі (якога цяпер ён называе суха проста Гіцкім) не прымае мову, якой піша Запруднік свае тэксты. Сітуацыя робіцца вельмі складанай. Запруднік кажа, што яго мова не адрозніваецца ад той, якою карыстаюцца ў Мюнхене. Прычым, мы раней узгадвалі, што сам ён вельмі зважаў на літаратурную мову, якая ўжывалася ў Беларусі. А тут яму даводзіцца пісаць Антону Адамовічу: «Я баюся, што Гіцкі ў дачыненні да беларускае мовы (пад уплывам звонку) можа пайсці на кампрамісы і кампраметацыю ды пачаць пераводзіць мову нашых перадачаў на расейска-савецкі жаргон, тлумачачы гэта большай «зразумеласцяй» для савецкага вуха».

Калі праблема не вырашыцца, Запруднік быў гатовы пытанне чысціні мовы паставіць «на разгляд пакліканае адмыслова камісіі моваведаў». Як вядома, у Беларусі

аматараў мовы турбавалі дадатковыя змены ў правапісе, што былі зацверджаныя ў 1957-м.

Сам Янка Запруднік зазначае, што надрукаваныя ў кнізе лісты даюць уяўленне пра ўвесь мікракосмас беларускай дыяспары часоў халоднай вайны. З гэтым нельга не пагадзіцца. Мне ўспамінаюцца словы прафесара Аляксандра Баршчэўскага з Варшавы на Першым кангрэсе беларусаў свету, што адбыўся ў Мінску ўлетку 1993-га. Ён звярнуўся з трыбуны да ўсіх прысутных: давайце скажам дзякуй эміграцыі за тое, што яна захавала для нас «Пагоню», бел-чырвона-белы сцяг і беларускую мову. Шмат у чым гэта была праўда.

*Запруднік Я. Па гарачых слядах мінуўшчыны. Мае лісты 1952–1959 гг. / рэд. В. Трыгубовіч. — Мінск: Лімарыус, 2015. — 570 с.*

# Змест



## Проза старога Гродна



## Паэзія Панямоння



## РОЗА ПРЫНЯМОННЯ

## Памяць

Віктар Жыбуль



Юры Гумянюк



## Літаратуразнаўства

Анатоль Брусевіч



## Публікацыі

Сяргей Астравец

Альманах выходзіць на беларускай мове.

Як даслаць тэкст у «Новы замак»?

У альманах прымаюцца адпаведна падрыхтаваныя тэксты. Загалоўкі і абзацы павінны быць набраны праз адзін інтэрвал і выраўнаны па левым краю: у праграме Microsoft word у пашырэнне doc альбо docx. Шрыфт: Times new roman. Не належыць рабіць водступ, каб пазначыць абзац, і самастойна размячаць шрыфты. Тэксты не фармаціраваць! Нявычытаныя і створаныя ў іншых праграмах тэксты абцяжарваюць укладальніка чарнавой працай. Памятайце: нядбайнасць аўтараў ускладняе тэхнічную падрыхтоўку альманаха, яго вёрстку.

Ахвотныя надрукавацца абавязаны даслаць свой здымак у пашырэнні JPEG памерам не менш за 1000 кб (1 мгб). Неабходна таксама сціслая біяграфічная даведка са звесткамі, якія датычаць літаратурнай творчасці. Узор даведкі — у альманаху.

Матэрыялы трэба дасылаць у электронным выглядзе на адрас:
**novyzamak@gmail.com**

«Новы замак» можна знайсці на: www.facebook.com

